*Аўтары–ўкладальнікі кнігі*
*шчыра дзякуюць за дапамогу:*

Тацяне Воранавай
Алесю Запартыку
Ганьне Запартыцы
Тацяне Кекелевай
Вікторыі Конан
Арсеню Лісу
Мікалаю Санько
Надзеі Саўчанцы
Зьмітру Селяменеву
Міхасю Собалю
Уладзімеру Цярохіну
Андрэю Цяцерніку
Яўгеніі Шымчук

*Асаблівая падзяка:*

Юрасю Грыбоўскаму
Іаанне Героўскай–Калаўр
Ірыне Каранкевіч
Алесю В. Пашкевічу
Андрэю Чарнякевічу
Лявону Юрэвічу

# Слуцкі збройны чын 1920 г.

## у дакумэнтах і ўспамінах

Менск
2006

УДК 947.61 „1920“
ББК 63.3(4Беі)
С49

*Бібліятэка часопісу „Беларускі Гістарычны Агляд“*
*Сэрыя:* Матар'ялы да беларускай гісторыі
*Каардынатар:* Генадзь Сагановіч.

2–е выд., дапоўненае.

*Укладаньне, падрыхтоўка тэкстаў, ілюстрацыяў, заўвагі й камэнтары, паказальнікі:*
Аляксандра Гесь, Уладзімер Ляхоўскі, Уладзімер Міхнюк

*Прадмова* Уладзімера Ляхоўскага.

С49 **Слуцкі** збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах /Ул.Ляхоўскі, Ул.Міхнюк, А.Гесь. — 2–ое выд., дапрац. — Мінск: ~~„Энцыклапедыкс“~~, 2006. — 400 с.
(Бібліятэка часопісу „Беларускі Гістарычны Агляд“)
~~ISBN 985–6599–25–3~~

Гэтае выданьне, прысьвечанае гісторыі антыбальшавіцкага паўстаньня 1920 г. на Случчыне, уключае дакумэнтальныя матар'ялы з архіваў Беларусі, Літвы, Польшчы, Расеі, прэсавыя паведамленьні, успаміны ўдзельнікаў, у тым ліку дакумэнты з архіваў КДБ. Многія матар'ялы друкуюцца ўпершыню. Кніга дае шырокую панараму беларускага вызвольнага руху наканадні, падчас і пасьля ліквідацыі Слуцкага збройнага чыну.

**УДК 392.78(476)(091)**
**ББК 63.3(4Беі)**

~~ISBN 985–6599–25–3~~

# ЗЬМЕСТ

## Галасы ўдзельнікаў Слуцкага збройнага чыну



## Сьведчаньні з–за кратаў



## Дадатак

# Спозьненае рэха антыбальшавіцкага змаганьня за Беларусь

Ці цяжка ім было, як зьнічкі дагараць,
Ледзь да прысягі Бацькаўшчыне ўзьняўшы рукі,
Ці ведаюць яны, што за Народ, за Край
Крывавяць скрозь яшчэ браты, сыны і ўнукі…
*Натальля Арсеньнева*

Мінула ўжо 85–я гадавіна Слуцкага збройнага чыну. Яму прысьвечана нямала гістарычных публікацый. Але пры крытычным разглядзе напісанага можна заўважыць, што тут пераважае гістарычная публіцыстыка, перанасычаная эмацыйнымі ацэнкамі. Многія публікацыі апошніх гадоў паўтараюць ранейшыя і не дадаюць нічога новага ў асэнсаваньні названай праблемы. Тым часам, назапашаная фактальгічная база па антыбальшавіцкім супраціве на Случчыне дазваляе сёньня з аб'ектыўных пазыцыяў, без залішняй патэтыкі разгледзець і даць ацэнку гэтым падзеям. Гэтая тэма заслугоўвае таго, каб стаць аб'ектам асобнага дысэртацыйнага дасьледаваньня ці грунтоўнай навуковай манаграфіі.

У кароткай прадмове да зборніка дакумэнтаў немагчыма ахапіць усе аспэкты, зьвязаныя са Слуцкім збройным чынам, таму засяродзім увагу найперш на ключавых момантах: перадумовах і рухаючых сілах нацыянальнага і сацыяльнага ўздыму на Случчыне ў 1920 г., прычынах паражэньня паўстаньня, месцы і значэньні збройнага чыну случакоў у гісторыі беларускага вызвольнага руху.

У гістарычнай літаратуры ў дачыненьні да гэтай падзеі найчасьцей выкарыстоўваецца тэрмін ***паўстаньне***, але, на думку многіх дасьледнікаў, такое азначэньне не зусім слушнае. Паводле агульнапрынятай тэрміналёгіі, паўстаньне — збройнае выступленьне супраць існага ўладнага рэжыму, якому падкантрольна дадзеная тэрыторыя. Арганізацыя беларускіх органаў мясцовае ўлады і збройных сілаў на Случчыне пачалася на завяршальным этапе польска–савецкае вайны, у час, калі большая частка павету не падпарадкоўвалася савецкай уладзе, а авангарды 16–й чырвонай арміі знаходзіліся ад Слуцку за некалькі дзесяткаў кілямэтраў на ўсход. Аддзелы ж польскай 4–й арміі паводле прэлімінарнага мірнага пагадненьня пачалі адыход на захад, на вызначаную дэмаркацыйную лінію. З другой паловы лістападу 1920 г. цывільная ўлада на Случчыне перайшла ў рукі беларускіх нацыянальных арганізацыяў і вясковых валасных самаўрадаў. Гісторыкі беларускага замежжа паваеннага часу замест тэрміну ***паўстаньне*** першымі пачалі ўжываць азначэньне ***збройны чын***. Гэта ўключае ў сябе і партызанскую вайну — звычайную тактыку слабейшага супраць больш моцнага праціўніка. Тым ня менш, абодва тэрміны сёньня суіснуюць у гістарычных выданьнях і часта ўзаемазамяняюць адно аднаго.

Пачаткам паўстаньня прынята лічыць 14 лістапада 1920 г., калі ў Слуцку распачаў працу Беларускі павятовы зьезд, які пацьвердзіў сваю вер-

насьць Акту 25 Сакавіка, што абвяшчаў Беларусь незалежнай і дэмакратычнай рэспублікай. 107 дэлегатаў форуму зьвярнуліся да сусьветнай супольнасьці з пратэстам супраць гвалтоўнага падзелу тэрыторыі Беларускае Народнае Рэспублікі паміж Польшчай і Савецкай Расеяй і запатрабавалі вываду замежных войскаў з тэрыторыі Беларусі. На зьездзе была ўтворана Беларуская рада Случчыны на чале з Уладзімерам Пракулевічам, якая абвясьціла сябе адзінаю законнаю ўладай у павеце, чым дэклЯравалася непадпарадкаваньне мясцовых органаў улады савецкаму ўраду. Гэта азначала непазьбежнасьць ваеннага канфлікту паміж прыхільнікамі БНР і Саветамі. Арганізацыю беларускіх вайсковых аддзелаў усклала на сябе адмысловая «вайсковая тройка» (А. Анцыповіч, А. Бачко і Я. Мацэля), вылучаная са складу Рады. 24 лістапада Беларуская Рада, якая ня ў стане была ўтрымаць Слуцак перад наступаючымі рэгулярнымі часткамі расейскага чырвонага войска, адышла разам са сваімі збройнымі сіламі з горада ў мястэчка Семежава. Там было завершана фармаваньне двух беларускіх палкоў — Слуцкага і Грозаўскага. Пазьней паўстанцы не аднойчы мянялі сваю дысьлякацыю, каб пазьбегнуць адкрытых баёў зь перасяжнымі сіламі праціўніка.

У гістарычнай літаратуры колькасны склад Слуцкай беларускай брыгады ацэньваецца па–рознаму. Удзельнікі збройнага чыну ва ўспамінах падаюць, што колькасьць паўстанцаў складала ад 7 да 10 тыс. чалавек. Але гэтая лічба тычыцца ўсіх тых добраахвотнікаў, хто адгукнуўся на заклік Беларускае рады Случчыны ўступаць у беларускае войска і прыйшоў у Семежава. Адсутнасьць зброі і хуткі адыход паўстанцаў з гэтага мястэчка прымусіў многіх зь іх вяртацца ў свае вёскі. Рэальна колькасны склад двух палкоў быў значна меншы. У кароткім аглядзе гісторыі беларускага нацыянальнага руху, пададзенага ў 1928 г. дэфэнзывай (контрвыведкай) Генэральнага штабу польскага войска, узгадваецца 4 тыс. слуцкіх паўстанцаў. Польскія гісторыкі З. Карпус і В. Рэзмэр, паводле сваіх падлікаў, узятых з рапартаў выведкі 4–й польскай арміі за сьнежань 1920 г., прыводзяць значна меншую лічбу — 1100—1200 чал. Савецкія ваенныя крыніцы вызначаюць колькасны склад паўстанцкага войска прыкладна ў 2 тыс. чал., пры гэтым у зводках 16–й арміі за сьнежань 1920 г. паведамлялася, што больш за палову беларускіх вайскоўцаў ня мела ўзбраеньня*. Такім чынам, і польскія, і савецкія дадзеныя аб рэальным баявым патэнцыяле Слуцкае беларускае брыгады блізкія, і іх можна прызнаць аб’ектыўнымі.

Першы бой паміж паўстанцамі і аддзелам 16–й арміі адбыўся 27 лістапада каля в. Васільчыцы, падчас якога чырвонаармейцы былі выбіты зь вёскі. За больш чым месяц баявых дзеяньняў Слуцкая беларуская брыгада ажыцьцявіла больш за дзесяць вайсковых акцыяў супраць рэгулярных савецкіх войскаў. Гэта былі пераважна партызанскія дывэрсіі, якія прыносілі праціўніку шмат турботаў. Паўстанцы пасьля праведзеных вай-

* Паводле зьвестак упаўнаважанага ЧК па Слуцкім павеце, з 2000–га складу Слуцкае беларускае брыгады толькі 800 жаўнераў былі ўзброены вінтоўкамі і кулямётамі. Гэта пацьвярджае ў сваіх успамінах Ю. Лістапад.

сковых апэрацый, як правіла, адыходзілі ў 30–кілямэтровую нэўтральную зону, якая падзяляла польскія і савецкія часткі. З прыходам да кіраўніцтва Слуцкае брыгады капітана А. Сокал–Кутылоўскага дзеяньні паўстанцаў сталі больш рашучымі. Найбольш значная падзея адбылася 17—19 сьнежня 1920 г., калі 1 Слуцкі полк павёў адкрытае наступленьне супраць чырвонаармейцаў уздоўж старога Слуцкага тракту і зноў авалодаў м. Семежава, а праз два дні — м. Вызна. Цягам амаль цэлых сутак паўстанцы стрымлівалі атакі перасяжных сілаў савецкіх войскаў і толькі ўвечары 19 сьнежня вымушаны былі адступіць, захапіўшы з сабой шмат вайсковай амуніцыі, зброі, а таксама палонных.

Савецкае кіраўніцтва сур'ёзна ўспрымала небясьпеку слуцкага ачагу супраціву, які мог перакінуцца на іншыя паветы Меншчыны і далей на ўсю Беларусь. На паўстанцаў былі кінуты дзьве сьвежыя «надзейныя» дывізіі з суседняй 3–й арміі дзеля правядзеньня татальнай «зачысткі» нэўтральнае зоны. У апошняй дэкадзе сьнежня аддзелы чырвонаармейцаў актывізавалі карныя апэрацыі супраць случакоў. Адначасова савецкае вайсковае кіраўніцтва дамаглося ад польскага камандаваньня выкананьня палажэньняў прэлімінарнага пагадненьня аб спыненьні на той час дзейнасьці ў нэўтральнай зоне «антызаконных» вайсковых фармаваньняў. Пасьля прад'яўленьня польскага ультыматуму асноўная частка Слуцкае брыгады 30 сьнежня 1920 г. перайшла раку Лань і ў раёне в. Сіняўка была раззброена, а пасьля інтэрніравана. Так завяршылася актыўная фаза Слуцкага антыбальшавіцкага супраціву.

Пры ўсёй сьціпласьці вынікаў і сумных наступствах збройнага чыну трэба прызнаць, што гэта быў адзіны з рэдкіх фактаў у нашай найноўшай гісторыі, калі сацыяльныя памкненьні шырокіх народных масаў злучыліся з ідэяй беларускага вызвольнага руху. Выяўленыя архіўныя дакумэнты разбураюць старыя «сьведчаньні» аб тым, што «сутычак з чырвонай арміяй ня было; ні з аднаго, ні з другога бакоў ня было зроблена ніводнага стрэлу» і што «ніякага паўстаньня ў Слуцку ня адбывалася». Аднак і цяпер апалягеты савецкае канцэпцыі гісторыі Беларусі сьцьвярджаюць, што «слуцкая акцыя» была правакацыяй Пілсудзкага і польскага ваеннага генэральнага штабу. Трэба заўважыць, што такую думку падзялялі ў міжваенны час і некаторыя беларускія нацыянальныя дзеячы. Так, орган беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў «Беларуская Крыніца» ў лістападзе 1931 г. (№38) пісаў: «Проціў Слуцкага паўстаньня, як паўстаньня беларускага народнага і незалежніцкага, часта можна пачуць закід, што яно было арганізавана палякамі для барацьбы з бальшавікамі і агулам для польскіх палітычных мэтаў на беларускіх землях. Вось жа факт пэўнай (дагэтуль нявыясьненай) прыналежнасьці да гэтай справы польскага генэральнага штабу і польскае палітыкі агулам, застаецца фактам. Факт гэтае польскае прыналежнасьці да Слуцкага паўстаньня сьцвярджае таксама і тое, што камандаваньне паўстанскае было ў сьціслым кантакце з так званай беларускай Найвышэйшай Радай, якая трымалася польскае арыентацыі…». На «польскім сьледзе» ў слуцкіх падзеях варта спыніцца больш падрабязна.

Пасьля таго, як «крэсы ўсходнія» былі захопленыя ў 1919 г. падчас вайны з Савецкай Расеяй, перад польскім кіраўніцтвам стаяла задача даказаць сусьветнай супольнасьці, што Беларусь ёсьць неад'емнаю часткай Польшчы, і што мясцовыя жыхары жадаюць жыць у складзе «польскае Рэчы Паспалітай». Так званая «фэдэралісцкая канцэпцыя» польскага кіраўніка Ю. Пілсудзкага ня ставіла за мэту стварэньне раўнапраўнае фэдэрацыі Польшчы, Беларусі, Літвы і Ўкраіны. У інтарэсах польскае дзяржавы Пілсудзкі марыў стварыць міждзяржаўны буфэр зь ляяльных да палякаў сатэлітаў, каб пазьбегнуць небясьпечнага суседзтва з Савецкай Расеяй*.

На акупаванай тэрыторыі Беларусі польскія ўлады імкнуліся ўмацаваць сваю палітычную, эканамічную і культурную прысутнасьць, каб прывязаць беларускія тэрыторыі да Польшчы. Разам з акупацыйнай адміністрацыяй дзеля гэтай мэты дзейнічалі і паўграмадзкія арганізацыі, якія, дзякуючы шчодрай фінансавай падтрымцы варшаўскага ўраду, праводзілі актыўную ідэалягічную апрацоўку тутэйшых жыхароў. Найбольшай актыўнасьцю вызначалася Таварыства стражаў крэсовых (ТСК). Ягонаю галоўнаю мэтай стала «абарона зямель на крэсах усходніх, па праву належачых Польшчы», адраджэньне тут польскага грамадзкага, палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцьця. Вянцом чыннасьці ТСК на беларускіх землях стала арганізацыя краёвага плебісцыту ў пачатку 1920 г., на якім насельніцтва павінна было падтрымаць далучэньне беларускіх тэрыторыяў да польскае Рэчы Паспалітай.

Але ў Слуцкім павеце польская прапаганда ня мела вялікага посьпеху, бо тут адсутнічала тая сацыяльная база, на якую «стражы крэсовыя» маглі б абаперціся. На Случчыне антыпольскія настроі мелі даўнія гістарычныя традыцыі, да таго ж гэта рэгіён, дзе пераважала праваслаўе. «Адсюль наносіліся найбольш балючыя ўдары на Польскую Рэч Паспалітую... Грамадзтва тут жыве праваслаўна–жыдоўскае, дужа варожае, поўнае помсты і нянавісьці да ўсяго польскага», — паведамляў у пачатку 1920г. слуцкі рэвідэнт ТСК. Непрыняцьце беларускім сялянствам пальшчызны ў першую чаргу тлумачыцца тымі сацыяльна–эканамічнымі варункамі, якія склаліся ў рэгіёне. Слуцкім абшарнікам, якія былі пераважна каталіцкага веравызнаньня і вызнавалі сябе за «палякаў», наконадні Першае сусьветнае вайны належала да 60% сельскагаспадарчых плошчаў. Тутэйшыя праваслаўныя сяляне былі кроўна зацікаўленыя ў ліквідацыі абшарніцкага землеўласьніцтва, за «польскаю партыяй» ім ісьці не было ніякага рэзону. Разам з тым «крэсовымі» рэвідэнтамі адзначалася слабая «польская сьвядомасьць» і сярод тутэйшых шляхцічаў, якія дрэнна валодалі польскай мовай, «пахаваліся ў засьценках і фальварках» і не праяўлялі аніякай грамадзкай ініцыятывы.

* Аб «прывержанасьці» ідэі фэдэралізму Ю. Пілсудзкі так выказаўся свайму паплечніку Л. Васілеўскаму 8 красавіка 1919 г.: «Не хачу быць ні імпэрыялістам, ні фэдэралістам, пакуль няма мажлівасьці казаць пра гэтыя справы больш–менш сур'ёзна... Дзеля таго, што на Божым сьвеце пачынае, здаецца, перамагаць балбатня пра братэрства людзей і народаў і амэрыканскія дактрынкі, ахвотна схіляюся на бок фэдэралістаў».

У апазыцыі да польскае акупацыі стаялі мясцовыя беларускія нацыянальныя арганізацыі. Іхняй мэтай было пашырэньне сярод тутэйшых жыхароў беларускае нацыянальнае сьвядомасьці, садзейнічаньне ўмацаваньню эканамічных і культурных падстаў незалежнай беларускай дзяржаўнасьці.

Першыя беларускія нацыянальныя гурткі на Случчыне паўсталі яшчэ ў канцы XIX ст. Падчас рэвалюцыйных падзеяў 1905—1906 гг. у Слуцкім павеце ўзьніклі суполкі Беларускае сацыялістычнае грамады, але з прыходам палітычнае рэакцыі пасьля 1907 г. беларускае палітычнае жыцьцё тут заціхае. Аднаўленьне чыннасьці беларускіх нацыянальных арганізацыяў на Случчыне адбылося пасьля Лютаўскае рэвалюцыі 1917 г. У гэты час тут паўстаюць беларускія маладзёвыя і вучнёўскія гурткі: слуцкая «Папараць–кветка», грозаўская «Зарніца», «Кутнёўская навуковая грамада» і інш. Значную ролю ў пашырэньні беларускай справы ў павеце адыграў тады Радаслаў Астроўскі, ураджэнец гэтых месцаў, былы выкладчык Менскага настаўніцкага інстытуту, якога Часовы расейскі ўрад прызначыў сваім павятовым камісарам. Яго намаганьнямі ў жніўні 1917 г. у Слуцку была створана земская гімназія, навучальная праграма якой уключала выкладаньне беларускае мовы і беларусазнаўства. А яшчэ перш, у сакавіку таго ж года, была арганізавана гарадзкая міліцыя, дзе кіруючыя пасады занялі вядомыя беларускія дзеячы Марк Асьвяцімскі, Апанас Анташэўскі і інш. Менавіта гэтая паўвайсковая структура, што забясьпечвала грамадзкі парадак у горадзе, стала асновай Слуцкае беларускае брыгады ў лістападзе 1920 г.

Але, нягледзячы на пэўныя посьпехі, беларускі рух не ствараў тады вялікага «поля ўплыву» на тутэйшае сялянства. Чыннасьць мясцовых беларускіх гурткоў, якія складаліся пераважна з тутэйшай моладзі, рэдка выходзіла за сьцены гэтых арганізацыяў. Спачатку ўсё абмяжоўвалася правядзеньнем культурна–асьветных акцыяў. Большая частка тутэйшае інтэлектуальнае эліты заставалася пад уплывам «заходнерусізму» і нэгатыўна ставілася да думкі пра самастойнасьць Беларусі. Нацыянальна сьвядомая частка інтэлігенцыі яшчэ не настолькі паверыла ў сваё прызначэньне, каб узяць у свае рукі справу мясцовага самакіраваньня і вывесьці тутэйшага селяніна з–пад чужога ідэалягічнага ўплыву. Уплываў і моцны адміністрацыйны ўхіл у бок «агульнарасейскага патрыятызму» кіраўніцтва павятовага земства, якое трымала ў сваіх руках важныя рычагі эканамічнага і культурнага жыцьця вёскі. Абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі не атрымала тут вялікага рэзанансу.

Усё ж ні павятовае земства, якое знаходзілася пад кантролем расейскіх сацыял–рэвалюцыянэраў, ні русафільская лібэральная інтэлігенцыя ня сталі галоўнымі праціўнікамі беларускага нацыянальнага адраджэньня пасьля кастрычніка 1917 г. Пад уплывам тагачасных палітычных падзеяў антыбеларуская сутнасьць «старога заходнерусізму» паступова вымывалася ды запаўнялася беларускім нацыянальным зьместам. Слуцкі Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), які быў утвораны яшчэ ў 1918 г., найбольшую актыўнасьць выявіў у часы польскай акупацыі (1919—1920 гг.). Скарыстаўшы сваё легальнае становішча, ён скіраваў увагу на разьвіцьцё ў павеце беларускага школьніцтва і каапэратыўнага руху. Увесну 1920 г.

былі зроблены нясьмелыя крокі, каб вырваць з–пад польскага кантролю органы мясцовага самакіраваньня. Але зьдзейсьніць гэта ўдалося толькі напярэдадні збройнага чыну.

Акупацыйныя ўлады ў павеце мяняліся, а беларускі селянін намагаўся жыць сваім жыцьцём. Найперш яго турбавала пытаньне аб зямлі. Скасаваньне буйнога абшарніцкага землеўласьніцтва, передача зямлі сялянскім гаспадаркам — гэта тая «нацыянальная ідэя», якую падтрымлівала абсалютная большасьць тутэйшага сялянства. Тая палітычная сіла, якая абяцала вырашыць зямельнае пытаньне на карысьць сялянскіх масаў, і станавілася дамінуючай у краіне. Гэтую сытуацыю выдатна скарысталі бальшавікі, якія прыйшлі да ўлады на хвалі папулісцкіх абяцаньняў і дзякуючы палітыцы часовага «ўлагоджваньня» заможнага і сярэдняга сялянства за кошт абшарніцкае ўласнасьці*.

Але калі ў разгар вайны з Польшчай савецкая ўлада пачала прымусовую мабілізацыю ў войска, а харчовымі вайсковымі аддзеламі праводзілася масавая рэквізыцыя хатняй жывёлы, правіянту і фуражу, сяляне ў адказ узяліся за зброю. Яны не жадалі быць «гарматным мясам» у бальшавіцкіх плянах сусьветнае рэвалюцыі**. Гэта быў той момант, калі сацыяльная і нацыянальная складовая антыбальшавіцкага супраціву злучыліся ў адзінае цэлае. Менавіта Слуцкі БНК і іншыя мясцовыя беларускія арганізацыі сталі арганізацыйнымі асяродкамі антысавецкага паўстаньня ў лістападзе—сьнежні 1920 г. Нават слуцкае праваслаўнае сьвятарства на чале з будучым слуцкім япіскапам, пратаярэем Мікалаем Шаяміцілам падтрымала гэты патрыятычны рух.

Досьвед, вынесены з ваенных і рэвалюцыйных падзеяў 1914—1920 гг., падказваў беларускаму селяніну, што ніхто звонку не абароніць ягоныя сацыяльныя і эканамічныя правы. Варта зазначыць, што сялянскія гаспадаркі Случчыны не былі так моцна пашкоджаныя ды разбураныя падчас Першай сусьветнай вайны, як гэта здарылася на Віленшчыне і Гарадзеншчыне. Не закранула моцна гэты рэгіён і ліха масавага бежанства. Дэмаграфічныя страты Слуцкага павету за 1914—1919 гг., паводле польскіх дадзеных, склалі ўсяго 4,6%. У эканамічным пляне за рэвалюцыйныя гады слуцкае сялянства палепшыла сваё становішча. Адбылося гэта ў першую чаргу за кошт мясцовых абшарнікаў, якія ў масавым парадку пад уплывам рэвалюцыі за бясцэнак прадавалі сваю зямлю. Нярэдка права на ўласнасьць у гэты час вырашалася «рэвалюцыйным шля-

* У студзені 1918 г. у сваім выступленьні на III Усерасійскім зьезьдзе саветаў У. Ленін заявіў: «Спачатку разам з „усім“ сялянствам супраць манархіі, супраць абшарнікаў… Затым, разам зь бяднейшым сялянствам, разам з паўпралетарыятам, разам з усімі прыгнечанымі, супраць капіталізму, у тым ліку вясковых багацеяў, кулакоў…»

** Варта згадаць тэлеграму У. Леніна ў Рэўваенсавет Заходняга фронту чырвонае арміі 19 жніўня 1920 г.: «Неабходна налегчы з усіх сілаў, каб беларускія рабочыя і сяляне, хоць бы ў лапцях і купальніках, але зь неадкладнай і рэвалюцыйнай хуткасьцю, далі Вам папаўненьне ў трайным і чатырохкратным памеры».

хам». Заможнаму слуцкаму сялянству было што губляць ад бальшавіцкіх экспрапрыяцыяў і было што бараніць. Тутэйшы селянін, які падтрымаў паўстаньне, не паглыбляўся ў палітыку Беларускае рады Случчыны. Для яго было дастаткова слова «беларуская».

Барацьба за дзяржаўную незалежнасьць абцяжарвалася палітычным расколам у беларускім руху. Сілы, што рабілі стаўку на супрацоўніцтва з Польшчай, ня мелі падтрымкі ў шырокіх народных масах. У гэты час набірала моц Беларуская партыя сацыялістаў–рэвалюцыянэраў (БПС–Р), якая вызнавала сялянскі сацыялізм і стаяла на антыпольскіх пазыцыях. Гэта была самая масавая беларуская палітычная арганізацыя, да якой належала некалькі тысяч актывістаў. На Случчыне эсэры складалі касьцяк усіх беларускіх арганізацыйных структураў, у тым ліку і мясцовага Беларускага нацыянальнага камітэту. Ідэалягічная роднасьць паміж бальшавікамі і эсэрамі прывяла іх да часовага хаўрусу супраць Польшчы ў канцы 1919 г. Пасьля заняцьця Слуцкага павету чырвонай арміяй летам 1920 г. частка эсэраў на чале з Андрэем Бараноўскім увайшла ў склад павятовага ваенна–рэвалюцыйнага камітэту і іншых органаў савецкае ўлады. Антысялянская палітыка «ваеннага камунізму», а таксама заключэньне польска–савецкага пагадненьня аб падзеле Беларусі паскорыла палітычнае разьмежаваньне ў шэрагах БПС–Р на тых, хто выступаў за збройнае змаганьне супраць бальшавікоў, і тых, хто далей разьлічваў на супрацоўніцтва з новаю ўладай. Гэтая палітычная раздвоенасьць беларускіх эсэраў, якія ўзначалілі палітычны цэнтар паўстаньня ў лістападзе 1920 г., нэгатыўна адбілася на ходзе і характары слуцкага антыбальшавіцкага супраціву.

На завяршальным этапе польска–савецкай вайны, месяцам раней за Слуцкі збройны чын, адбылася яшчэ адна вайсковая акцыя супраць чырвоных войскаў — палескі паход генэрала Станіслава Булак–Балаховіча. У кастрычніку 1920 г. балахоўцы з баямі дайшлі да Рэчыцы, але пад ударамі перасяжных сілаў чырвонаармейцаў мусілі адступіць на захад. Свой паход Балаховіч зьдзейсьняў пад бел–чырвона–белым сьцягам з мэтай утварэньня беларускай дзяржавы. Факт яўнай няўзгодненасьці і несупадзеньне ў часе гэтых антыбальшавіцкіх акцыяў, якія па лёгіцы тагачаснае ваенна–палітычнае сытуацыі павінны былі праводзіцца супольна, можна растлумачыць хіба тым, што плянаваліся яны рознымі палітычнымі цэнтрамі.

Адносна Станіслава Булак–Балаховіча і дагэтуль не сьціхаюць спрэчкі. Адныя лічаць яго героем і патрыётам Беларусі, іншыя — злачынцам і бандытам. Постаць генэрала сапраўды заслугоўвае больш грунтоўнага вывучэньня. Ягоная адданасьць беларускай нацыянальнай ідэі выклікае ў многіх дасьледнікаў сумненьні*. Лявон Дубейкаўскі, які добра ведаў ге-

* Узгадваецца пры гэтым характарыстыка, якую быццам даў Булак–Балаховічу Ю. Пілсудзкі: «Так, бандыт, але ня толькі бандыт, а яшчэ чалавек, які сёньня расеец, заўтра паляк, пасьлязаўтра беларус, а яшчэ праз дзень — нэгр». Сапраўднасьць такога выказваньня многімі сёньня аспрэчваецца. Яно выцягнута з паказаньняў Б. Савінкава падчас маскоўскага судовага працэсу ў 1925 г., дзе былы кіраўнік расейскай антыбальшавіцкай апазыцыі ўсімі сіламі імкнуўся ачарніць імя генэрала.

нэрала па Варшаве, сьцьвярджаў, што «Балаховіч шчыры беларус, хоць і генэрал, віхор, вядома, як ваенны», а многія ягоныя заявы — усяго толькі тактычныя манэўры, каб выбіць у расейцаў, палякаў і французаў патрэбныя для забесьпячэньня сваёй вайсковай акцыі грошы і зброю. Нэгатыўнае ўспрыняцьце асобы Балаховіча тлумачыцца не ў апошнюю чаргу рысамі характару гэтага чалавека. Паводле ўспамінаў ягоных сучасьнікаў, генэрал вызначаўся неўраўнаважанасьцю, нястрыманасьцю ў выказваньнях і празьмернаю амбіцыйнасьцю.

Яшчэ ўвосень 1919 г. лідары беларускага руху зьвязвалі з генэралам вялікія надзеі. Бліскучы баявы камандзер, які вызнаваў левыя палітычныя погляды і ў той жа час выдатна праявіў сябе ў баях супраць бальшавікоў у складзе арміі ген. Юдзеніча, даваў папярэднюю згоду перайсьці пад кіраўніцтва Беларускае ваенна–дыпляматычнае місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. Лідары БНР, якія сядзелі ў Варшаве і акупаваным палякамі Менску, спадзяваліся на тое, што збройныя фармаваньні беларускага генэрала складуць аснову беларускага войска. Але ў бэнээраўцаў не было ні рэальнай улады ў самой краіне, ні міжнародавай падтрымкі з боку ўплывовых эўрапэйскіх краінаў, ні патрэбных фінансавых сродкаў дзеля таго, каб зьдзейсьніць перадысьлякацыю балахоўскіх вайсковых частак у Беларусь і забясьпечыць іх усім неабходным. Да таго ж усё ўскладніў раскол Рады БНР у сьнежні 1919 г. Сутнасьць палітычных рэаліяў Булак–Балаховіч хутка зразумеў і без усякіх пасрэднікаў сам дамовіўся з палякамі ў лютым 1920 г. аб пераводзе свайго палка ў раён Бярэсьця, дзе распачаў актыўную вярбоўку тутэйшых добраахвотнікаў, праводзіў партызанскія акцыі, нападаючы на вайсковыя штабы і рабуючы абозы чырвонаармейцаў. У кастрычніку 1920 г. яго войска ўтварала ўжо сур’ёзную ваенную сілу: 7500 стральцоў, 2500 коньнікаў, 150 кулямётаў і 36 гарматаў. Наконадні палескага паходу да балахоўскіх аддзелаў далучыліся расейскія і ўкраінскія фармаваньні і агульны склад гэтае арміі сягаў 20 тыс. чал.

Адносна падтрымкі, аказанай Балаховічу Пілсудзкім, ёсьць розныя меркаваньні. Адныя лічаць, што гэта была апошняя спроба начальніка Польскае дзяржавы ажыцьцявіць сваю «фэдэралісцкую канцэпцыю». Іншыя дасьледнікі тлумачаць гэта толькі імкненьнем польскага Генэральнага штабу дэстабілізаваць ўнутрыпалітычнае становішча ў Савецкай Расеі і дамагчыся ад яе большых саступак на мірных перамовах. Ёсьць таксама вэрсія, што гэтая акцыя была прымеркавана да віленскага паходу Беларуска–літоўскае дывізіі генэрала Люцыяна Жэлігоўскага дзеля таго, каб прыцягнуць у гэты час значныя сілы чырвонае арміі на ліквідацыю балахоўскага наступленьня і ня даць магчымасьці савецкаму кіраўніцтву ўмяшацца ў польска–літоўскую спрэчку за Віленшчыну. Як бы там ні было, можна канстатаваць, што польская ваенная дапамога Балаховічу была вельмі сьціплай.

Палітычная праграма генэрала была збольшага запазычана ў Барыса Савінкава, зь якім генэрал заключыў палітычны хаўрус. «Закон, парадак, зямля народу» — галоўны іх палітычны тэзіс, які пацьвярджаў асноўныя

сацыяльныя заваёвы працоўных масаў падчас рэвалюцыі 1917 г. Набыцьцё сялянамі зямлі «рэвалюцыйным шляхам» абвяшчалася «справядлівым і гістарычна непазьбежным». Прызнаваліся прынцып нацыянальнага самавызначэньня і права ўсіх народаў на «самастойнае палітычнае быцьцё»; тэрытарыяльныя спрэчкі паміж «Вялікарасеяй» і нацыянальнымі ўскраінамі былой царскай імпэрыі мусілі вырашацца мірным шляхам. Сацыяльныя палажэньні дэкларацыі Савінкава—Балаховіча, як бачым, былі высунуты на першае месца з мэтай прыцягнуць на свой бок вёску, якая цярпела ад бальшавіцкіх «продразверсток». Але гэтая праграма не даходзіла да ведама большасьці вясковых жыхароў. Затое даходзіла бальшавіцкая прапагандысцкая літаратура, што прадстаўляла ворагамі сялян балахоўцаў і савінкаўцаў, якія жадаюць рэанімацыі старога палітычнага ладу і аднаўленьня «паншчыны». Яшчэ не пачаўшы свой паход, Балаховіч прайграў бальшавікам інфармацыйную вайну.

Генэрал Булак–Балаховіч марыў стаць «начальнікам беларускай дзяржавы»*. Дзеля гэтага яму трэба было заручыцца падтрымкай і з боку беларускіх нацыянальных арганізацыяў. Але супрацоўніцтва Балаховіча з Савінкавым і польскімі спэцслужбамі прывяло да канчатковага разрыву паміж генэралам і Найвышэйшай радай БНР, кіраўніцтва якой знаходзілася тады ў Варшаве. Адзін з кіраўнікоў Найвышэйшай рады Кузьма Цярэшчанка заявіў тады: «Для беларусаў Балаховіч зьяўляўся прэдстаўніком чорнай расейскай рэакцыі ў Ядынай, Недзялімай». У гэтай сытуацыі генэрал робіць стаўку на палянафільскую групу Паўла Алексюка і Вячаслава Адамовіча–старэйшага. Створаны апошнімі Беларускі палітычны камітэт становіцца «цывільным урадам» Булак–Балаховіча падчас палескага паходу 1920 г. Але армія Балаховіча па сваім складзе была далёкай ад таго, каб называцца беларускай народна–вызваленчай. Большая частка яе складалася з украінскіх і расейскіх («белых») аддзелаў, засьмечаных markrознымі авантурыстамі і маргіналамі, якія вызначыліся ў рабаваньні мясцовага насельніцтва і габрэйскіх пагромах**. Рэквізыцыі харчоў і фуражу ва ўмовах «самазабесьпячэньня» прыводзіла да непазьбежных кан-

* Пасьля ўзяцьця Мазыра, дзе на цэнтральным гарадзкім пляцы быў вывешаны бел–чырвона–белы штандар, Балаховіч заявіў Савінкаву: «Ведаеце, беларускі народ прапануе мне стаць начальнікам беларускае дзяржавы». — «Заўтра Вас выганіць Пілсудзкі», — было сказана ў адказ.

** Пагромы ўзьнікалі стыхійна ва ўмовах адсутнасьці належнай вайсковай дысцыпліны ў арміі Балаховіча. З архіўных дакумэнтаў вядомыя выпадкі, калі Балаховіч публічна судзіў і расстрэльваў пагромшчыкаў, але нават падобныя меры не спынілі гвалту і анархіі. Тутэйшыя габрэі ўспрымаліся многімі балахоўцамі як прыхільнікі ці спачувальнікі бальшавікоў. Згадкі некаторых аўтараў аб тым, што ў складзе збройных фармаваньняў Булак–Балаховіча быў арганізаваны «жыдоўскі швадрон» на чале з паручнікам Цэтлiным, не пацьвярджаюцца архіўнымі крыніцамі. Такая задума была ў генэрала, але яна не была зьдзейсьнена. Тыя нешматлікія габрэі–добраахвотнікі, якіх зьбіраў Цэтлін з навакольных мястэчак, празь дзень зьбягалі да хаты ад зьнявагаў з боку «хрысьціянскага воінства».

фліктаў з тутэйшымі сялянамі. У самы адказны момант лягер Балаховіча пакінуў генэрал Перамыкін са сваімі аддзеламі.

Адмова Найвышэйшае рады БНР падтрымаць Булак–Балаховіча стала падставай для заявы дарадцы Пілсудзкага Дашыньскага аб тым, што «ў палітыцы лічацца толька з тым, хто разам са словам дэманструе зброю. Вы, беларусы, толька гаворыце, а чыну ад вас няма». Мажліва, што менавіта гэткія меркаваньні падштурхнулі прадстаўнікоў згаданага палітычнага крыла беларускага нацыянальнага руху да плянаваньня ўласнае «вайсковае акцыі», якую меркавалася правесьці ў Слуцкім павеце. У хаўрусьнікі меркавалася ўзяць вядомых польскіх крэсовых палітыкаў, колішніх сяброў Польска–беларускага таварыства (Гардзялкоўскага, Крупскага, Парэмбскага і інш.), якія былі ляяльныя да беларускага руху і выступалі супраць адыходу цэнтральнае і ўсходняе Беларусі пад уладу бальшавікоў*. Пасярэднікам у перамовах паміж «польскім колам» і беларусамі павінен быў выступіць тагачасны кіраўнік Варшаўскае місіі БНР Л. Дубейкаўскі. Але заручыцца падтрымкай польскіх краёўцаў так і не ўдалося. Заплянаваная ў лістападзе 1920 г. у Баранавічах сумесная нарада па гэтым пытаньні не адбылася (гл. дак. №39). Таксама правалілася вербунковая кампанія Беларускае вайсковае камісіі (БВК) на Гарадзеншчыне ў склад нацыянальных збройных аддзелаў.

На Праскай палітычнай нарадзе ў верасьні 1921 г. на сьцьвярджэньне ўдзельніка слуцкіх падзеяў Арсэна Паўлюкевіча аб тым, што Дубейкаўскі зьяўляўся «каардынатарам» збройнага чыну, апошні абвергнуў гэта: «А паўстаньне было зроблена тады, калі адыходзілі бальшавікі. Яно паўстала само сабой». Згадаўшы аб той ролі, якую адыграў у паўстаньні Паўлюкевіч, то можна меркаваць, што ягоная заява ў Празе была не выпадковай.

Узгадаем, што 1 лістапада 1920 г. Паўлюкевіч скарыстаўся бязьдзейнасьцю старога («эсэраўскага») складу Слуцкага БНК, ініцыяваў скліканьне гарадзкога сходу Слуцка, дзе правёў у новы склад камітэту сваіх прыхільнікаў. Пры падтрымцы польскіх мясцовых уладаў на базе гарадзкой міліцыі пачалося фармаваньне першых збройных аддзелаў. Дагэтуль ня высьветлена, хто канкрэтна стаяў за асобай Паўлюкевіча: польскае камандаваньне, Балаховіч ці нехта іншы. Зусім верагодна, што якраз Дубейкаўскі быў той ключавой фігурай паміж Паўлюкевічам, польскімі коламі і рэштками балахоўскіх збройных фармаваньняў у заплянаванай антыбальшавіцкай вайсковай акцыі ў Слуцкім павеце.

Але падзеі разьвіваліся па іншым сцэнары. Беларускім эсэрам каштавала вялікіх высілкаў, каб перахапіць у Паўлюкевіча і ягоных прыхільнікаў палітычную ініцыятыву і не дапусьціць апошніх да кіраваньня паўстаньнем. Дзеля гэтага яны скарысталі ўвесь свой арганізацыйны патэнцыял і

* Пэрспэктыва страціць свае маёнткі, якія апынуліся на савецкім баку Беларусі, узьняла хвалю пратэсту мясцовых абшарнікаў супраць папярэдніх ўмоваў польска–савецкага мірнага пагадненьня. У гэты час дэлегацыі крэсовых «палякаў» прыяжджалі ў Варшаву і дабіваліся ад польскага ўраду далучэньня ўсіх «крэсаў усходніх» у склад Польшчы. Гэты «краёвы патрыятызм» імкнуліся скарыстаць прадстаўнікі Найвышэйшае рады БНР у сваіх мэтах.

падтрымку Найвышэйшае рады БНР. На Беларускім зьезьдзе Слуцкага павету Паўлюкевічу не хапіла ўсяго двух галасоў, каб перамагчы эсэраўскага стаўленіка Ўладзімера Пракулевіча. Такі паварот падзеяў пацягнуў за сабой фактычнае спыненьне ваеннай падтрымкі паўстанцаў з боку польскіх вайскоўцаў. Значная частка прадстаўленых легіянэрамі ружжаў была сапсавана, і случакам даводзілася здабываць сабе зброю і боепрыпасы падчас баявых апэрацыяў супраць чырвонаармейцаў.

Беларускія эсэры, узначаліўшы паўстаньне апынуліся перад пытаньнем — што рабіць далей. Дапамога ад Найвышэйшае рады БНР абмежавалася нязначнаю фінансаваю дапамогай і дэлегаваньнем некалькіх афіцэраў пад загадам кіраўніка БВК Андрэя Якубецкага. Палітычнае кіраўніцтва БПС–Р — ЦК гэтае партыі, якое яшчэ легальна дзейнічала ў Менску (Я. Трахімаў, М. Шыла, М. Пашковіч і інш.), фактычна ўхілілася ад шчыльных кантактаў з паўстанцамі. Калі прааналізаваць чыннасьць Беларускае рады Случчыны ў гэтых умовах, то можа скласьціся ўражаньне, што яна імкнулася зьвесьці ўвесь збройны чын толькі да ваеннай дэманстрацыі. Савецкая ўлада для беларускіх сацыялістаў па сваёй ідэалягічнай накіраванасьці была больш «родная», чым польская. Нездарма пасьля ліквідацыі паўстаньня частка беларускіх эсэраў (С. Бусел, Я. Гузьней, В. Русак і інш.) актыўна ўдзельнічала ў арганізацыі антыпольскае партызанкі на Віленшчыне і Гарадзеншчыне ў 1921—1923 гг., а ўдзельнік слуцкіх падзеяў Язэп Лагіновіч (Корчык) стаў адным з кіраўнікоў Камуністычнае партыі Заходняе Беларусі. Нежаданьне прыхільнікаў «сялянскага сацыялізму» весьці актыўныя баявыя дзеяньні супраць чырвонай арміі сутыкнулася з рашучымі настроямі большасьці афіцэраў і жаўнераў Слуцкае беларускае брыгады. Апошнія ня вельмі разьбіраліся ў пэрыпэтыях палітычнае барацьбы ды кіраваліся жаданьнем змагацца супраць бальшавікоў. На апошняй фазе паўстаньня на чале збройных сілаў случакоў стаў штабс–капітан Антон Сокал–Кутылоўскі, на якога былі ўскладзены дыктатарскія паўнамоцтвы. Менавіта на гэты час прыпадаюць найбольш значныя вайсковыя апэрацыі паўстанцаў. Ліквідацыя збройнага чыну была ўспрынята кіраўніцтвам Найвышэйшае рады БНР і Беларускае рады Случчыны з палёгкай.

Галоўнаю прычынай хуткага падаўленьня сялянскага супраціву была адсутнасьць сур'ёзнае палітычнай арганізацыі, якая б магла згуртаваць адасобленыя ачагі антыбальшавіцкага супраціву пад сьцягам нацыянальнае незалежнасьці. Такой арганізацыяй ня стала ні партыя беларускіх эсэраў, ні т. зв. сялянская партыя «Зялёны дуб». Агульная арганізацыя сумесных дзеяньняў сялянскіх паўстанцаў у Беларусі не выходзіла за межы аднаго павету. Ідэя беларускае дзяржаўнасьці ня стала яшчэ галоўным кансалідуючым фактарам у дзейнасьці мясцовае палітычнае эліты, якая была схільная да розных формаў калябарацыі. Гэтаму не садзейнічала слабое нацыянальнае ўсьведамленьне грамадзтва, перавага левага радыкалізму ў вызваленчым руху, адсутнасьць дзейснай падтрымкі з боку міжнароднай дэмакратычнай супольнасьці.

Будзем памятаць таксама пра тыя мэтады, якія скарыстоўвалі бальшавіцкія ўлады для падаўленьня сялянскіх паўстаньняў, у тым ліку і на

Случчыне. Рэпрэсіі ўжываліся ня толькі супраць удзельнікаў антысавецкіх збройных фармаваньняў. Карныя апэрацыі т. зв. «ЧОНаў» (частак асаблівага прызначэньня) праводзіліся супраць цэлых вёсак. У Беларусі асаблівай жорсткасьцю вызначаўся карны аддзел камісара Стока. Каб пазбавіць паўстанцаў падтрымкі з боку родных і сваякоў, савецкая ўлада ўжывала практыку гвалтоўных высяленьняў «бандыцкіх» сем'яў у цэнтральныя рэгіёны Расеі за сотні кілямэтраў ад родных месцаў. Канфіскаваную маёмасьць «бандыцкіх прысьпешнікаў» разьмяркоўвалі паміж «чэсных грамадзянаў». Аднаго з галоўных «ліквідатараў» Слуцкага збройнага чыну Яна Ольскага савецкая ўлада высока адзначыла. «За энэргічную і самаадданую працу па барацьбе з ворагамі рэвалюцыі на вонкавым і нутраным франтах Рэспублікі» былы загадчык асобага аддзелу 16 арміі і кіраўнік ЧКБел—ГПУ БССР у 1921—1923 гг. быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сьцягу.

У антыбальшавіцкім змаганьні беларуская вёска фактычна засталася бяз масавай падтрымкі горада, што не ў апошнюю чаргу зьвязана з асаблівасьцямі нацыянальнага і сацыяльнага складу гарадзкога жыхарства ў Беларусі. Ніжэйшыя і сярэднія слаі габрэйства, што складала значную частку насельніцтва беларускіх гарадоў і мястэчак, у першыя гады савецкае ўлады захапляліся камунізмам. Калі мясцовыя абшарнікі і прадпрымальнікі пры новай уладзе гублялі свае капіталы, прадпрыемствы і фальваркі, а сялянства стагнала ад рэквізыцыяў хлеба і хатняй жывёлы, дык сацыяльнае, палітычнае і матэрыяльнае становішча дробных габрэйскіх гандляроў і рамесьнікаў не пагоршылася, а нават трохі палепшылася. Бальшавізм вызваляў апошніх ад нацыянальнай няроўнасьці, уздымаў іх сацыяльны статус. Для спрытнай габрэйскай моладзі, якая вырвалася з свайго кансэрватыўнага асяродзьдзя і атрымала адукацыю ў казённых рускамоўных школах, пры новай уладзе адкрываўся шырокі шлях для кар'ернага росту ў савецкім дзяржаўным апараце. Другая частка тутэйшага габрэйства — артадоксы і правыя сіяністы — у дачыненьні да беларускага руху па–ранейшаму трымаліся пазыцыі неўмяшальніцтва.

Сацыяльна–псыхалягічная стомленасьць беларусаў ад наступстваў Першае сусьветнае вайны і рэвалюцыйнага закалоту — не апошні фактар, які тлумачыць прычыну хуткага згасаньня антыбальшавіцкага супраціву ў Беларусі. Перажыўшы вялікія сацыяльныя ўзрушэньні, разгул бяспраўя і гвалту з боку розных уладных і ваенных рэжымаў, насельніцтва краю прагнула не вайны, а хоць нейкай стабільнасьці. Супраціў новай уладзе быў пераважна пасіўны.

Савецкая прапагандысцкая сыстэма рабіла ўсё, каб праўда аб слуцкіх падзеях не дайшла да нашчадкаў. Але народ захаваў памяць аб сваіх героях. Яна зьбераглася нават у сучасным беларускім фальклёры: народных песьнях і паданьнях. Праўда аб Слуцкім збройным чыне захавалася ў архіўных дакумэнтах, паведамленьнях тагачасных газэтаў, ва ўспамінах паўстанцаў. Большасьць гэтых дакумэнтальных сьведчаньняў зьмешчана ў гэтай кнізе.

***

У другім выданьні «Слуцкага збройнага чыну» аўтарамі–ўкладальнікамі захаваныя ранейшая тэматычная структура і археаграфічныя падыходы. Уключаны новыя дакумэнты і матэрыялы, у тым ліку выяўленыя ў польскіх архіўных зборах: Архіве актаў новых, Цэнтральным вайсковым архіве і Публічнай бібліятэцы ў Варшаве. Многія камэнтары і біяграмы, зьмешчаныя ў канцы кнігі, дапоўнены ці ўдакладнены.

Як і раней, зборнік падзелены на тры тэматычныя разьдзелы: архіўныя дакумэнты, прэсавыя паведамленьні і рэпартажы, уключаныя ў «Хроніку падзеяў»; блёк «Галасы ўдзельнікаў Слуцкага збройнага чыну» складаецца з успамінаў слуцкіх паўстанцаў; у асобны разьдзел «Сьведчаньні з–за кратаў» выдзелены паказаньні былых удзельнікаў антыбальшавіцкага выступленьня, «выбітыя» ў іх сьледчымі ГПУ—НКВД пасьля арышту ў 1930—1940–я гады.

Дакумэнты і матэрыялы маюць агульную нумарацыю і ў рамках тэматычных разьдзелаў даюцца ў храналягічным парадку. Для зручнасьці карыстальніка газэтныя паведамленьні ды рэпартажы аднаго і таго ж пэрыёдыка, калі яны складаюць значную колькасьць, скампанаваны разам, адным блёкам, у храналягічнай пасьлядоўнасьці. Дата стварэньня дакумэнта альбо час першай публікацыі ў пэрыёдыку ці літаратурным выданьні іншага кшталту падаюцца пасьля яго загалоўка.

Тэксты ўсіх зьмешчаных матэрыялаў пададзены з захаваньнем асаблівасьцяў мовы і правапісу арыгіналаў (за выключэньнем відавочных артаграфічных памылак, а таксама ў выпадках, калі з тэхнічных прычынаў не пазначалася «ў»). Для публікацыі ў зборніку ў абсалютнай большасьці выкарыстаны тэксты арыгіналаў, а пры іх адсутнасьці — першадрукаў. Іншамоўныя дакумэнтальныя крыніцы падаюцца на мове арыгіналу. Пераклады польскамоўных дакумэнтаў зьмешчаны ў камэнтарах у канцы кнігі. Скарачэньні тэксту ў дакумэнтах, зробленыя ўкладальнікамі, пазначаны шматкроп’ем ў кутавых дужках — **<...>**. Словы, якія прапушчаны ў тэкстах, а таксама выпадкі расшыфроўкі ініцыялаў ды прозьвішчаў узгаданых у тэксьце асобаў пазначаюцца квадратнымі дужкамі — [ ].

Пасьля тэксту адпаведнага дакумэнта падаюцца назва архіву, нумар фонду, вопісу, справы і аркуша, тэхнічная характарыстыка крыніцы (аўтэнтычнасьць, спосаб выкананьня ды г. д.), а таксама (калі дакумэнт ужо публікаваўся) сыгнатура пэрыёдыка, у якім ён упершыню быў надрукаваны. Сыгнатура польскіх архіўных і бібліятэчных збораў падаецца на мове краіны–ўтваральніцы. Калі дакумэнт капійны і маюцца зьвесткі пра іншыя ягоныя капійныя аналягі ў архівах — падаюцца і гэтыя зьвесткі. Дробныя ўдакладненьні па тэксце для зручнасьці карыстальніка зьмяшчаюцца ў нізе адпаведнай старонкі. Асобна падаюцца расшыфроўкі розных абрэвіятураў і скарачэньняў (назвы партыяў і арганізацыяў, устаноў, архіўнай сыгнатуры ды г. д.).

*Уладзімер ЛЯХОЎСКІ*

## 1. Допіс са Случчыны ў менскую газэту «Звон»[1]

**18 кастрычніка 1919 г.**

У часе нямецкай окупацыі беларускі рух у павеце бадай што саўсім замер, работа вялася толькі хатнім спосабам людзьмі, блізка стаячымі ля беларускай справы і то не саўсім ахвотна. Прычынай гэтага былі розные політычные стасункі ў Расіі, а потым у Гэрманіі. Посьле прыходу бальшавікоў і з працай З. Жылуновіча[2], з паяўленьнем яго вядомага ўсім «маніхвэсту»[3] беларуская справа, здавалася, разьвіваецца шырэй, але скора ўсё замоўкло і вырысавалося тое, што Беларусі і беларускага народу ізноў няма.

У цяперашні час справа стаіць далёка ня лепей. Польская ўласьць хоць і ня бьець саўсім па беларускаму руху, але ўсё ж такі спрыяе сваім інтарэсам болей.

Усё гэта само сабой цяпер вее іх духам, і яны сталі панамі палажэньня, горшыя стасункі відаць са стараны інтэлігэнцыі, каторая ня знае сама, чаго хоча. Не на іх старане цяпер сьвята, не яны сталі бліжэй да палітычнага руху, а ўсё–ж яны, інтэлігэнты, ня хочуць прызнаць, што ёсьць беларуская мова і беларускі народ.

Прыходзіцца крута ў тым, што ня знаюць польскага языка, а сваёй роднай мовы, хоць знаюць, да карыстаць ня ўмеюць. А добра не разумеюць таго, што час ужо працаваць над адраджэньнем сваёй бацькаўшчыны, даўно пара ўжо пазбыцца гнёту чужых і тварыць самым сваё культурнае жыцьце.

Стыдна, паны інтэлігэнты! Што скажа вам прачнуўшыся ад векавога сну народ беларускі?

Тутэйшы.

*Звон. 1919. 18 кастрычніка.*

## 2. Ліст часовага рэвідэнта* Беларускае школьнае рады Меншчыны[4] па Слуцкім павеце Юркі Лістапада[5] да Сымона Рак–Міхайлоўскага[6]

**1 лістапада 1919 г.**

Паважаны Пане Старшыня!

Ужо тры дні, як я прыехаў да дому. На дарозе з Менска да Слуцка я прыпыняўся ў вёсках і абгаварваў школьную справу і раздаваў газэты.

Прыехаўшы ў Слуцак, я пашоў да пана Начальніка павету, ён даў мне паперу, каб ніхто мне ні шкодзіў, і сам выказаў, што ён рад усімі

* Інструктар.

жыламі памагаць беларусам. Пан школьны інспектар тэж добра аднёсься да мяне.

Пан Асьвяцімскі[7] вельмі рад, што Вы паслалі працаўніка па школьным справам.

Што датычыць пана Абрамовіча[8], то ён, прачытаўшы Ваша пісьмо, спужаўся, бо ён да гэтага часу яшчэ і ня думаў працаваць на карысьць Беларусі. Сядзіць сабе ў польскай канцылярыі і запісвае ўхадзячыя і выхадзячыя паперы. Ён кажа, што ў Слуцкім павеце людзі ня хочуць адчыняць Беларускіх школ. Усё тое, што я пачуў ад Абрамовіча, паказвае, што ён зусім не беларус, а паляк, ён посьле службы ходзіць па Слуцку ў польскіх галунох (пагонах).

Тым часам я, ня слухаючы пана Абрамовіча, пашоў па бліжэйшых вёсках ад Слуцку, каб даведацца, ў якім стану знаходзяцца вясковыя школы. Я даведаўся, што з адзінаццаці вясковых школ Слуцкае воласьці адчынена толькі адна школа расейская. Што датычыць беларускіх школ, то ні адзін настаўнік пра іх ніц нічога ня ведаў, а прыгавары[*] падаюць, каб адчыніць хоць якую школу. Наагул сказаць, амаль што ня ўсе школы падалі заявы, каб адчыніць Расейскую школу з польскаю моваю[**].

Значыцца, праканаўшыся аб тым, што пра беларускую школу ніхто ня ведае, ці можна такую адчыніць, ці не, дык я за гэтые два дні пабываў у дзьвёх вёсках на бацькоўскіх сходах і вытлумачыў ім добра пра школьную справу, дык яны, усе як адзін, згадзіліся адчыніць беларускую школу. Гэта ў дзьвёх вёсках. На сходах было больш як па 100 душ бацькоў. Толькі напісалі ў прыгавары такую згоду, што пачануць вучыць па–беларуску тады, калі будуць прысланы ім беларускіе падручнікі. Цяпер настаўнікі гэтых дзьвёх школ скардзяцца на тое, што ў іх па 2 камплекты, і тутэйшая ўлада зачыняе другі камплект, тым часам у школах будзе больш як па 100 вучняў. Ці мае ўлада права зрабіць гэта? Я на кожным шагу тлумачу ўсім, як блізкім, так і далёкім людзям, пра Беларускую Школьную справу і з усіх бакоў чую прыхільнасьць і прыемнасьць, але як ім дасюль ні было вядома ўсё гэта, дык я прасіў бы Вас, каб Вы паклапаціліся, каб можна было па ўсіх вёсках зрабіць другіе сходы, на якіх быў бы прадстаўнік–беларус, і я спадзяюся, што на ўсіх сходах галасавалі бы за беларускую школу. Толькі ці можна гэтак зрабіць будзе, бо я кажу, што сходы амаль што ўсе адбыліся, дык можа ня можна скасаваць стары прыгавар?

Во усё тое, што я пасьпеў за гэтые тры дні зрабіць і даведацца. Цяперачы я Вас прашу, пане Старшыня Школьнай Рады Меншчыны, каб Вы назначылі мяне назаўсёды рэвідэнтам Беларускіх школ Случ-

[*] Мэмарандумы, прынятыя на сходах вясковых грамадаў на адрас польскай акупацыйнай адміністрацыі з просьбай адкрыць у той ці іншай вёсцы ці мястэчку школу.

[**] З польскаю моваю як прадметам навучаньня.

чыны, бо тые, на каго Вы так спадзяваліся, нават і ня думаюць аб сваіх абавязках, гэта я кажу пра Абрамовіча.

Пры тым, калі я толькі буду часова рэвідэнтам, а потым не, дык я застануся ў разьбітага карыта, бо школы ўсе будуць заняты, і я застануся бяз куска хлеба.

Працую дзень і ноч, каб як зрабіць лепей і больш адчыніць беларускіх школ. Прысылайце ўсе пастановы і інструкцыі і беларускіх падручнікаў. Яшчэ кажу, што школ вельмі мало адчынена, прыгавары пададзены, і чакаюць рэзалюцыі начальства.

С пашанай Ю. Лістапад.
Пішэце як найхудчэй.

Яшчэ, пане Старшыня, дабаўлю.

У мяне натта шмат знаёмых настаўнікаў вясковых школ. Яны, даведаўшыся, што я прыехаў з Менска, гэтые тры вечары чалавек па дзесяць прыходзілі даведацца пра школы. Ім я растлумачыў як належыць быць, і ні адзін з іх ні мае нічога процiў і кожын згаджаецца ўвесьці ў сваёй школе беларускую мову, хоць гэтага ў іхнім прыгаворы і ні напісана. Толькі яны просяць, каб атрымаць адкуль–нібудзь беларускіх падручнікаў і рады пабываць на курсах Беларусазнаўства, якіе маюцца ў хуткім часе адчыніцца ў Слуцку.

Гэта ўсё добра. Але як жа мне зрабіць з тым, што я ўсіх валасьцей аб’ехаць за месяц ці тыдняў за тры не пасьпею, бо ў кожнай воласьці ёсьць больш як па дзесяць вясковых школ, дык у гэтым выпадку я бы Вас прасіў, каб Вы там у Менску выпрацавалі такую абвестку, у якой бы ўся Беларуская Школьная справа была добра вытлумачана. Потым у значнай колькасьці такіх абвестак прышліце ў Слуцак, а мы тут разашлём іх па ўсіх куткох Случчыны. Тады я спадзяюся, што ў кожную пачатковую школу ўвядуць самі настаўнікі беларускую мову. У нас у Слуцку няма яшчэ ні школьнае павятовае рады, ні нацыянальнага камітэту. Гэтымі днямі ўжо выберам, бо будзе сход, здаецца, сёньня ўвечары па гэтым пытаньням.

Працаўнікоў–беларусаў у нас натта мала. Людзі добрые, спрыяючые Беларусі, гэта Асьвяцімскі, Петрашкевіч[9], старшыня Беларускага гуртка Бараноўскі[10], а на Абрамовіча яны тэж ні маюць ніякае надзеі. Што будзе зроблена мною за гэты тыдзень, дык я напішу, і як адчыняцца белар. школы, то напішу, дзе і колькі іх будзе.

Ю. Лістапад.

*НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 2, арк. 146—148. Аўтэнт., рук.*
*Апубл.: Спадчына, 1994. №6. С. 71—73.*

## 3. З артыкула Янкі Купалы[11] «Моладзь ідзе»

**15 лістапада 1919 г.**

<…> Сягодня кожны, каму не атуманіла расійская і польская рэакцыя мазгоў, адчуе і разумее, які шырокі размах прыняла наша справа над адбудаваньнем сваёй незалежнай Бацькаўшчыны!

Цяпер, браты, ідуць сыны беларускіх мужыкоў, ідзе наша беларуская моладзь!

Сягодня ў нас творыцца армія, творыцца рукамі гэтай самай гарачай беларускай моладзі, ствараюцца па гарадох, мястэчках і вёсках беларускія нацыянальныя камітэты, усё рукамі той жа самай беларускай моладзі; нацыянальнае беларускае жыцьцё пачынае кіпець, палаць праўдзівым, вечным і жыватворным полымем.

Мы жывем і будзем жыць, бо з намі і беларуская вёска.

<…> Але што цікавейшае: перада мной ляжыць беларуская часопісь «Наша Каляіна»[12]. Выдана яна [ў] Слуцку! Слуцак — павятовы гарадок — куды яму, здавалася бы, лезьці ў людзі ды яшчэ з сваёй газэтай! Аднак палез. Беларуская душа, як бачым, — жывучая, творчая, як яе не заганяй у казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца. Мала таго: гэта часопісь зьяўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасьці «Кветка–Папараці»[13], каторая сваю чыннасьць пашырала на ўвесь Слуцкі павет і навет далей, за яго межы.

Гэта папраўдзе, як у песьні сьпяваецца:

«А ў Слуцку на рыначку сталася праява!»

Так, сябры, гэта вялікая праява!

Адбудаваньне незалежнасьці Беларускай Дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь.

Чэсьць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з пад беларускай саломенай страхі!

Ты сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і сьвятлейшую будучыну.

На бок з дарогі, панове і гаспада з Захаду і Ўсходу!

Беларуская моладзь ідзе!

К–а.

*Беларусь*[14]. *1919. 15 лістапада.*

## 4. Статут Слуцкаго Беларускаго культурна–прасьветнаго гуртка «Папараць–кветка»*

**Не пазьней за 18 лістапада 1919 г.**

1.«Папараць–Кветка» есьць культурна–прасьветны гурток, заданьня якога — працаваць дзеля адраджэньня культуры бацькаўшчыны і падрыхтаваць сваіх сяброў на сьвядомых грамадзян, якіе б у будучыне маглі аддаць сваю моц на карысьць Беларусі.

2. У «Папараць–Кветку» могуць паступаць беларусы без розьніцы полу і рэлігіі.

3. Усе жадаючыя паступіць у «Папараць–Кветку» павінны падаць заяву ў праўленьне гуртка з абяцаньнем выпаўняць статут і пастановы агульных сходаў.

4. У гурток прымаюцца толькі тые, за якіх паручыцца ня меняй двох сяброў.

5. Сябры «Папараць–Кветкі» дзеляцца на паўнамоцных і спрыяючых; у паўнамоцные прымаюцца грамадзяне, маючыя ня меней сямнадцаці гадоў; у спрыяючыя прымаюцца толькі вучні да сямнадцаці гадоў. Усе нявыпаўняючыя пастаноў сходаў і статута выключаюцца з гуртка.

6. Спрыяючые сябры маюць права аднаго дарадчаго голасу.

7. Гутарка між сябрамі павінна вясьціся толькі на беларускай мове.

8. Гуртком кіруе праўленьне, выбранае з ліку паўнамоцных сяброў простым, роўным і патаемным галасаваньнем срокам на паўгода. Лік праўленьня ня павінен перавышваць 7 (сямі) сяброў, якое можа перавыбірацца і да пары, калі яно згубіло даверые гуртка. Кантроль над гуртком належыць вышэйшай беларускай уладзе.

9. Праўленьне, як выканаўча ўлада, працуе адно в лінях** пастановаў, дадзеных яму агульным сходам.

10. Агульные сходы павінны сазывацца па заяве дзеля гэтаго ня меней пяці сяброў і адзін раз у месяц дзеля адчота а працы праўленьня.

11. «Папараць–Кветка» можэ закладаць беларускіе культурна–прасьветные гурткі па ўсяму Слуцкаму павету і закладаць курсы беларусазнаўства дзеля ізучэньня эканамічнаго, гістарычнаго і культурнаго жыцьця Беларусі.

12. «Папараць–Кветка» ўстрайвае скарбоначные зборы ахвяр і ўселякіе ігрышча і лекцыі дзеля павелічэньня свае эканамічнае моцы.

13. «Папараць–Кветка» выдзельвае із свайго ліку «Таварыство Беларускай Драмы і Камэдыі», якое дзеліцца на сэкцыі: літэратурну, артыстычну і харальну.

* Назва дакумэнта.

** У межах, у рамках.

14. «Папараць–Кветка» мае бібліятэкі на мейсцы і рухомые дзеля павету.

15. Гурток можэ выдаваць які–небудзь друкованы орган.

16. Дзеля паверкі спраў гуртка выбіраецца агульным сходам кантрольная камісія з паўнамоцных сяброў у ліку пяці чалавек.

17. У здарэньні ліквідацыі гуртка выбіраецца агульным сходам ліквідацыонная камісія з паўнамоцных сяброў і прэдстаўніка ад вышэйшай беларускай улады, якіе передаюць справы гуртка беларускаму нацыянальнаму камітэту* альбо ўладзе, заменьваючай яго, а грошы на карысьць якого–небудзь беларускаго гуртка па пастанове «Папараць–Кветкі».

18. «Папараць–Кветка» мае пячатку з надпісямі: «Слуцкі Беларускі Культурна–Прасьветны Гурток «Папараць–Кветка»».

19. Гурток мае свой нацыанальны штандар.

20. Праўленьне «Папараць–Кветкі» заўсягды знаходзіцца ў г. Слуцку, Менскай губ.

21. Гэты статут можа з'іначвацца па пастановам агульных сходаў «Папараць–Кветкі» с пацьвярджэньнем пераменаў вышэйшай Беларускай Уладай.

Старшыня Ян. Ракуцька[15]
Пісар С. Бусел[16]

Статут зацьверджаны Белар[ускай] Шк[ольнай] радай Меншчыны 18/XI—1919 г. №262.

Стар[шыня] Рак–Міхайлоўскі
Пісар Я.Лук'янчык[17]

*НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 3, арк. 115—116. Аўтэнт., рук.*
*Маецца пячатка гуртка «Папараць–Кветка».*

## 5. Часовы Статут Беларускага Нацыянальнага Камітэту Случчыны[18]

**Лістапад—сьнежань 1919 г.**

Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны ёсьць вышэйшая беларуская безпарцейная арганізацыя павету і Слуцка.

1) Мэтаю яго пастаўлено пашыраць нацыянальнае пачуцьцё паміж беларусамі і дапамогі ім у духоўным і матэрыяльным жыцьці, дзеля чаго: а) пашырае грамату, б) нацыянальную літэратуру, в) прымае стараньня аб пашырэньні беларускіх школ, г) арганізуе выдавецтва, д) гурткі: культурна–прасьветные і сельскагаспадарскіе, е) каапэратывы, ж) дапамогу безпрацоўным і бедным жыхаром Случчыны, з) лекцыі і курсы беларусазнаўства. Уходзіць да польскае ўлады з

* Павятоваму беларускаму нацыянальнаму камітэту.

прозьбамі аб палепшаньні агульнага і прыватнага жыцьця беларусаў. Выпаўняе паручэньня Менскага Беларускага Нацыянальнага Камітэта[19]. Кантралюе працу беларускіх нацыянальных арганізацый Случчыны і ззывае зьезды прадстаўнікоў нацыянальных арганізацый.

2) Камітэт складаецца з сяброў, выбраных беларусамі м. Слуцка на агульным сходзе 1–га лістапада 1919 году, якім прадстаўлена Камітэту права кааптаваць у лік яго сяброў сьвядомых беларусаў.

3) Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт выдзяляе з сябе прэзідыум з пяці сяброў: Старшыні, двух яго сяброў, скарбніка і пісара. Прэзідыум вядзе працу Камітэту і ёсьць адпаведны яго орган.

4) Грашовы фонд Камітэту складаецца з асігнаваній Польскае ўлады ад каштарысу Менскага Нацыянальнага Камітэту, афяр і ігрышч, а таксама і лекцыяў.

Часовы Нацыянальны Беларускі Камітэт мае сваю печаць: Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны, а пасярэдзіне — «Пагоня».

А. Бараноўскі, Асьвецімскі, Цяцерскі, М.Кучынскі, В.Русак[20], Жаўрыд[21].

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 40, арк. 11. Заверaная копія, маш.*
*Маецца пячатка Белнацкаму Случчыны.*
*Апубл.: Спадчына. 2000. №3. С. 6—7.*

## 6—7. Лісты рэвідэнта ЧБНК па Слуцкім павеце Андрэя Бараноўскага ў Менск

**Студзень — люты 1920 г.**

Таварыш* Трафімаў[22] !

Хаця яшчэ мая праца не дала вялікіх знакаў, але ўсё ж такі, дзякуючы таму, што едзе чалавек, пасылаю а сабе маленькую вестку. З прыездам у Слуцак я зьвернуў увагу на арганізацыю павятовае Школьнае рады Случчыны. Не маючы магчымасьці склікаць сход беларусаў, мною заложана часовая рада, паперу а зацьверджэньні якое пры гэтым пасылаю. Аб гэтым жа мною паслана папера і Павятоваму старасьце. Уважна прашу найскарэй зацьвердзіць раду, даць ёй датычачые яе дырэктывы і выслаць усё гэта чэраз падаўцу гэтага, нашага сябра, Русака, бо, здаецца, праца будзе. Быў ужо на павеці. Агульнае ўражаньне вельмі добрае. Сялянства, пачуўшы словы праўды, ідзе насустрач з адчынянай душою. У кожным слове іх чутна скарга на палякаў. Відна вялікая запужанасьць сялянства цяперашней уладай, так што трэба доўга з імі гутарыць, штоб пачуць ад іх даверчывае слова. У вёсцы Ліпнікі Цароўскае воласьці вучыцель ужо даўно пачаў зна-

* Гэта быў традыцыйны партыйны зварот у бальшавікоў і сяброў іншых сацыялістычных партыяў (у прыватнасьці, у беларускіх эсэраў).

ёміць дзяцей з беларускай мовай, і сам чалавек вельмі спрыяючы беларускаму руху, але зазначыць у пратаколе а звароце школы з расейскай на беларускую не здарылася дзеля таго, што школа істнуе для трох вёсак і склікаць сход было не мажліва. Тут я залажыў культ.–прасьв. гурток «Весковая Зорка», статут якой прывезу на зацьверджаньне. На Коледы ўстрайваюць беларускае ігрышча. Ставіць будуць «Антось Лата» і «На дарозе жыцьця». Гурток мае на мэці пашыраць сьведамасьць па суседніх вёсках, гдзе будзе закладаць чытальні. У вёсцы ёсьць не мала людзей асьвечаных, спрыяючых беларускаму руху, якіе, мне здаецца, прынесуць нямала карысьці. У вёсках Паўстынь і Валаты Цароўскае воласьці і ў вёсцы Ісерно Пагоскае воласьці ўдалося зьвярнуць расейскіе школы на беларускіе. Пратаколы сялянства ёсьць, толькі ня ведаю, як прыдзецца сварыцца з паветовым інспектарам, бо ён згаджаецца на выкладаньне беларускае мовы толькі там, дзе вучыцель скончыў беларускіе курсы. Тут павінна зрабіць што колечы Школьная Рада Меншчыны. На мой погляд, Рада павінна перш–наперш напіраць на палякаў у адтрыманьні грошаў дзеля скарэйшага заснаваньня ў Слуцку вучыцельскіх курсаў, чаго вельмі чэкаюць і ўсе вучыцелі. Як часовы крок, рада павінна зазначыць палякам, што яна згодна, каб вучыцелі выкладалі беларуску мову і да сканчэньня імі курсаў. Селянскіе пратаколы я пасылаю паветоваму інспектару, а копіі Школьнай Радзе, якая павінна ўвайсьці ў згоду з інспектарам і зацьверджаць школу, а таксама даваць школе беларускіе падручнікі. Прашу паведаміць Раду, што дзеля школ беларускіх наш гурток выдае кнігі безплатна.

У вёсцы Заградзье Цароўскае воласьці залажыўся беларускі кооператыў «Гаспадар», пры якім мною заложана беларуская чытальня. Сялянство вельмі цікавіцца палітыкай, аб чым прыходзіцца гаварыць ня мала. Прывезу многа дакумэнтаў. Не малое значэньне мае чытаньне вершаў. На чытаньне адводзіцца ня мала часу, а ў вёсцы Паўстынь, па запросу сялянства, чытаў часоў паўтара. Газэта расходзіцца добра. Нават у самых далёкіх вёсках здарвалася знаходзіць нумеры «Беларусі». У прадмесьці м. Слуцка — Остраў заснована беларуская чытальня «Бацькаўшчына».

Нашоў у Слуцку прыхільніка беларускаго, папа[23], які з амвона гаварыў сялянам а Беларусі і а патрэбі яе нацыянальнае незалежнасьці. Быў у его на кватэры і вёў размову. Даклераваў і далей настаўляць сялян у гэтым кірунку. Прасіў прысылаць газэту і літэратуру. Заўтра еду ізноў, і, мусіць, не здарыцца напісаць ужэ і да прыезда ў Менск, бо не думаю, што здорыцца быць раней і ў Слуцку.

Будзь ласкаў, напішы, што дзеецца ў Менску наогул і асабіста ў нашых палітычных колах. Сялянство выносіць поўнае негадаваньне а здарэньні з Радаю[24]. Прывезу дакументы. З Русаком гавары аб усім. Гэта пэўны наш працаўнік у ва ўсіх кірунках.

Будзь здароў, дзяцька Трафімаў, паважаючы Вас А. Бараноўскі.

P. S. Прашу чэраз Русака напішы, якія абавязкі школьнага рэвідэнта і ці магу я ці Школьная Рада рэкамендаваць на Слуцкі павет рэвідэнта і якая яму пэнсія. А. Б.

*НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 2, арк. 153—153. Аўтэнт., рук.*
*Апубл.: Спадчына. 1994. № 4. С. 73—74.*

## Даклад а школьным і нацыянальным становішчы ў Слуцкім павеце*

З'явіўшыся ў Слуцак, я перш–наперш, аб чым я ўжэ пісаў раней, звернуў увагу на арганізацыю часовай павятовай Школьнай Рады[25], выходзячы с таго пагляду, што, пачынаючы школьную працу ў павеце, павінно быць і афіцыяльнае школьнае прадстаўніцтва. У склад Рады, загадзе атрымаўшы згоду, мною былі ўведзены: вучыцель беларускай гімназіі[26] — Петрашкевіч, вучыцелька тае ж гімназіі — Ярэц[27], і як прэдстаўнік Слуцкаго Нацыянальнаго Камітэту — Асьвецімскі. Рада з пашырэньнем працы карыстаецца правам кааптацыі. А заснаваньні школьнай рады мною паведамлёны павятовы стараста і паслана папера а зацвержэньні ў школьную раду Меншчыны. Павятовы стараста запатрэбаваў, каб школьная рада к 1 числу кажнаго месяца паведамляла яго а сваей працы. Мне не ведома, ці гэта законнае трэбаваньне старасты, ці гэта яго асабістае пажаданьне? Ад Старшыні ж Рады Меншчыны я адтрымаў паведамленьне, што ён рады Случчыны не зацьвержае, а прапануе прыцягнуць к працы шырэйшые кругі грамадзянства, асабліво арганізацыі павятоваго настаўніцтва і беларускіе культурна–прасьветные гурткі. На гэто мой пагляд такі.

Паветовае настаўніцтво яшчэ не арганізована, і хаця паміж імі многа беларусоў, але іх трэба найці, згуртаваць, інфармаваць і тагды прыцягаць к працы. Культурна–прасьветные гурткі таксама не згуртованы, ня маюць ніякіх стасункаў з цэнтравым пав. беларускім прэдстаўніцтвам, бо яны разсыпаны па ўсяму павету. Што ж датычыць местоваго гуртка «Папараць–Кветка», то ён заўсегды з'яўляецца падпораю ўсіх беларускіх арганізацый у Слуцку. Наагул жа грамадзянство Случчыны, хаця і асьведамлено а беларускіх справах, але паміж яго ёсьць і людзі рэакціоннаго настрою, а затым, на мой пагляд, раптоўна прыцягнуць к працы іх было нельга, бо гэтым магчыма, што можна было папсаваць нават справу. Выходзячы з гэтаго становішча, мною і была заложана часовая рада, якой, нягледзячы на тое, што яна яшчэ не зацьверджана, прапановано распачаць працу. З свайго

* Назва дакумэнта.

ж боку, я буду ўсё ж такі прасіць раду Меншчыны зацьвердзіць раду Случчыны да часу арганізацыі павету.

Паветовы стараста паведаміў школьную раду Случчыны, што атпушчэны грошы на беларускіе вучыцельскіе курсы ў Слуцку. Дзеля выясьненьня гэтаго пытаньня і наагул школьнаго я звярнуўся да павятоваго школьнаго інспектара, які саўсім не згаджаецца на заснаваньне курсаў, адмаўляючыся тым, што настаўніцтво будзе адорвано ад свае школьнае працы. Што ж датычыць звароту расейскіх школ на беларускіе, то з гэтым ён гэтак сама не згадзіўся, кажучы, што сялянство ўжо высказало сваю волю пры адчыненьні школ, зазначыўшы ў пратаколах, на якой мове ім пажадана выкладаньне навукі ў школе. После размовы ён сказаў, што пытаньне а школе і а курсах ім будзе паднято на з'ездзі інспектароў у Менску, які адбудзецца ў палавіне гэтаго месяца.

Не зважаючы на отпаведзь інспектара, я ўсё ж такі, выехаўшы на павет, па мажлівасьці ці зварочваў школы ці ўводзіў выкладаньне беларускае мовы. Да гэтаго часу, як паведаміў мяне інспектар, у павеце значыліся гэткія беларускіе школы: у вёсцы Старыца Пукаўскай вол. — наст. Зенюк[28] і Боборэка[29]; Русакі Пукаўскай вол. — наст. Люба Зенковіч[30]; Варкавічы Слуцкае вол. — наст. Лістапад; Паварчыцы Старобінскай вол. — наст. Альжбета Пракапчук[31] і ў Грыцэвічах тае ж вол. 2–х клясова школа, гдзе ўва ўсіх камплектах выкладае бел. мову Матрэна Калацкая. Мною ж на бацькоўскіх сходах звернуты на беларускіе гэт. школы: у вёсцы Паўстынь і Валаты Цароўскае воласьці, Ісерно Пагоскае воласьці і Весея Слуцкае воласьці. Усе пратаколы перэданы мною паветовай Школьнай Радзе, якая і павінна ўвайці ў паразуменьне з школьным інспектарам. У школах жа, дзякуючы прыхільнасьці настаўнікаў, зразу пачалося выкладаньне беларускае мовы, канешне, без згоды інспектара. У вёсцы ж Ліпнікі Цароўскае воласьці заложан культ.–прасьв. гурток «Весковая зорка», старшынёю якое абобран мейсцовы вучыцель Бараноўскі[32] . Гурток мае на мэце пашырэньне белар. сьведомасьці ў суседніх вёсках Боркі, Таліца, Заградзье, Паўстынь, гдзе маюць залажыць чытальні. У вёсцы Весея заложан гэтак сама гурток «Полыме», старшынёю якога абобран Губчык — вясковы жыхар. У прадмесьці Слуцка — Остраў заложана чытальня «Бацькаўшчына» — падорган «Папараць–Кветкі». Як паведамляюць з вёскі Татуры Пукаўскай воласьці, істнуючая там польская школа мае расейскі камплект. Там ведзецца поўнае апалячваньне дзяцей. Мала таго, што ўсіх беларускіх дзяцей каталіцкае веры ўзгадоўваюць у польскім духу, але маюць уплыў і на дзяцей праваслаўных. Іх заманьваюць у польскі камплект падарункамі і ўгаворамі, перайці ж з польскаго камплекта ў рускі саўсім забароняно. Дзеці польскаго камплекта — каталікі смеюцца з дзяцей праваслаўных, што вы мужыкі і гаворыце па–мужычу, а нас учаць гаварыць па–панску.

Гэта ўсё вынікі працы польскіх настаўнікаў і тутэйшага ксёндза. Круціць дзіцячы розум іезуіцкімі выдумкамі — гэта ўжэ такая подласьць, якой сьвет даўно не бачыў.

Многа ў працы магло б дапамагчы настаўніцтва, якое ў сваей большасьці з вялікаю прыемнасьцю сустрачае беларускі рух і добра спраўляецца з выкладаньнем мовы, навет не скончыўшы курсаў. Пажаданым было б, каб найхутчэй былі адчынены ў Слуцку курсы, у якіх чуецца вялікая патрэба. У гэтым кірунку Школьная Рада Меншчыны павінна дабіцца ўсяго, што трэба, ад палякоў і дапамагчы курсам лектарскімі сіламі. Сустрачаюцца настаўнікі і праціўнікі ўсяго беларускаго, як напрыклад Крыжаноўскі[33] — у Ісерно, а таксама настаўнікі–маскоўцы, якім беларуска справа саўсім чужая і не зразумела, напр. вёска Кухты — наст. Куровіч.

Немалую дапамогу ў нацыянальнай справе робіць і бацюшка сабornай цэркві ў Слуцку Шамеціло. С амвона ён селянам паміж іншым гаворыць, што «як зоркі ў небі ў цёмную ноч сьвецяць і паказваюць дарогу зблудзіўшаму чалавеку, так для вас гэтые зоркі ёсьць беларускіе культ.–прасьв. арганізацыі. Прыглядайцесе к ім, і яны вам пакажуць шлях к лепшаму жыцьцю». Ад імені беларускіх арганізацый я яму шчыра дзякаваў.

Наогул жа сялянство з прыхільнасьцю сустрачае весткі а беларускім руху, толькі трэба больш выслаць інструктароў, а то аднаго на павет вельмі мала, а таксама з'арганізаваць правільну развозку газэт і літаратуры. Чутно ўсюды вялікае нездавальненьне польскай уладай. Усякія рэквізіцыі і паборы, нацыянальны ўціск і рэлігійные справы выклікаюць велікае нездавальненье грамадзянства; дзякуючы гэтаму мажліва чакаць непрыемных здарэньняў.

З майго ж боку, было б пажаданым, каб рада высылала больш інструктароў, заснавала курсы, дзеля прапаганды дарма б выдавала ў вёскі кнігі і газэты, дабілася ў палякоў, каб у беларускіх пачатковых школах саўсім не выкладалася польская мова, што б не было перашкод у звароце школ на беларускіе і што б навукова справа ў беларускіх школах залежала толькі ад беларускай школьнай рады, польскіе ж установы ведалі б толькі гаспадарскаю часткаю школы. З гэтым пытан[ьнем] рада павінна ўвайці ў паразуменьне с палякамі.

Інструктар Слуцкаго павету
А. Бараноўскі.

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 9, арк. 6—8. Аўтэнт., рук.*
*Апубл.: Спадчына. 2000. №3. С. 7—12.*

## 8. Ліст часовага рэвідэнта Беларускай школьнай рады Меншчыны Антона Абрамовіча да Аркадзя Смоліча[34]

**14 студзеня 1920 г.**

Паважаны Пане Смоліч!

Пішу на скораю руку, бо вельмі ні маю часу, надта многа работы на службе, а тут ешчэ і справы беларускія. Убачыця скора ў Менску слуцкі тыднёвік «Наша Каляіна»*. Меў шчасьця быць у павеце на беларускім ігрышчы, скора пачуеце, як беларусаў там крыўдзілі. Што датыча Школьнай Рады, то я нічога бы ні меў процiў таго, каб часова зацьвердзіць той сьпісак, каторы быў прысланы да Вас, калі я быў у Менску. Школьная Рада, разумеецца, у прышласьці папоўніцца новымі сябрамі, але пакуль што трэба стварыць хоць часова. Школьная Рада будзе мець німала работы, а прынамся будзе органам, баронячым беларускія справы. Што датыча сяброў Асьвяцімскага і Бараноўскаго, то скажу Вам, што вельмі много яны працуюць і многа ўжо зрабілі ў павеце, і карыстаюцца пашанай сярод сялянскіх мас. Рэдка спаткаць такога чалавека, як Бараноўскі, шчырага беларуса, абаронца нацыянальнай беларускай справы.

P. S. Што датыча п. Астроўскага[35], то пакуль што — ? Скора яго пабачыце ў Менску.

А. Абрамовіч.

*НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 6, арк. 163—163адв. Аўтэнт., рук.*

## 9—10. Рапарты рэвідэнта Таварыства стражы крэсовай[36] па Слуцкаму павету Яна Сушыньскага аб сытуацыі на Случчыне

**Студзень—люты 1920 г.**

RAPORT

Powiatu Słuckiego

za styczeń 1920 rok

Słuck „niepokalabimyj“ i „niepobieżdionnyj“ — takimi przydomkami społeczeństwo rosyjsko–cerkiewne ochrzciło swój Słuck. I jest w tem część prawdy. Jeszcze za czasów Piotra[37] i Katarzyny[38] mieścinę tę uważano za swoją placówkę najdalej wysuniętą na zachód. Stąd padły najbardziej dotkliwe ciosy na Rzeczpospolitę Polską (sprawa dyzunicka). Monastyr Trojczany hojnie wyposażony przez Radziwiłłów był i jest rozsadnikiem prawosławia. Za panowania Mikołajów i Aleksandrów powiat słucki szcze-

* Гаворка ідзе пра другі нумар узгаданай газэты. Першы нумар выйшаў 27.10.1919 г.

gólną cieszył się opieką administracji moskiewskiej. Tu uległa kasacji największa iłość klasztorów i kościołów katolickich. Tu założono największą iłość „cerkiewno–przychodskich" szkółek. Tu na gruzach Wittgensztejnowskich (po Radziwiłłowskich) dóbr Hohenlohe powstały nowe gminy prawosławne, rekrutowane z centralnych guberni moskiewskich i t. d. Tu zresztą ideały Susaninów, Mininych i Pożarskich* głęboko zapuściły korzenie. Tu młodzież wioskowa mocno jest przejęta chęcią naśladowania „bohaterów"… Tu znalazł śmierć męczeńską dowódca Krechowieckiego[39] pułku pułkownik Mościcki[40].

Pozatym Słucczyzna wydała najsilniejszą paczkę bolszewicko–komunistycznych komisarzy, która objęła władzę w Smoleńsku i tyranizuje całą ludność. Wszystko co żyje prawosławno–żydowskie dyszy chęcią upokorzenia, zemsty i zniszczenia tego, co polskie. To też warunki pracy są tu bardzo ciężkie, tymbardziej, że ziemiaństwo nasze nic nie zrobiło i nie robi; było może zbyt przestraszone i przygnębione wielkością Moskwy…

Jeśli społeczeństwo polskie pragnie uleczyć miejscową ludność od nienawiści powinno przystąpić do radykalnej pracy: 1. zgnieść prawosławny rozsadnik nienawiści do „zgniłego zachodu", a do polaków przede…

…Musimy więc do tej pracy grupę ludzi uświadomionych i wykształconych oddanych całkowicie trudnej może narazie niewdzięcznej pracy. Pod tym względem bolszewicy mogą nam służyć za przykład: na agitację kosztów nie żałowali.

Ludność miejscowa musi zostać przez nas przekonana o niesłuszności poglądów, wpajanych w nich o wrogich względem nich zamiarach Polski i Polaków i przestać się nas obawiać.

Chłopi prawosławni przez żydów podsycani wierzą, że wkrótce „Polskie pany" stąd wyjdą, a wówczas nastąpi raj chłopsko–prawosławny, a panom–katolikom będzie „kryska".

Żandarmerja i poszczególne oddziały wojskowe swem nietaktownem zachowaniem się (jakby byli w kraju obcym, wrogim) pogłębiają jeszcze niechęć i nienawiść ku nam.

Z tem wszystkiem walczy z dodatnim wynikiem nasza administracja (aparat, który względnie działa z małymi wyjątkami sprawnie). Na czele stoi nieposzlakowanej uczciwości, wielkiego serca i wielkiej wiedzy zasłużony patryjota i pracownik na niwie społeczno–narodowej, Starosta dr. Bolesław Grabowski[41]; brak mu jednak do zakreślonej przez niego pracy odpowiednich ludzi i funduszów.

Pomimo iż na nastrój ludności i jej ku nam przychylność, ujemnie wpływają ciągłe rekwizycje i ogromna iłość zapotrzebowań na furmanki (co nb. nie odbywa się bez nadużyć) oraz to, że szczególnie pod względem ostatnich, cały ciężar spada na wsie, z pominięciem dworów, ludność starsza — gospodarcze, są względnie pokojowo usposobieni. Są już zmęczeni wojną, wzdychają do pracy twórczej, a spokojnej.

* Прозьвішчы Івана **Сусаніна**, Дзьмітрыя **Пажарскага** і Кузьмы **Мініна** выкарыстаныя рэвідэнтам ТСК з мэтай, каб ярчэй адлюстраваць даўнасьць антыпольскіх настрояў праваслаўнага насельніцтва Случчыны.

Młodzież przeważnie ciągnie ku Moskwie, i temu się dziwić nie należy; wychowana była przecież w szkołach rosyjskich, wzdycha więc do Denikina i wielkiej niepodzielnej Rosji. Oprócz tego widać tu agitację S.Rewolucjonistów.

Prawosławna ludność, szczególnie b. urzędnicy nie mogą się pogodzić z obecnymi warunkami to też grawitują nie tylko ku Moskwie, lecz i ku bolszewikom wzdychają „zawsze to swoi“. Obsadzenie posad (sądownictwo, akcyza) rosjanami szkodliwe <...> wych zwierzchników; obchodzenie świąt prawos. według st. st. zabójczo wpływa na stosunki.

Jako przykład nastroju rosjan–obywateli do państwowości polskiej przytoczę jeden choćby fakt: w Słuczczyźnie obywatel–rosjanin p. Ogarkow (Czuczewicze, Lenin, Omchowicze i t. d.) wyraźnie się wypowiedział, że on nie uznaje ani administracji polskiej ani jej państwowości i płacić podatków nie będzie, jednak zagrożony aresztem i wywiezieniem zmiękł.

Szkoły białoruskie i rosyjskie muszą być pod bardzo ścisłą kontrolą; dotychczas ani razu inspektor szkolny nie wizytował ani jednej szkoły. Nie wie nawet, że w powiecie istnieją szkoły przez niego nie zatwierdzone (np. w Pociejkach w gmachu gminy). To też kpią z nas i z naszej administracji. W gimnazjach do 75% żydów i to się nazywa Gimnazjum Rosyjskie. Język polski wykładany jest pro forma i to nie wszędzie. Dodać muszę że w r. 1918 szkółek polskich było 64 w tem ziemskich 20 (reszta Macierzy[42] i Rada Ziemi Mińskiej[43]). Na szkolnictwo na wsi szczególną należy zwrócić uwagę i fundusze znaleźć. Daje się zauważyć ciekawy objaw; w pewnych miejscowych szkółkach białoruskich, gdzie wykładano język rosyjski i niby polski — po paru miesiącach zajęć zażądali jeżeli nie można szkoły rosyjskiej to proszą o polską.

Żydzi z właściwą sobie przebiegłością zatruwają atmosferę, agitują w dalszym ciągu i spekulują markami.

Jeszcze raz podkreślam: musimy zwrócić szczególną uwagę na podrywanie zaufania do wszystkiego co rosyjskie i starać się wzbudzić szacunek do Polski przez szerzenie idei demokratycznych, pogadanki z latarnią i przezroczami. O historji Polski pojęcia nie mają i to uwzględnić należy mocno i serdecznie. Tembardziej, że mają wielki respekt dla kultury polskiej „zawsze to delikatniejsze“ powiadają. Boją się nas tylko i nie ufają.

***Stosunki gospodarcze***

Powiat Słucki od działań wojennych ucierpiał mało. Dwory tylko i to w nieznacznej mierze od bolszewików (mam na myśli żywy inwentarz i plony).

Kultura rolna — pierwszej klasy. Ziemiaństwo wobec systemu, jaki panował za czasów Romanowych, imało się roli. Kultura się podniosła; włościanie naśladowali i powodowali się wskazówkami dworu. Cała np. gm. Miłkowska powstała na gruntach po–Radziwiłowskich toć to Holandja białoruska: szluzy, groble, kanały, zalewanie łąk i t. d. Jednem słowem stosowany jest system najbardziej postępowy.

Włościaństwo na wojnie zrobiło dobry interes: moc mają pieniędzy, nie wiedzą co z nimi robić, z tego apetyt na ziemię. O Grodzieńszczyźnie jed-

nak, gdzie setki tys. dziesięcin ziemi leży obłogiem, słyszeć nie chcą. Oblizują się na sąsiednie dwory polskie. Proletarjusz wiejski w dalszym ciągu cierpi nędzę — może więcej niż przed wojną. Dwory podniszczone, służbę zmniejszono do minimum. Fabryk brak, wyrób leśny nie istnieje, brak więc pracy, stąd lament i przekleństwa i wzdychania do bolszewików. Należy temu zaradzić — dać pracę, ochroni się tem wielu od nędzy a tem samem od chorób zakaźnych i głodowej śmierci. Pośpiech konieczny.

Zbogacony chłop–gospodarz ogląda się za ulepszeniem gospodarstwa i ułatwieniem w pracy. To też kooperatywy trafiają mu do przekonania. Chętnie dał by na to grosze — brak tylko wykwalifikowanych ludzi, którzyby poprowadzili kooperatywy, pozakładali spółki mleczarskie, kółka rolnicze i t.d. Jeszcze raz podkreślamy potrzebę wykwalifikowanych, uczciwych i czystych rąk. Może poznańskie dałoby takich ludzi…

Na własną już rękę gromady zaczęły obsługiwać siebie. Brak soli popchnął ich do tego (gm. Teladowicka, Howieźniańska, Cimkowicka). Gdyby nie trudności, jakie czyni aprowizacja, to inicjatywa byłaby znacznie większa. Oglądałem okólniki, które głosiły o konfiskowaniu soli i innych produktów przywiezionych z Królestwa bez względu na wydane poprzednio pozwolenia. Co tydzień co innego, odwoływanie, znowu pozwolenie, wstrzymywanie i tak w kółko. Zraża to okrutnie. A żydzi dają sobie z tem radę i ich to się nie tyczy.

Chciałbym zwrócić uwagę sfer miarodajnych, ażeby jaknajprędzej stworzyć centralę w Mińsku lub Baranowiczach powstałyby wówczas jak grzyby po deszczu kooperatywy za niemi poszłyby kółka rolnicze, spółki mleczarskie. Tworzenie tych ostatnich bez centrali uważałbym za zmarnowany wysiłek i koszt. Chłop nasz, jak będzie widział zysk, pójdzie i na inne instytucje. Kooperatywy wykształciłyby potrzebną iłość ludzi, dałyby pewne uświadomienie i wiedzę zawodową.

Należy zwrócić uwagę wyższych władz, że pędzenie wódki uprawiane jest na wielką skalę. W biały dzień wożą aparaty i we wsi ustawiają — było to we wsi Czernohubowie. Na ogół zboża mało, jeśli i to przepędzi się wódka — przednówek będzie więcej niż ciężki. To też nie można stosować litości do fabrykantów samogonki.

Pewne grono osób zwróciło słuszną uwagę, ażeby wydane zostało prawo, zakazujące rozdrabianie gospodarstw włościańskich przez dzielenie gruntów pomiędzy członków rodziny. Toby zapobiegło tworzeniu się proletarjatu włościańskiego i zmusiłoby do szukania innego sposobu do życia. Obudziłaby się inicjatywa. Uświadomienia narodowego w całej masie niema: prawosławni podają się za ruskich — katolicy za polaków. Musimy wyzyskać nieuświadomienie chłopa tutejszego pod tym względem. Jest to materjał, który o ile nie pożałujemy kosztów, urobimy na swoją modłę. Tembardziej że chłop wyraźnie podkreśla, że jemu wszystko jedno, kto panuje, byle jemu dobrze było. Jakoby istnieje urząd kontrolera rolnego, mający na celu łagodzenie stosunków. Dotychczas o działalności tych panów nic nie słychać.

Powrotu pańszczyzny chłop panicznie się boi; czyby nie należało wydać jaką odezwę, w mocnych słowach zbijającą kursujące brednie.

***Duchowieństwo***

Naogół duchowieństwo polskie godnie piastuje swoje stanowiska. Wpływ ich kolosalny, ludność katolicka pasterzom swoim oddana jest bez zastrzeżeń. To też istnieje obustronne zaufanie. Proboszcz z Zamościa ks. Dmitrowicz z parafji swojej stworzył małą Polskę. I tam kooperatywy bajecznie funkcjonują. Proboszcz z Kopyla, ks. Znosko kolosalny ma wpływ przez swoje świętobliwe życie i całkowite oddanie się duchowym potrzebom parafji. Natomiast księża: z Cimkowicz — Oskierko i prob. z Bobowni — nie mają wpływu. Zbyt są oddani sprawie zysków z różnych przedsiębiorstw. Naogół parochowie prawosławni usposobieni nie życzliwie — są jednak wyjątki. Pop z Romanowa był na wiecu przeze mnie urządzonym, posługiwał się językiem tylko polskim i przyjmował żywy udział w wybieraniu delegata na Zjazd Ludowy, oraz protokół podpisał.

***Stosunki polityczne***

Wyraźnych koncepcji politycznych nie daje się zauważyć. Robota jednak krecia wyczuwa się na każdym kroku. Wszystka inteligencja rosyjska zszeregowała się pod sztandarem białoruskim. Odważniejsi głoszą, że są S.R. Należy roztoczyć nad tymi panami szczególną opiekę.

Żydzi poza sjonistycznemi stowarzyszeniami nie ujawniają działalności swojej. Kiedym zażądał spisu żydowskich stowarzyszeń wywołałem popłoch i gwałtowne dopytywanie: po co, na co? zaznaczyli jednak, że gromadzą się przy kahale, a tam rozgałęziają.

Pozatem istnieją grupy Demokracji Chrześcijańskiej, prowadzone przez księży. N.D. i Związki Ludowo–Narodowe nie istnieją. Sympatyków moc.

Ziemiaństwo skupiło się przy Związku Ziemian. Zanim nie będzie zaprowadzony porządek i nie przeprowadzi się plebiscyt, należałoby usunąć ze wsi notowanych bolszewików. Ci silnie bruździą. Urągają i kpią z władzy naszej — szerszy zaś ogół tolerancję naszą bierze za słabość.

Rada Polska Ziemi Mińskiej posiada filje swoje: w Słucku powiatową, parafialną i okręgową, Kopylu i Starczycach.

***Stosunek władz administracyjnych do Str. Kres.***

Stosunek więcej niż przychylny, uprzedzająco grzeczny. Doznałem szczerego poparcia i pomocy od Starosty p. Grabowskiego: polecił rejonowym i wójtom udzielanie pomocy i wskazówek o ilu nasi współpracownicy będą potrzebowali. Na odbytem zebraniu rejonowych i wójtów dn. 18/I na którem byłem, p. Grabowski Straż Kresową poparł i nakazał współdział w pracy naszej. Ziemiaństwo zaś obawia się i patrzy nieufnie. Przy pomocy jednak p. Grabowskiego udało się rozwiać nieufność (obawiają się poruszania kwestji rolnej, chcieliby ażeby jak najmniej o tem z chłopem mówić), przekonaliśmy tych panów, że są w błędzie. W rezultacie na posiedzeniu dn. 25/I Koła Rolniczego i Związku Ziemian, na którem byłem, ofiarowano do mego rozporządzenia na opłacenie jeszcze po jednym pracowniku do pomocy naszym rejonowym sumę 6150 rb. Mam nadzieję, że dojdzie do 10000 rb.

***Stosunek Dworu do wioski***

Niestety, nie mogę powiedzieć, żeby był poprawny. Robi wrażenie porachunków. Panuje wzajemna (z małymi wyjątkami) nienawiść. Myśmy się niczego nie nauczyli. Chłopi powiadają, że wyprzedawanie przez panów plonów świadczy, że oni nie czują się tu mocno. Pozatem niepomierny ciężar jaki skutkiem wojny spadł na włościan, źle nastraja tych ostatnich. Stójki[44] zabijają ich. Dwory tych ciężarów nie ponoszą. Np. administracja ks. Radziwiłła, jego leśniczowie, objazdowi, pomimo, że mają konie nie są wyganiani z podwodami i t. d. Pozatem brak opału. Jakiś dziwny upór ze strony właścicieli lasów, a niesprzedawanie drew wywołuje sarkastyczny ból.

Szykanowanie marki polskiej przez rządców i ziemian również źle wpływa na stosunek z włościanami, tembardziej, że sami płacą markami, a żądają rublami. Były wypadki, że wywracano furmanki po całodziennej pracy odgrzebywania z pod śniegu i wyszukiwania gałęzi za to, że nie mogli zapłacić 15 rb. za wóz gałęzi, carskiemi, a marek nie przyjmowano. Ceny na opał są zbyt wygórowane. Proszą o ustalenie taksy. Brak opału spowodowuje, że włościanie zaczęli wyrąbywać brzozy na trakcie np. między Słuckiem a Romanowem całemi wiorstami świecą pustki. Należy natychmiast zakazać pod najbardziej bezwzględną karą ostatniej ozdoby Mińszczyzny. O słupach telegraficznych zamilczę.

Jeszcze parę słów: leśniczowie ks. Radziwiłła rządzą się jakby za najlepszych czasów. Wybryki swoje posuwają może za daleko: wprowadzają nowe wymagania i zarządzenia np. w leśnictwie Chominka. Prawdopodobnie pragnąc sobie ulżyć w pracy skasowali zwyczaj sprzedaży wozowej, każą stawiać sażnie czego wioski nie mogą kupować, gdyż są zbyt biedni, najwyżej mogą się zdobyć na wóz gałęzi. Pomocnik leśniczego, p. Konoplannikow rosjanin używa wypróbowanego sposobu.

Kwestja z sianem zabójczo wpływa na stosunki między wsią i dworem. Podkreślam znęcanie się pana Ogarkowa (z Czuczewicz i Lenina): za wóz siana domaga się 70 rs. lub ½ wozu każe odwieźć do Czuczewicz.

***Szpitalnictwo***

Ospa, tyfus, szkarlatyna, syfilis panują w zastraszający sposób. Pewnym wioskom grozi doszczętne wymarcie (Moroz*, Deniskowicze całe Polesie). Pomocy lekarskiej prawie żadnej. Felczerów objazdowych brak. Lekarze zdzierają skurę. Np. dr. Lopott w Nieświeżu za wyjazd każe minimalnie płacić rb. dwieście carskich papierami, plus coś z produktów.

*Samorząd miejski i gminny:* wybory do Rady Miejskiej mają się odbyć 29/I r. b. Radnych 24 prawdopodobnie wyjdzie po 8 od pol. żyd. i białorus.– moskali. Wybory do Rady Powiatowej będą 1/II. Na czele komitetu stoi p. I.Korkozowicz i J. Bułhak[45]. Powiadają, że wynik będzie pomyślny; żydzi poszli na ustępstwa.[46]

*Biblioteka Publiczna m. st. Warszawy, Dział Starych Druków i Rękopisów. Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich (ZCZW), sygn. 1732, k. 6—13.*

* Магчыма, Морач.

**Люты—сакавік 1920 г.**

RAPORT
Powiatu Słuckiego
za luty 1920 r.
Stosunki administracyjne

Bezpieczeństwo publiczne w ostatnich czasach zaczęło nieco szwankować. Wałęsa się moc podejrzanych osobników, coraz częściej obija się o uszy wieść o napadach i wybrykach poszczególnych jednostek i wszystko to pod firmą żołnierską. Np. w Juszewiczach 24/2[.1920 г.] trzech, jakoby żołnierzy, wypatrzywszy zrana u kogo tłusty wieprzak, wieczorem, styranizowawszy ludność strzałami, zagrabili gospodarzowi 15–tu pudowego wieprza. Policja również robi różne wypady alarmujące sprowadzające panikę np. w Nieświeżu 2–ch podhumorzonych panów żandarmów–sierżantów 17/2 wieczorem o godz. 10–ej wpadli do objazdowego leśnika ks. Radziwiłła w uroczysku Św. Krzyża — Bronisława Iwanowskiego — przetrzęśli cały dom, a dwóch gości jego poturbowali dotkliwie.

***Stosunki sanitarne***

Stosunki sanitarne nabierają cech tragizmu. Całe wioski mają wygląd jednego szpitala. Śmiertelność straszna. Np. w Moroczy były wypadki że dziennie na tyfus umierało po 10 osób. Pomocy lekarskiej żadnej, apteki tylko dla ludzi bardzo zamożnych. Niema chaty, gdzieby śmierć nie gościła.

***Stosunki wojskowe***

Ludność katolicka (z b. małymi wyjątkami) oddana jest bez zastrzeżeń naszym żołnierzykom. Natomiast ludność prawosławna, szczególnie młodzież, jest naszym zdeklarowanym wrogiem. Grawitują ku bolszewikom. Jednym tylko uchem śpią, łowiąc szmery, czy nie idą bolszewicy. Gdyby nasz polski żołnierz nie dopuszczał się wybryków, ludność prawosławna nie miałaby argumentów do zażaleń i utyskiwań na gnębienie ich przez władze i wojsko. Niestety pod tym względem wiele jest do życzenia. Co prawda i zły fasunek wojska wpływa na zbyt częste rekwizycje. Aureola Denikina w ostatnich czasach na nowo powstała. Wiele mówią, że z Denikinem idą i bolszewicy, a za nimi japończycy i chińczycy — za niemieckie i żydowskie pieniądze. To też żydzi mają u nich pomimo rasowej nienawiści wielki mir. Wyrobiło się jakieś dziwne pojęcie, że Polska już nie jest silną, a więc nie należy się jej bać, a służyć tylko żydom, bo mają grosze.

Na tle rekwizycji bydła w przyjmowaniu przez pp. Adolfa Jaźwińskiego pochodzącego z pod Kopyla gm. Pociejkowskiej i Borkowskiego z Andrusowszczyzny również z pod Kopyla urzędników intendantury W. Poznańskich w Słucku dzieją się rzeczy straszne, wprost bandytyzm na zimno. Są to ludzie wyzuci z najelementarniejszych cech uczciwości. Byli już pod sądem w Bobrujsku, jakoś tam się wykręcili. Nanowo wypływają. Rozporządzenia już miljonami. Bydło przyjmują nie na wagę, lecz przeważnie na oko. Włościanie ponoszą kolosalne straty. Za skargi biją, to też milczą i złorzeczą. A dzieje się to wszystko pod opieką p. Wegnerowskiego porucznika Wojsk Poznańskich — któ-

remu przyporuczono przyjmowanie bydła i siana. Również wiele się mówi o nadużyciach, których się dopuszczają żołnierze z sianem. Nprz. do Tanerzyc przyjechało 36 fur z sianem, wyjechało zaś tylko 2 (dwie), drugiego dnia z 70 fur dojechało do Słucka tylko 5 (pięć), resztą wymienili na jaja, wódkę, masło itd.

***Stosunki gospodarcze***

Sprawa rolna. Ziemianie ziemię wyprzedają z pospiechem wiele mówiącym. Głównymi nabywcami różnych pustek po wioskach są żydzi, płacą po 7 tys. za dziesięcinę. Radziwiłł, Zaleski i inni lasy wycinają w pień. Gospodarka, więcej niż rabunkowa.

Kooperatywy rozwijają się niczem grzyby po deszczu. Gdyby nie trudności, jakie czynią instytucje aprowizacyjne i kolejowe, jako też i władze w wydawaniu przepustek, — toby się takowe rozwinęły według naszych chęci. Brakuje tylko wykwalifikowanych buchalterów objazdowych, którzyby mogli sprawdzić i skontrolować na miejscu w gminach. Znane mi są fakty, że pewne kooperatywy na soli zarabiały do 20 tysięcy rubli. Utuczyło to jednak kieszenie dostawców; udziałowcy zaś otrzymali tylko część zysków.

Kwestja młynów. Rozporządzenie pobierania wynagrodzenia w naturze za mliwo, stosując jednakową normę dla wiatraków, młynów wodnych i parowych — uległo mocnej krytyce. Te ostatnie ponoszą kolosalne straty. Za zmielenie I puda żyta branie 3–ch fun. w naturze uważają gospodarze za bardzo ciężką kontrybucję. Proszą pobierać groszem (za zmielenie puda jęczmienia 6 rub.). Pozatem przy ważaniu dopuszczają się różnych nadużyć.

Właściciel młynów wodnych w Małych i Wielkich Ostrowczycach pobiera od puda 2 r., a za pud jęczmienia na kaszę po 10 r. albo wszystką mąkę. To samo i z pszenicą.

***Stosunki oświatowo–kulturalne***

Trzeba odpowiedniejszego inspektora szkolnego — obecny nieczynny, szkół zupełnie nie wizytuje. Nauczycielki nieopłacone od kilku miesięcy. Wyczuwa się pewne lekceważenie.

Wsie. Ładne, Wieliczkowicze, Czerepy i inne proszą o szkoły polskie i o sprzedanie budulcu za obniżoną cenę na budowę gmachu szkolnego.

W Ładnem np. w izbie 7–mio arszynowej uczy się 40 dzieci.

Idea zakładania kół młodzieży trafia wszędzie do przekonania. Po zjeździe Ludowym trzeba będzie zająć się tem. Proszą wszędzie o podręczniki i biblioteczki; czyby się nie dało zorganizować latające kursa języka i historji polskiej i białoruskiej po małych miasteczkach i większych wioskach.

***Stosunki organizacyjne***

Naogół stosunki z władzami i społeczeństwem poprawne — tylko żandarmerja jest nieco nieżyczliwie usposobioną.

***Stosunki polityczne***

Działalność wszystkich organizacji białoruskich i żydowskich jest szkodliwą. Tam się schronili panowie z pod sztandaru S.R. Cała inteligencja białoruska i żydowska instytucje te popiera.

Należałoby zwrócić uwagę naszych władz miarodajnych aby wymagano od naszych urzędników jako to: rewirowych, wójtów, sędziów, by ci więcej posługiwali się językiem polskim, niż to czynią dotychczas. Wygląda, jakby czynili łaskę, odzywając się po polsku. Np. Rewir IV–ty mówi tylko po rosyjsku nawet pomiędzy sobą.

W Romanowie mieszka p. Ułasiewicz, b. komisarz, Abramczyk, Naliwańczyk i jakaś kobieta (niedawno była aresztowana) — są to zdeklarowani nasi wrogowie, agitują.

Również i sołtys we wsi Jugierawszczyzna pod Hrozowem — bolszewik komunista. Należy przynajmniej usunąć go.

Ośmielam się jeszcze raz mocno podkreślić wywrotową działalność białoruskich działaczy. Chyba wystarczy dowodów jakiemi rozporządzamy choćby ze zjazdu ludowego mińskiego*. Panów tych stanowczo usunąć należy ze stanowisk, o ile ich zajmują. Np. ksiądz Godlewski[47], prefekt gimnazjum polskiego w Nieświeżu. Jest to zdeklarowany wróg polskości.

Znamienną była mowa ks. Godlewskiego do generała Mokrzeckiego[48], wkraczającego na czele wojsk polskich do Nieświeża, w której się ośmielił ujawnić program białorusinów, ona wszystkich oburzyła, a generał Mokrzecki nie mógł zapanować i zwrócił się do żołnierzy mówiąc: „Czy słyszycie“. Było to wymowne. I taki pan Godlewski tolerowany jest i piastuje w dalszym ciągu odpowiedzialne stanowisko wychowawcy młodzieży.[49]

*Biblioteka Publiczna m. st. Warszawy, Dział Starych Druków i Rękopisów. Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich (ZCZW), sygn. 1732, k. 1—5.*

## 11. З рэпартажу Ўладзіслава Галубка[50] пра ягоную паездку ў Слуцак

**10 сакавіка 1920 г.**

**З паездкі ў Слуцак**

Як і ў даўныя часы, Слуцак лічыўся адным з найвыбітнейшых гарадоў Беларусі, так і цяпер у Слуцку грамадзянская справа вельмі бойка пашыраецца, і нацыянальная сьвядомасьць паміж сялян і мяшчан далёка вышэй стаіць, чымсь у Менску і па–за межамі яго. <…>

Было 11 ч. ночы, калі я быў ля дзьвярэй Нацыянальнага К–ту.

Беларускі сьцяг і Пагоня сьведчылі мне, што тут сяліба Слуцкіх Беларусаў.

Увайшоўшы ў памяшканьне К–ту, у чытальні я ўбачыў вялікі партрэт Я.Купалы, нарысованы вядомым слуцкім мастаком Праатцавым, і шмат плякатаў нацыянальнага характару. Усё гэта сьведчыло, што тут працуюць беларусы.

* Маецца на ўвазе сьнежаньская сэсія 1919 г. Рады БНР у Менску.

Назаўтра пазнаёміўся з працоўнікамі К–ту, а праз некалькі дзён убачыў і жыцьцё іх. Аказалася — усе яны безработныя і жывуць у вельмі цяжкім становішчы. Працаўнікоў досыць вялікі лік, і, на радасьць, між імі ёсьць два юрысты і археолёг.

Штадня раніцаю ўсе яны зьяўляюцца ў К–т і працуюць, а праца разнахарактарная: выдача кніжак і газэт у чытальню, выдача справак аб ваеннапалонных (задарма), дапамога сялянам у справах юрыдычных і ў справах вызваленьня беларусаў з вастрогу, статыстыка безработных, грашовая дапамога безработным, справа тэатральная, хоральная і інш. Поруч з мужчынскім пэрсаналам удзел у працы прымаюць кабеты і паненкі, каторыя гэтаксама бязупынна працуюць у К–це.

Пры мне быў скарбоначны збор для безработных.

Случчане вельмі прыхільна аднесьліся і такім чынам сабралі нешта больш за 2000 р.

Раздаваць меліся каталіком, праваслаўным беларусам і жыдом — усім тым, хто зарэгістраваўся ў К–це.

Праца Слуцкіх беларусаў вельмі цяжкая, праходзіць пры холадзе і голадзе; ні дроў на апал К–ту, ні грошаў ніадкуль ня маюць. Усе тыя грошы, каторые зьмятаюць з усіх куткоў, выдаюць за арэнду памяшканьня К–ту (300 руб. у месяц) і на ўтрыманьне некалькіх вучняў–гімназістаў (беларусаў), каторыя, будучы сіратамі, ня маюць мажлівасьці плаціць за права навукі.

Польская ўлада добра наглядае за беларусамі. Ёсьць і прыхільнікі беларусаў, каторыя заўжды стараюцца не перасоліваць; такім зьяўляецца павятовы стараста і інш. Слуцкіе беларусы вельмі шануюць іх і рады бываць у іх, верачы ў іх шчырасьць.

У вялікай пашане ў Случчан свой тэатр.

У дзень спэктаклю (29 лютага «Праменьчык шчасьця»*) білеты былі раскуплены ўсе. Збор быў 2000—2500 р. Тэатр сам па сабе невялікі — дэкарацыі бедные.

Пьеса ставілася пасьля 3 рэпэтыцый і, праўду кажучы, прайшла нядрэнна. Пэрсонал тэатральны падбіраецца, але брак жаночых сіл. Між іншым, пры трупе ёсьць хор, арганізатарам каторага зьяўляецца п. Русак. Хор шмат завучыў песень і часта выступае на сцэне.

Вялікая заслуга п. Русака ў тым, што ён, жывучы пры Слуцку ў вёсцы, запісвае там на ноты песьні і штадня прыходзіць у горад кіраваць хорам.

Запісаных на ноты песен вялікі лік, і гэта для тэатру і музыкі беларускай вялікі скарб. Вельмі пажаданым было б, каб Слуцкія дзеячы парупіліся аб музэі і як найхутчэй пачалі б збор этнаграфічных, археолёгічных і розных гістарычных рэчаў Беларускай зямлі, а Слуцкая зямля гэтым багата.

Гэту справу лёгка можна распачаць, прымаючы пад увагу, што пры Камітэце ёсьць вельмі пажаданы шчыры дзеяч К–ту юрыст–археолёг

* Спэктакль паводле п’есы Ўл. Галубка.

п. Фёдараў[51], каторы ў імя дарагой бацькаўшчыны не адмовіцца папрацаваць у гэтым кірунку.

Са сьветлымі і дарагімі ўспамінамі я пакінуў Слуцак і лепшых сыноў Бацькаўшчыны.

Галубок

*Беларусь. 1920. 10 сакавіка.*

## 12. Зварот беларускіх нацыянальных дзеячоў Случчыны да дэмакратычнае грамадзкасьці ўсяго сьвету

**21 сакавіка 1920 г.**

Мы, ніжэйпадпісаныя ўчасьнікі зьезду Случчыны, скліканага Стражай Крэсовай 21 марца 1920 году, заяўляем, што:

1) На зьездзе ня было прадстаўнікоў ад многіх мясцовасьцяў Слуцкага пав., прыкладам: в. Лучнікі — болей за 1000 душ; Бранавічы, Варкавічы — больш за 500 душ, Ячава — 500 душ; Жываглодавічы — каля 500 душ; Крывічы, Серагі і многа іншых лічбаю болей за 36 ня мелі сваіх прадстаўнікоў на зьездзе.

2) Ад многіх іншых мясцовасьцяў Слуцкага павету прадстаўніцтва было няправільнае: а) выбраных прадстаўнікоў з многіх мясцовасьцяў не пазвалі на зьезд з прычын палітычнага характару; б) апрач прадстаўнікоў ад вёсак былі вызваны на зьезд прадстаўнікі ад каталіцкіх касьцёлаў, назначаных ксяндзамі, — прыкладам: ад Целядавіцкае парафіі было гэткіх «прадстаўнікоў» 6 чалавек, тады як ад праваслаўных цэркваў зусім прадстаўнікоў ня было; в) выбары на зьезд праводзіліся адкрытым галасаваньнем, на каторых быў націск з боку польскае ўлады; г) лічба прадстаўнікоў была не прапарцыянальна колькасьці насяленьня: малыя шляхоцкія засьценкі і нават асобныя маёнткі давалі гэтулькі ж прадстаўнікоў, колькі цэлыя вялікія вясковыя обшчаствы — прыкладам: Баркаўцы Пукаўскай воласьці — 12 двароў мелі 1 прадстаўніка; Хвойнікі і Сычы Пукаўскай воласьці — разам 17 двароў — 1 прадстаўніка; Буслаўка Слуцкай воласьці — 7 двароў — 1 прадстаўнік; Бранчыцы Цараўскай воласьці — болей за 150 двароў — 1 прадстаўнік, Чыжэвічы — болей за 200 двароў — 1 прадстаўнік і інш.; д) пры выбарах, нягледзячы на пытаньні насяленьня, ня было паведамлена аб мэце зьезду.

3) Зьезд быў праведзен пад націскам польскай улады, нават была пушчана погаласка аб арышце непакорных. Аратарам, што прамаўлялі за Незалежную Беларусь, старшыня зьезду (ён быў назначаны Стражай Крэсовай, а не выбраны зьездам) не даваў гаварыць. Што наагул ведамым беларускім працаўнікам старшыня ня даваў слова, тым ча-

сам, як аратарам Стражы Крэсовай давалася гаварыць не ў чаргу; што, нягледзячы на катэгарычныя дамаганьні зьезду запрасіць на зьезд прадстаўніка Беларускага Нацыянальнага Камітэту Случчыны, такі прадстаўнік не быў дапушчаны нават з дарадчым голасам, у той час, як прадстаўнікі польскіх установ, у тэй лічбе і вайсковых, былі дапушчаны на зьезд і выступалі як аратары. Нягледзячы на дамаганьні зьезду, былі забаронены выбары мандатнай камісіі, каторая праверыла б усіх мандаты. Нягледзячы на дамаганьні ўчасьнікаў зьезду, не была выстаўлена павестка дня. Была неўспадзеўкі прачытана рэзалюцыя аб прылучэньні да Польшчы, абсуджаць якую было забаронена. Выходзіць з залі зьезду перад галасаваньнем рэзалюцыі не пушчалі. Перад галасаваньнем рэзалюцыі было ўпушчана ў залю некалькі сот чалавек, каторыя ня мелі ніякіх мандатаў. Гэткім парадкам учасьнікаў зьезду было 240 чалавек, а рэзалюцыю галасавалі каля 500 чалавек; проці рэзалюцыі бадай была большасьць, але галасы не падлічывалі, і старшыня зьезду заявіў, што рэзалюцыя прынята аднагалосна.

Дзеля ўсяго вышэй сказанага мы лічым гэты зьезд неправамоцным і зварочваемся да дэмакратыі ўсяго сьвету, пратэстуючы проці гвалту і зьдзеку над воляю Беларускага Народу.

Зенюк Янка[52] , Колпак Алесь[53], Басалыга Іван, Кецко[54] (усяго 10 подпісаў).

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 40, арк. 35—36. Копія, маш.*
*Апубл.: Спадчына. 1994. №4. С. 75—76.*

## 13—14. Выпісы з асобных пратаколаў Белнацкаму Случчыны за травень 1920 г.

**4 траўня 1920 г.**

Часовы
Беларускі Нацыянальны
Камітэт Случчыны
Траўня 5 дня 1920 г.*
№ 80
м. Слуцак

Па пытаньню аб міравых перагаворах Польшчы з Маскоўшчынай[55] і пагляду Камітэта на Беларусь ухвалілі:

Прызнаючы безпаваротна, што Беларусь павінна быць Вольнай і Незалежнай Народнай Рэспублікай у яе этнаграфічных межах, Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны выносіць катэгарычную пастанову, каб у місіі, якая будзе вясьці міравыя перагаворы паміж

* Гэтая ўхвала Слуцкага Белнацкаму была прынятая 4 траўня, а выпіс з пратаколу паседжаньня камітэту зроблены 5 траўня 1920 г.

Польшчай і Маскоўшчынай ці кім іньшым, дзе будуць закранацца інтарэсы Беларусі, павінна быць прэдстаўніцтва ад беларусаў з правам пастаноўчага голасу.

Старшыня П. Жаўрыд
Пісар Ян. Ракуцька

*НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 2, арк. 103. Аўтэнт., рук. Маецца штамп і пячатка Белнацкаму Случчыны. Апубл.: Спадчына. 1994. №6. С. 54.*

ЧАСОВЫ
Беларускі Нацыянальны
КАМІТЭТ
Случчыны
Траўня 5 дня 1920 г.
№ 80
м. Слуцак

Выпіс з пратакола Беларускага Нацыянальнага Камітэту Случчыны ад 4 траўня 1920 году.

По пытаньню аб міравых перагаворах Польшчы з Маскоўшчынай і погляду камітэта на Беларусь ухвалілі:

Прызнаючы безпаваротна, што Беларусь павінна быць Вольнай і Незалежнай Народнай Рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны выносіць катэгарычную пастанову, каб у міру, якоя будзе весьці міравыя перагаворы паміж Польшчай і Маскоўшчынай ці кім іньшым, дзе будуць закранацца інтарэсы Беларусі, павінна быць прэдстаўніцтва ад беларусаў з правам пастаноўчага голасу



Старшыня Жаўрыд

Пісар Ян. Ракуцька

**Выпіс з пратаколу паседжаньня Белнацкаму Случчыны ад 4 траўня 1920 г. адносна бальшавіцка–польскіх мірных перамоваў.**

**11 траўня 1920 г.**

Часовы
Беларускі Нацыянальны
Камітэт Случчыны
мая 17 дня 1920 г.*
№ 100
м. Слуцак

Разглядалася пытаньне аб заяве прэм'ер–міністра Польскае Дзяржавы Скульскага[56] й ухвалена:

Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны выказвае свой катэгарычны пратэст з прычыны заявы міністра–прэзыдэнта Польскае Дзяржавы Л.Скульскага й Пасла Польскага Сойму Дубановіча[57], што быццам кіраўнічыя кругі беларускага грамадзянства, дастаючы для Беларусі самаўпраўленьне, — выракаюцца за гэта Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Беларускі народ Случчыны й усе прадстаўляючыя яго арганізацыі цьвёрда стаяць за незалежнасьць Беларусі згодне з актам Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ад 25 сакавіка 1918 году.

Старшыня П. Жаўрыд
Пісар Ян. Ракуцька

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 40, арк. 9. Аўтэнт., рук. Маецца штамп і пячатка Белнацкаму Случчыны. Апубл.: Спадчына. 2000. №3. С. 18—19.*

## 15. Зь ліста кіраўніка Слуцкіх настаўніцкіх курсаў беларусазнаўства[59] Янкі Станкевіча[58] да кіраўніцтва Цэнтральнае Беларускае школьнае рады[60]

**6 траўня 1920 г.**

Канфідэнцыяльна
У Цэнтральную Беларускую Школьную Раду

Ад кіраўніка курсаў беларусазнаўства ў м. Слуцка Янкі Станкевіча.

На курсах з 30 сакавіка занятак адбываецца нармальна. У адносінах да акупацыйнае ўлады слухачы дзяржацца добра, аніякіх навет самых малых парушэньняў загадаў ці недобраспадзяваньня («неблагонадежности») ня было, і я пэўны, што і ня будзе. Што вайсковая ўлада, адкладаючы курсы, не баялася эксцэсаў з боку слухачоў, а про-

* Гэтая ўхвала была прынятая 11 траўня, а выпіс з пратаколу паседжаньня камітэту зроблены 17 траўня 1920 г.

ста хацела пашкодзіць беларусам, відаць хоць бы з таго, што ў Слуцку і павеце хадзіць можна ўжо ўвечары не да 9–ае гадзіны, як узімку, і не да 8–ае, як некалькі дзён назад, а да гадзіны 10–ае.

На 1–га ліпня сёлета назначаны ў Слуцку польскіе неабавязкавыя курсы для вучыцялёў усіх школ — маскоўскіх, беларускіх і польскіх. Курсы неабавязкавыя, аднак польскім інспектарам і наогул польскаю ўладаю каля іх вытварана такая отмосфэра, што яны вучыцялём здаваліся болей чымся абавязкавымі[61]. Мэта курсаў з быўшых цяпер русіфікатараў — прыгатаваць разам і полёнізатараў, хоць бы навет у маскоўскіх школах. Вучыцельства, навет лепшае, дрыжачы за кусок хлеба, думае ўсё ісьці на гэтыя курсы. Але быць на дваіх курсах цяжка і амаль немагчыма. Дзеля гэтага на просьбу вучыцялёў уведзена на нашых курсах і польская мова, каторай вучу я.

Дзеля гэтага пасьведчаньні з надрукаваным тэкстам не падойдуць, і я прашу прыслаць пасьведчаньня з тэкстам недрукаваным[62].

Склад слухачоў наагул робіць добрае ўражаньне. Вучыцялёў ёсьць болей за 200, рэшта студэнты, гімназісты і інш. Усіх каля 350. Каб прымаць, дык набралася б чалавек 500, а кажуць, што і болей. Стыхійна йдуць на беларускія курсы. Дзеля гэтага стараемся зрабіць другую зьмену.

Падмога па 10 мр.* у дзень выдаецца ўсім вучыцялём, што запісаліся да 30–га красавіка ўключна. Апрача гэтага і інтэрнат. І страўні ня можна было зрабіць, бо апровізацыя выдае толькі жыта або аржаную муку і соль (чорную), але, дзякуючы гэнаму жыту і солі, ё магчымасьць выдаваць па 10 мр.

Але лектары, лектары!!! Я ніколі не спадзяваўся, каб маглі інтэлігентныя людзі так нягодна чытаць, як чытаюць Жаўрыд гісторыю бел. літаратуры і Петрашкевіч геаграфію Беларусі. Жаўрыд чытае так нягодна, што яго лекцыя дае адзін пэўны мінус. Што да Петрашкевіча, дык тут мінуса пакуль што няма, але і аб карысьці можна сумлявацца. Петрашкевіч заўсёды пачынае лекцыю ад слоў: «Паважаныя слухачы!», і, прачытаўшы прафэсарскім тонам мінут 15—25 (максімум!), канчае лекцыю. Мае ўвагі не памагаюць. Адказ у яго адзін: «На такі вялікі час, як 50 мінут, не хапае матэрыялу!» Трэба ратаваць палажэньне. На курсы сабраўся ўвесь цьвет вялікай слуцкай інтэлігенцыі, ад гімназіста і студэнта да б[ылога гарадскога] галавы з яго жонкаю. Калі будзе так, як дагэтуль, што фактычна адзін я чытаю лекцыі, часамі па тры гадзіны, дык ува ўсіх зложыцца перакананьне аб беднасьці беларускай інтэлігенцыі, каторая не змагла паслаць на курсы ў Слуцак навет 2—3 запраўдных лектароў. Пастаўлена на карту справа беларускага руху ў Случчыне.

Усё зробце, каб як–та прыехалі лектар гісторыі Ігнатоўскі[63], лектар пеяньня Чарнякоўскі[64] альбо Тэраўскі[65], Калі прыедзе Тэраўскі, то шкадаваць ня будзе, бо з слухачоў і слухачак можна як–та зарганізаваць добры хор, каторы меў бы вялікія зборы ў Слуцку.

* Марак польскіх.

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Беларуская Школьная Рада Слуцкая гэтым сьведчыць, што Аляксандар Юркаў Аніхоўскі настаўнік Загальнянскай поч. школы, Грыцэвіцкае вол. слухаў лекцыі на чатырох-тыднёвых курсах беларускай мовы і беларусазнаўства, арганізаваных Школьнай Радай і адбыўшыхся у м. Слуцку 25-га красавіка па 1-га чэрвеня 1920 году.

№ 64

Пры часовай паверцы выявілася, што Аляксандар Аніхоўскі усвоіў сабе чытанае:

У Беларускай мове: чытаньне, пісаньне — вельмі добра
У Польскай мове
У Гісторыі Беларусі
У Географіі Беларусі

а так сама слухаў лекцыі па Гісторыі Беларускай Літэратуры, па ко-опэрацыі, па беларускім сьпевам, этнографіі і тэатральнаму мастацтву, што і сьведчыцца адпаведнымі подпісамі і печаткай Школьнай Рады.

Старшыня Школьнай Рады Ст. Петрашкевіч

Лектары: Астапкевіч, У. Ігнатоўскі

Пісар Акулiчак

**Пасьведчаньне, выдадзенае Алесю Аніхоўскаму пра заканчэньне настаўніцкіх курсаў беларусазнаўства ў Слуцку ў 1920 г. З–за адсутнасьці арыгінальных блянкаў слуцкім выпускнікам выдаваліся пасьведчаньні на блянках Менскіх беларускіх настаўніцкіх курсаў, створаных паводле эскізу Язэпа Драздовіча.**

Увага. Яшчэ да майго прыезду Школьная Рада Случчыны пастанавіла выплачваць лектаром па 40 мр. за гадзіну. Прыязджаючыя лектары будуць мець па 2 гадз. ў дзень (знач. 80 мр.), за каторыя ў Слуцку будуць магчы нішто пражыць. Калі ж будзе і другая зьмена, хоць бы на ёй аплачваліся лектары па 20 мр. за гадз., то лектаром добра аплаціцца іхняя паездка ў Слуцак.

Калі няма лепшага лектара геаграфіі, дык неяк прагаруем з Петрашкевічам, але, канечна, прышлеце як пазыку з гэтым вучыцелем Мамчыцам[66] адну вялікую карту Беларусі і на продаж, колькі можаце, і малых. Тут за вялікую адну карту захацелі 1000 мр. Зрабіце, што можаце, каб праслаць на курсы другога лектара літэратуры. Калі ж гэта зрабіць немагчыма, дык прышліце на мой адказ два (а калі ё трэці, дык тры) рукапісныя сшыткі гісторыі беларускае літаратуры М. Гарэцкага[67]. Гэта можа паправіць хоць трохі лекцыі Жаўрыда.

Канечна, прышлеце з гэтым пасланцам, вуч. Мамчыцам усю, канчальна адноўленую тэрміналёгію матэматыкі, бо бяз гэтага ня можна навучыць мовы і выпусьціць з курсаў вучыцялёў. Выязджаючы ў Слуцак, я пакінуў у кнігарні Школьнае Рады мех з кнігамі, патрэбнымі для про-

дажы ў Слуцку (а тут кнігі прадаюцца вельмі добра!). Апрача таго, у складзе страўні* ў падвале ляжаць упакаваныя кнігі, каторыя ў свой час маніўся забраць, ды не забраў у Слуцак Бараноўскі. Усе гэтыя кнігі павінен цяпер забраць гэты пасланец і прывезьці ў Слуцак для продажы ў каапературўнай кнігарні «Працэраб», ня даўна тут закладзенае. <..>

6.5.1920. Слуцак. Кіраўнік курсаў беларусазнаўства
Янка Станкевіч

*НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 6, арк. 249—249адв., 204—206адв.*
*Аўтэнт., рук. Апубл. (са скаротамі): Спадчына. 1994. №6. С. 74—75.*

## 16. Зварот беларускіх настаўнікаў Случчыны ў Цэнтральную Беларускую школьную раду

**12 траўня 1920 г.**

Беларуская Школьная
Рада Случчыны

У Цэнтральную Беларускую
Школьную Раду

Заява.

Перасылаючы пры гэтым прозьбу вучыцялёў Слуцкага павету, Беларуская Школьная Рада Случчыны мусіць зрабіць усё магчымае, каб просьба вучыцялёў Случчыны была выслухана, бо толькі беларусізацыя школы ў Беларусі і безадкладнае паляпшэньне яе матэрыяльнага палажэньня можа вывесьці народную асьвету з таго безнадзейнага палажэньня, у якім яна цяпер ё.

За Старшыню Я. Станкевіч
Пісар А. Калпак

**У Цэнтральную Беларускую Школьную Раду**

Прадстаўнікоў–настаўнікаў
настаўніцтва Слуцкага павету
Юзіка Сасноўскага, Петра Зенюка
і Апанаса Анташэўскага[68]

Прозьба.

Матэрыяльнае палажэньне вучыцялёў Слуцкага павету ў ва ўсе часы было вельмі крытычным, але такога крытычнага і проста катастрафічнага палажэньня, у якім апынулася народнае вучыцяльства

* Маецца на ўвазе страўня пры Часовым Беларускім нацыянальным камітэце ў Менску, што месьцілася ў Юбілейным доме.

цяпер, яшчэ ніколі ня было. Вучыцялі за цяперашняй дарагоўлі і нізкім курсе маркі дастаюць толькі 300 марак у месяц і ссыпку, каторая часта або зусім не даецца або даецца вельмі мала — неакуратна. Ніводзін работнік–стораж не аплачуецца гэтак танна, як аплачуецца беларускі вучыцель. З прычыны гэткае малое аплаты працы вучыцялёў, вучыцяльство цярпіць вельмі вялікую галіту. Няма таго вучыцеля, каторы ня меў бы некалькі тысяч марак доўгу і не прадаваў бы самага патрэбнага. Некаторыя даведзеныя цяжкім матэрыяльным палажэньнем да безнадзеяньня, накладаюць на сябе рукі. Няма дзіва, што пры гэткім цяжкім палажэньні іх вучыцялёў церпяць школы і ўся народная асьвета.

Наказваючы аб гэтым ЦБШР, мы, прадстаўнікі вучыцялёў Слуцкага павету, якія з'ехаліся на курсы беларусазнаўства, каля 250 ч[алавек], просім Раду зрабіць усе заходы перад адпаведнаю ўладаю аб павялічэньні пэнсіі с першага студня 1921 г. учыцялём тых школ, у каторых хоць дагэтуль і адбываецца навука ў маскоўскай мове, але ў каторых з новага 1920/21 г. будзе выкладацца навука ў роднай беларускай мове.

Прадстаўнікі: Ю. Сасноўскі
П. Зенюк
А. Анташэўскі

7.V.1920 г.

*НАРБ, ф. 604, воп. 1, спр. 6, арк.186, 191—192. Аўтэнт., рук.*
*На суправаджальнай запісцы маецца штамп*
*Беларускай Школьнай Рады Случчыны.*

## 17—19. Дачыненьні Белнацкаму Случчыны з ЧБНК у Менску

**18 траўня 1920 г.**

Старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту Случчыны

Беларускі Нацыянальны Камітэт [Меншчыны] прапануе Вам чым найхутчэй выслаць у Менск здольных і сьвядомых асоб, якіх можна было б назначыць на інструктарскіе пасады і наогул высылаць сюды ўсю безпрацоўную сьвядомую беларускую інтэлігенцыю, клапоты аб якой у справе падшуканьня працы Камітэт возьме на сябе, выслаць справаздачу на тые грошы, якія Камітэтам былі выданы Вашаму Камітэту, выслаць прэсавыя грошы рэдакцыі газэты «Беларусь» за ўсе высылаемыя Вам газэты. <...>

Старшыня камітэту [К.Цярэшчанка[69]]
Пісар [Б.Бакіноўскі[70]]

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 40, арк. 1—1адв. Копія, рук.*
*Апубл.: Спадчына. 2000. №3. С. 19—20.*

**25 траўня 1920 г.**

Часовы
Беларускі Нацыянальны
Камітэт Случчыны
Мая 25 дня 1920 г.
№ 129
м. Слуцак

У Беларускі Нацыянальны Камітэт Меншчыны

<…> Просім інструктарамі ў Слуцкі павет назначыць: Калпака Алеся, Бараноўскага Андрэя, Калпака Янку[71], Аніхоўскага Алеся[72], Зенюка Пятра і Мікалая Шылу[73] і выслаць як найхутчэй ім аб гэтым пасьведчаньні. Заявы з фатаграфічнымі картачкамі высланы да Менскага Камітэту, акром заяў Бараноўскага і Шылы, 6 траўня 1920 году, за №81.

Старшыня*
Пісар*

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 40, арк. 6—6адв. Копія, рук.*
*Апубл.: Спадчына. 2000. № 3. С.20.*

**3 чэрвеня 1920 г.**

Часовы
Беларускі Нацыянальны
Камітэт Случчыны
Чэрвеня 3 дня 1920 г.
№148
м. Слуцак

*Канфэдынцыяльна*
У Беларускі Нацыянальны
Камітэт Меншчыны

Згодна аднашэньню ад 18/V–1920 году за № 1081 паведамляем, што шчырых беларусаў на адпаведныя пасады вельмі мала. Прыдзецца карыстацца старымі спецыялістамі, прыхільнымі да беларускага руху, пры гэтым даваць сваіх сьвядомых працаўнікоў як палітычны кантроль.

Сьпіс грамадзян, якія зложаць пэўнае ядро ў нашым Урадзе, далучаю.

Чым хутчэй асьвядомце нас з цяперашнім палітычным становішчам. Дайце тэрміналёгію.

Старшыня П.Жаўрыд
Пісар Ян. Ракуцька

* Подпісы адсутнічаюць.

Рэзалюцыя Старшыні ЧБНК Меншчыны:
*«Да спраў канфідэнцыяльных. 7.VI.20. К.Цярэшчанка»*

**Сьпіс грамадзян на пасады**

Казначэйство. Смольскі[74] (стары казначэй, сумлённы і прыхільны). Бараноўскі (стары бухгалтар казначэйскі — сьвядомы беларус).

Пошта. Фёдараў (стары начальнік пошты). Пры ём кантроль — Дубіна[75], заядлы беларус.

Земство (да новых выбараў). Чыж, Пракулевіч (стары сумлённы земскі працаўнік), Зенюк — вучыцель, сьвядомы беларус.

Прадавольствіе. Бараноўскі Андрэй, Трухан (спэцыяліст па прадавольствію), прыхільнік.

Школьны аддзел. Петрашкевіч, Калпак — вучыцель, сьвядомы беларус, Лешчынскі — спэцыяліст па школьнай справе.

Павятовая міліцыя. Будавей (прыхільнік), Кецка (беларус).

Гарадзкая міліцыя. Асьвецімскі, Санковіч (стары міліцэйскі працаўнік).

Санітарны. Паўлюкевіч[76] — сьвядомы беларус.

Ветэрынарны. Кобельскі.

Акром гэтага, 15 юрыстаў. Паміж іх сьвядомыя беларусы: Пракулевіч[77] і Фёдараў.

Тэхнічных працаўнікоў хопіць у патрэбным ліку.

Старшыня П.Жаўрыд
Пісар Ян. Ракуцька

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 40, арк. 33. Аўтэнт., рук.*
*Апубл.: Спадчына. 2000. №3. С. 21—22.*

## 20—22. Рэпартажы са Случчыны карэспандэнтаў менскае газэты «Беларусь»

**Чэрвень 1920 г.**

**З артыкула «Курсы беларусазнаўства ў Слуцку»**

26–га красавіка сёлетняга году ў Слуцку для вучыцялёў адчыніліся курсы беларусазнаўства. Вучыцялёў і вучыцялек зьехалася больш за 400 чалавек, з каторых акуратна слухала лекцыі чалавек 350. Апрача вучыцялёў, быў невялічкі процэнт на курсах і так званых вольных слухачоў — вучняў апошняе клясы сярэдніх школ м. Слуцку (гімназій, рэальнае і камэрцыйнае школы), каторые, згодна з існуючым цяпер правам, могуць быць сапраўднымі вучыцялямі, праслужыўшы, як памочнікі, 3 месяцы пры дазнаным вучыцялю. Амаль ня ўсе слухачы

былі з Слуцкага пав. і толькі пакрысе было з паветаў Мазырскага, Бабруйскага і Баранавіцкага. Склад слухачоў наагул быў добры як з боку пэдагагічнага, так і з беларускага нацыянальнага боку. Відаць было, што людзі запраўды сабраліся, каб пазнаёміцца з сваім родным і скарыстаць з гэтага ў працы на ніве роднае Бацькаўшчыны. На курсах вуч[ылі] беларускае мовы, гісторыі, беларускае літаратуры, польскае мовы, гісторыі Беларусі, геаграфіі Беларусі, пяяньне, тэатр. З лектараў былі Я.Станкевіч, проф. Б.Тарашкевіч[78], Фр. Аляхновіч[79], проф. музыкі, Іваноўскі і інш. Кіраўніком курсаў быў Я.Станкевіч. Заняткі на курсах адбываліся вельмі акуратна. <...> Для слухачоў быў зроблены інтэрнат у манастырскай будоўлі.

У канцы курсаў быў зроблены экзамен беларускае і польскае мовы. Тыя, што выдзержалі, дасталі пасьведчаньне. Курсы скончыліся 29–га мая.

Перад канчаткам ацец протаерэй Шамяціла адслужыў малебен, пры гэтым тут жа склалі вельмі добры хор. Пасьля малебну протаерэй Шамяціла меў па–беларуску да слухачоў і пропаведзь, у каторай сказаў, што Беларусь радзілася ў буру і навальніцу, што яна шмат перацерпела, але выжыла і адраджаецца. Што асабліва цяпер, калі ўсе народы адраджаюцца, павінна і Беларусь адрадзіцца да свайго дзяржаўнага жыцьця. Кожны народ дзяржыцца трыма рэчамі — зямлёю, на каторай жыве, моваю, каторою гамоніць, і вераю, што дастаў ён ад продкаў сваіх. Гісторыя Беларускага Народу прайшла ў барацьбе за тры гэтыя рэчы, і Беларускі Народ дагэтуль захаваў усе гэтыя сьвятыя для яго рэчы. Мы ж павінны іх захаваць і перадаць непашкоджанымі новым пакаленьням. Ня ўсе маюць шчасьце працаваць паміж народу. Вучыцялём выпала гэтае шчасьце. Адны з іх увойдуць у Сьвятое, другія — у Сьвятое Сьвятых свайго народу, але няхай усе помняць, што народ толькі тагды іх прыме, калі яны будуць шчырымі сынамі свайго Беларускага Народу.

Пасьля прамоў курсы скончыліся беларускім гімнам «Не пагаснуць зоркі ў небе, пакуль неба будзе, не загіне край наш родны, пакуль будуць людзі!»

На курсах ня была забыта і організацыйная праца. Важнейшаю работаю ў гэтым кірунку трэба лічыць арганізаваньне «Беларускага Вучыцельскага коопэратыву Случчыны». Уступная плата 10 мар., паст. — 100 мар. У коопэратыве будуць гмінныя (харчавыя) і іншыя тавары. Адно з галоўных месц зоймуць у іх беларускія кнігі і пісьменныя матэр’ялы і прылады для школ.

Беларускі народны тэатр, каторы ад якогась часу так борзда пашыраецца на Беларусі, адбіўся і на курсах у Слуцку. За кароткі час слухачы згулялі ажно тры спэктаклі. Першы раз гулялі «Ня розумам сьцяміў, а сэрцам» — Вясёлага[80]; другі раз «На дарозе жыцьця» і «Антось Лата» — Тараса Гушчы[81] і трэці раз «Бутрым Няміра» і «Янка і

Маланка» Фр.Аляхновіча. Апошні спэктакль адбыўся пад рэжысурай самога аўтара, каторы прыязджаў з Менску ў Слуцак прачытаць лекцыі аб тэатры.

З працаўнікоў у курсавой адміністрацыі трэба адзначыць сябру Школьнае Рады Случчыны А.Бараноўскага — адзінага мясцовага супрацоўніка ў адміністрацыі. Ён быў загадчыкам гаспадаркі курсаў і шмат палажыў шчырай ідэйнай працы. За гэта яму належыцца шчыры дзякуй.

В.Я.*

*Беларусь. 1920. 10 чэрвеня.*

**З Случчыны**

На апошнім пасяджэньні сяброў Беларускага Нацыянальнага Камітэту Случчыны Камітэт быў падзелен на аддзелы — Адміністрацыйна–арганізацыйны з Юрыстконсульскім Бюро, Школьны, Эканаміцкі і Аддзел дапамогі бедным жыхаром і дзецям. Кожным аддзелам кіруе адзін з сяброў прэзідыуму па спэцыяльнасьці. Утворана асобная тэатральная камісія, якая цяпер вядзе рэгістрацыю лепшых тэатральных сіл Слуцку. Дзеля наладжаньня тэатральнай справы магчыма, што ў хуткім часе выедзе ў Слуцак п. Галубок.

А.Б.**

*Беларусь. 1920. 22 чэрвеня.*

**Беларускі тэатр у провінцыі**

У суботу 26 чэрвеня ў Слуцак выязджае вядомы беларускі пісьменнік і артыста У. Галубок, гдзе думае прабыць 3 тыдні. За гэты час ён мае з'арганізаваць у Слуцку моцную аматарскую трупу і паставіць 5—6 найвыдатнейшых п'ес.

24 чэрвеня туды ж выязджае хор Тэраўскага ў ліку 40 асоб, які, даўшы ў Слуцку 3 канцэрты, выедзе на павет па маршруту — Раманава, Нясьвіж, Замір'е, Менск. Па дарозе ў мястэчках і вялікіх вёсках будзе даваць канцэрты.

*Беларусь. 1920. 24 чэрвеня.*

* Крыптанім В.Я. не расшыфраваны.
** Крыптанім Андрэя Бараноўскага.

## 23—27. З пратаколаў паседжаньня партыйна–арганізацыйнае тройкі Слуцкага павятовага камітэту РКП(б)

**3 жніўня 1920 г.**

*Слушали*: Вопрос о мобилизационной кампании.

*Постановили*: II. По истечении срока приказа о добровольной явке выслать на волость отряд Комдезертир, который берёт с собой шесть или семь товарищей политработников. Приезжая в волость, собирают местную комячейку и выделяют товарищей, способных выступать на митингах; разбивают волость на районы с таким расчётом, чтобы в течение суток каждая деревня была обслужена агитатором. По возвращении политработников [из] волост[и], на волость выезжает отряд Комдезертира и приказ приводит в исполнение.

III. По прибытии мобилизованных в город среди них должна начаться усиленная полит. работа. Техническое проведение в жизнь этой работы возлагается на Военком, Партейный комитет и Наробраз. (Необходимо ставить ежедневно в течение недели спектакли, концерты–митинги, забрасывать мобилизованных литературой). Центропечати поручить заготовить соответствующую литературу.

*ДАМВ, ф. 432, воп. 1, спр. 17, арк. 7адв. Арыгінал, маш.*

**12 жніўня 1920 г.**

<…> Слуцк, где сейчас уже появляются банды в целом ряде волостей и, по последним информациям и Политбюро* и партийных товарищей, а также самой улицы (т. е. общественного мнения), наглядно видны целые гнезда контрреволюции, которые активно проявляют себя, и учитывая слабость партийных сил, просить Губ. Ком.** отозвать т. Холода в распоряжение Слуцкой организации.

*ДАМВ, ф. 432, воп. 1, спр. 17, арк. 9адв. Арыгінал, маш.*

**21 жніўня 1920 г.**

*Слушали*: О положении на фронте и в связи с ним принятие соответствующих мер.

*Постановили*: Следить за тем, чтобы среди коммунистов не было примазавшихся контрреволюционеров.

* Так у той час называлася кіраўніцтва павятовых аддзелаў Надзвычайнае камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй (ЧК, Чекабел — „Чрэзвычайка“).

** Менскі губэрнскі камітэт РКП(б), які ў жніўні 1920 г. пераўтвораны ў Камуністычную партыю (бальшавікоў) Беларусі — КП(б)Б.

Произвести чистку членов партии, даже в том случае, если это будет вредно для работы.

Преследовать всякие провакационные слухи.

Тов. Кротову приняться немедленно за организацию отряда особого назначения.

Партийной тройке принять на учёт все оружие и распределить таковое.

Сноситься со всеми военными органами в других уездах через военкомы. Каждому партийному работнику, заведывающему отделом сообщать через день в парттройку о политическом положении и в отделе.

Провести ряд массовых митингов в уезде и городе, оттеняя в докладах, что если мы не сумеем произвести развязку в самый непродолжительный срок, то Запфронт примет угрожающее положение.

Членам организации, работающим в деревне, проверить состав ячеек, подозрительных исключить, а остальных привлечь к усиленной работе.

Путем агитации содействовать проведению мобилизации и продовольственной разверстки в уездзе.

*ДАМВ, ф. 432, воп. 1, спр. 17, арк. 13. Аўтэнт., маш.*

**23 жніўня 1920 г.**

**Протокол №12а Чрезвычайного заседания Парттройки в 3 часа ночи с 22 на 23 августа в связи с получением телеграммы о взятии Бреста и о положении на фронте.**

*Постановили:*

1. Выработать воззвание к населению. Отпечатать в количестве тысячи экземпляров. С приказами ячейкам и ревкомам разослать по волостям.

2. Собрать массовые сходы с деревень каждой волости, без различия пола и возраста, в исключительном случае из каждой деревни должно быть не менее пяти человек. Для проведения волостных сходов посылаются ответственные работники из города.

3. Коммунистов перевести на казарменное положение и производить ежедневно военное обучение.

4. Комиссии по отсрочкам снять с учёта уже принятых 75%, за исключением Запшосса и дорожно–строительного отдела, отдела Совнархоза и райпродкома.

5. Перевести учреждения на военное положение, привлекая к работе служащих на неограниченное время.

6. Назначить устройство ежедневных массовых митингов в городе.

7. Предложить Совету союзов* организовать отряд из рабочих, передав таковой в распоряжение тов. Кротова, начальника отряда коммунистов особого назначения.

Председатель парттройки**
Секретарь М. Юшкевич[82]

*ДАМВ, ф. 432, воп. 1, спр. 17, арк. 14. Аўтэнт., маш.*

**23 жніўня 1920 г.**

**Протокол №12б чрезвычайного заседания парттройки 23–го августа в 14 часу.**

*Постановили*:

1. В связи с развивающимся бандитизмом и роспуском контрреволюционных слухов, а также расклейкой погромных воззваний избрать чрезвычайную тройку, дав ей право вынесения приговоров в 24–часовой срок вплоть до применения высшей меры наказания — расстрела (от ревкома[83] — Владимиров[84], от Политбюро — Синевич и от партии — Юшкевич).

2. Предложить союзу Коммунистической молодежи выделить лучшую часть своих членов для организации отряда, отдав таковой начальнику отряда коммунистов особого назначения тов. Кротову.

3. Организовать эвакуационную комиссию в составе:
от Совнархоза — тов. Танхилевич,
от Комтруда — —//— Филиппович,
от Ревкома — —//— Сенюк.

4. Усилить патрулирование города.

5. Электростанции давать свет в течение всей ночи.

6. Назначить военкомом на телеграф тов. Пасюкевича[85], которому неотлучно находиться там и принимать разговор по прямому проводу лично; сообщить телеграфно Губвоенревкому с просьбой при передаче телеграмм вызывать для приема такового. Ленты всех секретных телеграмм и разговоров брать с собой.

7. Предложить Райкомпроду представлять ежедневно в укомпарт продовольствие на 50 человек; продукты должны быть не требующими специального приготовления.

8. Предложить начальнику милиции и предкомтруду иметь наготове не менее 50 подвод, причем 15 из них может быть отпущено по распоряжению предревкома.

9. Отменить съезд волревкомов, назначенный на 25 сего августа.

* Маюцца на ўвазе павятовыя прафэсійныя саюзы працаўнікоў у розных галінах дзейнасьці ды павятовы Саюз камуністычнай моладзі.

** Подпіс неразборлівы.

10. 25 августа провести всеобщие сходы во всех волостях уезда, для чего бросить лучшие силы партии на уезд.

Председатель Парттройки*
Секретарь М. Юшкевич

*ДАМВ, ф. 432, воп. 1, спр. 17, арк. 15. Аўтэнт., маш.*

## 28. Адозва Часовага ваенна–рэвалюцыйнага камітэта ССРБ[86]

**Верасень 1920 г.**

АБАРАНЯЙЦЕ БЕЛАРУСЬ! АБАРАНЯЙЦЕ РЭВАЛЮЦЫЮ!

Рабочые, сяляне і ўсе беднякі Беларусі!

Доля нашай краіны рашаецца мячамі і стрэльбамі на хронце. У той час, калі вы сталі паўнапраўнымі гаспадарамі яе, калі мусілі ўшчаць будаваць сабе шчаснае жыцьцё, польскі пан ізноў намерыўся налажыць на вас сваю цяжкую руку. Беларусі, гэтай старонцы працоўнага народа, пагражае небясьпека. Новы прыгон, новае рабства гатуе ёй наглы пан. Ваша свабода, наша гаспадарства — грозіць пану наўсягды астацца без зямлі, без багатага безклапотнага жыцьця. І ён тужыцца не дапусьціць да гэтага. Пану трэба вялікі абшар зямлі, пану трэба мільёны людзей, каб іх потам і кроўю трымаць сваё бясьпечнае, здавольнае жыцьцё, жыцьцё трутня–дармаеда. І ў пагоні за гэтым жыцьцём пан ня шкадуе нічога: ён упарта, сіберна лезя з–за яго на нажы, у вагонь, пад кулі. Ён не шкадуе згубіць сотні тысячаў абманутых ім салдат, ня лічыць грошы, ня мерае золата — абы распаўсюжыць сваю ўладу па ўсёй зямлі, зрабіць ціхім і пакорным сваёй волі рабочага і селяніна Беларусі. Пан лыцарскі абараняе сваё панства ад пагрозы рэвалюцыі, ідучай на яго да канца.

І ён думае адстаяць яго ў гэтай няроўнай барацьбе.

Таварышы рабочыя, селяне і беднякі Беларусі! Ня дайце збыцца панскім думкам. Ня апраўдайце яго надзеі. Нехай не рашчытвае ён на нашу рахманасьць і падатлівасьць, нехай не мяркуе абаперціся на вашу пакору і нядбайную млявасьць! Пан думае, што вы ня зжылі шчэ пачуцьця рабоў–нявольнікаў і на вас лёхка будзе яму ўзлажыць ланцугі няволі. Пан думае, што ў нас німа любашчы да свае вольнае старонкі і вы спакойна сустрэнеце яго на сваёй зямлі.

Ці ж будзе і сапраўды так? Гэтага ня павінна быць ні за што!

Толькі слабы, бязвольны, ня маючы цаны сваёй чалавечай вартасьці — можа быць спакойным пад угрозай панскае навалы.

Вы ж, беларускіе селяне і рабочые, вы ж беднякі Беларусі, ужо павінны зжыцца з свабодаю, павінны разлучыцца з пачуцьцём няволь-

* Подпіс адсутнічае.

нікаў. Бо за надта ўжо вы многа цярпелі, бо за надта доўга пакутвалі, каб ізноў спакойна ўсунуць сваю шыю ў панскае ярмо.

Вы — вольные сыны савецкай краіны — даражэце жа ёю! Бараненце яе ад панскага прыгону, ад нагайкі і гвалтаў. Дакажэце, што вы не рабы, а свабодные грамадзяне, якім воля — даражэй усяго на сьвеце.

Кідайце жа ўсе і бярэце вінтоўкі! Цяпер, калі злодзей–пан стукае ў дзьверы, не павінна быць іншых клапот, апроч клапот аб ахове свае краіны, аб абароне Рэвалюцыі. Каб жыць спакойна, каб свабодна будаваць жыцьцё, трэ' раней пабядзіць пана, які мяшае гэтаму.

Дык усе на фронт! У палкі Чырвонай арміі, у атрады — дабраахвотнікаў! І на бойку з паганым панам.

Доля нашай страны вісіць на мячах панскіх. Выбіце ж іх з яго крывавых рук. За аружжо. На пана!

АБАРАНЕЦЕ БЕЛАРУСЬ! АБАРАНЕЦЕ РЭВАЛЮЦЫЮ!

*AAN,. Towarzystwo Straży Kresowej, T. 545. S. 39. Улётка, друк. адбітак.*

## 29—30. Падзеі на Случчыне паводле менскіх савецкіх газэтаў

**Верасень 1920 г.**

**Запаведзі моманту**

Слуцкі павятовы рэвалюцыйны камітэт перадаў Вал. Рэв. Камітэтам і насяленьню, якое падтрымлівае Савецкую ўладу, вось які 4 запаведзі:

1) Пашліце на хронт усіх, хто здолен насіць аружжа. Хронт можа быць моцны, калі вы забяспечыце сем'і байцоў, засеяце іхные паля, паправіце іхные хаты; апякуйце і накарміце сям'ю чырвонаармейца.

2) Арыштоўвайце шаптуноў, перасякаючы ў корні ўсялякае распаўсюджаньне фальшывых чутак. Злосных дэзэртыраў лавіце і перадавайце ўладзе.

3) Армія хоча есьці; наступаюць дажджы, і ёй холадна; выпаўняйце поўнасьцю нарады харчовых органаў і дапамажыце хронту.

4) Польскія банды зьнішчалі масты і цэлые маёнткі — адбудуйце іх. Армія ў свой час атрымае падтрыманьне, і ад няшчасных пагарэльцаў будзеце мець любоў і сымпатыю.

Трэба адзначыць, што насяленьне Слуцкага пав. болей другіх выпаўняе гэтые запаведзі.

*Савецкая Беларусь[87]. 1920. 28 верасьня.*

**Як мы жывем?**
(Слуцкі павет)

У Слуцкім павеце ўпаўнамоцны раённай харчовай камісіі касуе загад Менскага Губэрнскага Рэвалюцыйнага камітэту* № 3 аб расплаце з рабочымі народных маёнткаў** хлебам. Ён дае грошы? Што нам рабіць з грашыма?*** Палохае нас арыштам і чуць ня б'е ўсіх рабочых нагайкамі, і, наогул, умешваецца ў жыцьцё рабочых. Ён забірае ключы ў рабочых і робіць што яму ўздумаецца. Не пазваляе прымаць на работу тых асоб, якіх павыганяў поп, і трэба сказаць праўду, што ён з'яўляецца здраднікам улады рабочага і селяніна.<...>

А ў маёнтку Лапухах Пукаўскае воласьці яшчэ лепш робіцца. Там упаўнамоцны зрабіў сабе пекную дачу, завёў цёплую кампанію і жыве прыпяваючы. Пагражаючы арэштам, патрэбаваў ад батракоў кухарку, пакаёўку, падушкі, апошняе малако ад батрацкіх кароў, астаўляючы іх малых дзетак бяз каплі малака, патрэбаваў ад рабочага камітэту тры пуды жыта, нягледзячы на тое, што німа чым поле засяваць і карміць рабочых. Адным словам, жывуць нядрэнна і нават пазваляюць кожны дзень пракаціцца на «пары гнядых».

Значыцца, тым часам «аддыхаюць» пры сваёй уладзе і думаюць: ці ёсьць якая–небудзь розьніца паміж панам і ўпаўнамоцным, ці німа?..

Чырвоны рабочы.

*Савецкая Беларусь. 1920. 30 верасьня.*

## 31. Часовы ўклад Беларускае вайсковае камісіі[88] аб прыёмцы жаўнераў у беларускае войска

**27 кастрычніка 1920 г.**

Кожны ахвотнік, жадаючы ўступіць у Беларускае войска, павінен адпавядаць гэткім запатрабаваньням:

1. Быць нацыянальнасьці Беларускай.
2. Гадоў ад 18 да 40.

Увага. I. Можа быць прыняты маладзейшы ад 18 гадоў, калі на гэта будзе пісьменная згода бацькоў, зацьверджаная ўрадавай установай.

* Маецца на ўвазе Менскі губэрнскі ВРК, які ў жніўні 1920 г. быў пераўтвораны ў ВРК ССРБ (гл. камэнтар №86).
** Народныя маёнткі былі ўтвораныя на месцы былых абшарніцкіх ды царкоўных уладаньняў.
*** З–за тагачаснай інфляцыі грашовыя „совзнакі" вельмі хутка абясцэньваліся, таму на „чорным рынку", дзе можна было купіць харчоў, іх ня бралі.

II. Ахвотнікі старшыя за 40 гадоў могуць быць прыняты так сама ў войска, калі будуць ахвотнымі і здольнымі да вайсковай працы.

3. Мець дакумэнты гэтакія: а) метрыку або пашпарт і б) пасьведчаньне аб агульнай адукацыі, калі мае.

27/X–20 г. А. Якубецкі (подпіс)

М. Горадня.

*БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 166 , арк. 22. Завераная копія.*

## 32. Ліст Макара Касьцевіча[90] да Францішка Кушаля[91]

**10 лістапада 1920 г.**

Пане Капітане!

Толькі што Вы ад'ехалі сягодня а палове першай гадзіны (12 1/2 гадз.), зайшоў у камісію нехта Лінднэр, жыхар м. Лодзі, які вярнуўся са Слуцку як звольнены ахвотнік Польскага войска, і пажадаў зрабіць інформацыю аб беларускім руху ў Слуцку. Перадаю з яго слоў вось што:

1) 1 лістапада ўтварыўся Нацыянальны Камітэт* з 11 асобаў: 4 з быўшага Камітэту і 7 выбраных «przez ogół ludności». Палітыка Нац. К–ту ня мае нічога супольнага з быўшым Камітэтам.

2) У горадзе разьвяваецца беларускі «белы–чырвона–белы» штандар. Адміністрацыя і гаспадарка ў руках беларусаў. Вайсковая ўлада польская. Палякі адносяцца спагадна і цішком памагаюць (неофіцыяльна).

3) З'арганізована беларуская міліцыя (войска нельга — дзякуючы Рызе[92]) у ліку 5000 чалавек. На чале яе афіц. Мацэлі[93] з нашай Менскай рэзэрвы. На чале К–ту д–р Палякевіч** з–пад Слуцку.

4) Слуцкія маняцца знайсьці кантакт з намі, але перашкаджаюць прычыны транспортнага характару, дзеля гэтага скарысталі з аказіі, каб нас інфармаваць. Брак фундушаў і зброі перашкаджае арганізавацца настолькі моцна, каб пасьля выхаду стуль палякоў можна было адперці любую бальшавіцкую сілу. Народ цэлаю масаю падтрымвае Камітэт, які арыентуецца на свой Беларускі ўрад, што творыцца, са слоў п. Лінднэра, у... Парыжы (?). Тут альбо Лінднэр не дачуў (у Рызе — у Парыжы!), альбо Мацэлі ня ведае сучаснай рэзыдэнцыі ўраду.

* Маецца на ўвазе новы склад Беларускага нацыянальнага камітэту Случчыны на чале з Арсенам Паўлюкевічам.

** Памылкова пададзена прозьвішча. Правільна — Паўлюкевіч.

Адрэс Ліндэра напісаны, і яго можна будзе ў Лодзі знайсьці для асабістай гутаркі з Вамі.

Усё гэта сьведчыць аб шырокім актыўным руху нашых масаў. Патрэбен толькі добры кірунак і скарыстаньне з настрою народу. А йначай быць і ня можа. Хвалі народныя могуць перакаціцца праз галовы павадыроў.

Лічу патрэбным як найхутчэй перадаць усё вышэйапісанае Вам.

Са шчырай пашанаю Макар Касьцевіч.

Лодзь

10/XI 1920 г.

Рэзалюцыя: «Паслаць у Слуцк кап. Борыка[94] для ўмацненьня ўплыву БВК. Кушаль.»

*БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр. 158, арк. 45—45адв. Аўтэнт., рук.*
*Апубл.: Спадчына. 2000. №3. С. 26—28.*

## 33. Выпіс з пратаколу зьезду Случчыны

**14—15 лістапада 1920 г.**

Прэзідыум зьезду:
Старшыня Русак В.
тав. П. Жаўрыд, Ул. Пракулевіч
сэкрэт. П. Бабарэка, Янка Урбановіч

Сьпіс сяброў Рады Случчыны
1. Жаўрыд.
2. Паўлюкевіч.
3. Мацэля.
4. Сасноўскі[95].
5. Біруковіч.
6. Дубіна*
7. Русак.
8. Раковіч.
9. Барысавец.
10. Анцыповіч[96].
11. Лістапад.
12. Пракулевіч.
13. Неронскі.
14. Бабарэка.
15. Радзюк.
16. Калпак.
17. Рабы.

Кандыдаты:
1. Маліноўскі.
2. Мяшочэк.
3. Валоцька[97] (забіты 26—27 лістапада)
4. Міхайлоўскі.
5. Дзятловіч.

* Маецца на ўвазе Ўлас Дубіна.

Выканаўчы орган Рады ці Прэзідыум Рады:
1. Ул. Пракулевіч (старшыня).
2. П.Жаўрыд.
3. А.Паўлюкевіч.
4. В.Русак.
5. Біруковіч.
6. Сасноўскі.
7. Рабы.

Старшыня зьезду Случчыны
і сябар Прэзідыуму Рады
В.Русак.

*Н. Стужынская. Беларускія матэрыялы ў фондах Рускага замежнага гістарычнага архіва. Вяртанне–6. Выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне архіўных, бібліятэчных і музейных каштоўнасцей, якія захоўваюцца ў замежных краінах. Мн., 1999. С. 307—308.*

## 34. Ухвала Беларускага зьезду Случчыны

**14 лістапада 1920 г.**

Слуцк.

Першы Беларускі Зьезд Случчыны, скліканы ў лічбе 107 дэлегатаў, вітае Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і сьведчыць, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову сваей Бацькаўшчыны.

Зьезд катэгорычна пратэстуе проці акупацыі родных зямель чужацкім наездам і проці самазванай Савецкай улады, як урад Кнорына[98] і іншыя, якія паўтвараліся на Беларусі. Бацькаўшчына наша зруйнавана чужынцамі, якія нішчаць яе і да гэтуль, і мы, аддаючы справе адбудаваньня нашай Бацькаўшчыны ўсе нашы сілы і жыцьця, зьвертаемся да ўсяго сьвету і Саюзу Народаў аб дапамозе ў стварэньні нашай вайсковай сілы.

Шчыра вітаем нашу сястру Польшчу.

Прыняцьце ўхвалы было пакрыта воклікамі:

Няхай жыве вольная, незалежная, дэмакратычная Беларуская Народная Рэспубліка ў яе этнографічных граніцах!

Няхай жыве Беларуская армія!

Няхай жыве беларускі народ!

Няхай жыве братэрства ўсіх славянскіх народаў!

Няхай жыве Беларускі Ўстаноучы Сойм!

*НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 113, арк. 11. Завер. копія, маш.
Апубл.: Архівы БНР. Вільня—Нью–Ёрк—Менск—Прага, 1998.
Т. 1. Кн. 2. С. 956—957.*

## 35. Пратэст Беларускай Рады Случчыны да ўраду Савецкае Расеі

**Не раней за 14 лістапада 1920 г.**

Беларуская Рада Случчыны

У часе сусьветнай вайны, якая збурыла адны магутныя дзяржавы і вызваліла іншыя, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля 350 гадоў няволі ўзноў на ўвесь сьвет чуцен голас Беларускага Народу аб тым, што ён жыве і жыць будзе. Вялікае Нацыанальнае Сабраньне — Усебеларускі Конгрэс 5—17 сьнежня 1917 году, дбаючы аб лёсе Беларусі, устанавіў на яе землях рэспубліканскі лад і абвесьціў незалежнасьць і непадзельнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Стоячы на гэтым грунце, зьезд селянскіх прэдстаўнікоў Случчыны ў ліку 107 асобаў выбраў Беларускую Раду Случчыны, якой даручыў часова усю цывільную ўладу ў павеце.

Беларуская Рада Случчыны, паведамленая аб намерах савецкіх войскаў, якія пасьля выйсьця польскіх аддзелаў хочуць заняць Слуцк і павет, зьневажаючы гэтым волю народу, — энергічна пратэстуе проці агрэсыўных намераў Савецкага Ўраду з Кнорыным на чале, лічучы, што гэтая акцыя Саветаў спрэчна таксама з пастановамі міравой конфэрэнцыі.

Адначасна Беларуская Рада Случчыны зьвертаецца да дэмократыі ўсяго сьвету з гарачым пратэстам проці гвалтоўных забораў і падзелу Незалежнай і Непадзельнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларуская Рада Случчыны сваю ўладу перадасьць толькі Ўраду, створанаму Ўсебеларускім Конгрэсам 1917 году.

У месяцы лістопадзе 1920 г.

Падпісалі: Старшыня Беларускай Рады Случчыны Пракулевіч; члены Рады: Жаўрыд, Русак, Сасноўскі, Радзюк.

*НАРБ, ф. 325, вып. 1, спр. 113, арк. 9. Завер. копія, маш.*
*Апубл.: Архівы БНР. Т. 1. Кн. 2. С. 952.*

## 36. Тэлеграма народнага камісара землеробства ССРБ Усевалада Ігнатоўскага ў Наркамзем РСФСР

**19 лістапада 1920 г.**

По военным обстоятельствам

Москва

Наркомзем копия Реввоенсовет Республики

На территории Белоруссии воинскими частями производятся самовольные реквизиции по совхозам, вне всяких планов и полномочий. Помимо излишков забрана часть пайка рабочих и посевных семян. В некоторых уездах осталось семян яровых не больше десяти процен-

тов. Весной земли останутся пустовать. Прошу принять срочные меры к прекращению подобных явлений, привлечению к ответственности.

Материалов масса.

19/XI–[20]

Комзем Белоруссии Игнатовский

*НАРБ, ф. 8, воп. 1, спр. 1, арк. 31. Рук., аўтэнт.*

## 37 37. Вытрымкі са справаздачы Барысаўскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта за пэрыяд з 31 кастрычніка па 15 лістапада 1920 г.

**21 лістапада 1920 г.**

1) Не было ли за отчетный период проявлений населения неудовольствия советской властью вообще или ее представителями на месте (указать, в чем они выражались, чем были вызваны).

За отчетное время особого проявления крестьянства к советской власти и других слоев населения не было, за исключением крестьян Зачистской, Мстижской, Прусевичской волостей, которое имеет негодование к советской власти и ропщет по случаю реквизиций и сбора хлебов и скота по разверстке для армии, а также бессистемного взимания подвод воинскими частями и вообще имеют негодование на советскую власть в невыдаче соли, стекла и железа. Крестьянство фронтовой полосы относится к советской власти недоверчиво, так как вынуждено терпеть всякие лишения.

2) Не было ли контрреволюционных выступлений, заговоров, нападений бандитов, в чем они состояли, сколько арестованных, куда направлены.

Контрреволюционных выступлений, заговоров не было.

В Холопеничском волревкоме на беспартийной конференции, при голосовании резолюции, предложенной членами волревкома: „Мы, граждане Холопеничской волости, заслушав ряд ораторов по текущему моменту, заявляем, что мы хотим самоопределения Белоруссии на федеральных началах с Советской Россией и протестуем против грабительского мира, диктуемого Польшей и разделяющей Белоруссию“.

Тов. Бондаренко была вынесена вторая резолюция: „Обсудив вопрос о положении Белоруссии в настоящее время, конференция выносит следующую резолюцию“: „Не желая проливать кровь своих сыновей и братьев, желаем мирным путем освободить всю Белоруссию от польских и советских войск и дать ей возможность самоопределиться без чьей бы то ни было диктатуры, а кроме того освободить всех белорусских солдат с оружием из польской и советской армий“. После голосования большинством голосов была принята резолюция, предложенная т. Бондаренко…

*НАРБ, ф. 8, воп. 1, спр. 1, арк. 38. Копія.*

## 38. Дэклярацыя Беларускае Рады Случчыны

**28—29 лістапада1920 г.**

Копія з чарнавіка, складзеная ў м.Семежава.
(З запісаў Васіля Русака).

У момэнт самаадзначэньня ўсіх народаў і барацьбы іх за сваю самастойнасць і свабоду Беларусі Рада Случчыны, выпалняючы волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны Беларусі, падымае сьцяг барацьбы за свабодную незалежную Беларусь і заяўляе ўсяму міру:

1. Беларусь павінна быць вольнай незалежнай Народнай Рэспублікай у яе этнаграфічных межах.

2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі будуць выпрацаваны Белар[ускім] Устан[оўчым] Соймам, сазваным на аснове агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права.

3. Прызнаваючы, што земля павінна належаць працоўнаму народу і што прыватная ўласнасць на зямлю касуецца, Рада Случчыны думае, што нормы землекарыстаньня (землепользование) маюць быць выпрацаваны толькі Бел[арускімі] Уст[аноўчы]мі зборамі. Да разьвязаньня ж гэтага пытаньня ў Уст[аноўчым] Сойме ўсе пастановы Часовай улады павінны згаджацца з вышэйпаказаным прынцыпам. Усе ж лясы і нутра зямлі павінны быць уласнасьцю Рэспублікі.

4. Да сазыва Устан[оўчага] Сойму павінны быць прыняты самыя шырокія меры для абароны правоў і інтарэсаў працаўнікоў, як, напрыклад, а. 17 аб увядзеньні найбольшага 8–мі гадзін[авага] дня, кантроля над дабрабытам, мінім[ума] зараб[отнай] платы і г.д.

5. У мэтах барацьбы з вырастаючай спэкуляцыяй і ўпарадкаваньня тавараабмену паміж местам і вёскаю Рада Случчыны прыме меры к разьвіцьцю на шырокіх пачатках усіх відаў коопэрацыі.

6. Уперад да скончаньня развязваньня гэтага пытаньня ў Уст[аноўчы]м Сойме прызнаем на тэрыт[орыі] Бел[арусі] свабоду слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў, рэлігій, незачэпнасьць асобнасьці і памяшчэньняў.

7. Прыдаючы першаступеннае значэньне народнай прасьвеце, РС будзе старацца к агульнаму абучэньню ў самым шырокім маштабе.

8. У рубяжох БНР прызнаюцца правы ўсіх меншасьцяў на нац[ыянальную] пэрсан[альную] аўтаномію.

Абвяшчаючы аб гэтым і зьяўляючыся выразіцельніцай волі народа, Рада Случчыны дакляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць і свабоду роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад насільляў з боку чужаземных захватчыкаў, у выпадку патрэбнасці нават сілаю

аружжа, нягледзячы на лічэбную перавагу праціўніка, думаючы, што наша справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе[99].

*Н. Стужынская. Беларускія матэрыялы ў фондах Рускага замежнага гістарычнага архіва. Вяртанне–6. С. 307.*

## 39. «Слуцкая акцыя». Плян–канспэкт нарады беларускіх нацыянальных прадстаўнікоў з польскімі «крэсавымі» дзеячамі па абмеркаваньні сумесных дзеяньняў супраць бальшавікоў

**Другая палова лістапада 1920 г.**[100]

Akcja Słucka
Cel:
1) uwolnienie Białorusi.
2) Osiągnięcie niepodległości Białorusi.
(Niepodzielność odzyskuje się drogą federacji z Polską przez połączenie się więcej) ścisłe z Litwą Środkową)[101]
Sytuacia nader trudna i niepewna:
1) Zniechęcenie do wojny w Polsce.
2) Rozbic ewentualne przerzucenie wojsk bolszew. z południa
Wniosek: nadzieja tyłko na własne siły, siły kraju a więc — polityka prowadzona w duchu wypełnienia wszystkich postulatów ludności
Tarcia wewnętrzne — wykłuczone
Akcja **polityczna**
Stosunek do ludności
Zasada demokratyczna
Oparcie się na samorządy. Sejm Ustawodawczy Białej Rusi
Narodowościowe równości
Radykalna reforma rolna i jej reklamowanie.
Unikanie rekwizicji.
Pomoc aprowizacyjna.
Polityka międzynarodowa
Białoruska Republika Ludowa. Żadnego samozwaństwa
Rząd prawowity, powołany przez Radę Najwyższą[102].
Skład Rządu: 50% Biał., 40% Pol. i 10% Żydów.
(Ten skład oraz cała sytuacja — są gwarancjami dla Polski)
Państwowość niewątpliwie białoruska
Oparcie się o Polskę
Oparcie się o Francję (walka z bolszewikami).
Ścisły sojusz z Litwą Środkową.

| | | |
|---|---|---|
| Gordział[103] | Zaŭryd | Trepko[106] |
| Krups.[104] | Jakubiecki | Skirmunt[107] |
| Obiezer. | Tereščenko | Baranow[108] |
| Porębski | Dubiejkowski[105]. | |
| Roźnowski. | Smolicz | |

Akcja wojskowa. Trzy etapy:
1) Słucki pow. (linja Ptycza)
2) Okręg Miński (linja Berezyny)
3) Cała Białoruś
Etap pierwszy.
a) Milicja ludowa
b) Partyzańci
c) Werbunek dla komisji Wojsk.
d) Regularne wojsko Biał.
e) Ochotnicy polscy
f) Uzbrojenie całej ludności
g) Mobilizacja

a) Milicja ludowa.
we wszystkich gminach — komendanci + podoficerów
gmin 15 ćwiczenia
warta we wsiach
praca uświadamiająca
b) w miarę możności sami
c)—d) Regularne wojsko (dywizja białoruska w Baranowiczach, Mołodecznie)
ściąga się tam ochotniki z Zachodu i ze Słucką
Przygotowują się dalsze kadry
e) Ochotnicy polscy
1) Formacje krajowe polskie i najęte żołnierze płatni w Brześciu, Nieświeżu
2) Partyzańci w kierunku Mińska (siły organizacyjne — miejscowe najgłówniej)
f) Uzbrojenie całej ludności przy ewentualności odstąpienia
g) Mobilizacja — po ustąpieniu W.P.

Warunki:
1) Amunicja z Polski lub Francji
2) Kontakt z Bałachowiczem[109]
Porządek dzienny
1) Komunikacje (stacje w Baranowiczach, Słonimie)
2) Instruktorzy dla Słucka (szkoła podchorążych)
3) Wyjazd Kom. Wojsk. do Baranowicz
4) Organizacja Rządu oraz wyjazd do Słucka Rządu, względnie jego expozytury (trójka)
Równoległe
a) Omówienie sprawy w Belwederze
b) Wyjednanie kredytów, amunicji, aprowizacji {Polska, Francja}.
c) Praca zagranicą, w Litwie Środkowej etc.
d) Organizacja krajowych Wojsk Polskich[110]

*Архівы БНР. Т. 1. Кн. 2. С. 949—951.*

# ЗЬВЯСТУН.

**Белютэнь Беларускага Палітычнага Камітэту пры народнае Арміі Генерала Булак-Балаховіча.**

16-го Лістапада 1920. Месцо пастою Штаба Арміі. № 2.

Вайна, паднятая у 1914 року праз моцных дзержаўных манархау, мела на мэці іх асабістыя выгоды. Чалавеку, разумеючаму манархічны устрой, было гэта саусім ясно: тады быу адзін погляд—умацаваньне свайго трону за уселякую людцкую цану.

Нечападзеукі зацягнуушаяся вайна з яе безмерна вялікімі ахвярамі вывяла з пассыунаго цярпеньня народ: прачнууся ен—аразумеу, што ад гэнае вайны не чакаць карысьці тым, каторые пралівалі сваю кроу. І вось, дзякуючы гэтай сьвядомасьці народу, манархі якіе мелі у вайне толькі сваю асабістую карысьць, былі скінуты з тронау.

Народ прыйшоу да пераконаньня, што ня будзе супакою, парадку, покуль ен сам—народ, гаспадар на сваей зямлі, ня будзе кіраваць як жыцьцем сваей старонкі, такі палітычнымі зносінамі з другімі народамі.

Прыйшла рэвалюцыя. Адна партыя за другою прапанавала сваю праграму, выхваляючы як найлепшую для найшырэйшых кругоу грамадзянства. Прышоу, здавалося, мамэнт, калі людзі будуць кіраваць самі сабой.

Тым часам уплывы скінутых манархау былі усе ж такі вялікіе праз рожныя да гэтаго дарогі. Ім думалося тады, што ня усе яшчэ прапало, што трэба муціць ваду, не даць праудзівым прыяцелям народу вывясьці яго на сьвятлейшую дарогу—дарогу справядлівасьці. Вось прыслужнікі імпэрыялістычнаго нямецкаго Гогэнцэлерна пачалі у гэты час работу, каб задушыць рэвалюцыю у Расіі. Кінулі для гэтай мэты туды сваіх прыслужнікау—бальшавікоу. Там ім удалося захапіць уладу у сваі рукі, зьнішчыць гэту некалі пекную багатую старонку, и адтуль ужо пашыраць сваю згубную работу і на сваіх суседзяу.

Як найбліжэйшая суседка Расіі—Беларусь першая стала экспэрымэнтам бальшавіцкіх парадкау. Ня трэба і гаварыць, што зрабілі бальшавікі, гэтые дыктатары, страшнейшые ад манархау, на нашай сьвятой Беларусі. Даволі глянуць увокал: усюды разваліны, пажарышчы, голад, нядоля беларускаго народу! Тыя добрыя думкі, якія павінны былі быць доугі час за свабоду свайго народу з гвалтоунікамі—бальшавікамі і выйшлі з гэтае барацьбы пабеднікамі. Цяпер там пануе спакой і лад; кожны мае волю, але волю разумную, каторая належна усім і каторая бароніць інтарэсы усяго народу.

Мы, беларусы, каторые маем вялікую сілу, бо нас болей чым латышоу і эстонцау, ніколі не дадземся панаваць над намі чужынцам, а тым больш камуністам бальшавікам—нішчыцелям чэлавецтва.

Для нас—беларусау—наступіла новая эра барацьбы з камуністамі за нашу свабоду, за нашу старонку; а каб хутчэй яе скончыць, трэба каб усе як адзін разам згуртаваліся і усімі сіламі рынуцца проці ворага, пасягаючага на нашые народные правы.

Лепшая частка сыноу Беларусі ужо згуртавалася каля правадыра свайго, які бароніць незалежнасьць нашага народу—Бацькі Булак-Балаховіча. Гэтая частка кліча усіх, усіх беларусоу ісьці разам з Бацькам да вызваленьня народу беларускаго, да сьветлае будучыны.

**Хай жыве свабодная Беларусь з свободнымі суседнімі народамі!**

**Пагібель Камуністам—бальшавікам!**

## Новая Беларуская Арганізацыя.

**Пратакол.**

1920 гаду 4 Лістападу, Кажан—Гарадок. Сход совядомых беларусоу.

Прысутнымі былі: 1) Стахоускі-Стаховец Мікалай 2) Мацкевіч Грыгор, 3) Вайцехоускі Павел, 4) Дамашэвіч Грыгоры. 5) Стаховец Дзьмітро, 6) Стахэвец Максім. 7) Малафейчык Васіль, 8) Старшыня Бел. Паліт. Камітэту Вячэслау Адамовіч, 9) Начальнік Канцэлярыі Бел. Пал. Кам. Бэкіш Язэп, 10) Афіцэр для даручэній пры Бел. Пал. Кам. Машчынскі.

Вынясены пастановы:

1) Арганізаваць па валасьцях і мястэчках Беларускіе нацыянальные Камітэты для пашырэньня сярод жыхароу Нацыянальнай сьвядомасьці і руху і падтрыманьня абароны Баць-

**Тытульная старонка газэты «Зьвястун», якую рэдагаваў Вячка Адамовіч (Дзяргач).**

## 40. Адозва Беларускае вайсковае рады[111] Случчыны да чырвонаармейцаў[112]

**Лістапад 1920 г.**

Чырвонаармейцы!

Вашыя камандзіры хочуць заўладаць нашай Бацькаўшчынай Беларусяй, здушыць народную волю і сілай прышчапіць нам сваю ўладу. Чырвонаармейцы! Ад вас залежыць не дапусьціць да гэтага. Паглядзіце: усе народы ў сьвеце самаазначылі сваю долю паводле свайго жаданьня — вось вам прыклад: Польшча, Фінляндыя, Літва, Эстонія і г.д.

Чаму ж гэта вы ідзеце з вайной і насільствам супроць нас, беларусаў? Мы ня хочам з вамі ваяваць. Далоў вайну! Пара спыніць гэтае трохгодняе бязглузднае праліцьцё крыві. Наладзім сваё жыцьцё так, як хоча кожны народ, а не так, як хочуць тыя гвалтоўнікі, якія накіроўваюць вас ісьці з вайною на нашых братоў.

Хай жыве самаазначэньне народаў, супакой і братняе жыцьцё і далоў аружжа, скіруйце яго на вашых камісараў, майстроў чэрэзвычаек і гэтаму падобных палачоў — ворагаў людскасьці.

Мы працягіваем вам сваю руку і заклікаем вас да супольнай барацьбы з нашым агульным ворагам — камуністамі.*

*Новы шлях. 1937. 25 лістапада.*

## 41—67. Хроніка слуцкіх падзеяў паводле гарадзенскае газэты «Беларускае слова»[113]

**Лістапад 1920 — студзень 1921 г.**

***Беларускія партызаны***

На абшарах Меншчыны пачалася новая страніца ў гісторыі Беларусі. З розных крыніц даходзяць да нас больш–менш пэўныя весткі, што люднасьць, абураная проці ўлады бальшавікоў з яе бесканечнымі рэквізіцыямі, грабежствам і з нечуваным тэрорам, паўстае проці панаваньня маскоўцаў і камуністаў, сурова разьлічаючыся з імі за ўвесь зьдзек і гора, прынесеныя імі ў край. Гэта паўстаньне проці дзікай навалы прыймае штораз большыя разьмеры.

Пачатак усяго гэтага адносіцца да таго часу, як бальшавікі летам гэтага году ўварваліся на Меншчыну. Грабежствы, якія яны праводзілі ў вёсках, зразу ж ставілі беларускіх сялян проці галоднай бальшавіцкай арды. У вёсках сталі арганізоўвацца абаронныя дружыны. Вяско-

* Трансьлітарацыя зь беларускай лацінкі.

вая моладзь, аружная, вартавала вёску ад неспадзяваных наездаў і ўначы. Па сыгналу вартавых зьбягаліся сяляне і, як маглі, абараняліся ад няпрошаных гасьцей. З малымі бальшавіцкімі атрадамі сяляне спраўляліся досыць лёгка, і нямала бальшавікоў злажыла галаву ў глухіх вёсках. Праўда, шмат і вёсак згінула потым ад агню, але барацьба проці прыблудаў з усходу не спынялася, нягледзячы нават на тое, што бальшавікі пакіравалі на «бунтуючыяся» вёскі караючыя атрады.

Каб лягчэй забраць у свае рукі беларускую моладзь з вёсак, бальшавікі абвесьцілі мобілізацыю і самі зараз жа сталі распісываць, што мобілізацыя ідзець надта памысна. На самым жа дзеле моладзь кінулася ў лясы, якія і раней хавалі яго продкаў у сваіх гушчарох ад лютага ворага, і адкуль яны нясьлі помсту сваім крыўдзіцелям. Вялікія лясныя абшары на Піншчыне ажывіліся люцкімі галасамі, у паветах Барысаўскім, Менскім, Бабруйскім па лясох сталі арганізоўвацца аддзелы «зялёных»[114]. Яны, павялічаючыся сьвежапрыбываючымі, ужо ня толькі абаранялі сябе і родныя вёскі, але пачалі самі нападаць на чырвонаармейцаў, адбіваць ад іх абозы, амуніцыю, аружжа…

Уцякаючы сьпярша ад мабілізацыі ў чырвоную армію і гуртуючыся для абароны спачатку толькі сваёй вёскі, а потым і воласьці, паўстанцы ў далейшым зьбіраюць больш моцнае ядро ў адным мейсцы, рассыпаючы дробныя атрады на ўсім павеце і ўстанаўляючы паміж імі і сабой цесную лучнасьць.

Найбольш зарганізаваным выяўляе сябе Слуцкі павет, дзе цэнтральнае ядро беларускіх паўстанцаў мае да 4000 добра вааружаных людзей. Гэты атрад хутка і стала набывае формы рэгулярнага войска. Арганізацыя праведзена дужа разумна, і гэта выгадна вызначаецца ў баявой чыннасьці атрада.

Гэты атрад розьніцца ад другіх яшчэ і тым, што больш шырэйшыя заданьня паставіў ён перад сабой. Дзякуючы таму, што ў сваіх радох гэта група мае і больш сьвядомы беларуска–нацыянальны элемэнт — Слуцкі павет у гэтым і раней значна выдзяляўся з ліку іншых паветаў на Меншчыне — Слуцкая група пачала сваю procіbальшавіцкую акцыю пад дэвізам дамаганьня беларускіх палітычных і нацыянальных ідэалаў — незалежнасьці Беларусі.

Атрыманыя намі з пэўных крыніц весткі сьцьвярджаюць, што абвешчаная на Случчыне ў апошні час прадстаўнікамі Беларускага Народнага Ўраду мобілізацыя дала значныя скуткі. Людпасьць прызыўных гадоў цэлымі грамадамі ахвотна пайшла на зборныя пункты. Фармаваньня новых вайсковых аддзелаў адбываюцца шыбка; кіруюць гэтым людзі, маючыя самі ўжо значны вайсковы стаж.

Партызанскія беларускія атрады, раскінутыя амаль ні па ўсей Случчыне, стала абараняюць сваю цэнтральную групу, даючы гэтым ей магчымасьць правесьці пляновую арганізацыю і ўсталіць лучнасьць і падпарадкаваць сабе партызанскія атрады ў другіх паветах.

Змаганьне за свой кут, за сваю хату, за дабрабыт і свой уласны жыцьцёвы парадак на беларускай зямлі адбываецца. Барацьба з маскоўскім наездцам ідзець, кроў сыноў беларускай зямлі льецца. Народ паўстаець; ён падняўся да найвышэйшага акту ў абароне вольнасьці сваей зямлі — да самаахвяраў. Гэта — найвялікшы момэнт у жыцьці кожнага народу, гэта — гістарычны момэнт.

Магчыма, што ў барацьбе з аграмаднымі бальшавіцкімі сіламі беларускім паўстанцам не ўдасца на разе зьдзейсьніць свае ідэалы — выгнаць бальшавікоў за этнографічныя беларускія межы, але самы факт аружнай барацьбы з ворагам даказывае, што гэты народ ужо дарос да свайго незалежнага дзяржаўнага жыцьця.

С. Р.*

*Беларускае Слова. 1920. 27 лістапада.*

***У Слуцку***

**Баранавічы, 24. XI.**

Згодна з апошнімі весткамі, асобны Беларускі Ўрад у Слуцку ня быў зарганізаваны. Улада знайходзіцца ў руках беларускага камісара, які праводзіць сваю чыннасьць па даручэньню Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. Па распараджэньню гэтага камісара адбываюцца выбары ў органы мяйсцовага самаўрадаваньня.

***Мобілізацыя на Меншчыне***

Комісарам ад Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі у паветах Бабруйскім, Слуцкім і інш. абвешчана мобілізацыя мужчын ад 16 да 50 гадоў, якая мае мэтай абарону краю ад бальшавікоў. Сяляне зьяўляюцца ў прыёмныя камісіі цэлымі вёскамі і прыносяць з сабой стрэльбы, куляметы і наогул вайсковыя матэрыялы.

***Паўстаньня***

Паўстаньня проці бальшавікоў у Слуцкім і Бабруйскім паветах пашыраюцца з кожным днём. Дробныя бальшавіцкія аддзелы адыйходзяць да Бабруйску.

***Бальшавіцкая мобілізацыя***

Ліда, 23. XI (Orient).

На частцы Меншчыны, занятай бальшавікамі, абвешчана імі мобілізацыя мужчын прызываў да 1902 году; таксама праведзена мобілізацыя дактароў.

*Беларускае Слова. 1920. 29 лістапада.*

* Крыптанім Сымона Рак–Міхайлоўскага

### *Паўстаньня за незалежную Беларускую дэмакратычную рэспубліку*

Беларускае прэс–бюро паведамляе: на ўсход ад Слуцка, у раёне Ужыцы* (Бабруйскі пав.) адбываюцца баі беларускіх паўстанчых атрадаў з бальшавікамі. Бальшавікі ўпарта абараняюць падходы да чыгуначнай лініі. Пашыраюцца чуткі, што ў мэтах падаўленьня паўстанчага руху выкліканы дзьве новыя савецкія дывізіі. Паўстанцы гатовы абараняць сваю зямлю да апошняй магчымасьці. Кіраўнікі паўстанчага руху спадзяюцца пашырыць паўстаньня на тылы бальшавікоў і чакаюць нават дапамогі ад іншых народаў. Увесь рух адбываецца пад лёзунгам Незалежнай, Дэмакратычнай Беларускай Рэспублікі.

### *Беларускі зьезд у Слуцку*

15 і 16 гэтага лістападу** ў Слуцку адбыўся зьезд прадстаўнікоў ад 15 валасьцёў і мястэчак — у ліку 127 чалавек, на якім была выбрана Слуцкая Беларуская Рада.

У склад Рады ўвайшлі між іншым д–р Паўлюкевіч і Жаўрыд.

На зьезьдзе былі паданы даклады з мейсцаў, у якіх выяўляліся варожыя адносіны беларускага сялянства да бальшавікоў.

Зьезд, згодна з пажаданьнем вясковай моладзі, ухваліў зараз жа абвесьціць мобілізацыю для самаабароны ад «чырвонай бальшавіцкай лапы».

Пры вынясеньні рэзалюцыі аб мобілізацыі было прынята пад увагу і тое, што калі нават мяйсцовыя сялянскія сілы і будуць нязначнымі для перамогі над бальшавікамі, дык, у кожным разе, пачатая беларускімі масамі барацьба пакажыць народам усяго сьвету, што беларускі народ прачнуўся і змагаецца за сваю незалежнасьць.

На зьезьдзе быў прысутным брат ген. Булак–Балаховіча і капітан ахвотніцкай арміі Самусевіч[115], паходзячый з Случчыны, якому нібы было дручана Балаховічам сфармаваць Слуцкі полк.

(«Нов. Варш. Слова»[116]).

*Беларускае Слова. 1920. 30 лістапада.*

### *Паўстаньне на Беларусі*

Беларускае прэс–бюро ў Варшаве паведамлено з Баранавіч ад 28.XI.1920 г. аб ніжэйпаданым. Уся люднасьць Случчыны паўстала проці бальшавікоў. Тысячы ахвотнікаў уступаюць у першую беларускую брыгаду, каторую зфармаваў павятовы камісар Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. Абвешчана таксама мобілізацыя за некалькі гадоў, каторая дала самы пажаданы вынік. Пасьля адбыўшыхся баёў

* Магчыма, Урэчча.
** Насамрэч — 14 і 15 лістапада 1920 г.

беларускае войска пакінула Слуцак з прычыны браку аружжа і амуніцыі. Бальшавікі маюць 6 панцырных аўтамабіляў. Беларусы толькі ваенныя стрэльбы, захаваныя люднасьцю.

*Беларускае Слова. 1920. 2 сьнежня.*

***Першая брыгада***

З Слуцку даляцела да нас радасная вестка. Слуцкія беларусы пачалі на сваю руку тварыць беларускае войска. Воляю народа заложана першая беларуская брыгада войск Беларускай Народнай Рэспублікі. Паўстаўшая люднасьць тысячамі зьбіраецца пад беларускія штандары, каб бараніць незалежнасьць Беларусі.

Мімаволі напрашваецца аналёгія паміж гэтым пачаткам беларускага вайсковага руху і тым, які мела Польшча, ці, ляпей сказаць, польскія вайскова–рэвалюцыйныя групы напачатку сусьветнай вайны, у 1914 годзе, калі ў Аўстрыі польская моладзь, выхаваная ў стралецкіх гурткох, дастала магчымасьць сфармаваць першую брыгаду, на чале якой стаў Пілсудзкі[117]. Але якая ж рожніца варункаў тады — і цяпер! <…>

Але што ж тады сказаць трэба аб беларускай першай брыгадзе, аб гэтых масах моладзі беларускай, што аддавала зарганізаваныя свае сілы для роднай справы! Паўсталі. Паўсталі, бо больш цярпець не маглі, бо не маглі спакойна глядзець, як доляй Бацькаўшчыны распараджаецца хто і як хоча. Паўсталі, каб ня быць навек нявольнікамі.

Сабралі Раду. Урадзілі — тварыць народнае войска. Залажылі брыгаду, першую беларускую брыгаду.

Тысячы хлапцоў кінулі бацькаўскі дом, тысячы сабраліся пад знамёны Народнай Рэспублікі. А такі агонь у сэрцы мелі, што пэўныя былі сваей перамогі над усім — над бальшавікамі, над усякімі палітычнымі перашкодамі, над адсутнасьцю нават аружжа. Ворагаў шмат у першай брыгады, а найгоршы апошні. Няма аружжа — што ж за войска? Зьнеслі хто што меў. Сяляне падаставалі пахаваныя ў стрэхах, закапаныя ў зямлі стрэльбы, другі раз і кулямёты, — прынесьлі ўсё ў дар свайму войску. З сотняй карабінаў кінуліся ваяваць. Кінуліся памерці, каб жыла Бацькаўшчына!

Пачынаецца бліскучая страніца нашай гісторыі. Народ замучаны, народ зьцемняны і ашуканы зразумеў пагрозы, якія абкружаюць яго будучыну. Народ прачнуўся, дайшоў да найвысшага чыну ў барацьбе за сваю Бацькаўшчыну. Не засьне ён ужо больш. Не наложыць дабравольна путаў на рукі свае, нікому не дазволіць узлажыць на яго новыя кайданы. І першая брыгада, хоць так цяжка рабіць ёй свае першыя крокі — не пасьлізгнецца, не паваліцца, ня згіне. Ня згіне, бо яна — гэта абуджаны народ. Калі яе задушаць у адным мейсцу, яна яркім полымем успыхне ў другім, калі не дадуць ёй аружжа, яна яго сама здабудзе.

Мы хацелі б, аднак, каб сьвет крыху аб нас падумаў. Чаму аб Літве, Латвіі, Польшчы клапоцяцца заходнія дзяржавы, а Беларусь пакідаюць сваей долі. Мы ня хочэмо быць нічыімі наймітамі і не патрабуем тых міліярдаў, якія сыпнула Антанта[118] Урангелю[119], Балаховічу і іншым. Мы — працоўны, сялянскі народ і для абароны сваей зямлі патрабуем аднаго — **аружжа**, бо ня маемо яго ў дастатачным ліку і ня можэмо зрабіць. А калі беларуская брыгада дастане аружжа, дык яе ня зломіць бальшавіцкая армія. Ня зломіць дзеля таго, што бальшавікі ідуць рабаваць чужую зямлю, а мы — бараніць сваю.

А калі б і зламалі? Няхай! Дорага ім дасца гэная перамога, ды наўрад ці чаго яна будзе варта. На зямлі народу, які паўстаў і змагаецца за сваю незалежнасьць, не ўседзе чужынец. Змаганьне з ім будзе ісьці і далей у тых ці іншых формах, і, нарэшце, сіла народная пераможа.

***Аб беларускім зьездзе ў Слуцку***

Як нас паведамляюць з пэўных крыніц, прыбыўшыя на зьезд прадстаўнікі Балаховіча хацелі скарыстаць беларускі зьезд у сваіх мэтах. Але гэта не дало жадных рэзультатаў, бо беларускае сялянства ў павеце досіць значна сьвядома і ня верыць ніякім расійскім абяцанкам.

*Беларускае Слова. 1920. 3 сьнежня.*

***Беларускі вайсковы камунікат***

*Баевая сводка войск Беларускай Народнай Рэспублікі*
*27. XI. 1920.*

Аддзелы 6 роты Слуцкага палка пад камандаваньнем ппр. К., у часе разьведкі ў раёне вёсак Быстрыца, Верабеічы, Васільчыцы і Чарнагубава спаткаліся з бальшавіцкай разьведкай каля вёскі Васільчыцы. Ад дапрошаных палонных даведаліся аб распалажэньні бальшавікоў.

Нашы аддзелы выбілі бальшавікоў з вёскі Васільчыцы. Бальшавіцкія страты: 3 забіты, 3 ранена і 1 папаўся ў палон. У нас 1 цяжка ранены. Мы захапілі шмат стрэльбаў, набояў і інш. вайсковага матэрыялу.

Аддзелы 5 роты Слуцкага палка пад камандаваньнем ппр. Клішэвіча, у стычцы з ворагам пры вёсцы Дашнова, занялі вёску, забраўшы ў палон 5 чырвонаармейцаў. Вёска Лютовічы ў нашых руках.

7 і 8 роты таго ж палка занялі вёску Мацкевічы.

Нашы аддзелы ў Капыльскім напрамку занялі м. Цімкавічы.

У баі пад м. Капыль у нас цяжка ранен 1, чырвонаармейцаў забіта 12.

Борык, капітан;
Начальнік Опэрат. Штабу войск БНР.

*Беларускае Слова. 1920. 4 сьнежня.*

***Паўстаў народ — разьбівае кайданы няволі***

Горадня,
6 сьнежня 1920 г.

<…> Надыйшоў 1920 год. Замызганы, абдзёрты акупантамі, абяднеўшы народ пабачыў, што яго зямлю пачынаюць дзяліць, што яго лёсам пачынаюць кіраваць другія, пабачыў ён новую пагрозу для сябе з усходу і — паўстаў народ. Паўстаў, каб ужо не скласьці аружжа, пакуль не даб'ецца свайго!

Паўстанцы, вызваленцы сваёй Бацькаўшчыны, тысячамі зьбіраюцца ў вызначаныя мейсцы. Камісар, назначаны Найвышэйшай Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчае ў Слуцкім павеце мобілізацыю, і сяляне натоўпам цэлым зьяўляюцца на зборныя пункты. Нясуць з сабой стрэльбы і набоі, якія яны ашчадна хавалі ад усялякіх акупантаў, цягнуць з сабой кулямёты, нясуць амуніцыю. Зьяўляюцца ня толькі мабілізаваныя, але і ахвотнікі. Відочныя сьведкі, пабываўшыя на фронце, сьцьвярджаюць, што бачылі ў шарэнгах войск Рэспублікі нават старых дзядзькаў, па 50 год, якія па добрай волі сваей зьявіліся, каб «грамадою» бараніць сваю зямлю ад чужынцаў. Нагараваўся, набядаваўся, далей цярпець ужо ня можа злой нядолі і прыйшоў — «мо'даб'ёмся, каб хоць патомкам лягчэй жылося» і паступіў ахвотнікам у шарэнгі роднага войска.

Пярэда мной ляжыць зьвязка лістоў, атрыманых з фронту. У экстазе ад магутна выяўляемай сілы народнай адзін нацыяналіст–беларус, інтэлігент, сам у душы вайсковы, пішыць: «Да гэтага часу не магу прыйсьці ў сябе — здаецца, што папаў я ў вялікі кругаварот, каторы кідае ў гору, пад воблакі, фантаны вады, якая ў сваіх кроплях малюе дзіўныя вобразы будучыні нашай дарагой Бацькаўшчыны».

Не падаецца апісаньню той высокі пад'ём, той імпэт, які прыводзіць пад Беларускі штандар нашую моладзь. Шмат прыходзіць і з мяйсцовасьцяў, занятых бальшавікамі. Прыйшоўшыя пад родныя знамёны добра ведаюць, што хаты іх пойдуць зараз жа полымем ад рукі маскоўцаў–бальшавікоў, як даведаюцца яны, што гэтая моладзь, кінуўшая бацькаўскія хаты, пайшла ў варожы для іх стан. Але йдуць. Мацнеюць шарэнгі першай беларускай брыгады, адбылося колькі ўжо баёў з усходнім наездцам, пралілася ўжо ахвярная кроў сыноў Беларусі, кроў на аўтар сваей дарагой Бацькаўшчыны.

Цікавым зьяўляецца, як адносіцца люднасьць у мейсцы пастою першай брыгады да беларускага жаўнера. Адзін з відочных сьведкаў падае: «Лепшых адносін і жадаць ня трэба. У кожным разе да гэтага часу мы і ня мысьлілі рабіць нейкія рэквізіцыі: сяляне дастаўляюць хлеб, картофлю, муку, крупы, сала; прывозяць нават мяса. Кабеты вясковыя сушаць сухары, арганізаваны пральні, дзе дарма мыюць бялізну». Саўсім зразумела: люднасьць пабачыла ў войску Беларус-

кай Народнай Рэспублікі сваіх родных сыноў, а дзеля таго і адносіны ня могуць быць такімі, як да чужацкіх арміяў. Нарэшце і лёзунгі, пад якімі выступае гэта войска — гэта родныя, дарагія. Народ зразумеў, што толькі агульнымі, сплочанымі сіламі можна змагацца з наездцам, усё руйнуючым, усё знішчаючым. Толькі дабытае самім можна лічыць сталым, пэўным, толькі ў сваім уласным Гаспадарстве, у сваей Рэспубліцы можна заводзіць пажаданыя парадкі, каб лягчэй і вольней жылося і самім і патомкам.

Жыдоўская люднасьць сьпярша заняла было становішча чакаючае. Занадта аддзелы Балаховіча запэцкалі беларускае імя ў вачох жыдоў, занадта шырака сталі вядомы пагромы, якія ўчынялі «балахоўцы» з яго Расійскай Народнай Ахвотніцкай Арміі над жыдоўскай люднасьцю. Выступленьне ў свой час, цяпер ужо разаружанага Балаховіча, і пад штандарам беларускім завяло ў абмылку жыдоўскую люднасьць, што датычыць адносін да ўсяго беларускаго, і цяпер далёка яшчэ ня ўсе кругі жыдоўскага грамадзянства ўяўляюць сабе розьніцу паміж «балахоўцамі» і арміяй Беларускай Народнай Рэспублікі.

Гэта, кажу, сьпярша адчувалася і на мейсцы пастою першай беларускай брыгады, хоць яна і ня мела ўвесь час нічога агульнага з «расейцамі–балахоўцамі». Люднасьць жыдоўская, нават з кругоў, не спачуваючых бальшавіком, была асьцярожна ў адносінах да беларускіх жаўнераў. І толькі потым, як добра прыгледзілася і зразумела, што гэта — тыя ж самыя людзі, з якімі жыдоўская люднасьць у сяброўцтве і добрым ладзе жыла ў згодзе паміж сабой цэлымі дзесяткамі і сот-

БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Палітычная, літаратурная і эканамічная газэта.

ГРАМАДЗЯНЕ!

Нясіце ахвяры рэчамі і грашмі! Складайце ахвяры у „Гуртк беларускіх кабет" ці у Беларускія Нацыянальныя Камітэты для перасылкі іх беларускаму паўстанцу—жаўнеру на Случчыне! Наша шматпакутная Маці-Беларусь вымагае гэтага ад вас!

**Абвестка ў «Беларускім Слове» ад 6 сьнежня 1920 г. з заклікам да беларускага грамадзтва несьці ахвяраваньні на карысьць случакоў–паўстанцаў.**

камі гадоў, што гэта — ня чужынцы для краю, якія нясуць з сабой дзікія пагромы, а тыя ж лагодныя вясковыя суседзі–беларусы, якія па–братску жылі ўвесь час — тады, кажу, мяйсцовая жыдоўская люднасьць і ў м. Цімкавічах, і ў м. Капылю, і ў іншых мяйсцох начала ня толькі спачуваць беларускім фармацыям, але нават і рэальна памагаць ім, зьбіраючы ахвяры і помач беларускаму жаўнеру рэчамі і грашмі. Мы спадзяёмся, што ў хуткім часе жыдоўскае грамадзянства і другіх местаў і мястэчак нашых зразумее гэта і па–іншаму пачне адносіцца да ўсяго беларускага і перш за ўсё да ідэі дзяржаўнасьці беларускай.

Вяртаючыся да першай беларускай брыгады, ня можэмо не адзначыць, што, нягледзячы на тое, што з чыста вайсковага боку, асабліва з боку матэрыяльнага, там шмат чаго бракуе, аднак той запал і гарт у душы, які нясуць з сабой нашы нацыянальныя барацьбісты, даюць надзею на перамогу перашкодаў на дарозе да адраджэньня дзяржаўнага жыцьця нашай дарагой Бацькаўшчыны.

С. Р.

*Беларускае Слова. 1920. 6 сьнежня.*

**ГРАМАДЗЯНЕ!**

Нясіце ахвяры рэчамі і грашмі! Складайце ахвяры ў «Гурткі беларускіх кабет»[120] ці ў Беларускія Нацыянальныя Камітэты[*] для перасылкі іх беларускаму паўстанцу — жаўнеру на Случчыне! Наша многапакутная Маці–Беларусь вымагае гэтага ад вас!

***З Случчыны***

Атрыманы весткі аб тым, што вайсковымі аддзеламі Беларускай Народнай Рэспублікі забрана ў палон да 300 чырвонаармейцаў, у тым ліку 3 афіцэры. Пасьля абезаружаньня палонных адпусьцілі на волю, але ніхто з іх ня хочаісьці назад, да сваіх.

З апошніх вестак даведываемся, што передавыя беларускія вайсковыя аддзелы стаяць у 10—12 верст. на захад ад Слуцку.

***Урачысты дзень у месьце пастою першай брыгады войск БНР***

(Ад уласнага корэспондэнта «Беларускага Слова»)

28 лістапада а 13 гадзіне было адпраўлена набажэнства сьвяшч. С–кай царквы[**] за ўдачы аружжа войск Беларускай Народнай Рэспублікі ў змаганьні іх з ворагамі нашай Бацькаўшчыны–Беларусі.

Кругом царквы натоўп народу. Дзень марозны, прыгожы. Сонейка сьвеціць, кідаючы на зямлю мільён іскаркаў, якія, адбіваючыся ад заінеўшага дрэва будынкаў, ад каменьняў, прымушаюць заплю-

[*] Дзейнічалі ў той час у Беларусі ды ў замежжы (Літве, Польшчы ды інш.).
[**] Праваслаўная царква ў м. Семежава.

шчываць вочы праходзячых. Хараство абразкоў прыроды ставрае ў душы чалавека нейкі сьвяточны настрой. Кожны жыхар м. Сем–ва, кожны з жаўнераў, сабраўшыхся ў грамады каля царквы і на пляцу, адчуваюць сьвята; на тварох сабраўшыхся маладых жаўнераў–беларусаў напісана радасьць, у марозным паветры гучна разносяцца галасы, чуцен сьмех, жывая гутарка, гоман грамады.

З званіцы С–кай царквы панясьліся а 10 гадзіне гукі званоў. Настрой чамусьці такі, што кожны гук глыбака западае ў душу, штосьці чыстае, непадробленае нясе, сьвятое. З усіх канцоў мястэчка і з бліжэйшых вёсак надыйходзяць да царквы людзі — мужчыны, кабеты, дзеці. Уважліва і ціха моліцца селянін аб спакою і лепшай долі сваёй і сваёй Бацькаўшчыны.

Кончылася абедня. На пляцу, перад царквой, сталі стройныя шарэнгі аддзелаў першай беларускай брыгады пад Нацыянальным штандарам.

Па сканчаньні абедні сьвяшч. сказаў гарачую прамову, у якой адзначыў, што Бацькаўшчына–Беларусь зруйнаваная, зьнішчаная войнамі і акупацыямі, стогне і цяпер пад цяжкай пятой ворагаў. Праца наша над адбудовай Бацькаўшчыны надта трудная, змаганьне з магутнымі ворагамі патрабуе вялікіх высілкаў, але ня трэба забывацца, што «ня ў сіле Бог, а ў праўдзе». А наша справа беларуская — справа правая, сьвятая. Пачынаем вялікую акцыю, дык памолімся ж перад пачаткам сьвятой працы — закончыў сваю прамову вясковы бацюшка — каб Бог дапамог беларускаму воінству выгнаць ворагаў з нашай многапакутнай зямелькі, Маці–Беларусі. Шчыра моляцца жаўнеры, люднасьць. Канчаецца малебен, загудзелі званы С–кай царквы і гучна разносіцца «многалецьце» беларускаму воінству.

Дзень 28 лістапада вечна астанецца памятным у прысутных на набажэнстве і ў жыхароў С–ва.

А. Я.*

*Беларускае Слова. 1920. 8 сьнежня.*

### *Першыя пахароны ў мейсцы пабыту брыгады войск БНР*

*(Ад уласнага корэспондэнта «Беларускага Слова»)*

На вайне як на вайне. Бываюць вясёлыя, радасныя хвіліны, але бываюць і хвіліны смутку, жалобныя.

Пішу пад сьвежым уражаньням адбыўшыхся ў С–ве пахаронаў першых ахвяр на фронце за незалежнасьць нашай дарагой Маці–Беларусі. 29 лістапада а 1 гадзіне ўдзень была адпраўляна паніхіда ў С–ай царкве па жаўнерах першай беларускай брыгады, забітых у барацьбе з бальшавікамі. На гэтыя першыя ўрачыстыя пахароны сыйшліся натоўпы народу; царква была паўнютка. Ліюцца гукі жалобных сьпе-

* Крыптанім А.Якубецкага.

ваў, мігацеюць сьвечкі, разносяцца гукі жалобнага звону. Каля трунаў з нябошчыкамі пастаўляны сьвежыя елкі, труны пакрыты беларускімі нацыянальнымі штандарамі. Аддаючы апошнюю чэсьць паўшым барацьбістам, жаўнеры, ўсе сяляне і кабеты трымаюць сьвечкі ў рукох. Каля трунаў стаіць ганаровая варта. Плывуць гукі жалобнага набажэнства, чутны ўсхліпываньня кабет.

Гляджу на нерухомыя постаці жаўнераў, што стаяць на ганаровай варце пры трунах; спакойныя, замысьленыя. Што думаюць гэтыя маладыя, рослыя дзяцюкі? Аб чым мысьліць гэты малады хлапчына з такім чыстым, сьветлым, прыгожым абліччам пад жалобныя гукі «Са Сьвятымі упокой»?..

Скончылася паніхіда... Труны з целамі нябошчыкаў падымаюць на плечы афіцэры і жаўнеры і нясуць з царквы на могілкі. Аркестар духавы сьпераду іграе жалобны марш, ідзець царкоўны хор, высока на плячох калегаў пасоўваюцца да могілак труны, ціха і мерна ідуць у прыкладным шыху роты стральцоў, коньніцы, далёкім поясам ідзець цывільная люднасьць.

Першыя рады жалобнай працэсіі падыйходзяць да прыгатаваных могілак, дзе над жаўцеючым «долам» калышацца нацыянальны штандар.

Пачаліся прамовы, гарачыя, пранікаючыя ў душу. Выяўлялася нядоля беларуская, выяўляліся клятвы змагацца да апошняга, выяўляліся патрэбы гэткіх сьвятых ахвяраў на аўтар многапакутнай Бацькаўшчыны. І калі ў царкве плакалі толькі кабеты, дык тут ня вытрымоўвалі жалю і сяляне–мужчыны. Прысутныя заліваліся сьлязьмі, плач кабет стаўся саўсім голасным. Але пасьля пахарон, на абліваўшыхся сьлязьмі абліччах, можна было заўважыць адвагу, рашучасьць і нязломнасьць у барацьбе з ворагамі Бацькаўшчыны.

Паплылі ў марозным паветры гукі і словы Беларускага Нацыянальнага гімну; гімн зьмяняецца бравурным напевам «беларускай марсэльезы»[121] з яе «прагонім з зямлі палачоў».

Апускаюцца ў «дол» труны з першымі ахвярамі. Тройчы даецца залп, салют барацьбістам. Далёка разносіцца рэха ад сухіх стрэлаў. Кожны з прысутных лічыць сваім абавязкам кінуць жменьку сьвежага пяску на сьвежыя труны. Чутны клятвы помсты за маладыя ахвяры. Вось ужо і сьвежы магільны насып гатоў... Патроху пачынаюць расходзіцца. Сумна... не — сумна і радасна. То ж першыя ахвяры ў тэй вызваленчай акцыі, якую мы так сьмела распачалі. То ж першыя ахвяры таго, на што ўсе мы ідзём. Толькі тут кожны з нас яшчэ глыбей уцяміў высокасьць і сьвятасьць ідэі, якая паставіла нас на самаахвярную барацьбу. І хоць, можа, усіх нас чакае лёс сёньняшніх ахвяр, усё ж мы не ўхілімся ніколі ад мукаў і сьмерці ў барацьбе за незалежнасьць нашай дарагой Маці–Беларусі.

А. Я.

*Беларускае Слова. 1920. 9 сьнежня.*

### *Цяжкія баі Першай беларускай брыгады з бальшавікамі*

З Ліды надыйшла да нас вестка: у раёне Семежово адбываліся апошнімі днямі крывавыя баі паміж беларускімі аддзеламі і бальшавікамі. Частка беларускіх аддзелаў разьбіта і перайшла польска–бальшавіцкую граніцу 7 сьнежня ў раёне вёскі Ветчыцы*. Аддзелы гэтыя цяпер разаружаюцца палякамі. Да гэтага часу разаружана 30 афіцэраў і 400 жаўнераў.

Гэта сумная вестка, атрыманая намі з крыніц неофіцыяльных, патрабуе яшчэ падцьверджаньня.

### *Паўстаньні на Меншчыне*

Агенты першай брыгады падыймаюць на тылох у большавікоў сялянскія паўстаньні. Паўстанцы зьнішчаюць чыгуначную, тэлеграфную і тэлефонную камунікацыю, адбіваюць абозы, адбіраюць аружжа. Паўстанчыя атрады павелічаюцца з кожным днём. Забезпакоеныя бальшавікі, сьцягіваючы сілы, ужываюць суровыя рэпрэсіі ў адносінах да захвачаных у палон паўстанцаў, а таксама і да люднасьці, ім спачуваючай.

### *Партызаны*

Партызанскія атрады, якія прарваліся на тылы бальшавікоў, у далейшым працягу робяць напады. У районе Міль[к]овіч, Слуцкага павету, аддзел партызанаў у 60 чал. пад камандай сотніка Дзяргача[122] ўварваўся ў м–ко Старобін, дзе захапіў 7 камуністаў, членаў бабруйскай чрэзвычайкі. Гарнізон мяйстэчка, у ліку каля 200 чалавек, зьніштожан, а чэкістые павешаны на тэлеграфных стаўбах на пляцу проці клюбу «Інтэрнацыяналь». Захоплены 6 кулямётаў і 300 вінтовак. Гэты самы аддзел, у районе Ясмовіч**, другім набегам зьніштожыў два эскадроны комуністычнай групы Дотэля. Захоплена здабыча: аружжа і коні.

### *Партыя «Зялёнага Дуба»*

*Баранавічы (Russpress)*

Тые, што прыбылі з мяйсцовасьцяў, занятых бальшавікамі, паведамляюць, што ў аколіцах Слуцка і Койданава зьявіліся партызанскія аддзелы «Беларускай сялянскай партыі Зялёнага Дуба». «Зялёнадубцы» ўвесь час робяць напады на бальшавіцкія аддзелы. Гэтыя партызаны пашыраюць у вялікім ліку экзэмпляраў проклямацыі. Адна з іх падпісана «Беларускай селянскай партыяй Зялёнага Дуба», а другая атаманам «зялёнадубцаў» — Дзяргачом. Як вядома, сялянская партыя «Зялёнага Дуба» яшчэ ў 1918 г. была арганізавана цяперашнім старшынёю Беларускага Палітычнага Камітэту[123] п. В. Адамовічам.

* Недакладна. Магчыма, Ёдчыцы (Іодчыцы).
** Магчыма, Яскавіч.

***Аб помачы беларускаму паўстанцу–жаўнеру***

«Гурток кабет помачы беларускаму жаўнеру» пры Горадзенскім Беларускім Нацыянальным Камітэце[124] зьвяртаецца з просьбай да грамадзянства, спачуваючага беларускай справе, дапамагчы мажлівымі ахвярамі беларускаму жаўнеру першай брыгады.

Пажадана, каб ахвяры складаліся з пільна патрэбных рэчаў, як — бялізна, мэдыкамэнты, цёплае адзеньне і інш.

Ахвяры прыймаюцца штодня ў будынку Беларускага Нацыянальнага Камітэту (вуліца Ожэшковай, № 28).

*Беларускае Слова. 1920. 12 сьнежня.*

***Беларусь у агні паўстаньня***

Факт адбыўся! Тое, чаго найбалей баялася расейская і польская эндэцыя, сталася! Беларускі селянін прачнуўся! Мы стаімо цяпер перад фактам, каторы яскрава гаворыць, што бальшавіцкая акупацыя на Беларусі запэўна ўжо акупацыя апошняя, што нацыянальны і эканамічны ўціск, тэрор і беспраўе бальшавіцкага камісарадзержаўя змусіў самыя шырокія масы беларускага селянства ўскалыхнуцца і, устаўшы на роўныя ногі, сказаць прад усім сьветам: «Годзі апекі! Мы самі збудуем сабе новае жыцьцё!» Цяпер беларускі селянін ужо пераканаўся, што ніякая апека не забясьпечыць яму самобытнага істнаваньня, што кожны народ, каторы ўжо цяпер цешыцца сваей незалежнасьцю і карыстае ўсімі яе скуткамі, здабыў яе своёй уласнай працай, без ніякай помачы збоку.

І вось ён падняўся супроці сваіх угнетацеляў, каб бараніць свае чалавечыя правы. Усход Беларусі гарыць у паўстаньні. І паўстаньне гэтае ня ёсьць, як думае польская эндэцыя, «скуткам інтрыгі кучкі беларускіх дзяячоў» і не «скуткам эканаміцкага ўціску». Не, гэта самы праўдзівы стыхійны беларускі нацыянальны рух. Балей таго, рух гэты распачаўся па ініцыятыве самога беларускага селянства, а інтэлігенцыя пазьней пачала наязджаць у паветы, ахопленыя паўстаньнем, каб падтрымаць свой народ у яго вызваленчым руху.

І цяпер, калі беларускі народ адваяваў сабе незалежнасьць, ніякая сіла, ніякія абецанкі камуністычнага раю не здалеюць супакоіць беларускага селяніна і змусіць яго злажыць аружжа раней, чымся ён здабудзе сабе незалежнасьць, бо на штандарах паўстанцаў напісана: «На касьцёх сваіх збудуем волі гмах». І мы верым, што тыя людзі, каторыя сталі пад гэты штандар, не застановяцца ні перад якімі ахвярамі, і бальшавіцкая акупацыя на Беларусі — сапраўды ўжо апошняя акупацыя, абы толькі яшчэ больш беларускай краёвай інтэлігенцыі адгукнулася на кліч свайго народу і пасьпяшылася яму на дапамогу.

Ул. К.[125]

***Першая брыгада войск БНР з адвагай і мужнасьцю б’ецца***

З места новага пабыту Штабу першай брыгады войск Бел. Нар. Рэсп. намі атрымана вестак ад 9 гэтага сьнежня, што брыгада з мужнасьцю адбіваецца ад напіраючых у пераважаючым ліку бальшавіцкіх аддзелаў і што 2 роты, складаўшыя асобны ад 1 брыгады аддзел, прымушаны былі пад напорам вялікіх сіл праціўніка адступіць да лініі польскіх войск, дзе былі разаружаны.

*Беларускае Слова. 1920. 14 сьнежня.*

***Зьдзек бальшавікоў над беларускімі палоннымі***

Намі атрыманы весткі з беларускага паўстанчага лягеру на Случчыне. У часе аднэй з гарачых стычак з бальшавікамі 3 конных беларускіх разьведчыкі папаліся ў бальшавіцкі палон. У Слуцку, водзячы гэных першых палонных па вуліцах, бальшавікі страшэнна зьдзекаваліся над імі. Прабаваўшыя з публікі заступацца за гэтыя няшчасныя ахвяры ці нават выяўляўшыя толькі паміж сабой жаль і спагаду да гэных бедакоў арыштоўваліся на мейсцы.

Змучаныя, зьбітыя палонныя прасілі ў сваіх мучыцеляў, як ласкі, дабіць іх.

*Беларускае Слова. 1920. 15 сьнежня.*

***У Першай Беларускай Брыгадзе***

З штабу 1–й брыгады войскаў БНР, якія змагаюцца з бальшавікамі, рэдакцыяй «Б. Сл.» атрымана копія ніжэй зьмешчанага прыказу:

ПРЫКАЗ № 1

ПА ВОЙСКАМ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

Афіцэры і жаўнеры!

Па загаду найвышэйшае Ўстановы Беларускае Народнае Рэспублікі я прыняў Вышэйшае камандаваньне над Вамі, каб вясьці Вас вызваляць Бацькаўшчыну з–пад ярма чужынцаў.

Досыць крыўды! Мы не пакінем змагацца, пакуль жыхар Беларусі не зробіцца праўдзівым гаспадаром сваёй зямлі.

Устаноўчы Сойм Беларускі, выбраны на засадзе агульнага, простага, патаемнага, роўнага і прапарцыянальнага, без розьніцы полу і нацыянальнасьці, выбарчага права будзе скліканы адразу ж пасьля вызваленьня Беларусі ад наездаў, які выпрацуе законы, патрэбныя народу нашаму.

На Ўстаноўчым Сойму я жыцьцём сваім прысягаю перад народам Беларускім стаяць на грунце Ўстаўных Граматаў, абвешчаных Радаю Беларускае Народнае Рэспублікі.

Афіцэры і жаўнеры! Наш шлях па вызваленьню Бацькаўшчыны мусіць быць шляхам вялікае пашаны да жыцьця, дабрабыту і ідэёвых перакананьняў усяго нашага жыхарства.

Я заклікаю Вас трымацца строгае дысцыпліны, бо толькі яна зробіць моцную армію, якая здоляе споўніць акрэсленае заданьне.

Воля нашае Бацькаўшчыны ў нашых руках. Ведайце, што толькі ў Незалежнай і Непадзельнай Беларусі народы знойдуць здаваленьне сваіх патрэбаў.

19 сьнежня 1920 года
в. Морач
Галоўная Стаўка

Якубецкі А., Маёр.
Галоўны Камандант Войскаў
Беларускае Народнае Рэспублікі

*Беларускае Слова, 1920. 29 сьнежня.*

***У Першай Беларускай Брыгадзе***

**Горадня, 3.I.21**

На беларускі фронт прыбыла дэлегацыя беларускіх кабет, якая прывязла штандар для Першага беларускага палку–стральцоў. На штандары напісаны: «Тым, якія першымі паўсталі і пайшлі ўміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Другі падобны штандар высланы ўжо для другога палку.

*Беларускае Слова. 1921. 3 студзеня.*

***На Случчыне***

***Баявыя заслугі беларускіх афіцэраў***

1 студзеня 1921 году Галоўны Камандант войскаў Беларускай Народнай Рэспублікі Андрэй Якубецкі за баёвыя заслугі павысіл у шаржы такіх афіцэраў з 1–га Слуцкага палка стральцоў Першай брыгады:

У капітаны — паручнікаў Янку Залескага, Адама Курыловіча, Паўла Бранавіцкага, Настася Кахановіча і Язэпа Багушэвіча.

У ротмістры — паручнікаў Аляксандра Міррановіча. У паручнікі падпаручнікаў Паўла Яновіча, Якуба Сямашку, Нікодыма Кернажыцкага, Янку Капца і Гіпаліта Бранавіцкага.

Сухі рапарт палкавой каманды гэтак апісвае баёвыя заслугі некаторых гэтых афіцэраў, просячы іх авансаваньня:

Пар. Залескі Янка — за тое, што ён у часе наступа на мястэчка Семежава 18 сьнежня выбіў з мястэчка значныя сілы чырвонаармейцаў, пры гэтым захапіў 60 палонных, 1 кулямёт, абоз з канямі і шмат усялякага вайсковага дабра…

Падпар. Бранавіцкі Гіпаліт — за тое, што ён у начы 30 лістапада на 1 сьнежня, будучы акружан у м. Вызьне вельмі значнымі сіламі расейцаў, адважна бараніў масты на рацэ і не гледзячы на тое, што расейцы мелі 4 кулямёты, якімі яны навакол абстрэльвалі мястэчка, здолеў прарвацца з палавінаю кампаніі праз іхныя ланцугі, ня меўшы стратаў.

Пар. Бранавіцкі Павал за тое, што ён, камандуючы батальёнам пры наступе на м. Вызну і будучы акружаны вельмі значнымі сіламі расейцаў, прабіўся праз іх пяхотныя ланцугі бяз ніякіх страт з свайго боку і адважным ударам на бальшавікоў змусіў іх у беспарадку адхлынуць, пры гэтым узяў 140 палонных і шмат усялякага вайсковага дабра.

Пар. Кернажыцкі Нікадым за тое, што дасьвіта 22 лістапада з мужнасьцю адважных жаўнераў заатакаваў вёску Васільчыцы, разьбіў 6–ю кампанію расейцаў і захапіў іхную канцылярыю, узяў у палон 3 камуністаў і некалькі жаўнераў...

Падпар. Копец Янка за тое, што ён 25 лістапада, заатакаваўшы са сваёй кампаніяй засьценак Кажушкі, дзе стаяў бальшавіцкі батальён з 3–ма кулямётамі, разьбіў яго, захапіўшы 28 палонных, пры гэтым забіты 4 бальшавіцкіх камісары і ўзята шмат вайсковага дабра. З свайго боку страт ня меў...

Пар. Курыловіч Адам — за тое, што ён, камандуючы кампаніяй пры наступу на м. Семежава, зайшоўшы ў тыл бальшавікоў, быў акружаны вельмі значнымі іх сіламі, але прабіўся праз іхныя пяхотныя ланцугі, прымусіўшы пры гэтым бальшавікоў у безладзе адхлынуць, пры гэтым захапіў 27 палонных і шмат вайсковага дабра...

*Беларускае Слова. 1921. 7 студзеня.*

## 68. Інфармацыя пра паштовыя маркі слуцкіх паўстанцаў[126]

**Не раней сьнежня 1920 г.**

Удостовѣреніе

Сим удостовѣряется, что 1 Декабря 1920 г. штабом белорусской бригады (гор. Слуцк Минской губ.), оперировавшей против большевиков, были выпущены марки с перепечаткой на польских марках достоинством в 25 грошей на 5 грош. (зеленая) и 50 грош. на 15 грош. (розовая).

Перепечатка: ручной чернильный штемпель, изображающій «погоню» и буквы «Ч.Р.Сл.» (Часовая рада Случчыны).

Всего успѣло выйти из полевой почты достоинством в 50 грош. около 200 шт. и достоинством в 25 грош. около 20 шт., остальныя погибли во время пожара.

В настоящее время сохранилось только нѣсколько штук: 3 (три) комплекта.

Подлинность представленных здѣсь марок удостовѣряем.*

*Архівы БНР. Т. І. Кн. 2. С. 1313.*

* Ні аўтар, ні дакладная дата, ні іншыя абставіны зьяўленьня гэтага дакумэнта невядомыя.

## 69—70. Слуцкія падзеі ў інтэрпрэтацыі бальшавіцкіх газэтаў

**Сьнежань 1920 г.**

***Слуцк***

Сейчас же по освобождении Слуцка туда послан ЦК товарищ с литературой и инструкциями для восстановления Слуцкой организации КСМБ.

*Звезда*[127]. *1920. 3 декабря.*

***«Паўстаньні проціў бальшавікоў».***

Нам ня раз прыходзілася чытаць у нашых газэтах аб тых цэбрах гразі, якою ўвесь буржуазны друк аблівае рабоча–сялянскую ўладу дзеле таго, каб трымаць сваіх сялян і работнікаў у цемры і даваць ім фальшывые весткі. Так, напрыклад газэта «Новое Варшавское Слово» ад 25 лістапада з крыніц Беларускаго бюро друку[128] паведамляе: «*З розных канцоў паведамляюць, што ва ўсім Менскім вокрузе пачаліся проціўбальшавіцкіе паўстаньні. Арганізатарамі паўстаньня з'яўляюцца левые беларускіе элемэнты, выступаючые пад лёзунгам незалежнай Беларусі і скліканьня беларускага нацыянальнага сходу. Паўстанцы занялі мястэчкі Гайна і Лагойск на поўнач ад Менску*».

Была часта некалькі дзён таму назад, калі белы друк пісаў аб тым, што і Менск заняты паўстанцамі. Гэта відаць з далейшых слоў:

«*Весткі аб заняцьці Менска не пацьверджаюцца.*»

Мялі Ямеля, твая нядзеля.

Не за гарамі тая часіна, калі працоўная бедната Захаду, узяўшы ўладу ў сваю рукі, зробіць сваё друкаванае слова праўдзівым і чэсным.

С. Б.[129]

*Савецкая Беларусь. 1920. 12 сьнежня.*

## 71. Вытрымкі з камунікатаў штабу Першае Слуцкае брыгады Войскаў БНР[*]

**Сьнежань 1920 г.**

<...>

**4.XII.1920 г.** Рота стральцоў нашых войск пры націску чырвоных на Семежава была акружана ў засьценку Вялікі і Малы Страпінь[**].

Рота прарвалася праз рады чырвоных і адышла ў напрамку на Вялікі Рожын. У гэтым месцы рота ўначы наткнулася на бальшавіцкі карацельны атрад. Забілі камісара і 15 чырвонаармейцаў узялі ў палон. Захоплена канцылярыя атраду і забраны гурт скаціны і коняй, што зрэквізавалі бальшавікі ў сялян в. Вялікі Рожын (у сем'яў дэзэрціраў). Усё зрэквізаванае было аддадзена сялянам.

[*] Першы вайсковы камунікат 1–й Слуцкай быгады войскаў БНР за 27 лістапада 1920 г. зьмешчаны ў газэце «Беларускае Слова» за 4 сьнежня 1920 г. (гл. с. 75).
[**] Магчыма, Страхіні.

**5.XII.** Адбыліся цяжкія баі пад Капылём і Семежавам. Бел[аруская] рота цэлы дзень бараніла м. Вызну проціў цэлага бальшавіцкага батальёну, маючага некалькі кулямётаў. За недахопам патрэбных сродкаў абароны аддзел прымушаны быў адступіць на захад. Бальшавікі панесьлі значныя страты. З боку беларусаў таксама шмат раненых. У бел[арускім] войску адчуваецца недахоп аружжа і амуніцыі.

Уначы з **9** на **10.XII.** вывядоўчы аддзел стральцоў зрабіў налёт на вёскі Крывасёлкі й Навасёлкі, дзе забралі 28 палонных.

**10.XII**. Зьявіліся да штабу 1–ай Белар[ускай] Брыгады 18 чалавек «зялёных» з аружжам і набоямі. «Зялёныя» прарваліся праз рады ворагаў і прылучыліся да войск БНР.

Уначы з **11** на **12.XII**. бел[арускі] аддзел разьведкі заатакаваў вёску Старын. Узята ў палон 10 чырвоных і адабраны транспарт у мясц[овай] люднасьці са збожжам. Усё зьвернена ўласьнікам.

Уначы з **13** на **14.XII.** камандзір вывядоўчага аддзелу Першага Слуцкага Палку Стрэльцоў пры помачы кавалерыйскага аддзелу зблізіліся да м. Семежава, якое было занята карацельным бальшавіцкім атрадам і пасьля крывавага бою занялі мястэчка. Карацельны бальшав[іцкі] атрад зусім зьнішчаны. Вораг страціў забітых і раненых 50 чал[авек].

З нашага боку 3–х раненых.

З **17** на **18.XII.** мы занялі м. Піліпавічы, Байчацін*, Страхін і м. Семежава. Узята 25 палонных і здабыта 1 кулямёт з набоямі, шмат стрэльбаў, набояў, гранатаў, палёвая кухня, транспарт з коньмі.

З **18** на **19.XII.** мы занялі Вызну. 50 чырвонаармейцаў забіта і шмат ранена, а таксама захоплена значная ваенная здабыча.

**19.XII.** а 10–й гадз[іне] раніцы бел[арускія] аддзелы пад націскам ворага адышлі на старыя пазыцыі.

З **19** на **20.XII.** адступілі мы на лінію Колкі — Морач — Узнога.

**20.XII.1920 г.** У раёне Семежава пачалі адыходзіць па сканчэньні эвакуацыі Семежава на лініі Лубенец — Урведзь, дзе мы злучыліся з рэзэрвамі. <…>

**30.XII.1920 г.** Брыгада перайшла раку Лань і была раззброена польскім войскам. Аднак пэўныя баёвыя групы, заснаваўшы паўстанскую арганізацыю, дасталіся на тылы бальшавікоў, дзе і далей праводзяць баёвую дзейнасьць. Раззброеныя аддзелы 1–ай Брыгады Войск БНР часова інтэрнованыя ў ваколіцах Сіняўкі (на ўсход ад Баранавіч).

Матэрыяльнае становішча тых аддзелаў цяжкае. Патрэбная ёсьць скорая помач грамадзянства.

Пар[учнік] Арцышэўскі**
за Шэфа Штабу Войск БНР.

*Новы шлях. 1937. 25 лістапада. С. 6—7.*

* Правільна — Бучацін.

** Памылкова пададзена прозьвішча афіцэра штабу 1–е Слуцкае брыгады, трэба — Арцышэвіч.

## 72—83. З апэратыўных данясеньняў 16–е савецкае арміі пра ваеннае становішча на Случчыне

**Лістапад — сьнежань 1920 г.**

Срочно, секретно
ТЕЛЕГРАММА
НАЧРЕГИСТРОЗАП[*]
Могилев. 12 ноября 1920 г.

<…> Поляки готовились очистить Слуцк и отойти на линию реки Лань. Штадив 11[*] был расположен в м. Филипповичи, что в 40 верстах зап. Слуцка. <…> В Слуцке организовалась Белорусская рада, пославшая представителей в сейм с ходатайством об оставлении в Слуцке польвойск. В связи с этим сейм затребовал военпредставителей для совещания в вопросе об оставлении Слуцка. По тем же сведениям, в районе Слуцка присутствия войск Балаховича не обнаружено. Провиантом, деньгами, обмундированием снабжает Балаховича польправительство. Легионеры ждут скорейшего заключения мира. Настроение жителей враждебное совласти. <…>

Начрегистроштарм 16[***]
и военком
Завинформацией Ю.Жебровский

*РДВА, ф. 201, воп. 3, спр. 624, арк. 254—254адв. Завераная копія.*

Телеграмма
Начоперупрзап[****]
Могилев. 24 ноября 1920 г., 19 часов. Срочно. Секретно.
РАЗВЕДЫВАТЕЛЬНАЯ СВОДКА ШТАРМ 16 К 19 ЧАСАМ.

Слуцкое направление: 23/XI мелкие партии бандитов пытались произвести налет на д. Юшковичи, что 12 в. ю/в. м. Любань[*****], захватив часть нашей заставы. 1) Войсковой разведкой присутствие в д. Бондари, что в 7 верстах ю/в г. Слуцка, отряда бандитов не подтвердилось. 3) По словам местжителей в лесу в районе д.Домброво скрывается около 200 бандитов. По словам лица, прибывшего из Слуцка, мобилизованные Балаховичем в этом районе дезертиры–красноармейцы направляются в Несвиж. <…>

Ноу–16[******] Военком Эстрин
Начразотодарм[*******] Шварц

*РДВА, ф. 201, воп. 3, спр. 592, арк. 204. Завераная копія.*

[*] Начальніку аддзелу рэгістрацыі данясеньняў Заходняга фронту. Копіі ўсіх тэлеграмаў былі дасланыя яшчэ ў некалькі пунктаў.
[**] Штаб 11–е польскае дывізіі.
[***] Начальнік аддзелу рэгістрацыі данясеньняў 16–е савецкае арміі.
[****] Начальнік апэратыўнага ўпраўленьня Заходняга фронту.
[*****] Відаць, памылка ў дакумэнце. В. Юшкавічы знаходзіцца ў 12 вёрстах на паўночны захад ад Любані.
[******] Начальнік апэратыўнага ўпраўленьня.
[*******] Начальнік аддзелу выведкі асобнай арміі.

Срочно, секретно

ТЕЛЕГРАММА
НАЧРЕГИСТРОЗАП
Могилев. 26 ноября 1920 г.
РЕГИСТРАЦИОННАЯ РЕГИСТРОШТАРМА 16 к 6 час.

<…> По тем же сведениям, в районе Слуцка разъезжают конные отряды Балаховича, не принадлежащие определенным частям, с целью мобилизации и вербовки добровольцев, отряды большей частью без оружия. В Слуцке организовавшаяся Белорусская рада (когда — не указано) производит вербовку добровольцев и отправляет их в Семежево. Молодежь поляки заставляют записываться добровольцами ради защиты Белоруссии, записываются ежедневно до двухсот человек почти исключительно дезертиры, боясь расстрела с приходом красных, белорусской радой навербовано около 2000 человек, которыми хотят оказать сопротивление красным при передвижении на государственную границу. Регулярных войск Балаховича в районе Слуцка нет. Поляками распускаются слухи, которым охотно верит местное население, что большевики должны отойти до Днепра, а поляки до Буга, большевики этого не исполняют, потому поляки отходят до реки Лань. Это не дает Белоруссии быть самостоятельной. В случае поражения Балаховича поляки помогут Белоруссии. <…>

Начрегистроштарм–16
и военком[*]
Зав.информацией Ю.Жебровский

*РДВА, ф. 201, воп. 3, спр. 624, арк. 338—338адв. Завераная копія.*

Срочно, секретно

ТЕЛЕГРАММА
НАЧРЕГИСТРОЗАП
Члену РВС тов.Мулину
Командарму 16
Могилев. 30 ноября 1920 года.

<…> Поляки покинули Слуцк 23/XI в 11 часов утра. 48–й и 47–й пех. полки отходили на государственную границу <…> Штаб 11–й дивизии 20/XI выехал на автомобилях в направлении Несвижа, где, по слухам, должен остановиться. Того же числа 18 автомобилей перевозило из Слуцка в Семежево добровольцев, завербованных белорусской радой. Белорусская рада выехала из Слуцка в Семежево 21/XI, на месте новой стоянки формирует 2–й запасной полк «обороны Белоруссии» 3–хбатальонного состава, маршевые роты этого полка отправляют пополнение Балаховичу, командир полка капитан КРА-

[*] Подпіс неразборлівы.

ШИНЕВСКИЙ, полку недостает винтовок, пулеметов вовсе нет. По словам местных жителей, в Синявке находятся части отряда атамана Искры, к нему присоединился отряд бандитов под командой прапорщика ХАШМОНОВА, происходящего из дер. Новодворцы, что в 2 верстах южнее Слуцка (по местному дер. называется Ячево). Нахождение Белорусской Рады в нейтральной зоне поддерживается поляками, которые дают обмундирование белорусским частям: старые папахи, такие же обмотки, ботинки, брюки и френчи. Кокарда у солдат Белорусской Рады — череп со скрещенными костями, на рукавах национальная белая лента, в середине красная, некоторая часть матерых балаховцев носит скрещенные ленты на груди и на рукаве надписи: на красном фоне черными буквами «Бей жидов, спасай Россию» и на белом фоне красными буквами «Земля и воля крестьянам». <…>

Зам. Начрегистроштарм–16
и военком разведки Ю.Жебровский
За зав.информацией — Ю.Васильев

*РДВА, ф. 201, воп. 3, спр. 624, арк. 368—368адв. Завераная копія.*

Делегат связи от 8 стр. див.
при Штабе 11(Польской) дивизии
2 декабря [19]20 г.
Барановичи.

Делегату связи 16 армии при Штарме 4 (Польской)

<…> Во время пребывания моего в Слуцке в городе было замечено много личностей, одетых в Русскую форму, выдававших себя за солдат и офицеров Балаховича. В здании мужской гимназии 16 ноября состоялся съезд Белоруссов под председательством брата Балаховича* (см. Нов. Варшав. Слово № 52/271 от 28/XI). На улицах были расклеены афиши с подписью Национ. Белорусск. Комитета с призывом встать на защиту против большевиков, узурпаторов власти, призывая бить коммунистов и комиссаров, а также были расклеены объявления с благодарностью Савенкову[130], Пильсудскому и всем представителям Антанты за дело помощи в организации войск Балаховича. Афиши через несколько часов были неизвестно кем сняты. Спустя два дня Польским Командованием был расклеен приказ, карающий Полевым Судом расклейку подобных афиш. 24/XI (вечером) накануне отхода Штадива 11 из Слуцка ко мне явились личности, назвавшие себя Старшиной Слуцкой Рады и Поручиком, Командующим войсками Слуцка, с протестом

* Маецца на ўвазе стрыечны брат ген. Ст. Булак–Балаховіча Язэп (Юзік), які камандаваў адным зь ягоных кавалерыйскіх аддзелаў. Прысутнічаў назіральнікам на зьезьдзе Случчыны. У пачатку 1922 г. забіты чырвонымі партызанамі ў Белавескай пушчы.

[против] будущего занятия Слуцка нашими войсками и с заявлением, что со стороны Слуцкой Рады будет оказано вооруженное сопротивление. Как лицо, не уполномоченное входить в какие–либо переговоры с Гражданскими властями, мною было отказано в приеме как представителей Слуцкой Рады, так в протесте, о чем донесено в Штадив 8.

Делегат связи
при 11 (Польской) Дивизии С. Рязнин.

*РДВА, ф. 201, воп. 1, спр. 247, арк. 24—25. Аўтэнт., рук.*

ТЕЛЕГРАММА
НАЧОПЕРУПРЗАП*
<…> Могилев, 5–го декабря 1920 года, 19 часов.
Срочно. Секретно.
Разведывательная сводка Штарм 16 к 19 часам

Слуцкое направление. Наши части, вступившие в нейтральную зону с целью очищения ея от бандитов, 4/12 заняли м. Семежево, захватив 3 пленных 9 роты 1 Белорусского полка I Белорусской бригады. Показаниями перебежчика–комполка 1 Белорусского полка 1 Белорусской бригады, принятого 3/12 в районе м. Романово, и пленных 9 роты того же полка установлено, что полк сформирован в м. Семежево из дезертиров Слуцкого уезда и входит в состав 1 Белорусской бригады, 2–й полк которой еще не сформирован, [1–й] полк занимал участок д. Кулак[и] (4 в. южн. м.Тимковичи) — Гулевичи — с.Желихов (6 в. ю/в м. Семежево), имея третий батальон в резерве при штабе полка в м. Семежево, в полку около тысячи человек (недисциплинированных и необмундированных), вооруженных 400 винтовками, 120 ручными гранатами, одним пулеметом <…>

Передал политком Петров
Принял дежурный Кравчук

*РДВА, ф. 201, воп. 3, спр. 600, арк. 141—141адв. Аўтэнт., маш.*

РИГА ПРЕДСЕДАТЕЛЮ РОССИЙСКО–УКРАИНСКОЙ МИРНОЙ ДЕЛЕГАЦИИ ТОВ. ИОФФЕ[131], МИНСК ПРУВСК** ТОВ. ИОРДАНСКОМУ[132]. КОПИЯ РЕВВОЕНСОВЗАП***.

Могилев. 10 декабря 1920 года.

Семежевский местревком Слуцкого уезда доносит: в деревнях Иодчицы — Новые Мокраны, что в 8—10 верст западнее Семежево,

* Начальнік апэратыўнага ўпраўленьня Заходняга фронту савецкіх войскаў.
** Польско–российско–украинская военная согласительная комиссия.
*** Рэўваенсавет Заходняга фронту.

находятся базы Белорусской Рады. Последние вмешиваются в управление территории восточнее государственной границы, производят реквизицию скота. Предревком Семежевский Василий ЕФИМЧУК и гражданин деревни Подмостье Григорий ФАДЕЕВ уведены войсками Белорусской Рады. Мозырский ревком доносит, что бандами Балаховича в Комаровской волости в первых числах декабря вырезано 96 еврейских семейств. Доводя обо всем этом до Вашего сведения, Реввоенсовет 16 Армии протестует против подобных нарушений мирного договора Белорусской радой, действия которой не могут не происходить без ведома и санкции Польского Правительства, требует возвращения ЕФИМЧУКА и ФАДЕЕВА в Семежево и выражает свое негодование по поводу зверств банд Балаховича.

За командарма 16 ШИЛОВСКИЙ
Зам. член РВС 16 ВРОБОВ
Помначреварм 16 ДОКМАН

*РДВА, ф. 201, воп. 1, спр. 73, арк. 68. Завераная копія.*

Почто–телеграмма № 3955/оп
НАЧРЕВАРМ 16
Могилев. 10 декабря 1920 г.
Секретно, оперативная

По приказанию Наштарм передаю копию нижеследующей телеграммы: «Наштареввоенресп. Копии Наркоминдел тов. ЧИЧЕРИНУ[133], копии тов. ИОФФЕ через Наркоминдел, копии Наштазап, копия Наштаюгозап, копии Наштарм 16.

Без заголовка Серия «Г» только Наштарм 16

МИНСК, 10 декабря 1920 года, 22 часа 55 минут. Передаю текст протеста моего шефу Польделегации от 10 декабря за №689 по поводу безчинств войск Белорусской Рады в районе нейтральной зоны:

Господину Шефу Польделегации.

Командование 16–й Советской Армии сообщает, что в деревне Иодчицы (Новые Мокраны), 8—10 верст западнее Семежево, находятся базы так называемой Белорусской Рады и производят оттуда разбойничьи налеты на нейтральную зону восточнее Государственной границы, вмешиваются в Советское Управление территории, производят реквизиции и конфискации имущества у населения нейтральной полосы и творят насилия над гражданами. Так, например, отрядами названной Рады уведены в первых числах декабря Председатель Семежевского Ревкома Василий ЕФИМЧУК и гражданин деревни Подмостье Григорий ФАДЕЕВ. Признавая так называемую Белорусскую Раду организацией самочинной, основанной при непосредственном участии и помощи интернированного Польшей Балахови-

всем уездным органам и отдельным ведомствам через представителей. Комиссия в целом и по частям выезжает на места для проведения работы быстрейшей ликвидации бандитизма.

2) Во всех уездных городах (взамен упраздняемых Политкомиссий) создаются при Уисполкомах* Комиссии по борьбе с бандитизмом под председательством назначаемого Уисполкомом, желательно заведывающего Отделом Управления, и в составе членов: Завполитбюро**, Начуездмилиции.

*ПРИМЕЧАНИЕ*: 1) Для взаимной информации в состав комиссии входят старший войсковой начальник и военком с правом решающего голоса.

*ПРИМЕЧАНИЕ*: 2) Начальник Отряда Особого Назначения входит в комиссию с правом совещательного голоса по соответствующим вопросам.

*ПРИМЕЧАНИЕ*: 3) В тех уездах, где расположены погранотделения, входит в Комиссию Начпогранотделения с правом совещательного голоса по соответствующим вопросам.

Комиссии борьбы с бандитизмом Белоруссии: а) оказывают всемерную поддержку органам милиции в деле непосредственной борьбы с бандитизмом; б) усиливают работу советских органов и вовлекают крестьян и жителей местечек к активной работе с остатками бандитизма; в) следят и организуют работу отрядов Особого Назначения; г) контролируют состояние охраны границы; д) выделяют уполномоченных для руководства работой Комиссии при районном Управлении Милиции.

3) При районных Управлениях организуется Комиссия борьбы с бандитизмом под председательством уполномоченного Уисполкома в составе членов: Начальника Районного Управления Милиции и Начальника Районного Поста Политбюро. Представители военного командования, Отрядов Особого Назначения, Особпогранотделения привлекаются по мере надобности в состав Районной Комиссии. В пределах своего района Районная Комиссия выполняет те же функции, что и уездная. Районные Комисии руководят и контролируют работу предволисполкомов и волвоенотделов в деле борьбы с бандитизмом и утверждают уполномоченных в деревнях, местечках и хуторах, назначаемых Предволисполкомом из отпускных красноармейцев, коммунистов и вполне надежных крестьян.

Работа по ликвидации бандитизма отдельных органов ведется в следующем порядке:

А) Наркомвнудел и его органы на местах (Заведывающий отделом Управления, районный уполномоченный, Предволисполком, Предсельсовета, уполномоченные при деревнях и местечках и хуто-

* Павятовыя выканаўчыя камітэты савецкае ўлады.

** Загадчыкі кіраўнічых павятовых органаў Чэка — Палітбюро.

рах) проводит и руководит всей работой по укреплению советского аппарата, контролирует работу вол– и сельсоветов, организует конфискацию имущества бандитов и их пособников, выселение семей бандитов и т. д.

Б) Милиция (Начглавмилиции, Начуездмилиции, нач. районных Управлений Милиции, старшие и младшие милиционеры) являются совместно с прибывшими полуротами вооруженной силой, ликвидирующей остатки живой силы бандитов и всецело ответственной за быстрое искоренение бандитизма в крае. Начальникам Уездных Управлений Милиции подчиняется вся милиция уездная, полуроты, находящиеся на территории уезда, и все отдельные отряды, борющиеся с бандитскими шайками в пределах уезда. Сведения о произведенных операциях с указанием числа захваченных, убитых, добровольно явившихся бандитов и дезертиров собираются Начуездмилиции через подчиненные ему органы и в установленное Начальником Главмилиции время доносятся ежедневно в оперсводке на адрес последнего. Во всей работе Начальники Уездных Милиций поддерживают теснейший контакт с органами Политбюро, получая от них полную информацию о результатах разведки бандитизма. Распределение по районам расположения штабов районов и полурот Милиции определено приказом Реввоенсовета Минрайона и последовавшими дополнениями Начглавмилиции. Инструкции по организации службы милиции издаются в развитие сего положения Начальником Главмилиции.

В) Губрозыск и его органы на местах (Уездрозыск, агенты при Районных Управлениях Милиции) способствует своей работой Милиции и помогает быстрой выкачке всего вредного элемента края.

Г) Органы Чрезвычайной Комиссии, помимо выполнения своих обычных функций, являются в целом разведывательным аппаратом, собирающим материалы о действиях и намерениях шаек. Органы Чека своевременно информируют соответствующие органы Милиции и докладывают обо всем относящемся к борьбе с бандитизмом в заседаниях Комиссий. Разведывательные сводки составляются ежедневно на основании имеющихся материалов с мест Бандитским Отделением Чека. Распоряжением Завполитбюро при Районных Управлениях Милиции организуются районные посты Политбюро, объединяющие агентработу в районе и ведущие свою работу в непосредственном контакте с Начальником Районного Управления Милиции. Подробные указания о работе органов Чека даются Предчекабел.

Д) Наркомвоен и его органы на местах (Уездвоенком, Волвоенотдел) продолжают вести работу с дезертирством, содействуя комиссиям в излавливании темного элемента. Уездвоенкомы и Заведывающие Волвоенотделами докладывают в Комиссиях о результатах произведенной работы.

Е) Полевые части привлекаются к борьбе в исключительных случаях с разрешения Реввоенсовета фронта. В случаях чрезвычайной и спешной необходимости привлечение полевых частей производится постановлением Центральных или Уездных Комиссий с немедленным извещением об этом в Реввоенсовет фронта. Для установления полного контакта в работе старшие войсковые начальники и военкомы по месту их расквартирования входят в состав соответствующих комиссий с правом совещательного голоса.

Ж) В распоряжении Комиссии борьбы с бандитизмом Белоруссии, как непосредственный ее резерв остается отдельный батальон Чека, который использовывается по мере надобности распоряжением Комиссии через Предчека.

Подлинное за надлежащими подписями.

С подлинным верно: Зав. Управделами ЦБ [КП(б)Б] Вашнев.

*ДАМВ, ф. 432, воп. 1, спр. 83, арк. 15—15адв.*

## 123—124. Паведамленьні са Случчыны ў газэце «Савецкая Беларусь»

**Сьнежань 1921 г.**

**Збор харчовага падатку на Беларусі.**
**Дабраахвотная заяўка.**

(Слуцкі павет)

Па ведах, выяўленай пашні маецца вось які лік: пахаты — 11 429 дзесяцін, паплавоў — 2080 дзесяцін. Са ўсяго ліку каля 60 працэнтаў выяўлена дабраахвотным чынам. Астатняя была высьледжана, і вінаватыя адбылі кару.

*Савецкая Беларусь. 1921. 15 сьнежня.*

**Харчовы двухтыднёвік.**

Слуцак

Павятовым харчовачным камітэтам склікан зьезд харчовачных працаўнікоў павету для абгавораньня пытаньня аб правядзеньні харчовачнага двохтыднёвіку.

Слуцак. 14/12. Нарада харчовачных працаўнікоў пастанавіла абнаружыць усе сілы ў працягу харчовага двохтыднёвіку, каб выканаць харчовы падатак за 100 процантаў і выявіць усю ўкрытую пахату. Мабілізавана 16 адпаведных працаўнікоў як асобна паўнамоцных валасьцей, у тым ліку і траціна сяброў павятовага выканаўчага камітэту. Павятовым харчовачным камітэтам выдан належны загад аб пачаўшайся працы. Апошні тэрмін дабраахвотнай заяўкі ўкрытай пахаты абвешчан на 25 сьнежня.<...>

*Савецкая Беларусь. 1921. 20 сьнежня.*

# 125—127. Слуцкае паўстаньне ў пратаколах ды рэзалюцыях першае агульнанацыянальнае палітычнае канфэрэнцыі ў Празе–Чэскай[159]

**27—28 верасьня 1921 г.**

**27.IX[1921 г.]**

**Сход палітычнай сэкцыі.**

***Аб Слуцкім усенародным паўстаньні.***

**Вяршынін[160].** Учора справа паўстаньня выясьнена, а таму не патрэбна больш вясьці прэнія па гэтаму пытаньню.

**Заяц[161].** У сэкцыі абсуждаць справу паўстаньня не патрэбна, а на пленуме абавязкова, каб паказаць, што ў нас былі ня толькі авантурнікі, а і сіла народная.

**Курылов[іч]**. Калі п. Ластоўскі[162] адводзіць мяне як дакладчыка, дык п. Паўлюкевіч можа высьвятліць усю справу.

**Заяц.** Можна здаволіцца рэзалюцыяй, але каб яна ясна выяўляла справу паўстаньня.

**Баран.** Каб рэзалюцыя была прадстаўлена сягоньня да 10 гадз. вечара.

**Паўлюкевіч.** Заўтра павінна быць дано такое або іншае асьвятленьне паўстаньня, іначай я адмаўляюся ад састаўленьня рэзалюцыі.

Галасуецца пастанова, каб аб Балаховічу, Савінкаву і Слуцкім паўстаньні былі вынесены толькі рэзалюцыі, без дакладчыкаў.

**Баран.** Каб была вынесена рэзалюцыя аб пагромах на Беларусі.

Рэзалюцыю аб пагромах састаўляюць Жытлоўскі і Душэўскі[163], а аб Слуцкім паўстаньні — Дубейкаўскі і Баран[164].

**IV–е [плянарнае] паседжаньне [Праскае канфэрэнцыі]**

**28 верасьня 1921 г.**

***Аб авантурных прадпрыемствах (Барыс Савінкаў і Балаховіч), зьвязаных з вынікамі Рыскага трактату[165].***

**Баран.** Пытаньне вельмі важнае і яго трэба добра разгледзець.

**Аляксюк[166].** Акцыя Савінкава, акцыя Беларускага Палітычнага Камітэту з Балаховічам, Слуцкае паўстаньне — і adносіны да гэтых акцый ураду Ластоўскага.

**Цьвікевіч А.[167]** ...што (адказ Аляксюку) Слуцкае паўстаньне не авантура, а геройскае выяўленьне духу беларускага народу.

**Грыб[168].** Пасьля Рыжскага міру зьявіліся авантурнікі, напрыклад, Балаховіч, памочнік якога Аляксюк <...>. Нацыянальна–Палітычны Камітэт* йшоў разам із Савінкавым.

* Маецца на ўвазе Беларускі палітычны камітэт у Варшаве на чале з П. Алексюком.

Слуцкае паўстаньне — героізм беларускага народу, героі сядзяць у турмах, а авантурнікі маюць прыгожыя пакоі, на свабодзе і г. д.

**Аляксюк.** <…> Палітычны Камітэт створаны мною таму, што ў выпадку паходу праз Беларусь трэба было каму колечы прыняць цывільную ўладу, і я прыняў яе ад генэрала Балаховіча як галоўнакамандуючага.

Трэба было прыступіць да фармаваньня беларускіх вайсковых частак, і ў Тураве створан Беларускі полк. <…>

Пад Мозырам, калі расейскія банды ўцяклі, Менскі беларускі полк вытрымліваў атакі 2 бальшавіцкіх дывізій (асталося з 1200 ч. толькі 120 ч.).

Урад Ластоўскага далажыў усіх вынікаў, каб аганьбіць гэту справу, таксама і Найвышэйшыя*.

Што дала Мазырская эпапея беларускаму вызваленчаму руху? Яна дала рэальную падтрымку Беларускаму Ўраду, падняла дух беларускага народу, памагла згуртавацца партызанскім атрадам. <…>

**Крэчэўскі**[169]**.** <…> Уся праца Палітычнага Камітэту, і Балаховіча, *і* Савінкава скіравана была да таго, каб падарваць нашу працу перад Эўропай. <…>

**Дубейкаўскі.** Балаховіч зусім не партыйны, але адзінка, здольная да працы, у свой час пайшоў с 5 тысячамі войска для Беларускай Дзяржавы. Палякі не маглі прызнаць беларускага войска Балаховіча, бо прышлося б прызнаць Беларускую Рэспубліку. <…>

Балаховіч шчыры беларус, хоць і генэрал, віхор, вядома, як ваенны.

Савінкаў, адступіўшы назад, стараўся чарніць Балаховіча, а Балаховіч нават адмовіўся ад гэнэральства польскага, што яму палякі прапанавалі. (Вельмі саркастычна гаварыў аб Алексюку і яго «палітычнай працы».)

<…>

**Чарапук**[170]**.** Прычына не ў Алексюку і іншых, якія хацелі адбудаваць Беларускую Дзяржаву, а што ня было каардынацыі паміж дзеячамі. Ня трэба тут займацца характарыстыкамі, а ўсё гэта скончыць.

<…>

**Курыловіч** (ад Слуцкай брыгады). Дзяржаўнае творчаства павінна апірацца на рэальную сілу. Проці палякоў ішлі ўсе беларусы ў бальшавіцкія войскі, каб змагацца з панам, але гэта было ў 1920 г., а цяпер псыхалёгія народу зьмянілася, як усяго жыхарства Расеі.

Бальшавікі іх усіх пасылалі, гэтых стыхійна йшоўшых у бальшавіцкія войскі, на другія франты, каб заваёвываць нейкія абшары для бальшавікоў.

Пасаджаныя ў Рослаўскі лягер разарвалі драты, захапілі аружжа і на 12 гадзін аб’явілі Рослаўскую Беларускую Рэспубліку.

* Найвышэйшая Рада БНР.

Далей пад сурдынку Алексюка. Кажны народ, які рабіў адбудову сваёй Бацькаўшчыны, змагаўся з жыдамі (антысэміцкія выпады). Расказаў аб некаторых пагромах, зробленых быццам самымі жыхарамі.

Далей. Ёсьць паўстанчэскі рух на Беларусі, аб чым сьведчаць бальшавіцкія газэты. Есьць дзьве арыентацыі — польская і расейская (на запытаньне, якой Вы арыентацыі, адказ — беларускай, некалькі раз; але тэндэнцыёзна — са скрытымі польскімі сымпатыямі).

<…> **Цьвікевіч А.** (адказ Курыловічу на яго тэндэнцыёзную прамову) у яркіх словах, вельмі палітычна–абнімаючых, гаварыў аб справе будаўніцтва Беларускай Дзяржаўнасьці.

**Паўлюкевіч.** Дэлегат быў пасланы ў Варшаву*, каб знайсьці апору. Акцыя Балаховіча і Слуцкае паўстаньне былі цесна зьвязаны з Польшчай, бо іначай мы сядзелі б у турмах. Я належу да людзей, якія ідуць шляхам эвалюцыйным. Найвышэйшая Рада не падтрымавала Балаховіча, а таму быў створаны Палітычны Камітэт. Да Балаховіча трэба было прыставіць 5—6 асоб, якія б тварылі цывільную справу. Найвышэйшая Рада з мейсца ў кар'ер павяла барацьбу супроць Палітычнага Камітэту.

Было цячэньне, каб не падымаць паўстаньня, але потым гэтыя дзеячы прысталі да нашага паўстаньня.

Прадстаўнікі Найвышэйшай, знаходзячыся ў Варшаве, ня ўнушалі даверу ў палякоў.

Найвышэйшая Рада сказала: ні з кім ня майце дачыненьня, вам усё будзе. Усё было абешчана. Яны потым казалі, што іх палякі надулі. Уплывы Балаховіча паміж сялянства і цяпер маюць мейсца, а асабліва тады, калі йшло паўстаньне. Балаховіч думаў пайсьці на Мазыр, выйсьці ў тыл і далей, але Найвышэйшыя сказалі–распарадзіліся, каб з Балаховічам ня мець дачыненьня, бо ён рэакцыянэр, русіфікатар і г. д. Дырэктывы даваў п. Тэрэшчанка. У працягу 12 дзён у Случчыне зрабілі выбары народнай улады. Пры раённых начальніках арганізаваліся вайсковыя часткі пад відам міліцыі. Тут зьявілася Вайсковая Камісія з аксэльбантамі, разадзеты і г. д., прадстаўнікі якой заявілі, што з Балаховічам ня трэба мець ніякіх зносін. Вайсковая Камісія, ня меўшая ўплыву ў польскіх кругах, нічога не атрымала, нічога нам не давалі. Салдаты на роту мелі па 30 карабінаў. Балаховіч нічога не даваў у віду варожых да яго адносін. Як толькі атрымалі 300 карабінаў, пайшлі ў наступленьне, і бальшавікі нават са Слуцку беглі. Але проці нас было кінута 3 бальшавіцкіх дывізіі, мы павінны былі адысьці ў нейтральную зону. Потым дайшлі весткі, што Найвышэйшыя і Палітычны Камітэт сварацца. Я прапанаваў, каб адысьці і злучыцца з Балаховічам. Нам не дазволілі і прыказалі адыйсьці на польскую тэрыторыю і нас

* Гаворка ідзе пра накіраваньне ў Варшаву пасланца Беларускае Рады Случчыны.

адправілі ў лягер. Вайсковая Камісія трымала сябе вазмуціцельна. Яўляемся ў Вайсковую Камісію, з намі ня хочуць разгаварываць. Адносіны былі як найгоршыя. Паўстаньне наша мела зьвязь з палітычнымі варункамі, каб былі выгадныя варункі, мы выставілі б 50 тысячаў і паказалі б Эўропе, што беларускі народ жыве. Каб ня было гэтай двойнасьці, якая і цяпер ёсьць, мы пабедзілі б.

У даны момант аружнай сілы няма, Слуцкая брыгада выпушчана зь лягеру і працуе падпольна. Ва што выльецца палітычная сітуацыя, калі паўстаньне падымецца, а такое вясной падымецца. Калі будзе двойсьцьвеннасьць, гэта сіла можа быць напраўлена проці сваіх.

Палітычны Камітэт знайшоў, што Балаховіч ня можа быць правадыром беларускага войска. Палітычны Камітэт знайходзіў, што ўсею справаю павінен кіраваць польскі палітычны цэнтр, якому падчыняюцца ўсе вайсковыя[171].

Мы ня зносіліся з Урадам Ластоўскага не таму, што проці яго што мелі, а што не маглі зносіцца.

У Вільні былі зроблены крокі да аб'яднаньня, але нічога ня вышла.

І Найвышэйшыя зварачываліся да Дубейкаўскага, Смоліча, каб стварыць на тэрыторыі Польшчы адзін цэнтр. З урадам Ластоўскага не маглі зносіцца, бо мы рабілі справу пад польскай арыентацыяй. Мы, можа, зімою, можа, вясною разьвернем сваю акцыю. Я яўляюся староньнікам польскай арыентацыі. Усе вызваленчаскія сілы трэба направіць у адным напрамку. Я апрэдзеленна іду на кампрамісы, я апрэдзеленна староньнік Польшчы. Тая пазыцыя, якую вы займаеце да Польшчы, адзавецца потам і крывёй на тых партызанах, якія сядзяць ў лясох. Палякі скажуць, што сабраная канфэрэнцыя заняла варожыя адносіны «к сваему» (паправіўся), к польскаму Ўраду.

Прызываю ўсіх, каб быў створаны адзіны цэнтр, бо ўвесь паўстанчэскі рух ідзе з боку Польшчы.

<…>

**Мамонька**[172]**.** З Польшчай і балахоўшчынай нам не па дарозе.

**Дубейкаўскі.** Я адпавядаю Паўлюкевічу, які ня зусім ясна гаварыў аб паўстаньні 20 году. Ён казаў, што паўстаньне было як бы па маей ініцыятыве. А паўстаньне Слуцкае зроблена тады, калі адыходзілі бальшавікі. Яно паўстала само сабой.

<…>

**Душэўскі.** <…> Я паперэджаю п. Паўлюкевіча, Курыловіча, што праз паўгода яны будуць гаварыць іначэй, бо палякі, можа, ашукалі іх 10 разоў, дык яшчэ ашукаюць 110 разоў. Ірлянды, якія змагаюцца з Калонам (Англіяй), авансаў ніякіх не давалі яму. На брудным штандары мы будаваць Бацькаўшчыны ня будзем.

<…>

**Рэзалюцыя аб Слуцкім паўстаньні**[173]

Сялянская Беларусь, прачнуўшаяся ад летаргічнага сну векавой няволі, распачала змаганьне за сваё вольнае і роўнае жыцьцё сярод іншых вольных народаў.

Чацьверты ўжо год змагаецца Беларусь з насільствам рожных акупантаў. У гэтым змаганьні беларускі народ добра сябе ўсьвядоміў, што справа вызваленьня і адраджэньня яго бацькаўшчыны есьць справа яго ўласных рук. Беларускі народ пераканаўся, што ні ад Масквы, ні ад Варшавы яму няма чаго чакаць для палепшаньня сваей долі.

Цэлым радам паўстаньняў, у працягу гэтых чатырох гадоў, беларускі народ ясна паказаў, куды ён імкнецца і на каго пакладае ўсе свае надзеі.

Найяскраўшым момантам у гэтым гераічным змаганьні, апрача паўстаньняў у Віленшчыне, Вітэбшчыне, Ашмяншчыне і г. д., зьяўляецца паўстаньне ў Случчыне, калі сам сярмяжны народ, стыхійна паўстаўшы з аружжам у руках за незалежнасьць і непадзельнасьць сваей бацькаўшчыны, напісаў на сваім штандары: ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камуністаў.

Беларуская Нацыянальна–Палітычная Нарада канстатуе, што гэтае паўстаньне было задушана пераважаючымі сіламі абодвых бакоў.

Слава паўшым змаганьнікам!

Бел[аруская] Нац[ыянальна]–Паліт[ычная] Нарада перасьцерагае беларускі народ, каб не было непатрэбнага праліцьця крыві, устрымацца ад неарганізаваных выступленьняў, але моцна аб'яднаць свае сілы к таму моманту, калі праб'е час агульнанароднага рэвалюцыйнага змаганьня кожнага народу быць гаспадаром у сваім краі.

Прага–Чэская, 28 верасьня 1921 г.

*БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1, спр.169, арк.29—37, 39—40, 74.*
*Апубл.: Спадчына. 1999. №5—6. С. 26—32, 34, 46—47.*

## 128. Даклад Рыгора Злоцкага[174] Канстанціну Езавітаву[175] «Паўстанчэскі рух на Беларусі»

**3 кастрычніка 1921 г.**

Становішчэ на Беларусі ў канцы 1920 году.

Каб ахарактарызаваць становішчэ на Беларусі агульно, як аб пашырэньні нацыянальнай сьведомасьці серод селянскіх мас, так і аб разьвіцьці палітычнага жыцьця пад канец 1920 году, трэба ў першы чарод адзначыць:

1) велізарную нацыянальную сведомасьць сялян і іх інтэрэс у справе будаваньня Беларускай дзержаўнасьці і 2) іх пагляд на Беларускую дзержаўнасьць з сацыяльнага боку.

Паценяючы першы пункт аб пашырэньні нацыянальнай сведомасьці сярод селян, трэба мець на ўвазі, што гэта сведомасць пашыралася, дзякуючы агульнай палітычнай сытуацыі, а не ўплывамі тае ці іншай палітычнай групіроўкі на селян. Селяне пачулі і на сабе перанеслі гнёт камуністаў–расейцаў і ўбачылі, што ўсё тое, што нясуць камуністы, чужое для іх, а ў камуне самой бачылі для сябе кабалу. Вось тут яны і ўхапіліся за прынцып самаазначэньня, той самы прынцып, які быў папулірызаваны самымі ж камуністамі.

Утварылася, такім чынам, рэальная апазыцыя кампартыі. Расейцы–камуністы спалохаліся гэтай думкі сярод селян аб «буржуазнай» незалежнасьці і пайшлі на ўступкі, прыпадносячы эрзац–незалежнасьць з пагляду кампартыі і аб'явіўшы барацьбу правадырам «буржуазнай» (народно–дэмакратычнай) незалежнасьці. На месцох пашлі арэшты культурных працаўнікоў, што аканчацельно згуртавало селян.

Што тычыць другога пункту — пункту гляджэньня селян на дзержаўнасьць з сацыяльнага боку, то гэты пагляд быў выразно анцікамуністычным. Наогул, трэбо адзначыць, што на Беларусі нема камуністаў сярод селян і працаўнікоў. Ідэя камунізму чужда для беларуса, часткаю, праўда, да гэтаго прычасна наша інтэлігэнцыя, апыніўшаяся ў трагічном становішчу. Большасьць жа насіцелямі камуны з'яўляецца брадзячы элемент беларускі, выхаваны на расейскіх фабрыках.

Дзякуючы гэтым двум фактарам, уся тэрыторыя Савецкай Беларусі пакрылася партызанамі. У партызаны, праўда, не ішлі селяне з гаспадаркі, гэта былі дэзэртыры з чырвонай арміі. Трудно гаварыць аб тым, што гэтыя дэзэртыры ішлі ідэёво за справу нацыянальную, трэбо, аднак, адзначыць, што дэзэртыры пападалі ў вёску, гдзе ўжэ селяне хвалілі іх за тое, што яны выходзяць з чырвонай арміі і прымалі іх як сваіх аднадумцаў, такім чынам, дэзэртыры атрымоўвалі маральную падтрымку ад селян і рабіліся ўжэ не дэзэртырамі, а партызанамі, бо лічылі сябе ў правах бараніць інтэрэсы свае вёскі. Усе зімовыя месяцы камуністы на месцох не мелі ўлады, праўда, не было там і якой–колек іншай улады — была анархія. Так цягнулася аж да таго момэнту, аж пакуль камуністы зноў пачалі прыводзіць свой адміністрацыйны апарат у які–колек парадак. Першым крокам іх было тое, што яны аб'явілі ўсім партызанам амністыю. Большая частка партызан вернулася да камуністычнай улады, але камуністы спачатку зрабілі аплошнасьць і ваарўжылі іх, а потым схапіліся і сталі зноў разаружаць і не ваарўжаць новых прыбываючых.

Безаружных паслалі на работы і пры гэтым безаружных было — цэлыя палкі, а ваaружоныя былі чэкісты і асобныя атрады, якія і трымалі гэту «Беларускую армію» ў сваіх руках. У хуткім часе камуністам удалося сліквідаваць гэту «армію», укамплектаваўшы ею палкі чырвонай арміі на Урангеляўском фронце. Частка партызан асталася ў лясох Беларусі і партызаніць там да гэтых часоў. Нам, беларусам, трэба было ўзяць кіраўніцтво над партызанскім рухам, але ўзяць яго нема каму. Часткаю партызаны робяцца ўжо бандытамі, дзякуючы анцісеміцкай правакацыі.

Адна з арганізацый пыталася ўзяць кіраўніцтво над гэтым рухам — гэто Вайскова–Палітычны цэнтр[176], але і гэта не ўдалося, дзякуючы вельмі хуткай змене палітычнай сытуацыі, адным з фактараў якой трэбо лічыць міравую ўмову Польшчы з Расеяй.

Астаецца ўсёж–такі не вырашаным пытаньне — як быць далей? Тут я магу выказаць свой пагляд.

1) Трэбо трымаць моцны кантакт з дэмакратычнымі групіроўкамі расейскімі, стоячымі на грунці прызнаньня нашае незалежнасці. Ісці з імі па дарозі барацьбы з бальшавікамі да свае незалежнасці, вырываючы свае правы ў маскоўскіх цэнтралістаў, пад якой фарбаю яны ні былі, ці то чырвоныя, ці белыя — усе роўно. Маскале ўсе аднолькаво глядзяць на Беларусь, так трэбо ж даказаць перш усяго маскалям сваю моц нацыянальную ў барацьбе расейцаў з камуністамі, а нам яшчэ і як з акупантамі нашай Бацькаўшчыны.

м. Прага. Злоцкі.

*НАРБ, ф. 458, воп. 1, спр. 64, арк. 830—831. Аўтэнт., рук.*

## 129. Сьвяткаваньне першых угодкаў Слуцкага збройнага чыну ў Вільні

**19 лістапада 1921 г.**

«Виленское Утро»[177] піша: «У суботу (19–XI) у 7 гадзін вечара ў памяшчэньні Беларускага Музыкальна–Драматычнага Гуртка[178] (Біскупская, 12) адбылося ўрачыстае паседжаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэта[179].

На паседжаньні былі прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў і партый.

Ад Польскай Сацыялістычнай Партыі — п. п. Заштаўт[180] і Годвад, ад ліцьвіноў — п. п. Аўгустайціс, Мічулайціс і Стадзевіч, ад яўрэяў — доктар Шабад[181].

Паседжаньне было адчынена ўступнай прамоваю Старшыні Белар. Нац. Каміт. п. Ярэміча[182], паказаўшага на тое, што гэты дзень

ёсьць знамянальным для кожнага беларуса, бо ў гэты дзень беларускі народ Слуцкага павету паўстаў супроць уціcканьнікаў.

Вялікі рэфэрат аб ходзе паўстаньня прачытаў быўшы старшыня Слуцкай Беларускай Рады п. Пракулевіч.

Пасьля гэтага з вялікай прамоваю на беларускай мове выступіў ксёндз Станкевіч[183].

Прадстаўнікі Польск. Сац. Парт. (P. P. S.) гаварылі па–польску. П. Аўгустайціс гаварыў па–літоўску. Д–р Шабад пачаў прамову на яўрэйскай мове, але зараз перайшоў на расейскую мову, як зразумелую для ўсіх прысутных.

Затым адбыўся дывэртысмэнт. Чыталіся беларускія вершы паэтаў Купалы і Багдановіча; хор пяяў беларускі гімн.

Закончылася ўрачыстасьць агульнай вячэраю, у часе якой казалі прамовы п.п. Луцкевіч[184], Заштаўт і інш.

Памяшчэньне Гуртка было дэкарыравана і прыбрана беларускімі сьцягамі, а таксама плакатамі з нацыянальна–беларускімі клічамі».[185]

*Беларускія Ведамасьці*[186]. *1921. 25 лістапада.*

## 130. Слуцкае паўстаньне ў інтэрпрэтацыі дэфэнзывы (II аддзелу Генэральнага штабу Войска Польскага)

**1928 г.**

<…> Spóźnionem echem walk białorusko–bolszewickich było powstanie słuckie.

W Słucczyźnie powstał samorząd miejscowy <…>. Stworzono milicję powiatową, w skład której weszli Białorusini, przeważnie o tendencji przeciwbolszewickiej. Ta właśnie milicja stała się ośrodkiem ruchu powstańczego.

Po zawarciu rozejmu polsko-sowieckiego przeszli b. przymierzeńcy armji polskiej, gen. BUŁAK–BAŁACHOWICZ, PEREMYKIN[187] i armja Ukraińskiej Republiki Ludowej (ataman PETLURA[188]) za polsko–sowiecką linję demarkacyjną i rozpoczęli akcję wojenną przeciwko Sowietom na własną rękę.

Skorzystała z tego Rada Białoruska w Słucku i zamierzała wywołać ogólne powstanie całej Białej Rusi przeciw bolszewikom. W tym celu zwołano zjazd z całego powiatu słuckiego. Zjazd ów zdecydował prowadzić ogólną walkę w bolszewikami, celem stworzenia niezależnej białoruskiej republiki ludowej. Za naczelną władzę zjazd uznał Białoruską Radę Najwyższą (już zresztą nieistniejącą), a dla kierownictwa ruchem w Słucczyźnie powołał Radę Słucką z PROKULEWICZEM na czele.

Niezwłocznie przystąpiono do werbunku i organizacji wojska, którego zawiązkiem była wymieniona wyżej milicja. W ten sposób powstała pierw-

sza brygada białoruska t. zw. „Brygada Słucka“, licząca około 4.000 ludzi. Dowódcą tego oddziału był JAKUBIECKI Andrzej, pomocnikiem zaś ŻAWRYD. Jak się później okazało obaj byli w porozumieniu z bolszewikami.

Pierwsza „Białoruska Brygada Słucka“, utrwaliwszy posiadanie rejonu Słucka, posunęła się dalej kilkanaście kilometrów na wschód, witana przychylnie przez ludność miejscową.

Dalszemu rozwojowi tego powstania stanęły na przeszkodzie z jednej strony zupełny brak broni, z drugiej zaś przyparcie oddziałów BAŁACHOWICZA, PEREMYKINA i Ukraińców do linji demarkacyjnej przez bolszewików i zmuszenie ich do przejścia na stronę polską, gdzie zostali rozbrojeni.

Rozgromienie BAŁACHOWICZA pozwoliło rządowi sowieckiemu rzucić na pierwszą białoruską brygadę dwie dywizje 8. i 17., dzięki czemu powstańcy zostali rozbici, rozproszeni i zmuszeni do przejścia granicy polskiej, gdzie zostali przez wojska polskie rozbrojeni i internowani.

Powstanie powiatu słuckiego było pierwszem samodzielnem wystąpieniem Białorusinów w walce o niezależność narodową. <…>[189]

*Krótki zarys zagadnienia białoruskiego / Oprac. II Oddziału Sztabu Generalnego. Warszawa, 1928. S. 100—102.*

# 131.
# Юрка ЛІСТАПАД
# УЗЬБІЛІСЯ НА СВОЙ ШЛЯХ

**1921 г.**

Адраджэньне Беларусі, як вядома ўсім, стала расьці з кожным часам шырэй з 1905 года. Саўсім зразумела, што працаваць пад уладаю расейскага імпэрыялізму магчыма было, і то з надта вялікімі перашкодамі, толькі на культурна–прасьветнай дарозе. Такая праца вялася аж да рэвалюцыі 1917 года. Трэба заўважыць, што, нягледзячы на царскі рэжым, беларускія адраджэнцы досыць часта бывала з культурна–прасьветнае працы пераскаквалі й на палітычную, за што й адседжвалі ў каталажках. З часоў рэвалюцыі 1917 года справа беларуская стала шырыцца ўжо не з гадамі, а навет з кожным тыднем. То былі толькі арганізацыі ў мястох вялікіх: Вільні, Менску, а гэта ўжо сталі зьяўляцца розныя беларускія гурткі па павятовых мястох і мястэчках. Дзеля таго, што пасьля гэтае рэвалюцыі стала крыху вальней, праца беларуская пайшла не па аднаму ўжо шляху, а распаўзлася ў розныя кірункі й распаўсюдзілася амаль не па ўсёй Беларусі.

Мне вельмі хочацца пазнаёміць паважаных чытачоў з тым, як узьбіліся беларусы Случчыны на свой шлях і да чаго яны дайшлі.

Беларуская арганізацыя на Случчыне стала падымацца на ногі з пачатку Расейска–Нямецкай вайны. Праўда, былі людзі, каторыя працавалі й да гэтага часу, але іх было вельмі мала. Вось у вайну нехта Астроўскі адчыніў беларускую гімназію, але гэтая гімназія тады звалася не беларускаю, а проста земскаю гімназіяю. Сам дырэктар гімназіі пан Астроўскі ў той час быў надта шчыры працаўнік на ніве беларушчыны, дзякуючы гэтаму, ён і паставіў справу беларускую ў гімназіі на свае ногі. Кіраваў ён гэтаю гімназіяю, здаецца, да бальшавіцкай ужо рэвалюцыі. Потым пан Астроўскі якім–то парадкам, пунктуальна не скажу, папаў у Дэнікінскую армію. Там ён сапсаваўся дарэшты, саўсім стаў другім чалавекам. Пра Беларусь і ўспамінаць ня хоча, нават родным сёстрам–гімназісткам забараніў пры ім гаварыць па–беларуску. Але, нягледзячы на гэта, пан Астроўскі мае свае заслугі ў тым, што з яго вучняў–гімназістаў шмат выйшла сьвядомых беларусаў, дзякуючы якім усё сялянства Слуцкага павету зразумела, хто яны такія, і цяпер кожны селянін–Случанін, стары й малы, вам сьмела скажа, што ён і не маскаль і не паляк, а кроўны беларус.

Вось улетку 1917 года адчыняецца беларускі культурна–прасьветны гурток «Зарніца»[190] ў вёсцы Старыцы. З дзеячоў гэтага гуртка адцемлю Аляксея й Янку Каўпакоў, Пётру й Янку Зенюкоў, Л.Стаганавічанку[191], Зенькавічанку й Пётру Бабарэку. Статут, апрацаваны гуртком «Зарніца», быў потым прыняты Беларускім Нацыянальным Камітэтам Меншчыны.

У восень 1917 года адзін з вучняў гімназіі Астроўскага С.Бусел задумаў арганізаваць культурна–прасьветны гурток «Папараць–кветку». Шукаў ён сабе сябрукоў сярод інтэлігенцыі, але да каго ні зьвяртаўся, усюды чуў адно: выкінуць з галавы гэтую дурную думку. Нарэшце ён спаткаў аднаго вучня, ня ведаю якое школы, гр. Ракуцьку, які далучыўся да яго, — й пачалі супольную працу. Гэты Ракуцька хацеў, каб гурток «Папараць–кветка» быў на камуністычнай падкладцы, але Бусел не згадзіўся. Дзеля таго, што яны не знайшлі сабе балей сталых сяброў, дык С.Бусел прымусіў вучняў ніжэйшых клясаў прыйсьці на першы сход, каб выбраць праўленьне гуртка. Бальшавікі дазволу на сход не далі, тады гэта куча дзяцей–вучняў рэвалюцыйным парадкам адчыніла сход і выбрала праўленьне, толькі ўжо гэты гурток назвалі не грамадзянскім, як раней думалі, а вучнёўскім культурна–прасьветным гуртком, бо, як я казаў, саўсім ня было спачуваючых беларускаму руху сталых людзей. Потым, калі вучні — сябры гуртка задумалі зрабіць першае йгрышча, дык усе Слуцкія музыканты адмовіліся пайсьці пайграць на гуляньні беларускае моладзі. К гэтаму часу прыехаў звольнены з войска вядомы беларускі дзеяч на Случчыне В.Русак. Ён быў у беларускіх арганізацыях на Віцебшчыне. Вось гэты В.Русак памог вучням паставіць, як сьлед, гэтае першае йгрышча Слуцкае моладзі.

Потым у склад сяброў гуртка сталі запісвацца некаторыя зацікаўленыя грамадзяне, як, напрыклад, вядомы беларус, які працуе з 1905 года, п. Асьвяцімскі, Жаўрыд і іншыя. Такім чынам, гурток «Папараць–кветка» існаваў ўвесь час нямецкае й бальшавіцкае акупацыі на Беларусі. Далей у кастрычніку 1919 года, калі гурток перапоўніўся сталымі людзьмі, дык зрабілі перарэгістрацыю гуртка, значыцца, адкінулі ўсіх дзяцей і назвалі ўжо гурток грамадзянскім. З працаўнікоў гэтага ўжо новага гуртка шчырымі беларусамі зьявіліся: А.Бараноўскі, У.Дубіна, Фёдараў і іншыя. Неўзабаўкі за гэтым Беларуская Школьная Рада Меншчыны прыслала на Слуцкі павет інструктарам беларускіх школ нейкага п. Абрамовіча, каторы заняў сабе пасаду пісара ў польскага інспэктара й заўсім забыўся на даручаныя яму Беларускаю Школьнаю Радаю Меншчыны абавязкі. Тады Рада Мен. прыслала другога інструктара Ю.Лістапада, які да працы аднёсся прыхільна й адчыніў восем (8) пачатковых беларускіх школ на павеце. У палавіне лістапада (наябра) таго–ж году сябры гуртка «Папараць–кветка», атрымаўшы інструкцыю з Менска, назвалі сябе ініцыятыўнаю групаю й сазвалі сход прыхільнікаў беларускага руху, каб выбраць Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны. На сход зьявілася толькі шаснаццаць (16) асоб, якія й выбралі Б.Н. Кам. Случчыны, у склад якога ўвайшлі гэткія асобы: Пракулевіч, Петрашкевіч, Асьвяцімскі, Бараноўскі й Русак.

Камітэт распачаў сваю працу, але працаваць было вельмі цяжка, бо ня было ніякае дапамогі ніадкуль. Камітэт выпрасіў пазваленьні ў

Старасты павету адчыніць пры Камітэце «Бюро безработных» і аднадзённага збору ахвяр на ўсім павеце. Якраз гэтымі безработнымі і былі сябры «Папараць–кветкі» і Камітэту.

Гурток, трэба заўважыць, кожны сьвяточны вечар ставіў прадстаўленьні. Зборы заўсёды былі вельмі вялікія. Навет ставілі такія вечары, за каторыя вясковае грамадзянства мела права прыходзіць дарэмна без платы за ўваход. Усёю гэтаю сэкцыяю кіраваў В.Русак, які паставіў ужо балей за тысячу вечароў. Тым часам гурток «Папараць–кветка» выдаў два нумары часопісі «Наша каляіна», якія вельмі добра разыйшліся сярод сялянства. Вось такім парадкам Н. Камітэт і гурток разжыліся на грошы. Яшчэ арганізацыі Случчыны гэтым не засталіся здаволены, а папрасілі «Хор Тэраўскага» з Менска прыехаць у Слуцак і паставіць што–кольвек. Тэраўскі з хорам не адмовіўся пабыць у Слуцку і нават згадзіўся пяяць на абедні ў Слуцкім саборы. Людзей было паўнютка царква, усіх гэта перш–наперш надта зьдзівіла, а потым і вельмі зацікавіла. Многія кабеты, стоячы ў царкве, плакалі, а выйшаўшы, гаварылі, што яны думалі пра беларусаў абмылкова, аж выявілася, што й яны тыя самыя беларусы, бо яны чулі, што сябры хору так сама гамоняць паміж сабою папросту. Потым п. Тэраўскі з хорам даў адзін вечар–канцэрт, а другі — спэктакль. Прысутных было гэтулькі, што ня толькі нельга было сядзець, а навет павярнуцца немагчыма было.

Праз некалькі часу ў Слуцак прыехаў вядомы драматург–актор Галубок, які так сама паставіў два вечары й яшчэ балей зацікавіў публіку. З гэтага часу справа беларуская на Случчыне пайшла шмат уперад. Сяброў у гуртку было ўжо да трох соцень, амаль што ня ўся інтэлігенцыя Слуцкая аб’ядналася вокала гуртка. Тым часам гурткі па мястэчках і вёсках так сама сталі расьці. Дзе ні паехаць, дзе ні пайсьці, толькі й чуеш гутарку пра Беларусь. Тады Камітэт разаслаў яшчэ агітатараў, якія пабывалі ў кожнай вёсцы й растлумачылі сялянству, як належыць, пра справу беларускую, так што з таго часу Камітэт быў перапоўнен народам, які прыходзіў па розныя спраўкі й рады, не зважаючы на пагрозы мясцовае польскае ўлады. Тады палякі ні з сяго ні з таго зачынілі гурток «Папараць–кветку», павесілі да шахваў замкі, прыляпілі пячаткі й баста, але, трэба прызнацца, адарвалі з заду шахваў сябры гуртка дошкі й дачыста выбралі ўсё тое, што там знаходзілася, пакінулі толькі ім пад замкамі трохі старых газэт. Літаратуру ўсю разаслалі па вёсках, школах і другіх гуртках. Праўда, літаратуры з Менску прывозілі штомесяц дзесяткамі пудоў, але яе ніколі не хапала, бо надта скора распрадавалася. Так гурток «Папараць–кветка» й застаўся зачыненым аж да другое паловы лістапада 1920 года.

Нягледзячы на гэта, Камітэт дастаў аднекуль дазвол клапаціцца або, як кажуць, браць напарукі зарыштаваных беларусаў. Як хваля, людзі йшлі, і шмат–шмат хто, дзякуючы Камітэту, быў вызвалены з–

пад арэшту. Былі выпадкі, што навет угалоўнікаў Камітэт браў напарукі, і палякі згаджаліся. Працаваць толькі ў Камітэце й ставіць вечары — гэтага мала. Сябры Камітэту задумалі адчыніць беларускую Копэратыву «Зара». Вось гэтая коопэратыва так шчыра ўзялася за працу, што навет шмат адабрала пайшчыкаў ад польскіх коопэратываў і стала самаю найбольшаю Коопэратываю на ўсёй Случчыне. З працаўнікоў гэтае коопэратывы вядомы: К.Бараноўскі, Асьвяцімскі, Дубіна, Фёдараў і Кяцка. Нацыянальны Камітэт увесь час вёў арганізацыйную працу й такім парадкам дажыў да прыхода бальшавікоў улетку 1920 года. Як толькі прыйшлі бальшавікі, Камітэт зачыніўся, а разам з ім і коопэратыва «Зара» так сама перастала йснаваць. Здавалася б, што справа беларуская ўжо на Случчыне памерла, але ж не. Партыя беларускіх сацыялістаў–рэвалюцыянэраў адчыніла свой Камітэт ды якраз у тым самым памяшканьні, дзе быў спачатку Нацыянал. Камітэт. Грамадзянства, як згаварыўшыся, ізноў тоўпіцца ў гэтым сац.–рэвал. Камітэце. Прыйшла восень, сталі адчыняцца школы. Вядомая рэч, дзе толькі адчыняецца школа, дык абавязкова беларуская, а калі расейская, дык каб выкладалася й беларуская мова, але гэта цягнулася нядоўга, бо скора йзноў прыйшлі палякі. Мушу заўважыць, што вельмі многа сяброў з беларускіх арганізацый стараліся, калі бальшавікі мабілізавалі, заставацца ў якой–небудзь установе ў Слуцку, альбо блізка да яго. Вельмі перапрашаю, што не ў пару ўспамяну, але лічу патрэбным адзначыць у кароткіх словах беларускія курсы для вучыцялёў, якія адбыліся з 25 красавіка па 1 чэрвеня 1920 года ў Слуцку.

Якім–та парадкам Школьная Рада Меншчыны дастала ад польскае ўлады крыху грошай на гэтыя курсы. Пры тым загадчыкам гэтых курсаў назначыла паважанага пана Я. Станкевіча. На курсы, нягледзячы на працоўны час на полі, зьехалася з усяго павету сот чатыры вучыцялёў з вольнымі слухачамі. З Менску ў той час прывязлі шмат літаратуры, й вось вучыцялі заклалі кніжную коопэратыву. Значыцца, усе гэтыя слухачы курсаў цэлы дзень ля гэтых кніжак, а лекцыі на курсах пачыналіся а трэцьцяй гадзіне па паўдні. Як толькі падходзіць гэты час, дык уся грамада йдзе да Камэрцыйнае школы, дзе чыталіся лекцыі, й так расьцягнецца, што, здаецца, полк ідзе. Вось гэта ўстрывожыла палякоў, і зараз жа Польскі Школьны інспэктар зачыняе курсы. Доўга не чакаючы, паслалі да Менска тэлеграму й праз пару дзён атрымалі дазвол «зьверху» адчыніць курсы. Мясцовыя польскія ўлады гэтым былі надта не здаволены, але хоцькі–ня–хоцькі мусілі згадзіцца. У салі на лекцыях часта можна было бачыць духавенства, а падчас і польскіх ахвіцэраў, якія выслухоўвалі ўсе чатыры лекцыі. Беларускія курсы скончыліся, а зараз жа за імі вучыцельства прымушана было йсьці на польскія курсы, якія трывалі толькі адзін дзень. Сталася гэта таму, што палякі ўжо ўцякалі ад бальшавікоў.

Такім чынам, справа беларуская на Случчыне ўсё пры новых і новых акупантах ішла наперад і дачакала апошніх дзён кастрычніка 1920 года, калі палякі зьявіліся да Слуцка другі раз.

З прыходам палякоў другі раз на Случчыну Беларускі Нацыянальны Камітэт зараз жа распачаў сваю працу. Дзякуючы таму, што Слуцак у гэты час быў адрэзан ад другіх беларускіх цэнтраў, Камітэт паслаў ад сябе прадстаўніка ў Варшаву дзеля зносін з Цэнтральным Беларускім Нацыянальным Камітэтам — П. Жаўрыда. Сяброў з гэтага Камітэту засталося толькі два, а два, баючыся палякоў, выехалі з бальшавікамі. Склалася новая ініцыятыўная група беларусаў, якая склікала грамадзкі сход, каб папоўніць Камітэт новымі сябрамі. На гэтым сходзе было 450 прысутных асоб, і яны да старога Камітэту давыбралі яшчэ 7 сяброў. Такім чынам, у склад камітэта вайшло 12 асоб, але стары Камітэт ня прызнаў некаторых новых сяброў, лічучы іх русіфікатарамі. Значыцца, пайшлі спрэчкі, стары Камітэт адмовіўся працаваць да прыезду пасланага прадстаўніка. Старшынёю новага Камітэту застаўся доктар Паўлюкевіч, надта энэргічны працаўнік, але на ніве бацькаўшчыны чалавек новы.

Давыбары Камітэту адбыліся 2 лістапада 1920 года. З гэтага часу й пачаліся спрэчкі паміж сябрамі новага й старога Камітэту. Час не чакаў: трэба было як найхутчэй арганізаваць грамадзкую ўладу. Камітэт адразу арганізаваў міліцыю й разаслаў яе па вучастках павету. Начальнікам павятовай міліцыі быў назначаны п. Мацэльлі. Ён неафіцыяльным парадкам адчыніў запіс у рэзэрв народнае міліцыі. У кожнай воласьці былі арганізаваны, замест польскіх войтаў, беларускія Камітэты, а ўжо воласьці арганізавалі Камітэты ў кожнай вёсцы. Так што ўвесь павет стаўся чыстым беларускім з сваім праўленьнем і г. д. Нацыянальны Камітэт Случчыны ўжо ня мог трываць далей, а трэба было што–небудзь шырэйшае. Вось Камітэт пастанавіў склікаць павятовы зьезд па пяць прадстаўнікоў ад кожнае воласьці й па адным ад кожнае культурна–прасьветнае арганізацыі. Зьезд назначаны быў на 14 лістапада. Калі выбары прадстаўнікоў па валасьцёх прайшлі як належыць, дык Камітэт разаслаў па валасьцёх інструктароў, якія й зрабілі выбары. На зьезд зьехалася 107 прадстаўнікоў з правам пастанаўляючага голасу й 10 прадстаўнікоў з правам дарадчага голасу.

Зьезд адчыніўся а 12 гадзіне дня 14 лістапада, перад пачаткам якога была прапета беларуская марсельеза й гімн. Старшынёю зьезда быў выбраны грам. В.Русак. Пасьля розных дакладаў беларускіх дзеячоў і дакладаў з месцаў была вынесена рэзалюцыя выбраць Раду Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі.

З дакладу прадстаўніка Жаўрыда, якога пасылаў Нацыянальны Камітэт у Варшаву, выявілася, што ён мае нейкія паўнамоцтвы ад Цэнтральнага Камітэту і што ў Раду трэба выбраць 17 асоб.

Прытым зьезд вынес рэзалюцыю падняць сьцяг узброенае барацьбы проціў маскоўскае акупацыі за незалежнасьць Беларусі.

Якім–та чынам на гэты зьезд папалі два ахвіцэры ад Булак–Балаховіча, каторыя стараліся, каб зьезд прызнаў Балаховіча, але жаднае ўвагі на іх зьвернута ня было.

Зьезд выбраў Раду, у склад якое ўвайшлі гэткія асобы: Пракулевіч, Жаўрыд, Паўлюкевіч, Мацэльлі, Біруковіч, Сасноўскі, Русак, Лістапад, Каўпак, Бабарэка, Раковіч, Радзюк, Барысавец, Рабы, Анцыповіч, Дубіна й Няронскі.

Радзе прадстаўніцтвам народным і была даручана грамадзкая ўлада й арганізацыя войска.

Зьезд цягнуўся ад 12 гадзін дня 14 да 10 гадзін вечара 15 лістапада 1920 года.

Я першы раз на сваім жыцьці быў на такім зьездзе: ніводзін прадстаўнік за ўвесь час нікуды не адлучыўся, і ўсе пытаньні абгаварываліся й зацьвярджаліся так удачна, як быццам гэта рабіў адзін чалавек. Цікава, вельмі цікава зьезд прайшоў і зачыніўся пад сьпевы марсельезы й гімну.

Такім чынам Беларускі Нацыянальны Камітэт Случчыны перастаў жыць, а на месца яго арганізавалася Рада Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі.

Значыцца, з 16–га лістапада Рада адчыніла свае функцыі. Раней за ўсё трэба было фарміраваць войска. Тады з Рады вызначылі трох сяброў: Жаўрыда, Анцыповіча й Мацэльлі, яны й склалі вайсковую тройку, а рэшта сяброў Рады павінна была ўзяцца за арганізацыю розных грамадзкіх установаў. Вайсковая тройка апрацавала адозву, ці, вярней, кліч, да моладзі з тым, калі каму дарага бацькаўшчына, каб ішоў у беларускае войска.

Такім чынам, вайсковая тройка залажыла за тры дні першую Слуцкую брыгаду стральцоў войск Беларускай Народнай Рэспублікі.

Трыста карабінаў дасталі збоку і сот пяць стрэльбаў жаўнеры прынесьлі з дому. У гэты час, 24 лістапада, польскае войска на аснове дагавору ў Рызе пакінула места Слуцак. Беларуская брыгада, дзякуючы таму, што яшчэ не ўпарадкавалася, як належыць, прымушана была адайсьці з м.Слуцка ў мястэчка Семяжова. Разам з брыгадаю выехала й Рада Случчыны.

У мястэчку Семяжове брыгада арганізавала два палкі: 1 — Слуцкі й 2 — Грозаўскі. Цяжка апісаць гэты адход беларускіх войск з Слуцка. Уся шаша на працягу трыццацёх пяцёх вёрст была пакрыта кучамі маладых людзей з мяшкамі за плячамі, уцякаючых ад маскоўцаў да беларускага войска. Так праз тыдзень у 1–й Слуцкай брыгадзе стала сем тысяч жаўнераў, а стрэльбаў толькі восем соцен. Аднак, нягледзячы на брак аружжа, брыгада заняла пазыцыю на працягу шэсьцьдзесят вёрст. Але, калі трымаць войска, то трэба яго й карміць. Рада

Случчыны разаслала агентаў па ўсёй мясцовасьці, падуладнай ёй, зьбіраць ежу для войска. Рэквізыцый не рабілі, а зьбіралі толькі ахвяры. І вось кожны дзень ахвяр на склад прывозілася да семдзесят пудоў хлеба й да дваццацёх пудоў мяса, не гаворачы ўжо пра іншыя харчы. Справа йшла надта добра. Першая спатычка з маскоўцамі была ў м. Капылі, дзе беларусы захапілі ў палон маскоўскі Рэўком і цэлую роту маскоўскіх чырвонаармейцаў з канцылярыяй і ўсёю амуніцыяй. Тут аднаго беларускага жаўнера цяжка ранілі, так што пажыў толькі адны суткі й памёр. Родам ён з м. Старобіна — Валодзька Піліп. Гэта была першая ахвяра за незалежнасьць бацькаўшчыны. У гэты час ужо былі ў брыгадзе прысланыя беларускія афіцэры, паміж іншымі майор А.Якубецкі, які крыху пазьней заняў пасаду Камандуючага беларускімі войскамі, і капітан Борык, які быў шэфам штаба брыгады. Вось 30–га лістапада ў Семяжоўскай царкве адбылася панахвіда па забітым жаўнеру. Царква была паўнютка людзей, ва ўсіх у руках гарэлі сьвечкі, й многія сяляне горка плакалі. Выносілі цела з царквы пад гукі музыкі хаўтурнага маршу. Прад спусканьнем нябожчыка ў магілу былі сказаны чатыры прамовы. Потым далі тры залпы й насыпалі курган. Па нябожчыку паставілі крыж, на якім павесілі тры вянкі й сьцяг з надпісам: «Ты памёр, а памяць аб табе ў сэрцах беларускіх жыць будзе векі — Першая Слуцкая брыгада войск Беларускае Народнае Рэспублікі». Яшчэ заўважу, што пахавалі гэтую першую ахвяру ля Семяжоўскае царквы ўпоравень з магіламі пахованых там духаўнікоў.

Потым пачаліся вялікія баі з маскоўцамі ў розных мясцох, але заўсёды былі ўдачны для беларусаў. Палонныя казалі, што маскоўцы спачатку ня ведалі, хто мы такія, а лічылі нас балахоўцамі. Здавалася б, справа йшла добра, але ж не, прыйшлося атрымаць вялікую няўдачу.

Камандзер 1–га Слуцкага палка аказаўся здраднікам бацькаўшчыне. Гэта быў капітан Чайка, былы «Ваянрук». Ён знайшоў аднаго дзядка гадоў семдзесят, даў яму ліст да маскоўцаў, каб той занёс у іхны штаб. Але гэтаму дзядку не ўдалося прайсьці, яго на фронце затрымалі патрулі й знашлі гэты ліст. У гэтым лісту капітан Чайка апісаў усе недахваты беларускага войска. Значыцца, каб гэта яму ўдалося, дык у адзін бы нядобры час уся беларуская арганізацыя папала бы чорту ў зубы. Гэтага камандзера зарыштавалі й аддалі ў контрразьведку. Начальнікам контрразьведкі быў паручнік Мірановіч, добры прыяцель капітана Чайкі. Паручнік Мірановіч, бачачы, што жаўнеры вымагаюць сьмерці прадаўцы Чайкі, паставіў справу так, што Чайка ўцёк. Рада Случчыны зараз жа зрабіла «Надзвычайны патаемны сход» і вынесла пастанову зарыштаваць камандзера брыгады капітана Анцыповіча за халодныя адносіны да вайсковых тайнаў і паручніка Мірановіча за ўцёкі Чайкі, а на іх месца назначыла другіх афіцэраў: Камандзерам брыгады — капітана Сокала–Кутылоўскага, чала-

века вельмі праўдзівага, якому й дала часова права дыктатарскае ўлады, начальнікам контрразьведкі паручніка Янушэнка, а камандзерам 1–га палка падпалкоўніка Гаўрыловіча. Пры тым зарыштаваных аддалі пад Ваенна–палявы суд, старшынёю якога быў сябра Рады Б*. Вядома, па суду зарыштаваныя афіцэры атрымалі толькі судзебны вы-гавар.

Назаўтра, пасьля таго, як уцёк Чайка, маскоўцы павялі наступленьне на ўсім нашым фронце. Беларускае войска прымушана было адступіць з м. Семяжова на захад восем вёрст. Трэба яшчэ заўважыць, што да таго часу, пакуль быў Чайка, усіх палонных адпускалі на волю, але мала іх назад ішло да маскоўцаў, а заставаліся ў беларускім войску. Потым, калі там ужо ў маскоўцаў быў капітан Чайка, да беларускага штабу даляцела вестка аб пяцёх беларускіх разьведчыках, папаўшыхся да маскоўцаў у палон, якім там адрэзалі нос і вушы й вазілі па вёсках на паказ. Пасьля гэтага беларусы палонных на волю ня пускалі. Бывалі выпадкі такія, што палонны маскоўскі чырвонаармеец, якога пусьцілі на волю, ішоў назад у свой полк, падгаварваў балей таварышоў, абакрадвалі амуніцыю й аружжа ў сваіх ротах і пераносілі да беларускага войска. Такіх выпадкаў было ня мала. Гэта рабілася датуль, пакуль на бальшавіцкім фронце былі й чырвонаармейцы–беларусы, а ня толькі адны маскоўцы,— мешаніна. Але бальшавікі заўважылі гэта й прыслалі на наш фронт татараў, кіргізаў. Тут ужо справы пагоршалі. У гэты час беларускае войска атрымала трыста стрэльбаў, адзін кулямёт Максіма й два Кольтаўскіх у Лунінцы, — да сваё аружжа, — так што ўжо ўсяго разам сабралася да дзьвёх тысяч стрэльбаў і да дзесяцёх кулямётаў. Беларускае войска пасьля гэтага ня вытрывала й павяло наступленьне на мястэчкі Семяжова й Вызну. Наступаць на мястэчка Семяжова згадзіўся йсьці паручнік Мірановіч з кавалерыйскім аддзелам, а капітан Самусевіч з пешым аддзелам. Зайшлі яны да вёскі Новыя Макраны й застанавіліся начаваць, бо яны рыхтаваліся напасьці на маскоўцаў раніцаю. Вось ноччу ў гэтых Новых Макранах здарыўся такі выпадак. У конным аддзеле тады служылі два вядомыя на Случчыне бандыты: Мірончык з вёскі Ячава, Слуцкае воласьці й павету, і другі, прозьвішча ня помню, з Шацкае воласьці Ігуменскага павету. У гэту ноч яны задумалі крыху нажыцца. Падгаварылі яны больш сабе кумпаньёнаў і ўкралі дзесяцёра коней у сялян тае вёскі, шмат палацён, бялізны, сала й наагул забралі ўсё, што папалася ім у рукі. Забраўшы ўсё гэта, яны зьвярнуліся назад, не пашлі, значыцца, з другімі ў наступленьне, і думалі, што будзе ўсё крыта. Раніцаю дайшла вестка аб гэтым да штабу, і ўсіх гэтых грабежнікаў зарыштавалі, а разам з імі й паручніка Мірановіча за тое, што ён не зьвярнуў увагі на сваіх падданых у час грабяжу. Ка-

* Біруковіч.

мандзер брыгады дыктатарскаю ўладаю разжалаваў паручніка Мірановіча ў шарагоўцы, а двух бандытаў загадаў расстраляць. Расстрэльвалі іх публічна а другой гадзіне папаўдні 14 сьнежня ў глінішчах ля вёскі Грыцэвічы, у якой стаяў штаб Беларускіх войск. Праз суткі пасьля гэтага аддзел пад камандаю капітана Самусевіча, падмацованы ротамі, якія стаялі па пазыцыі, выгнаў маскоўцаў з мястэчка Семяжова, адабраўшы ў іх кухню, трое каней, кулямёт, дваццаць стрэльбаў і семдзесят пудоў збожжа. Штаб брыгады тады павінен быў пераехаць з вёскі Грыцэвіч бліжэй да фронту, але глыбей на Палесь, у вялізную вёску Морач. Адсюль ужо былі пасланы лепшыя сілы на мястэчка Вызну. Вызна была занята беларусамі, дзе маскоўцы страцілі шмат забітымі й раненымі й сто сорак папалася да беларусаў у палон. Гэта быў адзін з найбольшых баёў беларускіх паўстанцаў з маскоўцамі. Значыцца, абодва мястэчкі засталіся ў руках Слуцкіх паўстанцаў, толькі ня прыйшлося ў іх доўга пастаяць, бо, як вядома, Іофэ ў Рызе на канфэрэнцыі дастаў дазвол увесьці чырвоныя войскі ў нэйтральны пас на 72 гадзіны дзеля таго, каб выгнаць адтуль паўстанцаў. Тады маскоўцы прыслалі на фронт тры дывізіі войск, якія складаліся з людзей жоўтаскурых. Павялі яны наступленьне па ўсім фронце, так што паўстанцы адначасна аддалі ім м. Семежава й Вызну. У м. Вызьне быўшы паручнік Мірановіч апраўдаў сябе. Яго маскоўцы абкружылі, але ён адзін сярод іх пусьціўся на хітрыкі. Наляцеўшы на камандзера маскоўскае роты, ён адразу ложаю разьбіў яму голаў, маскоўцы рассыпаліся ва ўсе бакі, а ён тым часам уцёк да сваіх. За гэта Мірановічу было вернена яго афіцэрства. Пры адступленьні ад м. Семежава быў такі выпадак: адзін жаўнер–паўстанец утаміўся ўцякаючы; тады паварочваецца ён да маскоўцаў і пяе: «Ад–ве–ку мы спа–лі»... і ў гэты час страляе, адыходзячы задам. Такім чынам, штаб беларускіх войск пераехаў з вёскі Морач у в. Заастравечча, а жаўнеры ня трымалі ўжо фронту, а бяз усякага парадку йшлі ўсьлед за штабам. Такім чынам, Слуцкія паўстанцы папалі ў польскі нэйтральны пас, у якім палякі забаранілі зьбіраць ахвяру. Значыцца, становішча саўсім дрэннае: біцца з маскоўцамі ўжо немагчыма, бо пасьля такіх няўдач упаў дух у жаўнераў, карміцца няма чым, і шмат другіх непрыемнасьцяў. Рада Случчыны, параіўшыся з вайсковымі, рашыла перайсьці на польскую тэрыторыю. У гэты час першы Слуцкі полк атрымаў палкавы сьцяг (знамя), які каштаваў 156 000 польскіх марак. Вось 23 сьнежня паўстанцы Случчыны перайшлі польскую мяжу. Палякі на мосьце разброілі ўсё войска. Выходзіць так, што ўсё беларускае войска інтэрнавана. Але–ж слова «войска» шырокае: у войску можа быць пяцьсот жаўнераў, а можа быць і некалькі мільёнаў. Брыгада выдзяліла з свайго складу да дзесяцёх партыяў, узброіла іх і адаслала ў глыбокі тыл маскоўцаў, а рэшта войска засталася інтэрнаванаю пад ведаю 41–га польскага палка. Рада Случчыны пераехала ў м.Баранавічы, дзе й ся-

дзела праз цэлы месяц бяз жаднае працы. Працаваць яна не магла, бо ня было ніадкуль падмогі з боку матарыяльнага. За гэты месяц шмат прыйшлося чаго няпрыемнага перажыць ад агентаў гэнэрала Булак–Балаховіча, якія стараліся, каб перацягнуць да «Бацькі», але ім не ўдалося гэтага зрабіць. На абяцанкі Балаховіча ні адзін паўстанец не згадзіўся, і войска, як было беларускім, так і засталося. Вось 20 студня 1921 г. на пасяджэньні частка сяброў Рады Случчыны прызнала сваім важаком Балаховіча й паехала да яго. Другая частка Рады прымушана была распаўзьціся хто куды: некаторыя засталіся ў Баранавічах, трохі паехала да Вільні, каб часова знайсьці прытулак, і такім чынам Рада Случчыны фактычна ня існуе. Інтэрнаваную частку брыгады з штабамі палкоў палякі 23 сьнежня завезьлі ў м. Беласток у канцэнтрацыйны лагер. Там небаракі паўстанцы–Слуцакі, першыя на ўсёй Беларусі падняўшыя сьцяг ўзброенае барацьбы за незалежнасьць бацькаўшчыны, сядзяць цяпер паўгалодныя, босыя, голыя, у адных трамцях. Нягледзячы на свой марны лёс, яны цешацца, што зрабілі вялікую працу, якая будзе залічана ў будучыне. Жывуць яны аднэю надзеяю на тое, што Беларусь ня згіне, што Беларусь васкрэсьне.

*Наша Думка. 1921. 4, 11, 18 сакавіка (марца).*

# 132.
# Сяргей БУСЕЛ
# СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ

**Успаміны**[192]

**7 красавіка 1922 г.**

«Із–пад Слуцка, із–пад Клецка
ідзе дружба маладзецка»

Усе, хто хоць трохі цікавіўся беларускай справай, павінны ведаць аб Слуцкім паўстаньні ў 1920 г. Аб паўстаньні многа пісалася як аб факце, што 12 тысячаў слуцкіх паўстанцаў змагаліся каля 2–х месяцаў за беларускую справу. Справа паўстаньня патрабуе высьвятленьня. Трэба абавязкова высьвятліць, які ўдзел тая ці іншая беларуская палітычная група прымала ў паўстаньні, бо без працы палітычных груп магло б стацца, што паўстаньня зусім ня было б, ці гэта былі б проста «Зялёныя», ці яго ў канцы палякі выкарысталі б для сваіх захватніцкіх мэтаў. Праўда, гэта яны прабавалі рабіць, але, убачыўшы, што нічога ня выйдзе, справакавалі паўстаньне.

Вярнуўшыся зь Менску, я быў адгароджаны ад роднае вёскі бальшавіцка–польскай пазыцыяй і толькі праз тыдзень вярнуўся ў вёску. Я сядзеў, нікуды ня рыпаючыся, бо спадзяваўся, што палякі, як і раней, будуць душыць усё беларускае і працу вясьці будзе вельмі цяжка, а цяпер дык і зусім немагчыма, бо наша мясцовасьць у той час знаходзілася ў ваенным стане.

У вадзін памятны для мяне дзень прыходзіць к нам у хату кабета–суседка ды й кажа мне: «Чаго ты тут сядзіш? Я чула, што ў Слуцку зьбіраецца Беларусь». Верыў я ей вельмі мала, але гэта мяне прымушала рабіць тыя ці іншыя прадугадываньні. У той жа вечар прыходзіць да мяне некалькі сялян і кажуць тое самае. Тут ужо прышлося чуткам больш–менш верыць. Сяляне радзілі мне паехаць у Слуцак, а хурманку дасьць обчэства, запэўнялі мяне. Я падзякаваў ім і абяцаўся пасьлязаўтра абавязкова паехаць. Назаўтра прыходзя да мяне хлапец з суседняе вёскі і пытаецца аб тым, што цяпер беларускія працаўнікі думаюць рабіць і расказвае мне трохі аб тым, што робіцца ў Слуцку. Пасьля гэтага хлапца прыходзе з другой вёскі настаўнік, сябра беларускае арганізацыі «Селянін», арганізаванае мною пры бальшавікох, і мне расказвае, што гурток іх хацеў захапіць кіраўніцтва воласьцю ў свае рукі, пакуль палякі не паставілі яшчэ свайго войта, і сказаў, што па валасьцях езьдзіць нейкі беларускі дзеяч Бабарэка*.

* Маецца на ўвазе Пётра Бабарэка.

Цяпер я ўжо безупынна рашыў ехаць у Слуцак. У Слуцку, увайшоўшы ў канцылярыю Беларускага Нацыянальнага Камітэту, мне ў вочы кінуўся такі малюнак: сядзела некалькі чалавек, каторыя ніколі ўдзелу ў беларускай справе не прымалі, і што карагодзіў усей гэтай кампаніяй вядомы здраднік беларускай справы д–р Паўлюкевіч, які заўсёды ганьбіў і бэсьціў усё беларускае. Мне тут не заставалася чаго рабіць, і я скіраваўся да аднаго сябра Камітэта, каторы жыў у Камітэце. На сьпех ён мяне паінфармаваў аб тым, што тут быў сход прадстаўнікоў гораду і, праўда, адзін ці два чалавекі былі із вёскі, што на тым сходзе выбралі ўсіх тых, каторыя сядзяць у канцылярыі, паўнамоцнымі прадстаўнікамі ў Камітэт. Даведаўшыся маё прозьвішча, Паўлюкевіч запрасіў мяне ў канцылярыю. Тут ён мне сказаў, што мяне, як і ўсіх тых, што тут знаходзяцца, сход выбраў прадстаўнікамі ў Камітэт. Са мною ён стараўся гаварыць па–беларуску, так што мне трэба было вялікага ўсілку, каб утрымацца ад сьмеху. Я, разумеецца, сказаў, што ня бачу тут старых беларускіх працаўнікоў, і выказаў думку, што цяпер падхадзячы момант для паўстаньня. «Гэта і мы хочым рабіць, але што рабіць, калі беларускія працаўнікі ня хочуць разам з намі працаваць», — адказвае Паўлюкевіч. Я сказаў, што гэта праступленьне, і калі яны адмовяцца, то павятовыя сябры аб’явяць іх здраднікамі. Дзякуючы гэтаму, сход новых прадстаўнікоў Камітэту быў адложаны, пакуль я не перагаваруся са старым Камітэтам.

Сабраўшыся ў аднаго сябра Прэзыдыюма К–та і пазваўшы другіх сяброў, зрабілі нараду. Пракулевіч у дакладзе падкрэсьліў, што Паўлюкевіч пастараўся ўвайсьці ў Камітэт з авантурнымі мэтамі і што стары Камітэт аднагалосна выказаўся за непрызнаньне новых прадстаўнікоў і байкатаваньне іх.

«Згаджаючыся з усім тым, што Паўлюкевіч ёсьць авантурыст, дык і з гэтага не выходзіць, што мы павінны ўмываць рукі і толькі байкатаваць; на гэтым беларуская справа многа траціць», — сказаў я. Выказаўшы такую думку, я прапанаваў перадаць справы Прэзыдыюму новага Камітэта, які мае сягоньня злажыцца, а калі сябры Камітэта і беларускія працаўнікі ў новы Камітэт не павінны ўваходзіць, то я з Васілём Русаком будзем працаваць у Камітэце неафіцыяльна і пастараемся дабіцца сазваць зьезд Случчыны, а інструктарскую справу па выбарам на зьезд прадстаўнікоў ад валасьцёў возьмем у свае рукі. Усе на гэту прапазыцыю згадзіліся і вынясьлі пастанову, поўную абражаньняў па адрасу новых прадстаўнікоў Камітэта і аддалі мне для перадачы. Пастанова гэта была напісана рукой Русака, так што, калі мы яе падалі, то ўсе здагадаліся, што і Русак прыймаў удзел пры вынясеньні яе. Так што В. Русакова маска была прыпаднята, і яму не заставалася нічога, як толькі выйсьці. Застаўся я адзін. Перад адчыненьнем сходу я перагаварыўся з Паўлюкевічам і давёў яму, што я па

сваіх асабістых варунках не магу ўвайсьці ў Камітэт, а буду рад працаваць неафіцыяльна. Аб тым, што паставяць на павестку, далі першаму слова мне, і я папрасіў паставіць пытаньне аб скліканьні зьезду. Пытаньне было пастаўлена, і пры абгаварываньні пастаноўлена склікаць зьезд 17 кастрычніка*. Інструктарамі па выбарам прадстаўнікоў ад валасьцёў на зьезд былі пасланы: Дубіна У[лас], Русак В., я і яшчэ некалькі з павету, адракамендаваных мною. Зьехалася 17 кастрычніка** 105 прадстаўнікоў*** ад валасьцёў (у той лік уваходзяць раённыя начальнікі беларускай міліцыі). Прыехалі прадстаўнікі і ад ўсіх беларускіх гурткоў і, паміж іншым, прыехаў старшыня арганізацыі сялянін С. Мяшочэк, каторы на з'езьдзе многа прыкрасьцяў нарабіў групе «балахоўствуючых» на чале з Паўлюкевічам, так што і цяпер не праміналі ў «аляксюкоўскай» газэце «Еднасьць» напісаць, што ў Пінскім павеце знаходзіцца М... — «апостал у лапцёх». Праўда, Мяшочэк на зьезьдзе, як і цяпер, быў у сялянскай вопратцы і ў лапцёх, але тут, мне здаецца, німа нічога ні брыдкага, ні сьмешнага. Яшчэ да зьезду пачала працаваць «тройка», каторая складалася з Паўлюкевіча, Бачко[193] і капітана Анцыповіча, і гэтая «тройка» разаслала раённых начальнікаў міліцыі, зарганізавала штаб міліцыі, маючы на мэце, што гэты штаб будзе штабам ахвотніцкіх аддзелаў, і каторыя будуць рабаваць сялянства, як і ўсякія белагвардзейцы. З кіраўнікоў штабу, паміж іншым, быў цяперашні здраднік пар. Мацэля. І вось з раённых начальнікаў, Мацэлі і Паўлюкевіча зложылася на зьезьдзе моцная група «балахоўствуючых». На зьезд пасьпела вярнуцца з братам Балаховіча дэлегацыя на чале з кап. Самусевічам, каторую паслала «тройка». Вярнуўся з Варшавы і Жаўрыд, пасланы Нацыянальным Камітэтам. Ён прыехаў з упаважненьнем ад Найвышэйшае Беларускае Рады ў Варшаве. На зьезьдзе ён сказаў, што Найвышэйшай Радай захады перад польскай ўладай зроблены і што, калі сяляне Случчыны хочуць паўстаць, то падмога будзе. Кап. жа Самусевіч даводзіў, што бальшавікі сюды ня прыдуць і што Случчыну абароніць «Бацька» Булак–Балаховіч, толькі нам трэба даць сваіх сыноў на змаганьне, і што ён назначаны Балаховічам фармаваць у Слуцку полк і камандаваць ім. Сяляне ўсе, як адзін, выказаліся, што час настаў падняць сьцяг змаганьня за незалежнасьць Бацькаўшчыны. На вудачку ж «балахоўствуючым» яны не пашлі. Яны добра разумелі, што ім нясе генерал Балаховіч, і не пайшлі за Найвышэйшай Радай, а выбралі сваю Раду Случчыны і даручылі ёй кіраваць паўстаньнем. Старшынёй Рады быў выбраны Уладзімір Пракулевіч. Убачыўшы, што кіраваньне паўстаньнем папала не ў яго рукі, Паўлюкевіч кінуў усё і выехаў зь сямьёю за

* С. Бусел тут памыляецца ў даце скліканьня зьезду. Насамрэч было пастаноўлена склікаць беларускі зьезд Случчыны 14 лістапада.

** Насамрэч — 14 лістапада 1920 г.

*** Насамрэч — 107 дэлегатаў з вырашальным голасам і 10 з дарадчым.

нейтральны пас. Пасьля з’езду камандзір 11–й польскай дывізіі адмовіўся чым–кольвек памагчы паўстанцам. Хадзілі чуткі, што гэтай справе памог язык Паўлюкевіча. Аднак Рада Случчыны не пала духам: назначыла камандзірам брыгады кап. Анцыповіча і пастанавіла змагацца з тым аружжам, якое было. Месцам фармаваньня было назначана м. Семежава, куды пераехала таксама і Рада. У гэты час Паўлюкевіч прыслаў сказаць, што ён не паедзе ў брыгаду датуль, пакуль паўстанцы ня адгоняць бальшавікоў (у той час ён лічыўся брыгадным доктарам). Ён, мусіць, спадзяваўся, што калі палякі не памогуць, то паўстанцы адразу будуць разагнаны.

Рада інтэнсыўна вядзе працу. Пратэст проці захапленьня бальшавікамі Случчыны быў пасланы бальшавіцкаму ўраду і для апублікаваньня — за граніцу. Рада пасылала інструктароў растлумачыць сялянам сучаснае становішча. Рада рэквізіцыяў не рабіла, але сяляне самі прывозілі для ўтрыманьня войска правізію. К гэтаму часу ўжо зьехаліся ўсе паўстанцы: хто на сваім кані вярхом, другія са стрэльбай, з падводамі, наагул з тым, хто што меў. Хутка сфармаваўся полк, кавалерыйскі атрад і палкавы абоз. Тут жа пры палку была адчынена майстэрня дзеля налады сапсаванай зброі. Камандзірам палка быў назначаны кап. Чайка. Ён добра павёў справу. Полк хутка пачаў узбройвацца стрэльбамі, адабранымі ад бальшавікоў. Кап. Чайка ня толькі добра выконваў пастановы Рады, але многа выяўляў асабістай ініцыятывы: палонных выпушчаў на волю, вымагаў ад падуладных яму афіцэраў не ўжываць цялесных караў, на якія былі вельмі прыткія афіцэры, уперад служыўшыя ў белагвардзейскіх аддзелах. Пры ім быў узяты ў палон чырвоны афіцэр з ротай. Чайка ўзяў к сабе на кватэру, каб не даць зьдзекавацца над ім начальніку контрразведкі Мірановічу, а пасьля дапросу ў штабе пусьціў саўсім. Калі папракалі яго, чаму ён так робіць, то Чайка адказваў: «Ну хоць бы мы самага камуніста выпусьцілі, то мы гэтым нічога не трацім, а наадварот, што было б у такога чалавека на душы? Ці мог бы ён больш ваяваць проціў нас? Мы павінны біць духам, а не аружжам». Раз, калі паміж гутаркі закранулі асобу камуніста Кецка, то Чайка сказаў: «Такога камуніста німа чаго нам баяцца. Я яму напішу пісьмо, і ён прыедзе да нас».

Кожын дзень паўстанцы рабілі налёты на бальшавіцкія аддзелы, захоплівалі палонных і ваеннае дабро. Часта афіцэры палонных палітрукоў не адсылалі ў штаб, а расстрэлівалі на месцы. Бальшавікі не маглі захапіць жывым ніводнага паўстанца і за гэта вымяшчалі на сялянах. Як прыклад, раскажу адно здарэньне. Адзін раз разьведка паўстанцаў захапіла ў вёсцы Кажушкі роту чырвонаармейцаў, забіла палітрука і вышла зь вёскі. Назаўтра, даведаўшыся аб гэтым, бальшавікі зь вялікім атрадам акружылі вёску Кажушкі, выгналі ўсіх людзей на поле, паставілі проціў іх кулямёты і патрэ-

бавалі выдаць маючых зносіны зь беларускімі паўстанцамі. Сяляне маўчалі. Тады бальшавікі пачалі выбіраць з грамады па твары падазроных і адводзілі ў бок. Калі патрэбны лік людзей быў адабраны, то сталі адганяць грамаду ад абрачоных на сьмерць, але грамада не адступалася. Падняўся страшэнны крык і плач дзяцей. Старыя прасілі паставіць іх пад кулі замест сыноў і ўнукаў, кабеты — замест мужыкоў, дзеці не адходзілі ад сваіх бацькоў і моцна плакалі. У канцы бальшавікам, мусіць, надаела слухаць гэты разьдзіраючы душу канцэрт, яны схапілі першых папаўшыхся ў рукі 2–х чалавек, расстралялі іх і спакойна пакінулі вёску, задаволіўшы свае краважадныя інстынкты.

Справа паўстанцаў ідзе добра. Прыехала каля 12–ці чалавек, афіцэраў Беларускае Вайсковае Камісіі, каторыя пазорна здээртыравалі. Застаўся толькі кап. Андрэй Якубецкі з 3–ма ці што афіцэрамі, якія сумленна вялі працу да ліквідацыі самога паўстаньня. Каля гэтага часу прыяжджае Паўлюкевіч і з Мацэляй вядуць акцыю процi Прэзыдыюма Рады. Тут неўзабаве ловяць пасланца Чайкі, адбіраюць у яго пісьмо Чайкі, адрасаванае да Кецкі. Сам пісьма гэтага не чытаў, але чуў, што Чайка пісаў пісьмо такога зьместу: «Я знаходжуся ў беларускай паўстанчэскай арміі і многа раблю карысьці дзеля нашай ідэі. Белагвардзейскай сволачы не пазваляю займацца мордабіцьцем і аслабаняю палонных». Пісьмо было дастаўлена ў штаб, і Чайку арыштавалі. Арыштаваны сядзеў пры контрразьведцы, начальнікам каторай паручнікам Мірановічам быў пушчаны на волю. Трэба сказаць, што пар. Мірановіч за час свайго начальстваваньня над контрразьведкай многа прарабляў падобных штук: расстрэльваў без суда, кажучы са сьмехам: «Уцёк». Завёз за лінію паўстанчаскіх застаў аднаго арыштаванага камуніста Сенюка, кажучы, што брат твой памагаў мне, і вось я хачу аддзякаваць. Сенюк быў пушчан на волю. За астатнюю справу Рада ссадзіла з пасад і арыштавала паручніка Мірановіча і брыгаднага камандзіра Анцыповіча, але праз нейкі час іх выпусьцілі. З пабегам Чайкі пачалося адступленьне. У гэты час была асабліва дана воля разыграўшымся страсьцям: западазроных у камунізьме расстрэльвалі на мейсцы, а палонных аддавалі палякам. У той час была прадастаўлена новаму камандзіру кап. Сокал–Кутылоўскаму поўная ваенная дыктатура. Паўстанцаў гналі аж да нэйтральнага пасу. Пачакаўшы і раздабыўшы трохі аружжа і патронаў, паўстанцы яшчэ раз папрабавалі напасьці на бальшавікоў. Наступ быў зроблены вельмі ўдачна. Пахвачана было многа палонных, аружжа і ваеннага дабра. У часе гэтага наступу пар. Курыловічам (цяпер ён правая рука ў Алексюка) са сваім атрадам і пар. Мірановіч з кавалерыйскім атрадам, за ўкрыцьцё аднэю кабетай бальшавіка, была зроблена рэквізыцыя — грабёж у вёсцы Макраны. Забрана каля 8 каней і многа вясковага дабра. Аб гэтай справе ніхто ня ведаў, пакуль не прышлі сяляне з тэй вёскі з

жалабай у штаб. Тут былі агледжаны стайні кавалерыйскага атраду і частка коней знойдзена, а частку, сказалі салдаты, начальнік Міравовіч з вахмістрам павезлі ў Клецак. Праз гадзіны 2 Мірановіч з вахмістрам вярнуліся, але коні ўжо пасьпелі прадаць. За такую справу камандзер брыгады Сокал–Кутылоўскі прыказаў вахмістра Міронччыка і салдата Сысоева, каторы яшчэ да паўстаньня займаўся бандытызмам, расстраляць, а пар. Міраповіча разжалаваў у радавога. На другі дзень па заняцьці Вызны і Семежава бальшавікі з свайго боку павялі наступ. У Семежава пар. Курыловіч з батальёнам нязначнай часткі бальшавікоў быў акружан, і Семежава было пастыдна пакінута паўстанцамі. На другіх вучастках геройска бараніліся. Прыкладам узяць, пры абароне Вызны было праяўлена дзіва храбрасьці. У гэтым жа баю адлічыўся быўшы пар. Мірановіч, і яму быў вернуты яго чын. Калі паўстанцы зноў былі выгнаны ў нейтральны пас, то група «балахоўствуючых» павела агітацыю, што паражэньню вінавата Рада, бо не дапусьціла злучыцца з Балахоўскімі войскамі. У гэты час імі былі атрыманы весткі, што к ім ідзе на помач атрад Балаховіча, і яны гатовіліся расстраляць Раду і самім перайсьці к Балаховічу. Але тут некаторыя радныя давялі ім да ведама, што калі яны ня спыняць сваей прапаганды, то Рада, пакуль з'яўляецца аўтарытэтам у паўстанцаў, аддасць усіх здраднікаў бальшавікам. На шчасьце, спрачацца ня прышлося доўга, бо бальшавікі падаслалі коньніцы і інаплеменныя аддзелы, так што чырвоная ляпа камуністаў гатовілася захапіць паўстанцаў са штабам. Палякі ж, ідучы насустрач бальшавікам, далі права бальшавіцкаму войску на 96 гадзін зайсьці і за нейтральную зону, праследуючы партызанаў са штабам. Прыйшлося перайсьці граніцу. Тут палякі паўстанцаў разаружылі і інтэрнавалі. Частка, праўда, асталася, і пайшла ў лясы, а частка «балахоўствуючага» элямэнту пайшла ў «Зялёны Дуб» к атаману Дзергачу. Тут ужо «балахоўствуючая» група дала волю сваім страсьцям, так што жыхары Случчыны многа пацярпелі ад іх. Скора зьліквідовываецца і «Зялёны Дуб», тагды адны «балахоўствуючыя» паступаюць на службу здраднікам беларускай справы, Алексюку, другія ў польскую дыфэнзыву і крадуць у сялян, каторыя пад бальшавікамі, коней. Выдаюць галавой Беларускіх дзеячоў палякам і бальшавікам. Як, напрыклад, Мацэля, служачы ў польскай дыфэнзыве, аддаў бальшавікам беларускага дзеяча Бабарэку і палякам — Дубіну*. Але колькі «балахоўствуючыя» ні кампрамітавалі Слуцкіх Паўстанцаў, у жыхароў Случчыны асталіся самыя лепшыя ўспаміны аб паўстаньні. Цяжка далося бальшавікам арганізовываць валасныя і павятовыя іспалкомы, бо сяляне адмаўляліся прымаць удзел, кажучы: «Мы выбралі Раду і па 10 разоў не будзем выбіраць». А ў вёсцы Гулевічах сабралі сход выбраць сельсавет. На сход пры-

* Гаворка йдзе пра Ўласа Дубіну, арыштаванага польскімі ўладамі ў Вільні ў 1921 г. ды высланага тады ж у Літву.

шоў адзін стары дзед, каторы, мабыць, даўно не хадзіў на сходы. Доўга слухаў стары на сходзе спрэчкі, а потым у канцы сказаў: «Што вы пераліваеце з пустога ў парожнае, яшчэ няма 5–ці хлопцаў–паўстанцаў зь вёскі, нешта ж і яны думаюць». Пасьля гэтага сход ні з чым разышоўся.

Дык вось. Аддаўшы сваіх сыноў на алтар Бацькаўшчыне, сяляне веруць, што доўгачаканую волю здабудуць, і гэтая вера ў сялян Случчыны ніколі не памрэ.

Коўна, 7 Красавіка 1922 году.

*БДАМЛіМ, ф. 3, воп. 1. спр. 56, арк. 157—163. Аўтэнт., маш.*
*Апубл.: Спадчына. 1995. №6. С. 15—31.*

# 133.
# Васіль РУСАК
# ДУМКІ АБ СЛУЦКІМ ПАУСТАНЬНІ*

Адным зь яскравых змаганьняў за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, каб надзець свой панцыр, каб у будучыні ізноў не папасьці ў каляніяльную залежнасьць ад другіх народаў, было Слуцкае Паўстаньне ў лістападзе — сьнежні 1920 г., у якім прымала ўчасьце — дабравольна ўсё здольнае насіць зброю населеньне Случчыны. З усіх тагачасных паўстанчых рухаў на Беларусі адно Слуцкае Паўстаньне ясна паставіла мэтаю свайго змаганьня Вольную і Незалежную Дзяржаву Беларусі. Вызначаецца яно й тым, што было праявай волі й жаданьняў ня толькі ўзброеных змагароў–паўстанцаў, але ўсяе Случчыны, бо вялося згодна з фармальнай пастановай усяго жыхарства <…> **

Паўстаньне распачалося па загаду Рады Случчыны, якую выбраў і якой даручыў выкананьне сваёй волі зьезд Случчыны, што адбыўся 14—15 лістапада 1920 г. пад маім кіраўніцтвам. І ўжо 21 лістапада была першая ахвяра праліцьця крыві сябра паўстанца Ф. Валодзькі <…>

З Паўстаньнем Случчыны салідарызавалася тагды ўся Беларусь. Беларускія жаноцкія арганізацыі прыслалі 1–му Слуцкаму палку палкавы сьцяг нацыянальны з Пагоняй, вышытымі на ім словамі прысьвячэньня: «Тым, якія першымі паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына!» <…>

Вораг быў у чысленнай перавазе і падгатаваны к вайне. Мы былі ў меншым ліку — хто ня быў малы, ня будзе вялікі! 12 тысяч паўстанцаў з аружжам у руках цэлай Случчыне сказалі голасна: «Гнаць польскіх паноў і маскоўскіх камісараў! Нехай жыве Вольная Беларусь!» <…>

Так, пад нацыянальным сьцягам і Пагоняй вастанаўлівалася традыцыя сівой мінуўшчыны з 1249 г., калі былі разьбіты батыйскія поўчышчы на рацэ Няцеча каля Койданава[194]. Рада Случчыны, як кіраўнічы орган паўстаньня, прытрымоўвалася дзяржаўных прынцыпаў, прагалошаных на 1–ым Усебеларускім зьездзе 5—17 сьнежня 1917 г. і Граматы акту З 25 сакавіка 1918 г.*** аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ў этнаграфічных межах: Беларуская Дзяржава мае быць Рэспублікай. <…>

*НАРБ, ф. 459, воп. 1, спр. 13, арк. 48—49 адв. Аўтэнт., рук.*

* Дата напісаньня невядомая.
** Далей нечытэльна.
*** Маецца на ўвазе Трэцяя Ўстаўная Грамата БНР.

# 134.
# ГОЛАС БЫЛОГА СТАРШЫНІ ЗЬЕЗДУ СЛУЧЧЫНЫ

**1936 г.**

Пазнаёміўшыся з гістарычнымі дакумэнтамі, якія адносяцца да Слуцкага Паўстаньня і заслухаўшы некалькі дакладаў па гэтаму пытаньню ўдзельніка Паўстаньня гр. Бусла, Рэдакцыя нашае часопісі ахвотна ўзяла на сябе абавязак знаёміць грамадзянства з гэтай вялікай беларускай гістарычнай падзеяй. Уважалася, што факт Слуцкага Паўстаньня ставіць нас, беларусаў, на адну плошчу з перадавымі народамі СССР (грузінамі, украінцамі), якія пасьля развалу расійскай імпэрыі хоць і не змаглі ўтрымаць сваю палітычную незалежнасьць, то ў кожным выпадку вялі за яе ўпорнае змаганьне. Мы нат уважалі, што з гісторыяй Слуцкага паўстаньня варта было б знаёміць ня толькі сваё грамадзянства, але й іншыя народы. Фактам барацьбы за сваю незалежнасьць беларусы маглі б здабыць толькі пашану.

На жаль, не заўсёды й ня ўсё ў нас робіцца для таго, каб умацаваць свае пазыцыі. Беларусы часта, сьведама ці ня сьведама, ідуць па лініі сабезьнішчэньня. Штосьці падобнае праявілася ў некаторых кругох беларускага грамадзянства і ў адношаньні да Слуцкага Паўстаньня. Хадэкі паставіліся да яго негатыўна. Нэгавала яго і бел. санацыйная прэса. А ў ня так даўно выданай брашуры кс. Ад.Станкевіча, лідэра бел. хадэцыі (пад назовам «Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня»), знаходзім наступнае: «У канцы 1920 г. — беларускае Слуцкае паўстаньне проціў бальшавікоў: арганізавала яго, пры падтрыманьні польскага гэнэральнага штабу, беларуская Найвышэйшая Рада». Што пабудзіла кс. Станкевіча да такога цьвярджэньня, якія ён меў на гэта дадзеныя — нічога няведама.

Каб дакладней высьветліць гэтую справу, рэдакцыя «Золака»[195] зьвярнулася ды былога Старшыні Зьезду Случчыны і ўдзельніка Паўстаньня інж. В.Русака з просьбай сьцвярджэньня сапраўднага характару Слуцкага Паўстаньня. Гр. В.Русак на ўспомненым Зьездзе ў 1920 г. быў выбраны да Рады Случчыны, якая тагды на тэрыторыі Случчыны зьяўлялася адзінай вышэйшай уладай і якая кіравала Паўстаньнем. Гр. В.Русак надаслаў нам абшырны ліст, які з тэхнічных прычын цалком тут надрукаваць ня маем магчымасьцяў, а падаем толькі зьмест яго і некаторыя цытаты.

Аўтар выказвае ў лісьце пажаданьне, каб удзельнікі пэўных гістарычных падзеяў нядаўных дзён забіралі голас у справе гэтых здарэньняў, бо часта гісторыка–літаратары, пішучы аб фактах недалёкай нашай мінуўшчыны, або зусім з імі незнаёмы, або надаюць ім фальшы-

вае асьвятленьне. Асабліва важным уважае В.Русак знаёмства нашай моладзі з беларускай гістарычнай сапраўднасьцяй.

Адносна самаго Паўстаньня б. Старшыня Зьезду падае наступнае: «Пасланец (жанчына)*, які перабраўся з Менску праз 2 франты, сказаў, што Менск чакае на падзеі на месцох і што кіраўніцтва пры дадзеных ўмовах з аддаленага цэнтру немагчыма». Напярэдадні Паўстаньня «ішла ўнутраная, арганізацыйная праца, каб не дапусьціць у кіраўніцтва паўстаньнем авантурызму». «На выпадак, калі пратэст будзе мець значэньне**, то [трэба] падпарадкавацца Менскаму беларускаму цэнтру. У адношаньні да іншых беларускіх цэнтраў гр. В.Русак зазначае, што Слуцкімі беларускімі ўладамі пастаўлена было пры азбройным змаганьні навязаць зносіны з Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі ў Коўне і з «Найвышэйшай Радай» у Варшаве, каб праз іх падаць пратэсты заграніцай і знайсьці падтрыманьне ў няроўным змаганьні. Для гэтых Урадаў дзьверы былі адчыненыя... каб выканаць сваю гістарычную місыю... Ніякіх загадаў і распараджэньняў ад іх*** не паступала і ніякіх дырэктываў ніхто Радзе**** не даваў. Яна выпаўняла волю насельніцтва, і толькі».

З пададзеных вытрымак відаць, што Слуцкае Паўстаньне (як гэта ў свой час ужо гаварылася!) было арганізавана самымі Случчакамі і вялося пад іх уласным кіраўніцтвам, а не «Найвышэйшай Рады» ды яшчэ з дапамогай польскага гэнэральнага штабу, як гэта цьвердзіць кс. Станкевіч...

*Золак. 1936. №1 (7). С. 14—15.*

* Гаворка йдзе пра Любу Зяньковіч.

** Пратэст Беларускае Рады Случчыны ўраду РСФСР.

*** Вышэй узгаданых урадаў.

**** Радзе Случчыны.

# 135.
# ВЫТРЫМКА ЗЬ НЕВЯДОМАГА АРТЫКУЛА В. РУСАКА*

<…>

Являясь выразителем воли народа, Слуцкая рада диктует твердо стоять за независимость родной Белоруссии и защищать интересы крестьянства от насилия со стороны чужеземцев–захватчиков и в случае потребности даже силою оружия, несмотря на количественный перевес врага, думая, что наше дело — дело правды, а правда всегда **переможет**.

В волостях и деревнях восставали Белорусские Национальные Комитеты, организовывалась самооборона. Рада Слутчины создала регулярные воинские белорусские отделы, ядром чего являлась милиция. Тем временем, большевики приближались уже к Слуцку. Времени было мало и оборона не была организована, для этого главное воинское белорусское командование, созданное при Раде Слутчины, издало приказ частям и милиции оставить Слуцк и собираться в Семежеве, где в общем количестве объединилось около 10 000 повстанцев. Здесь же в Семежеве создался белорусский Слуцкий полк под командованием полковника Гавриловича и сразу же, хотя не имели достаточного количества оружия и обмундирования, приступили к вооруженной борьбе с большевиками. В свое время в Семежеве возник и второй белорусский Грозовский полк, состоящий исключительно из молодежи Грозова, под командованием капитана Семенюка. Из Слуцкого и Грозовского полка образовалась Первая слуцкая дивизия, командование которой вначале поручили капитану Анциповичу, затем капитану Сокол–Кутыловскому. И так организованная первая белорусская дивизия 27–го ноября 1920 года пошла в кровавый бой за родную Беларусь. Бои разворачивались около деревень Быстрица, Верабейчицы, Васильчицы, Черногубова, Василишки, Дашнова, Лютавичи, Мацкевичи около Копыля, Тимковичи, Вызна и другие. Во многих пунктах повстанцам удалось не только задержать большевиков, но и отобрать у них деревни и местечки. К примеру, повстанцы забрали у большевиков Тимковичи и другие местности.

Большевики имели большие потери убитыми и ранеными. Многие красноармейцы слушали призыв Рады Слутчины, которая обращалась к ним с адмысловыми (***дословно***) воззваниями, чтобы сдавались в плен или переходили на сторону повстанцев. Видя это, большевистское командование направило против повстанцев более надежные коммунистические части, которые не так легко сдавались,

* Арыгінал артыкула ня выяўлены. Дата напісання невядомая. Пераклад на расейскую мову зроблены ў 1946 г. тлумачом сьледчай часткі НКВД БССР.

проводили массовые аресты и расстрелы среди жителей. Белорусские повстанцы, не имея надлежащее количество оружия и обмундирования, не могли давать отпор большевикам и вынуждены были отступать к реке Лань. Позже все–таки еще несколько раз повстанцам удавалось делать удачные контратаки, набывать перемогу, но защитить Беларусь от большевиков они не смогли. 28–го декабря 1920 году Слуцкая дивизия вынуждена была перейти польскую границу. Здесь же поляки разоружили и интернировали вначале около Синявки, а затем в Белостоке.

Часть повстанцев, однако, не отдала оружия полякам. Эти повстанцы пошли в слуцкие леса, организовались в отделы и еще целыми годами с неслыханной настойчивостью боролись с большевиками, до тех пор, пока совсем не были побеждены.

Случчаки, таким образом, дали Белоруссии множество борцов за лучшую долю, дали много прекрасных деятелей.

<…>

Переводчик следственной части НКВД БССР,
мл. лейтенант Турко (подпись)

*НАРБ, ф. 459, воп. 1, спр. 5, арк. 11—13, 15. Аўтэнт., рук.*

## 136.
## ЛІСТ ВАСІЛЯ РУСАКА КАНСТАНЦІНУ ЕЗАВІТАВУ

**1 сакавіка 1944 г.**

м. Прага

Вельмі шаноўны сябру К. Езавітаў.

На Ваш ліст і матэрыялы па Случчыне адказаў пісулькай, цяпер пішу ліста. Пачну з надрукаванага ў [часопісе] «Б[еларус на] варце»[196]. Артыкул набліжаецца зусім да праўды, але самае галоўнае не дагаворана і яно ні можа быць дагаворана, бо ўсю складну пературасоўку праводзіў я і знаў Сяргей Бусел, якога зь Вільні вывязьлі. Часцічна знаў Пракулевіч. Пасьля зьезду ў Менску ўлетку 1920 года[197], на якім былі случакі, мы былі зьвязаны партыйнаю дысцыплінаю, і таму было роблена мною як бы за кулісамі і толькі, калі ўжо ні можна было выйсьці з палажэньня, браўся афіцыйна. Станавілася так справа, што ўся праца папярэдніх гадоў (гл. «Нашую Думку» за 1921 год, № 9, 10, 11*) магла б пайсьці не на карысьць Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня. «Тройка» — Паўлюкевіч, Мацэля і Бочка, якія арганізовывалі мітынг у Слуцку, выбраўшы 9 дэлегатаў на папаўненьне Беларускага Нацыянальнага Камітэту, і ў гэты спосаб захапіць у сваё кіраўніцтва Камітэт, было зроблена ўсё, каб гэтага не сталася, а пры перагаворах прышлі да згоды сазваць зьезд Случчыны разом, каб ужо зьезд выдзяліў кіраўніцтва. Ужыта слова ні Слуцкага павету, а Случчыны з шыршым зьместам, бо былі прадстаўнікі і з другіх паветаў. Прадстаўнікі былі: ад вёскі па 2 дэлегаты, а ад беларускіх арганізацыяў па 5.

Уся ідэёвая нацыянальная праца вялася дужа сьціскла; былі вызваны вучні зь мест, сябры «Папар[аць]–Кветкі», каб намеціць кандыдатаў на месцах, і праводзілі выбары. Першы дзень зьезда — 14 лістапада 1920 года, і выбары старшыні прайшлі як найлепей. Тагды «тройка» бачыць, што ўсе яе камбінацыі з Балаховічамі йдуць на змар, рашылі папробаваць тэрор. З гэтаю мэтаю быў арэстованы Асьвяцімскі і пушчана правакацыя на старшыню зьезда Васіля Русака, а гэта ўжо іх была бестактоўнасьць, бо на яго ні мог ніхто маральна сказаць слова, яго добра ведалі як аднаго з чэсных змагароў–рэвалюцыянераў, беларускіх дзяржаўнікаў. На другі дзень, 15 ліст., пайшло бурленьне, пачалі ўносіць рэзалюцыі. Іх было тры. Каб ні разьбіваць галасоў, адна была зьнята, дзе коратка вітаўся ўрад Народнай Беларускай Рэспублікі**. Дзьве другія былі прыняты для ўжытку, і старшыня пасьля прыняцьця аканчальна зьбіў Паўлюкевіча, а тым самым даў знаць брату Балаховіча, што німа што ў Случчыне рабіць.

* Узгадваецца артыкул Юркі Лістапада «Узьбіліся на свой шлях», зьмешчаны ў віленскай газэце «Наша Думка» ў 1921 г. Гл. с. 142—152.

** Маецца на ўвазе ўрад В. Ластоўскага.

Пасьведчаньне

для лектара культурна-прасьветнай

Імя Базыль

Прозьвішча Русак

Службовы аддзел у дзень выдачы пасьведчаньня Агульны аддзел

пасада Канцылярыст Агульн. Аддзелу

Прыняты у Беларускае Войска прыказам Беларускае Вайсковае Камісіі 11 сакавіка 1921 г. № 213

3

Беларуская Вайсковая Камісія.

Дэкрэт Галоунакамандуючага В. П. з дн. 22/Х 1919 г. № 3760/І

№ пасьв. 182

Дата 12 сакавіка 1921 году

ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ.

Лектар

Русак.

Старшыня Беларускае Вайсковае Камісіі

**Пасьведчаньне В.Русака, рэвідэнта БВК.**

Гэта было так: посьле прыняцьця рэзалюцыі, дзе віталася Найвышэйшая Рада БНР, старшыня зьезду, знаючы, што П. Жаўрыд меў грамату ад Найвышэйшай Рады БНР, зараз жа даў міма чаргі слова яму як прадстаўніку Найвышэйшай Рады <…> [Тут балахоўцы] кінуліся крычаць: «Як то!»… Тагды старшыня <…> усьцешыў і разьясьніў, у чым справа, і ўсе крыкі ўжо няўмесны, паколькі прынята рэзалюцыя аб прызнаньні Рады БНР і мусімо* яе камісара. Пасьля чаго была выбрана Рада Случчыны зь 17 асоб, якая зь сябе выдзяліла Прэзыдыюм з 7 сяброў, старшынёю быў Ул. Пракулевіч.

Пасьля зьезду разьвярнулася гарачая рэвалюцыйная праца, бо час ні ждаў. У Слуцак наплывала многа народу, якія ўцякалі ад маскоўскай навалы. Быў выдан пратэст на імя народнага камісара Леніна праз дэлегацыю, якая была пры польскім штабе пры [перамовах] па перамір'ю, што да ўвода Чырвонай арміі на Беларусь, паколькі яе прызнаюць пры перамір'і, і што калі ня будзе прыняты гэты пратэст к пагоджаным, то Рада Случчыны, выпаўняючы волю жыхарства, павядзе яго на аружнае змаганьне. У даны срок отпаведзі ні было, тагды Рада Случчыны дадала заяву аб зборцы ў мяст. Семежава і прыняцьці фарміраваньня 1–е Слуцкай брыгады войск БНР, так што з былое міліцыі арганізоўвалі ўжо войска на барацьбу з ворагамі за Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі.

* Наступнае слова нечытэльнае.

Каб паказаць перад сьветам ужо сваю правату і за што змагацца, Рада Случчыны 28—29.XI.1920 г. у м. Семежаве выдала Дэкларацыю, якая дзялілася на ўступ і 8 аддзелаў пры ім. Да Семежава прыехаў прадстаўнік Найвышэйшай Рады Тэрэшчанка, які, убачыўшы, як стройна радамі йшлі жаўнеры Случчыны, расплакаўся, раздаваў усё, што меў. На паседжаньні Рады гаварыў, што ён увойдзе ў перагаворы з Польскаю ўладаю і паможа нам амуніцыяй і аружжам, к таму што Вайсковая Камісія ў Лодзі вышле афіцэраў <...> Аб ніякай помачы амуніцыяй і аружжам ня было ні слуху ні духу, а некалькі афіцэраў прыбыло. Частка іх была сумленна і нават патрыятычна <...>, другая нечага баялася, і яны пакінулі Семежава. Пасьля ўдачных і няўдачных баёў (гл. сводку ў «Новым Шляху», 25 лістапада
* 1937 года; № 3(24)).*<...>

Што датычыцца асобаў, іх характарыстык, то проста ўстрымовываюся, паколькі ні знаю, у якім яны стане ёсьць і дзе. Знаю толькі, што Кутылоўскі–Сокал у Ганцавічах цяпер, а Якубецкі ў Дзьвінску. Уладзімер Пракулевіч быў пракурорам суда, Павал Жаўрыд — юрыст пасьля Варшаўскага ўніверсытэту. Паўлюкевіч — ваенны ўрач. Мацэлі, здаецца, Вы яго зналі, бо некаторы час быў у Менску ў Вайсковай Камісіі, потым Рада Случчыны дала дзеля сувязі ў штаб Балаховіча, як і Балаховіч і Савінкаў далі нам афіцэра дзеля сувязі. Бо Рада Случчыны вяла зь імі кантакт толькі як з вайсковымі і не ўступала ў другія якія бы то ні было перагаворы, каб гэтыя польскія найміты не скампраметавалі ў вачох грамадзянства і Беларусі справы незалежнасьці. Бо прызыў у Рады Случчыны быў: «Ні польскага пана, ні маскоўскага камісара». Хаця ж гэта з[*] увайшло як слуцкае паўстаньне, але правідлова яго можам назваць «Барацьба Случчыны ў 1920 г. за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі проці акупацыі».

*НАРБ, ф. 459, воп. 1, спр. 9, арк. 35—39. Аўтэнт., рук.*
*Апубл.: Спадчына. 1995. №6. С.31—36.*

[*] Наступнае слова нечытэльнае. Магчымыя варыянты: зь літаратуры, з мэмуараў.

# 137.
# Антон СОКАЛ–КУТЫЛОЎСКІ
# МАЕ ЎСПАМІНЫ АБ СЛУЦКІМ ЗБРОЙНЫМ ЗМАГАНЬНІ З БАЛЬШАВІКАМІ Ў 1920 ГОДЗЕ[198]

**Не пазьней за 7 сьнежня 1944 г.**

Я маю шчасьце і гонар сёньня падзяліцца з вамі сваімі асабістымі ўспамінамі, што мне давялося чуць, бачыць і перажываць ў зьвязку з Слуцкімі падзеямі.

24 гады таму назад у лістападзе месяцы 1920 году невялікая кучка інтэлігенцыі і сялян Случчыны ўхапілася за аружжа і кінулася фанатычна бараніць сваю мілую Случчыну ад бальшавіцкай навалы.

Ці ж ня былі дарэмнымі тыя ахвяры, якія нацыянальна–сьведамыя случакі злажылі на аўтар свае дарагое Бацькаўшчыны, бяручы ўдзел у змаганьні? Што ж змусіла гэтую невялічкую кучку людзей выступіць са зброяй у руках супроць непараўнальна большае сілы ворага?

Каб на гэтыя пытаньні даць сапраўдны адказ, прыходзіцца сягнуць некалькі назад, у гісторыю царскае Расеі астатніх 20 год. Як ведама, пры расейскім урадзе ня было нават і мовы пра Беларусь. Расейская гісторыя гэткае назвы ня знала. Замест беларусаў, ісконных жыхароў свае Бацькаўшчыны, значыліся «жители Северо–Западного края России». Ясна, калі не вызнавалі беларускага народу, то ня вызнавалі і беларускае мовы, а, значыць, ня лічылі за патрэбнае і адчыняць беларускія школы, і друкаваць беларускія кнігі, газэты ды разьвіваць беларускую літаратуру. Беларускі народ, на думку русіфікатараў, павінен быў паступова забыць сваё паходжаньне і нацыянальна сканаць.

Рэвалюцыя 1905 году ўскалыхнула разам з іншымі народамі і наш беларускі народ. Пачынаючы ад 1906 году, пачала выходзіць у Вільні 1–я беларуская газэта «Наша Доля»[199]. Праўда, па выпуску некалькі нумароў яна сканала за сваю выразна пастаўленую ідэалёгію — змагацца за зямлю і волю свайго народу аж да адзысканьня незалежнасьці. На яе месца зьявілася новая газэта — «Наша Ніва»[200], якая праводзіла незалежніцкую думку беларускага народу ў асобах яго лепшых прадстаўнікоў — пісьменьнікаў, літаратараў, паэтаў і грамадскіх дзеячоў. Думка іхная праводзілася ў самую гушчу народную, асабліва пры дапамозе народных настаўнікаў–беларусаў, хаця і працуючых у школах рускіх.

Навакол «Нашае Нівы» пачалі гуртавацца выдатныя сілы, якія ўсьведамлялі народ імкнуцца заняць па праву тое месца сярод іншых народаў, якое беларускі народ займаў у часы свайго неза-

лежнага жыцьця, у тыя часы, калі беларускі народ быў багаты і слаўны, знаны далёка, як кажа паэт Янка Купала, «за літоўскай і ляшскай зямлёю».

1–ая сусьветная вайна 1914—1918 гадоў шмат затрымала далейшае разьвіцьцё дзяржаўнага руху, бо беларусы ў сілу ваенных падзеяў былі расьцярушаны па ўсёй амаль царскай імпэрыі. Праўда, ужо пры нямецкай ваеннай акупацыі ў большай частцы Беларусі, хаця і з вялікімі цяжкасьцямі, але пачалі ў 1915 годзе адчыняцца (на Горадзеншчыне і Віленшчыне) школы зь беларускаю выкладоваю моваю.

Лютаўская рэвалюцыя 1917 году дала вялікую мажлівасьць да нацыянальнага гуртаваньня. Па ўсіх вайсковых частках, дзе толькі мелася пэўная значная колькасьць жаўнераў–беларусаў, арганізоўваліся нацыянальныя беларускія гурткі, з мэтаю аб'ядnаньня беларусаў, каб, вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, ужо ў арганізаваным выглядзе, прыступіць да адбудовы свае дзяржаўнасьці.

25, 26 і 27–га сакавіка на зьезьдзе ў Менску ад усіх беларускіх арганізацыяў было ўхвалена дамагацца перабудовы Расейскае імпэрыі, у якой Беларусь заняла б месца аўтаномнай рэспублікі. На тым зьезьдзе выбралі Беларускі Нацыянальны Камітэт[201]. Хутка там жа, у Менску, утварылася Вялікая Беларуская Рада[202], якая ўзяла на сябе агульнае народнае прадстаўніцтва.

У шмат якіх гарадох, дзякуючы рэвалюцыйнаму ўздыму, адбываліся беларускія зьезды і закладалася шмат розных беларускіх арганізацыяў. Усё гэта вымагала стварэньня адзінага кіраўнічага органу і заняцьця беларускім народам выразна–акрэсьленага становішча.

Тады зьявілася думка — склікаць Усебеларускі Кангрэс, у якім узялі б удзел прадстаўнікі ад усіх гарадоў і паветаў Беларусі, а таксама ад розных партыяў і палітычных кірункаў.

Склікала Ўсебеларускі кангрэс Вялікая Беларуская Рада. Кангрэс адчыніўся ў Менскім гарадскім тэатры 5–га сьнежня 1917 году. Усіх дэлегатаў прыехала з усіх куткоў Беларусі 1167 чалавек*. За старшыню Зьезду абралі дацэнта Івана Сераду[202]. Зьезд–Кангрэс праводзіў сваю працу два тыдні. Калі бальшавікі спасьцераглі, што бальшыня дэлегатаў зьезду стаіць на дзяржаўным гледзішчы, дык ужо 17–га сьнежня бальшавікі абставілі панцырнікамі і кулямётамі будынак Менскага Шляхецтва, у вялікай залі якога адбываўся Кангрэс, і сілаю аружжа, уварваўшыся ў будынак, пачалі разганяць дэлегатаў Кангрэсу. Нягледзячы на гэта, Кангрэс пасьпеў вылучыць спасярод сябе Раду Кангрэсу, якая потым ператварылася ў Раду

* Іншыя крыніцы падаюць розныя лічбы колькасьці дэлегатаў на Ўсебеларускі зьезд 1917 г.

Беларускай Народнай Рэспубліці. Лёс як сябраў Рады, так і Кангрэсу ўсім добра вядомы: хто ня быў забіты або арыштаваны, змушаны быў уцякаць за межы або хавацца сярод неабсяжных беларускіх пушчаў і балотаў.

19–га лютага 1918 году Беларуская Рада ўзяла ўладу ў Менску ў свае рукі, і калі 25–га лютага нямецкія войскі занялі Менск, дык Рада працягвала сваю працу. На паседжаньні 25–га сакавіка 1918 году выдана III Устаўная Грамата, якая абвесьціла Беларусь Незалежнай Народнай Рэспублікай, аб чым былі паведамленыя замежныя дзяржавы.

Рада БНР магла працаваць да сьнежня 1918 году, а калі бальшавікі ізноў занялі Менск, — выехала ў Горадню і Вільню, дзе і працягвала сваю працу. Пазьней яна змушаная была выехаць за межы.

Так прайшоў 1919 год і большая частка 1920 году. На беларускіх землях паявіліся новыя гаспадары — палякі, якія тады змагаліся з бальшавікамі і адначасова рабавалі беларускае дабро і разбуралі беларускую зямлю.

У лістападзе 1920 году, калі слабыя польскія войскі адыходзілі ўсё далей і далей на захад, а бальшавікі занялі Менск і пагражалі Слуцку, у Слуцку выбухнула, як называюць, паўстаньне, хаця я не магу назваць такі чын паўстаньнем, бо то было народнае змаганьне за сваю Бацькаўшчыну.

Трэба ведаць, што здаўна Случчына адыгрывала выдатную ролю ў жыцьці беларускага народу. Случчына заўсёды давала вялікую колькасьць інтэлігенцыі. Значная частка дэлегатаў 1–га Усебеларускага кангрэсу прыехала з Случчыны. На Случчыне ў тую пару пражывала болей за 300 афіцэраў усіх радоў аружжа і рангаў. Ад прапаршчыка да гэнерала ўключна. Ня мала знаходзілася і розных цывільных спэцыялістых. У Слуцку аж ад 1918 году існаваў Беларускі Нацыянальны Камітэт. Камітэт трымаў цесную сувязь з Радаю Беларускае Народнае Рэспублікі і Беларускім Урадам.

Дзеля арганізацыі самаабароны ўтварылася народная міліцыя ў складзе да 500 чалавек зь беларускімі камандзірамі.

На жаль, у тую пару сярод кіраўнічых вярхоў Камітэту пачаў прыкмячацца развал. Утварыліся два кірункі: адзін — пад старшынством Паўлюкевіча, які стаяў за цеснае супрацоўніцтва з палякамі, а другі — незалежніцкі, з судзьдзём Пракулевічам на чале. Каб ня даць Паўлюкевічу разгарнуць сваёй работы па зьбліжэньню з палякамі, ініцыятарская група Незалежніцкага камітэту пастанавіла склікаць зьезд Случчыны.

На зьезд прыехала з 15–ці валасьцей і гораду Слуцку 107 дэлегатаў. Зьезд адкрыўся 14–га лістапада 1920 году ў багата прыбранай залі дому пана Вайніловіча[204]. Зеляніна ў перамежку з нацыянальнымі бел–чырвона–белымі сьцягамі запаўняла залю і трыбу-

ну. У прысутных панаваў сьвяточны, прыўзьняты і ўсхваляваны настрой.

Старшынёй зьезду абралі Васіля Русака, а за віцэ–старшыню — адваката Пракулевіча.

Пасьля адчыненьня Зьезду і прывітаньня сабраных дэлегатаў, з дазволу старшыні Зьезду, узыйшоў на трыбуну малады чалавек у чорным паліто і з белым шалікам на шыі, дастаў з левай бакавой кішэні паліто складзеную паперу і сказаў, што ён, Паўла Жаўрыд, прыехаў з замежжа і прызначаны эміграцыйным урадам Беларускай Народнай Рэспублікі камісарам на Случчыну. Тут жа ён зачытаў дэкрэт аб сваім прызначэньні камісарам.

Гучныя воплескі ўсёй залі былі адказам Паўлу Жаўрыду. Гэтыя воплескі разам з тым былі выяўленьнем падпарадкаванасьці ўраду БНР.

На Зьезьдзе выступала да 10 дэлегатаў з прамовамі. Апрача старшыні В. Русака прамаўлялі: кап. Анцыповіч, кап. Самусевіч, Юліян Сасноўскі, Г. Грынько і іншыя. Усе прамоўцы зь вялікім уздымам выказваліся, што Случчына не прызнае ніякае чужое ўлады на сваёй зямлі, а толькі тую ўладу, якая абрана самім Беларускім Народам.

Дзеля таго, што час быў надта трывожны і кажная мінута была дарагою Зьезду, Зьезд працягваўся ўсяго адзін дзень*, і за гэты дзень пасьпеў выбраць так званую Раду Случчыны. Рада Случчыны складалася з 17–ці асобаў і пераняла ўсю ўладу на Случчыне. Старшынёй Рады абралі Пракулевіча, а сябрамі Васіля Русака, Івана Біруковіча, Аляксея Кабычкіна, Юліяна Сасноўскага, Грыгора Грынько, кап. Анцыповіча, Паўла Баня і іншых.

Зьезд вынес наступную рэзалюцыю:

«Першы Беларускі Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку 107 асобаў, вітае Раду Беларускае Народнае Рэспублікі і заяўляе, што ўсе свае сілы аддасьць на адбудову Бацькаўшчыны. Зьезд катэгарычна пратэстуе супроць заняцьця нашае Бацькаўшчыны чужацкімі і самазванымі савецкімі ўладамі.

Хай жыве Вольная, Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах!»

Адначасна ўхвалена было неадкладна прыступіць да падрыхтоўкі збройнага змаганьня. Таму ў той жа вечар некалькі чалавек з дэлегатаў Зьезду выехалі па вёсках у воласьці Грозаўскую, Грэскую, Цараўскую, Раманаўскую, Чапліцкую, Быстрыцкую, Старобінскую, Вызьнянскую, Копыльскую, Цімкавіцкую, а таксама і ў іншыя суседнія воласьці.

Праз колькі дзён Рада Случчыны выдала дэкларацыю, у якой гаварылася:

* Аўтар памыляецца: Зьезд працягваўся два дні.

«У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня іх за сваю самастойнасьць і свабоду Беларуская Рада Случчыны, выконваючы волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны — Беларусі, заяўляе ўсяму сьвету аб асноўных дамаганьнях беларускага сялянства: 1) Беларусь павінна быць вольнай, незалежнай рэспублікай у яе этнаграфічных межах. 2) Абвяшчаючы аб гэтым і зьўляючыся выразіцелькай волі народу, Слуцкая Рада дэкляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў. 3) У выпадку патрэбы Слуцкая Рада будзе бараніцца нават сілаю аружжа, нягледзячы на лічбовую перавагу ворага.

Мы верым, што наша справа ёсьць справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе!»

Рэзалюцыя Слуцкага Зьезду і дэклярацыя Слуцкай Рады былі запраўдным клічам падымацца на народнае змаганьне за права і волю народу на ўласнай зямлі, бо вораг ужо зьбіраўся паняволіць нашую цудоўную, багатую, каханую Случчыну.

Кліч адгукнуўся моцным рэхам. Усюды па вёсках і мястэчках утвараліся нацыянальныя камітэты, якія дапамагалі Радзе тварыць збройную сілу.

Асноўным ядром гэтае збройнае сілы зьявілася беларуская міліцыя. Да яе гарнуліся ўсе, каму была дарагою Случчына.

Тады паўстала пытаньне перад Радай, каму даручыць лёс людзей, што ўзялі зброю ў рукі. На становішча камандзіра прабавалі запрасіць капітана Гэн. Штабу Паверзака і аднаго генэрала–беларуса, пражываўшага тады ў Слуцку. І той, і другі адмовіліся, матывуючы сваю адмову каротка: — «Вас мала!»

Падобныя ж заўвагі можна было пачуць і ад некаторых сялян і ад інтэлігенцыі. Нават, памятаю, мой родны бацька сказаў мне: «Сыне, куды ты йдзеш? Вас мала, і вы нічога ня зробіце!»

Калі вышэй успомненыя афіцэры адмовіліся ўзяць на сябе камандаваньне, тады Рада Случчыны даручыла мне паехаць у в. Лютавічы Вызьнянскай воласьці і прывезьці ў Слуцак капітана Гэн. Штабу Паўла Чайку.

Я быў супроць назначэньня Чайкі камандзірам збройнае сілы, бо я ведаў гэтага чалавека. Мне прыйшлося ў пачатку 1919 году два месяцы працаваць у Слуцку пры Ваенным Камісарыяце ў характары павятовага інструктара па агульнаму ваеннаму навучаньню, а Чайка там жа, пры Камісарыяце, быў ваенным кіраўніком. У працы нам прыходзілася супрацоўнічаць разам, і я пазнаў Чайку як вялікага сымпатыка да савецкай улады. І калі я, па двух месяцах службы, запрапанаваў Чайку кідаць бальшавіцкі камісарыят і ўцякаць за мяжу, то ён адмовіўся і нават, як я пасьля даведаўся, дапамагаў ваеннаму каміса-

ру ў Слуцку, кату Лебедзю, мяне знайсьці ў маіх родных месцах, куды я накіраваўся з Слуцку.

Аднак, дзеля таго, што Рада настойліва загадала мне ехаць да Чайкі, я загад Рады выканаў. Чайка, хаця і зь вялікаю неахвотаю, а ўсё ж згадзіўся ехаць у Слуцак. Яму Рада і даручыла камандаваньне збройнаю сілаю.

Бальшавікі тады падыходзілі ўжо да Асіпавіч і Старых Дарог. У Слуцку заставацца было небясьпечна. Дастатковая абарона ня была яшчэ зарганізавана. Таму камандаваньне, у згодзе з Радаю, выдала загад 24–га лістапада 1920 году пакінуць Слуцак і адыходзіць па дарогах, што вядуць на захад, ды зьбірацца ў Семяжове.

Памятаю, перад вечарам пакідалі Слуцак. Кажны — з думкаю, ці вернемся калі назад.

Людзі ўсё прыбывалі. Быў створаны 1–ы Слуцкі полк пад камандаваньнем капітана Анцыповіча, а пасьля — капітана Семенюка[205]. Праз колькі дзён зайшла патрэба стварыць другі — Грозаўскі полк, пад камандаваньнем палкоўніка Гаўрыловіча. Стрэльбаў усем не хапала, і значная частка людзей адыходзіла на захад без аружжа, што значна паніжала баёвую здольнасьць палкоў.

З палкоў Слуцкага і Грозаўскага стварылася 1–я Слуцкая Брыгада.

Тым часам бальшавікі, заняўшы Слуцак, рынуліся усьлед за слуцкімі змагарамі і, як кажуць, ішлі па пятах.

У адлегласьці 35—40 км ад Слуцку 26—27 лістападу пачаліся сутычкі перадавых чырвоных войскаў з паасобнымі батальёнамі палкоў Слуцкае Брыгады.

Асабліва значныя баі адбыліся пры вёсках — Садавічы, Дошнава, Быстрыца, Вызна, Лютавічы, м. Капыль, Морачы ды іншых. У гэтую самую гарачую пару камандуючы Слуцкаю Брыгадаю капітан Чайка здрадзіў і перайшоў на бок нашых ворагаў — бальшавікоў.

Тады Рада Случчыны, якая знаходзілася ў Семежове, выклікала капітана Сокала–Кутылоўскага і даручыла яму прыняць камандаваньне брыгадаю.

У паасобных баёх з чырвонымі часткамі браліся палонныя, адбіваліся назад населеныя пункты. Аднак адна брыгада, ды яшчэ слаба ўзброеная, хаця і з вялікім запалам змагалася, вымушаная была адыйсьці за раку Лань на лінію Мядзьведзічы — Сіняўка — Ляхавічы — Клецак, у тыя мясцовасьці, дзе стаялі палякі.

Бальшавіцкае войска далей не пайшло, бо перамовы бальшавікоў з палякамі ў Рызе закончыліся, і Беларусь была падзеленая.

Пасьля ўваходу міравой умовы палякаў з Масквою ў сілу, палякі, каб дагадзіць бальшавіком, абяззброілі Слуцкую Брыгаду. Афіцэраў і стральцоў інтэрнавалі ў Беластоку. Там, за дротам, слуцкія змагары праседзелі ад пачатку лютага да паловы красавіка, пасьля ўсіх іх перавезьлі у Дарагуск над Бугам, дзе знаходзіліся вялікія лягеры для

ваеннапалонных з часу сусьветнае вайны. У гэтых лягерах усе афіцэры і жаўнеры прабылі да канца траўня 1921 году.

Нарэшце камандзіру брыгады ўдалося дастаць дазвол ад польскіх ваенных уладаў на права выдачы кажнаму афіцэру і стральцу дарожнага дакуманту на праезд яго да тае мясцовасьці, якую ён абраў у Польшчы. Усе разьехаліся ў розных напрамках. Так закончылася народнае змаганьне случакоў за сваю дарагую Бацькаўшчыну.

Па ўплыве колькіх гадоў працы ў польскіх паноў і жыдоўскіх прамыслоўцаў некаторыя з афіцэраў і стральцоў Слуцкае Брыгады ня вытрымалі зьдзекаў, тугі па родных палетках, разлукі з сям‘ёй і, паверыўшы бальшавіком, што ўсім даруецца за збройнае змаганьне, пайшлі ў сваю родную Случчыну.

Спачатку ГПУ–НКВД не зачапіла іх, бо чакала, што за імі прыдуць іхныя сябры ў большай колькасьці. Аднак праз 7—8 месяцаў усіх вярнуўшыхся арыштавалі і судзілі іх як выступаўшых з аружжам у руках супроць савецкай улады ды павысылалі на 10 год у Караганду, Салаўкі, Калыму, Беламорскі Канал і іншыя месцы, адкуль павароту ўжо няма. Там усе яны і закончылі сваё жыцьцё.

З афіцэраў у гэткі спосаб загінулі: падпалкоўнік Гаўрыловіч і паручык Багушэвіч. Шмат загінула і даверлівых стральцоў.

Кап. Анцыповіч і Самусевіч былі неафіцыйна выданы палякамі бальшавіком і пасьля зьдзекаў і катаваньняў расстраляныя.

Паручык Бранявіцкі забіты падасланымі ў Польшчу агентамі НКВД.

Паручык Кернажыцкі і Янушэнка арыштаваны НКВД і засланы ў Сібір на цяжкія прымусовыя работы ў 1939 г.

Прапаршчык Рудзік, паводле чутак, расстраляны бальшавікамі ў 1940 годзе.

Сябра Рады Случчыны, Юліян Сасноўскі, адзін з актыўных дзеячоў, ня вытрымаў зьдзекаў з боку польскае адміністрацыі і скончыў жыцьцё самагубствам.

А колькі загінула афіцэраў, падафіцэраў і стральцоў, аб якіх ня маем дакладных дадзеных!

Паўстаюць пытаньні: ці не дарэмна была пралітая кроў шчырых сыноў Беларусі? Ці варта было брацца за аружжа і весьці змаганьне, калі «нас было мала»?

Не, не дарэмнымі былі ахвяры! Праўда, мы сьцяклі крывёю, выплакана нямала сьлёз тымі, хто страціў бацьку, мужа, брата, жаніха, але затое аб збройным змаганьні Случчыны даведаліся шмат якія народы за межамі. Тыя народы, якія часта нават ня чулі, што ёсьць такі беларускі народ, даведаліся, што гэты народ ня толькі існуе, але што ён жыцьцё сваё здольны аддаць за Бацькаўшчыну, што ён імкнецца да свайго самастойнага існаваньня і нават сілаю

аружжа здольны дабівацца права гаспадарыць на ўласнай зямлі самастойна.

Тутака мушу паясьніць, што Слуцкая Брыгада зьяўлялася не якой–небудзь бандаю, а гэта была сапраўдная вайсковая адзінка, якая налічвала да 10 000 жаўнераў.

1–шы Слуцкі полк меў нават палкавы сьцяг надзвычай мастацкага выкананьня. Яго ахвяравалі палку беларускія жанчыны–патрыёткі. Сьцяг быў залацістага колеру, 2 мэтры ўдаўжкі і 1 мэтар ушыркі. Пасярэдзіне выкананая ў нацыянальных фарбах «Пагоня» каля 45 см у дыямэтры, а навокал надпіс: «1–шы Слуцкі полк Беларускай Народнай Рэспублікі».

Сьцяг, як вайсковую і нацыянальную святыню, случчакі мелі з сабою падчас прабываньня за дротам, а калі разьяжджаліся з Дарагуску, сьцяг забраў я і перахоўваў аж да 1931 году, калі падчас вобыску польскае паліцыі сьцяг быў знойдзены і забраны, а мяне пацягнулі да адказнасьці.

Успамінаючы гадавіну Слуцкага змаганьня, ня лішнім будзе правесьці аналёгію паміж 1920 і 1944 гадамі. Тады шмат хто адмовіўся прыняць удзел у змаганьні, кажучы, што «вас мала», а ў сапраўднасьці не хацеўісьці на змаганьне, бо меў цёплы куток і аладкі, тлуста памазаныя.

Цяпер мы на чужой зямлі. Бацькаўшчыну страцілі. Кажны з нас жадае чым хутчэй вярнуцца дахаты, але ж трэба некаму гэтую нашу Бацькаўшчыну вызваліць ад жыда–бальшавікоў.

Мы не павінны быць дзецьмі, не павінны верыць, што нехта прагоніць з нашае зямлі бальшавікоў і нам яе аддасьць.

Ня час сёньня разважаць: ці нас шмат, ці мала? Ці маем мы добрыя ўмовы жыцьця, ці не? <...> Трэба не забывацца, што калі ня будзе зьнішчаны бальшавізм, то мы ніколі ня ўбачым свае дарагое Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

Капітан Сокал–Кутылоўскі.

16.XII.1944
[illegible]

Даведка:
1. Улетку 1921 году я зьвярнуўся да Пінска-Навагрудзкага Япіскапа Панцялеймона, пражываючага тады у Навагрудку, з просьбаю прыняць у Навагрудзкі Сабор на пераховываньне сьцяга 1 Слуцкага палка. Япіскап Панцялеймон мне у гэтым адмовіў.
2. Увесь архіў Слуцкае Брыгады у ліпені м-цы 1921 г. я адвёз у Вільню і перадаў Тарашкевічу Браніславу. Так зрабіць мне параіў Маёр Якубэцкі Андрэй, Старшыня Бел. Вайск. Камісіі.

Кап. Сокал-Кутылоўскі

**Аўтограф Антона Сокал–Кутылоўскага з фрагмэнтам ягоных успамінаў пра Слуцкі збройны чын. 1944 г.**

Даведка: 16.XII.1944

1. Улетку 1921 году я зьвярнуўся да Пінска–Наваградскага Япіскапа Панцеляймана[206], пражываючага тады ў Навагрудку, з просьбаю прыняць у Наваградскі Сабор на перахаваньне сьцяга 1[–га] Слуцкага палка. Япіскап Панцялейман мне ў гэтым адмовіў.

2. Увесь архіў Слуцкае Брыгады ў ліпені м–цы 1921 г. я адвёз у Вільню і перадаў Тарашкевічу Браніславу. Так зрабіць мне параіў Маёр Якубецкі Андрэй, Старшыня Бел. Вайск. Камісіі.

Кап. Сокал–Кутылоўскі.

*Друкуецца з дакумэнтальных збораў архіву Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью–Ёрку. Аўтэнт., маш. (з рук. дадаткам). На 1–й с. маецца пячатка Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР: «Атрымана дня 7.12.1944. № 2010». Апубл.: Зважай (Таронта). 1989. Лістапад.*

# 138.
# Тодар ДАНІЛЮК[207]
# МАЕ ЎСПАМІНЫ АБ СЛУЖБЕ Ў БЕЛАРУСКІХ ВАЙСКОВЫХ ФАРМАЦЫЯХ І ЎДЗЕЛЕ Ў БЕЛАРУСКІМ ЗБРОЙНЫМ ЗМАГАНЬНІ 1917—1921 гг.[208]

**Не пазьней за 15 сьнежня 1944 г.**

Бэрлін.

Звыш чвэрці стагодзьдзя адыйшло ў нябыт з тае пары, калі мне давялося браць удзел у падзеях, якія зьяўляюцца вялікім паваротам у гісторыі беларускага адраджэньня. На думцы я маю здарэньні, зьвязаныя з абвяшчэньнем незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе й асабліва стварэньне беларускіх вайсковых адзінак і беларускае збройнае змаганьне на працягу ад 1917 да 1921 гг. Сяньня, калі мінае 24 гады ад выбуху Слуцкага паўстаньня і перад намі ўстаюць падобныя, калі ня тыя самыя заданьні, як тады, я рады падзяліцца з усімі суродзічамі, а асабліва маладым пакаленьнем, тымі сьціплымі весткамі, якія захаваліся ў маёй памяці да гэтае пары.

Яшчэ да першае сусьветнае вайны і падчас яе мне давялося адведаць шмат куткоў былое Расейскае імпэрыі. І дзе я толькі не затрымліваўся, расейцы дапякалі мне за мой «нячысты» акцэнт, называючы мяне «палячком», а палякі, наадварот, звалі «кацапам». Чужым і адзінотным адчуваў я сябе ў шматлюднай Расеі. Тады яшчэ слова «беларус» у выніку русыфікацыйнае палітыкі расейскага ўраду ня мела значаньня прыналежнасьці да асобнае нацыі, а ўжывалася хутчэй як азначэньне паходжаньня з «Северо–Западного края». Нацыянальная сьведамасьць нараджалася ў нашых сэрцах, перамагаючы багата накінутых чужынцамі пoглядаў і фальшывых уяўленьняў. Звацца беларусам значыла тады сьцягваць на сябе ўвагу зьверхнікаў і паддавацца бясконцым допытам і перасьцярогам.

Памятаю, калі я ў афіцэрскай школе, усьведаміўшы канчаткова, хто я, запісаўся беларусам, мой курсавы афіцэр сказаў мне: «Ты большой рызыкант, если во время войны осмелился написать в автобиографии, что ты беларус, а не русский». Гэтак было сярод інтэлігенцыі, што ж казаць тады аб работніках і сялянах! Народная гушча ў большасьці яшчэ спала. Лічаныя адзінкі толькі пашыралі нацыянальныя ідэі і намагаліся пацягнуць народ да сьветлае будучыні. Заслужаныя імёны іх і цяжкасьці, якія яны перамаглі, з пашанай адзначыла і ўспамінаць будзе Гісторыя Роднага Краю.

Цяпер немагчыма акрэсьліць шляхі, якімі пайшло б беларускае адраджэньне, беларускі вызвольны рух, калі б не выбухла рэвалюцыя ў 1917 годзе, якая пахіснула Расейскую імпэрыю ў ейных асновах.

Ад першых дзён рэвалюцыі нацыянальная сьвядомасьць сярод беларусаў пачала пашырацца з хуткасьцю электрычнае іскры.

Я ў той час пасьля сканчэньня афіцэрскае ці, як тады называлася, «школы прапаршчыкаў» пяхоты ў Гатчыне быў прызначаны камандзірам 4–е роты, а пасьля вучэбнае каманды ў 223–м рэзэрвавым палку, які знаходзіўся ў г. Таржок. Часта ў гутарках з сваімі жаўнерамі, сярод якіх было багата беларусаў, даводзілася чуць словы пагарды аб «маскалях», спосабе іх жыцьця, жаданьне вярнуцца на Беларусь і нясьмелыя яшчэ разважаньні аб магчымасьцях дзяржаўнага існаваньня нашае Радзімы.

1 кастрычніка 1917 году па маёй собскай просьбе я быў прызначаны ў 118–ы Шуйскі полк на Румынскім фронце, які ў большасьці складаўся зь беларусаў, пераважна сланімчан, г. зн. маіх землякоў.

Тут ужо задоўга прыйшлі весткі аб бальшавіцкім перавароце. Бальшавіцкая агітацыя здабывала сабе сярод жаўнераў багата прыхільнікаў. Вынікам гэтага сталася суцэльная дэмаралізацыя, заняпад дысцыпліны і, агулам кажучы, развал арміі. Жаўнеры штодня цэлымі дзясяткамі ўцякалі з сваіх аддзелаў, прадавалі і грабілі вайсковую маёмасьць.

Тады заступнік галоўнага камандуючага Румынскага фронту ген. Шчарбакоў выдаў загад аб нацыянальных злучэньнях сярод арміі, якая дзеяла на Румынскім фронце. Беларусы павінны былі зьбірацца ў 4–м корпусе, які разьмяшчаўся каля Ільештаў і Івэштаў пад Сэрэтам*.

Я быў вызначаны нацыянальным камісарам корпусу. Маім заданьнем было сьцягнуць усіх беларусаў у названы корпус. На жаль, абвешчаная дэмабілізацыя разьбіла ўшчэнт мае намаганьні. З цэлага корпусу засталося пад маім распараджэньнем ня больш за паўтысячы жаўнераў.

Аднак і з гэтай жменькай мне ўдалося выратаваць што–колечы з вайсковае маёмасьці і па собскай ініцыятыве загрузіць яе часткова на цягнікі з намерам накіраваць у Менск. Усяго назьбіралася 6 эшалонаў, у якіх налічвалася: каля 200 коней, звыш 2000 стрэльбаў, звыш 60 кулямётаў, 12 гарматаў, 10—12 вагонаў харчоў, 8 вагонаў фуражу, 4 вагоны амуніцыі і багата іншага ваеннага снадзіва.

Румынскія ўлады пачаткова адносіліся да мае дзейнасьці прыхільна, і я яшчэ пасьпеў выслаць з 6–х 2 цягнікі ў Менск зь невялікай аховай пад камандаваньнем падпаручніка Бабіцкага. Што зь імі сталася ў дарозе — ня ведаю.

Нечакана, здаецца, у сакавіку 1918 г., адбылося пагадненьне паміж немцамі і румынамі. Выслаць далейшыя 4 эшалоны, нягледзячы на маю заяву, што ў іх знаходзіцца маёмасьць беларускіх вайсковых адзінак, было мне забаронена. Паведамленьне аб гэтым ад камандзіра нейкае асобнае нямецкае групы забралі ад мяне падчас арышту ў 1919 г. у Ваўкавыску палякі.

* Тэрыторыя сучаснае Румыніі.

Прабыўшы яшчэ колькі часу на месцы і пераканаўшыся, што там на стварэньне беларускіх адзінак ці выратаваньне маёмасьці няма больш надзеі, я накіраваўся да свае сям'і ў Таганрог.

І пасьля нядоўгага побыту ў Таганрогу, у связі з распадам канчатковым расейскае арміі, я ў верасьні 1918 г. вярнуўся на Бацькаўшчыну, у Слонімшчыну.

Тут застаў я сумны вобраз зьнішчэньня, які пакінула па сабе вайна. Ня маючы страхі над галавою і ніякіх пэрспэктываў на будучыню, я быў прымушаны шукаць сабе іншага прыпынішча і накіраваўся ў Ваўкавыск, да жончыных сваякоў.

У Ваўкавыску я сустрэў аднаго з колішніх беларускіх дзеячоў спадара Цярэшчанку, зь якім мы пры падтрыманьні немцаў склікалі Зьезд Ваўкавышчыны, на якім была выбраная Беларуская Рада Ваўкавыскага павету, на чале якой стаяў я сам. Рада перайняла ў павеце ўсю цывільную ўладу і арганізавала беларускую конную і пешую паліцыю.

Аднак у міжчасьсе нямецкія войскі пачалі адыходзіць зь Беларусі, і з аднаго боку набліжаліся сюды палякі, а з другога — бальшавікі.

У студзені 1919 г. палякі захапілі Ваўкавыск. Рада Ваўкавышчыны была разьвязаная, а я пераехаў у Горадню.

Тамака ў той час шырока разгарнуўся беларускі рух. Тварылася беларускае войска. Я ўступіў малодшым афіцэрам у 1–шы Беларускі Горадзенскі Полк[209] і быў прыкамандзіраваны да камэндатуры г. Горадні, у распараджэньне капітана Дзямідава[210]. У лютым 1919 г. я быў высланы ў мяст. Вялікую Бераставіцу на вярбоўку жаўнераў. Там, пры вярбоўцы, мяне арыштавала польская жандармерыя і накіравала ў Беласток, а адтуль у Ваўкавыск у штаб ген. Івашкевіча, які, апытаўшы мяне, загадаў пасадзіць у турму.

У вастрозе сустрэў я колькі беларускіх афіцэраў–вярбоўшчыкаў, між інш. Казячага[211] і Хомчыка. Сядзець там доўга нам не давялося. У вялікодную ноч (25.3.1919 г.) нам удалося з турмы ўцякчы і ў адным нацеліве (палякі зьнялі з нас вопратку), босымі на марозе дабрацца да Горадні.

З увагі на тое, што да Горадні ўжо таксама набліжаліся палякі, мне заставацца там было асабліва небясьпечна, і таму капітан Дзямідаў камандзіраваў мяне ў распараджэньне Беларускага прадстаўніцтва ў Коўне.

У Коўне пашчасьціла мне сустрэцца з такімі выдатнымі беларусамі, як першы прэзыдэнт БНР Пётра Крэчэўскі, Васіль Захарка[212], Язэп Варонка[213], палкоўнік Езавітаў ды інш.

Беларускае прадстаўніцтва накіравала мяне ў распараджэньне літоўскага камэнданта г. Коўна дзеля абняцьця камандаваньня над беларускімі жаўнерамі і дзеля сувязі.

Адгэтуль ліцьвінамі я быў прызначаны ў г. Аліту, дзе нейкі час знаходзіўся эскадрон беларускае коньніцы пад камандаваньнем ротмі-

стра Глінскага, адыйшоўшы з Горадні. Там я прабыў да восені 1920 г. Тады пачалі пашырацца ў Літве чуткі, што ў Слуцку пачаўся паўстанцкі рух супраць бальшавікоў. Дзеля падтрыманьня гэтага руху я быў Беларускім Прадстаўніцтвам накіраваны зь некалькімі стральцамі ў Слуцак.

Літоўска–польскую мяжу перайшлі мы нелегальна каля мяст. Мерач і апынуліся ў Горадні. У Горадні сустрэў я шмат каго зь беларускіх афіцэраў: маёра Якубецкага, капітана Борыка і інш., зь якімі я разам скіраваўся далей у Слуцак.

Па дарозе, пачынаючы ўжо ад Клецку, пачалі мы сустракаць мужчынаў з клункамі, якія, як мы даведаліся, сьпяшалі ў Слуцак, каб далучыцца да паўстанцаў. У Слуцку мы зьявіліся ў Раду Случчыны, якая дала нам скіраваньне ў Беларускую Брыгаду. Я быў прыняты як малодшы афіцэр у 1–шы полк Слуцкіх Стральцоў БНР, а пасьля кароткага часу вызначаны камандзірам вучэбнае каманды.

Побыт брыгады ў Слуцку трываў нядоўга. Паміж Польшчай і РСФСР быў падпісаны мірны дыктат у Рызе, на аснове якога Беларусь была падзеленая на дзьве часткі, і Слуцак прыпадаўся бальшавіком. Слуцкая брыгада, ня маючы належнага азброеньня, з увагі на набліжэньне бальшавіцкіх ордаў, пачала адыходзіць на захад, да мяст. Семежава.

З гэтае пары і насталі дні цяжкіх перажываньняў брыгады. Адбываліся сутычкі і паважныя бойкі з бальшавікамі, між інш. пад Капылем, Цімкавічамі, Піліпавічамі, Ёдчыцамі, Вялікай Болваньню, сялом Цапра і скрозь па рацэ Лані. Асабліва зацяты бой быў пад Цімкавічамі, дзе з нашага боку былі першыя ахвяры, якія ўрачыста пахаваныя з правага боку каля царквы ў Семежаве. На пахавінах пасьля адпяяньня гімну меў прамову сп. Васіль Русак.

У няспынных баёх брыгада адыходзіла да ракі Лань і затрымалася ў ваколіцах Клецку.

Адтуль я з вучэбнай камандай быў высланы ў распараджэньне Беларускае Вайсковае Камісіі ў Лодзь.

Пры Беларускай Вайсковай Камісіі існаваў тады беларускі батальён, у які была ўключана вучэбная каманда. Я займаў становішча эвідэнцыйнага афіцэра пры камісіі.

На чале Камісіі стаяў тады маёр Якубецкі. З польскага боку быў пракамандзіраваны маёр Завісьляк, які вельмі непрыхільна адносіўся і шкодзіў нашай справе. Камісія праіснавала да 1 траўня 1921 году, а тады была зьліквідаваная. Усе акты забраў 2–гі Аддз. MS–Wojsk.* Афіцэры і жаўнеры былі звольненыя. Частка зь іх засталася ў Польшчы, большасьць, аднак, разьехалася ў замежжа.

З афіцэраў, якія прымалі ўдзел у Слуцкім паўстаньні, прыпамінаю: камандзіраў Брыгады — палкоўніка Гаўрыловіча, капітана Се-

* MS Wojsk. (Ministerstwo Spraw Wojskowych) — Міністэрства справаў вайсковых Польшчы.

менюка, капітана Сокал–Кутылоўскага Антона і малодшых афіцэраў — паручнікаў Капца, Рудзька, Падгурскага Уладзімера, Янкоўскага, Арцышэвіча Аркадзя і Лукашэвіча. Прозьвішчы іншых выйшлі ўжо з памяці.

Зь Беларускае Вайсковае Камісіі прыпамінаю наступных: палкоўніка Якубоўскага (татарын), падпалкоўніка Якубоўскага, капітана Борыка Антона, паручнікаў — Кушаля Францішка, Касьцевіча, Більдзюкевіча, Радчэнка, Дзехцярова, Падгурскага, Арцышэвіча, Новіка, Казеку[214], Гнароўскага Антона, маёра Якубецкага і капітана Семенюка.

Большасьць з найменаваных афіцэраў ужо ня жыве, або лучыла ў бальшавіцкія рукі і загінула, або гібее яшчэ ў канцлягерох.

Пасьля разьвязаньня Беларускае Вайсковае Камісіі я вярнуўся на Бацькаўшчыну і пайшоў у духоўнікі, каб іншым спосабам у зьмененых абставінах служыць свайму народу.

І толькі сяньня, ужо на парозе старасьці, я зноў уступаю ў рады Беларускага Войска, каб змагацца далей за тыя ідэалы, якія мы намагаліся асягнуць у гады сусьветнае вайны і пасьля яе.

Бачачы, як з кожным днём растуць нашыя рады, і адчуваючы наважанасьць усіх — ад жаўнера і да афіцэра — аддаць жыцьцё для вызваленьня Беларусі, я веру, што

Жыве Беларусь і будзе жыць!

Тодар Данілюк, лейтэнант.

*НАРБ, ф. 383, воп. 1, спр. 2, арк. 63—67. Аўтэнт., маш. з рук. фрагмэнтам. На 1–й с. маецца пячатка Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР: «Атрымана дня 5.12.1944. № 2097». Транслітарацыя зь беларускай лацінкі.*
*Апубл.: Спадчына. 1995. №5. С. 11—31.*

## 139.
## Антон БАЧКО
## УСПАМІНЫ АБ СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЬНІ

**29 лістапада 1944 г.**

Бэрлін.

Як вядома, у 20–м годзе ў жніўні месяцы палякі адбілі бальшавікоў з–пад Варшавы і пагналі на ўсход. У Случчыне палякі зайшлі за Слуцак прыблізна кілёмэтраў на 14 за Вясею (рэчка) і далей не пайшлі. Уся здаровая маральна моладзь Случчызны (а яна, за вельмі нямногімі выняткамі, уся была здаровая) і інтэлігенцыя, каторай было вельмі шмат і каторая ўся, можна сказаць. паходзіла з сельскае земляробскае гушчы, усё гэта засталося дома. Галоўным месцам зборкі інтэлігенцыі быў, як ведама, горад Слуцак. Некаторыя папераяжджалі з сёлаў у Слуцак і жылі тыднямі ў ім. Пераважала сярод іх больш настаўніцтва. Вядома, большасьць гэтае інтэлігенцыі была афіцэрамі ваеннага часу. Першыя дні па прыходзе палякаў мы думалі, што палякі і астануцца ў Слуцку, бо папрыязджалі польскія паны (памешчыкі) і сталі весьці агітацыю, каб насельніцтва Случчыны зляжыла пэтыцыю Пілсудзкаму аб астаўленьні Случчызны за Польшчаю. Пры гэтай агітацыі бывалі вельмі камічныя выпадкі. Вось у сяле Сярэднікі, Раманаўскае воласьці, нейкі пан Гурскі ўзьлез на стол і вельмі горача прамаўляў аб выгодах, якія атрымаюць беларусы ад Польшчы. Паміж іншага ён ужыў гэткую фразу: «Польшча нясе вам заходнюю культуру», а нейкі дзядзька Сьцяпан выймае люльку з роту, добра сьплёўвае ўбок дый кажа: «Знаем мы гэтую куртулю (гэтак і сказаў — «куртулю») — нагайкаю па сьпіне! Хадзем, хлопцы, няма чаго слухаць». Бо і праўда, што палякі перад гэтым пры немцах пушчалі ў ход нагайкі. Але гэта толькі камічны эпізод. Я ў гэты час жыў у Слуцку, у мяне на кватэры быў польскі штабовы капітан, паміж іншага, вельмі парадачны чалавек. Ён мне сказаў, што Слуцак будзе астаўлены палякамі і што граніца будзе на захад ад Слуцку каля 40 км. Гэтая чутка скора разьнеслася па ўсёй Случчызьне. Наплыў у Слуцак інтэлігенцыі і проста сельскае моладзі стаў вельмі вялікі. Зьбіраліся розна дзе: то па кватэрах, то па жыдоўскіх заездах, то проста на вуліцы. Уваўсіх было адно запытаньне: «Што рабіць?» Мысьль аб збройным паўстаньні проціў бальшавікоў нарадзілася сама сабою, яна насілася ў паветры, трохі дадавалі ахвоты палякі–вайскоўцы абяцаньнем дапамагчы аружжам. З агітацыйнай стараны многа зрабіў, трэба сказаць, доктар Паўлюкевіч (Керанскі ў мініатуры, а потым, кажуць, здраднік, але гэта не мая справа і не газэтны матар'ял). Сталі неяк зьбірацца ў жыдоўскім заезьдзе, здаецца, Фрыдмана (чы то там была фатагра-

фія Фрыдмана, — добра ня помню), на рагу Шасовае вуліцы і Трайчанскага завулку. Тут вельмі скора сфармавалася мысьль аб зьезьдзе дэлегатаў са ўсяе Случчызны, і ўся інтэлігенцыя разьехалася па сваіх вёсках для агітацыі.

І вось у вызначаны дзень у лістападзе (каторага — не памятаю, але было холадна і дзядзькі ў кажухох былі) Слуцак запоўніўся кажухамі і вайсковымі шынэлямі — дэлегатамі і проста жыхарамі вёсак пшанічнае Случчыны. Заінтэрасаваньне было вельмі вялікае, настрой баявы. Сабраньне адбылося ў нейкай тэатральнай залі па Шасовай вуліцы, недалёка ад станцыі шасовае дарогі (там быў, здаецца, клюб камуністых, я там суткі праседзеў арыштаваны — за тое, што насіў сінія афіцэрскія штаны з чырвоным кантом). Я быў у гэты час хворы на модную тады гішпанку, і вушы мне балелі; нягледзячы на гэта — прыйшлі, сьцягнулі мяне з ложка і павялі на сабраньне. Там мяне абвязалі хусткаю і, згорбленага, выпхнулі на сцэну перад публікай, бо ішоў выбар выканаўчага камітэту, і была пастаўлена мая кандыдатура, а ўсякі кандыдат мусіў выступіць перад публікай. Тут трохі пасьмяяліся, пажартавалі з майго выгляду, але ў сябры камітэту выбралі (гэта матар'ял не газэтны). У Камітэт увайшлі: доктар Паўлюкевіч, я і яшчэ трэйці, але прозьвішча ягонага ніяк ня прыпомню*. Ды гэта ня вельмі важна, бо дзейнасьць Камітэту была ня вельмі доўгая і вялікая. Ён толькі і пасьпеў агаласіць і праз дэлегатаў разаслаць па вёсках абвестку аб дабраахвотным запісу ў Слуцкае «войска». Што датычыць зьезду, то трэба сказаць, што гэткага аднамысьля, гэткага настрою я ніколі не спатыкаў. Гаварылі многія дэлегаты, але коратка і дарэчы. Вельмі добрую прапанову сказаў настаўнік Нэронскі. Зараз–жа сталі зьяўляцца дабраахвотнікі, многія са сваім аружжам. Камандзірам усяе збройнае сілы, якая ўтворыцца, быў выбраны штабс–капітан Анцыповіч з сяла Пранавічы, з фе[ль]дфебеляў старой арміі, які даслужыўся да афіцэра. Выбар быў ня зусім удачны: выпаўняць даручэньні ён мог, але сам кіраваць, ды яшчэ цэлаю брыгадай, якая пасьля ўтварылася, ён ня мог, ніякае ініцыятывы ня меў. Гэта скора было заўважана, і камандаваньне было перадана штабс–капітану Сокал–Кутылоўскаму. Выбар быў удачны. Чалавек інтэлігентны, з цьвёрдаю воляй і собскай ініцыятывай, ён паставіў узорную дысцыпліну, заапекаваўся прадавольствам. Першым месцам зборкі брыгады было мястэчка Семяжава. Адсюль было зроблена некалькі вылазак у старану бальшавікоў. Асабліва ўдачныя былі вылазкі паручыка Мірановіча, але, бедны, і ён адзін раз дастаў ад бальшавікоў прыкладам па

* Бачко тут пераблытаў дзьве розныя падзеі, у якіх прымаў удзел: гарадзкі сход беларусаў г. Слуцку 1 лістапада 1920 г., дзе ён разам з А.Паўлюкевічам і І.Мацэлям ды інш. быў абраны ў склад новага Слуцкага Белнацкаму і ўласна Зьезд Случчыны, што адбыўся 14—15 лістапада таго ж году.

сьпіне, так што некалькі дзён ня мог разагнуцца. Скора выясьнілася, што Семяжава адыходзіць па Рыскаму трактату да бальшавікоў, а тым часам палякі, як заўсёды, двуліцовыя, многа абяцалі, а нічога не давалі. Галоўнае, нам трэба было аружжа, а яго ня было, і прыйшлося адступіць на польскую старану ў сяло Грыцавічы і акружныя вёскі. У старану бальшавікоў заўсёды хадзіла разьведка, большае акцыі ладзіць не маглі з браку аружжа, хаця хлапцы і рваліся, казалі, хоць з каламі, ды хадзем. Тым часам палякі вызначылі места Ганцавічы для атрыманьня аружжа. Паехаў штабс–капітан Самусевіч і я. Прынялі нас вельмі ветліва, а далі ўсё роўна што нічога: некалькі соцень старых вінтовак і два старыя паламаныя кулямёты і зноў наабяцалі многа. Ехалі мы ўжо не ў Грыцавічы, а ў Заастравечча, куды перайшла брыгада. Па прыезьдзе мы адразу заўважылі ўпадак духу як у простых дабраахвотнікаў, так і ў камандзіраў. Частка нават ужо разыйшлася па сваіх родных і знаёмых, а знайшліся і такія, што на рызыку пайшлі на бальшавіцкую старану. Праз пару тыдняў брыгада растварылася сярод насельніцтва Заастравечча, Клецку, Нясьвіжу, але ўсякі адыходзіў зь нейкаю тайнаю надзеяй. На гэтым Слуцкая акцыя ня кончылася. Толькі цяпер яна стала скрытаю, кратоваю. Настала работа так званае «зялёнае арміі». Да канца сакавіка 1921 году я сядзеў за Ляхавічамі, выганяў астаткі «гішпанкі». У канцы сакавіка я прыехаў у Клецак і даведаўся, што галоўная кватэра «зялёных» у Нясьвіжы. Я паехаў туды і знайшоў кватэру на новым месцы — на Браварнай вуліцы. Там, апрача старога знаёмага мне капітана Самусевіча, былі зусім новыя асобы — нейкі Мароз з Горадні, Грач[215] (псэўдонім, праўдзівага прозьвішча ня ведаю), а агенты па некалькі чалавек былі раскіданы па пагранічных вёсках і хутарох. Палякі патрабавалі ад галоўнае кватэры афіцэра для сувязі з II адзьдзелам (польская разьведка). Паслалі мяне ў Слонім, але хутка я ўгледзеў, што я не афіцэр для сувязі, але проста закладнік, бо палякі далі мне памешканьне ў гатэлі і дзень і ноч старажылі мяне. Праз два месяцы мне ўдалося выбрацца са Слоніма. Я асеў у Клецку ў якасьці настаўніка рускае гімназіі. Самусевіч скора папаўся ў рукі менскае чэка і там, бедны, кончыў, мабыць, у цяжкіх муках. Што ён многа зрабіў, то прызналі нават палякі, бо далі ягонай жонцы канцэсію на водку. Работа ў «зялёных» прадаўжалася да 1923 г. і папсавала бальшавіком вельмі многа крыві. Нават у самым Слуцку бальшавікі не заўсёды спалі спакойна, бо і туды забіраліся сьмельчакі з «зялёных». Самы дзельны з «зялёных», за галаву якога бальшавікі вызначылі вялікую суму, быў застрэлены здраднікам ззаду ў патыліцу за сялом Колкі (каля Заастравечча) пры пераходзе граніцы. Фаміліі яго я цяпер ніяк не магу ўспомніць, хаця яго добра ведаў, бо ён у мяне і дняваў, і начаваў. Ён паходзіў з сяла Прусы, але меў нейкую не беларускую фамілію. Калі хто ёсьць з маладых, хто вучыўся ў Нясьвіжскай гімназіі, то той можа сказаць яго фамілію, таму што

ў Нясьвіжскай гімназіі ў актавым зале вывешаная мрамарная дошка з гэткім самым прозьвішчам яго крэўнага, які быў забіты бальшавікамі ў 1919 годзе*.

Пасьля 1923 году зялёны рух пачаў заміраць. Я ў гэты час пераехаў ў Гарадзею ў польскую школу, бо ўсе рускія палякі закрылі, а аб беларускіх і не ўспамінай. Ды, зрэшты, гэта ўжо другая справа.

Варта ўспомніць, што сталася з дзеячамі Слуцкага паўстаньня. Пра ўсіх цяпер і не прыпомню, але пра некаторых ведаю іхны лёс. Штабс–капітан Анцыповіч дзесьці на Палесьсі заняўся гандлем, штабс–капітан Сокал–Кутылоўскі быў сьвяшчэньнікам, паручык Гапановіч, дваюрадны мой брат, адвакат, ад'ютант брыгады, пасварыўся з палякамі і ў 1929 г. пайшоў к бальшавіком і, ведама, што чэка зь ім расправілася, доктар Паўлюкевіч пераехаў у Вільню і рабіў якіясь–то шахер–махеры з палякамі, Міравовіч, камандзір эскадрона пры брыгадзе, стаў польскім паліцыянтам і апалячыўся, паручык Коршун, камандзір брыгады, у 1939 г. вывезен бальшавікамі з Клецку, Сарока, начальнік паліцыі пры брыгадзе, служыў у палякаў сакратаром у воласьці, а цяпер астаўся ў Нясьвіжы, Грач (псэўдонім) папаўся ў рукі Менскай чэка. Пра многіх другіх можна было б успомніць, каб гэта сабралася хаця трох–чатырох удзельнікаў паўстаньня. Варта было б утварыць нешта накшталт камісіі з удзельнікаў паўстаньня для напісаньня падрабязнае манаграфіі, бо пройдзе яшчэ некалькі год, і будучы гісторык чы манаграфісты напраўду ня знойдзе ніякіх матар'ялаў што да гэтага цікавага гістарычнага выпадку.

Цяпер хто–небудзь «цьвярозы» запытае — навошта патрэбны былі гэтыя ахвяры, калі ўся акцыя згары была прызначана на непаводзіны. На гэта адкажу, што гэтак глядзець няможна. Праўда, матэрыяльнай карысьці паўстаньне не дало, але паказала вялікі гарт духу, парадзіла многа гэраічных выпадкаў, каторыя могуць паслужыць, як матар‘ял выхаваўчы.

З паважаньнем А. Бочко.

*Друкуецца з дакумэнтальных збораў архіву Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью–Ёрку. Аўтэнт., маш. з рук. дадаткам. На 1–й с. маецца пячатка Галоўнага кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР: «Атрымана дня 7.12.1944. № 2016».*

* У артыкуле Ю.Віцьбіча «Як гэта было ў сапраўднасьці» (газ. «Беларусь». 1969. №149). узгадваюцца прозьвішчы некаторых удзельнікаў Нясьвіскага антыбальшавіцкага паўстаньня, забітых камуністамі ў 1919 г.: Мечыслаў Валністы, Палікарп Каляда, Аляксандар Шыдлоўскі, Нічыпар Янушкевіч.

# 140.
# Лявон РЫДЛЕЎСКІ[216]
# ГЭТАК БЫЛО...
## (Успаміны слуцкага паўстанца)

**1952 г.**

Рада Случчыны адкінула прапанову генэрала Булак–Балаховіча прыйсьці з сваёй арміяй на Случчыну і ўліцца ў шэрагі паўстанцаў.

Армія Балаховіча, адступаючы на захад, здавала зброю палякам на рацэ Лані. Беларусы, ахвіцэры й жаўнеры, якія знаходзіліся ў гэтай арміі, вырашылі далучыцца індывідуальна да случчакоў.

Ведаючы, што апошнім не хапае зброі, зарганізавалі перабрацьце яе ад балахоўцаў перад ракою Ланьню, каб скіраваць зараз жа на Случчыну. Адначасова выслалі дэлегацыю ў Слуцак, якая, здаўшы справаздачу Радзе Случчыны, атрымала загад узяць аддзел случчакоў і шпаркім крокам вяртацца, забраць зброю і зараз–жа прывезьці яе ў Семежава.

***

Ужо Слуцак пакінулі семежаўцы — жаўнеры БНР. Засталася толькі частка генэральнага штабу, якая месьцілася ў будынку Кагановіча на Турэмнай вуліцы.

І сюды, яшчэ ў гэтыя апошнія хвіліны, наплывалі з самых далёкіх куткоў Случчыны і нават Бабруйшчыны новыя — з кайстрачкамі, у сьвітках, але зь якім жаўнерскім запалам, зь якім глыбокім імкненнем да змаганьня.

Хуткім тэмпам праводзіцца запіс. За гадзіну выхад.

...Аддзел у 200 чалавек рушыў з Слуцка, калі ўжо зоркі зіхацелі на небе.

Мароз...

«Вольным крокам, наперад!»

Заскрыпеў сьнег.

У першай вёсцы начлег. Пераверка. Раніцай наступнага дня — у паход. Нейкі зарадлівы не забыўся ўзяць баян, і пад гукі бадзёрых маршаў пайшлі.

Церазь Семежава. Спатканьне, на паўгадзіны, з галоўнай сілай случчакоў і грозаўцаў — і далей.

Гэтае «далей» было Тураў, дзе меліся перабраць зброю.

Без адпачыну йшлі аж да Прыпяці — нейкіх 80 кілямэтраў.

Малы човен мог перавозіць толькі двух.

А дзьве сотні — гэта трывала доўга.

Шопатам: «Зважайце, па вадзе гук ідзе далёка, а дзе чырвоныя, ня ведама. Можа, вельмі блізка».

Гэтак, выйшаўшы з–пад Слуцка раніцай, толькі раніцай наступнага дня, пасьля стокілямэтровага паходу, увесь аддзел быў на правым

беразе Прыпяці. Першыя бягуны данесьлі, што Тураў ужо заняты чырвонымі. Але даведаліся, што па дарозе на захад знаходзяцца ў ляскох склады зброі й вопраткі, захаваныя для случакоў.

Рухнулі ў гэтым напрамку. І сапраўды, знайшлі ў першым ляску: дзьве трохдзюймоўкі, некалькі кулямётаў, стрэльбы, гранаты й амуніцыю, вопратку й абутак. Але нічога есьці...

Надыходзіць ноч. Мароз цісне. Запалілі вогнішча і пасьля 24–гадзіннага паходу намагаліся заснуць, адпачыць. Засыпалі, грэючы рукі, сьпіна ледзянела. Грэлі сьпіну, качанелі ногі, рукі й твар.

Над раніцай — алярм*. Хутка ўсе бягуць на свае месца. Як і хто можа зразумець, што аддзел, сфармаваны толькі звычайным запісам у Слуцку 48 гадзін таму назад, пасьля 24–гадзіннага паходу, ужо меў дысцыпліну й што кажны ведаў сваё месца.

Беларус гэта зразумее.

У гэтым аддзеле былі старыя артылерыстыя, кулямётчыкі, разьведчыкі, бягуны. Кажны зь іх, перад тым як сесьці каля агню, абгледзеў «сваю зброю», пераканаўся ў яе спраўнасьці, зрабіў запас амуніцыі «пад рукою», і толькі слова — «Алярм!», «На свае месца!» — кажны быў пры сваёй зброі.

«Пяхота — у россып каля ляску!»

«Артылерыя — збоку. Дывэрсійны агонь на адлегласьць. Бягуны — сьцежкаю два кілямэтры наперад!»

Усё адбывалася, як бы гэта было ў самай найвымуштраванейшай арміі.

Дывэрсійны стрэл быў дадзены.

Бягуны пабеглі.

Пяхота ляжала ў сьнезе. За гадзіну вяртаюцца бягуны — нічога асаблівага не заўважылі, але небясьпека йдзе. Хутка знаходзяцца фурманкі, коні, і ўсе пайшлі далей. Цягнуцца трохдзюймоўкі па цьвёрдым сьнезе, а на санках кулямёты, стрэльбы, амуніцыя, вопратка, абутак. Але не ў кірунку Случчыны, якім прыйшлі. Шлях ужо быў адрэзаны. Трэба абыходзіць.

Доўгімі палескімі дарогамі дайшлі йзноў да Прыпяці. Стаяць вялікія плыты. Трэба зрабіць пераправу на другі бок. І гэта было зроблена. Але далей ужо было немагчымым цягнуць трохдзюймоўкі. Іх закапалі на пяшчаным узгорку, а далей пайшлі толькі кулямётчыкі й стральцы. Артылерыя перастала існаваць.

Рознымі сьцежкамі дапялі ўсе да вёскі на «сваім» баку Лані (свой бок — гэта бераг Лані на тэрыторыі Беларускае Народнае Рэспублікі; ня свой — Беларусь, акупаваная Польшчай).

Ледзь абселіся, ці йначай адпачылі ў цёмных хатах, як бягуны даносяць:

«Ідзе горда чырвоных!»

* Трывога.

Мароз. Ізноў скрыпіць сьнег.

«Усе з хатаў! Кажны на сваё месца!»

Усе выбеглі. Кулямётчык з максімам узяў правы фланг, кулямётчыкі з «люіса» — два слуцкія гімназістыя — левы. Ціха, як перад навальніцай. А мароз цісне. Раптам засакатаў наш «максім». Набліжаюцца. Затарахцеў наш «люіс». Надыходзяць, але не страляюць. З правага й левага флангу йдуць, каб абкружыць і прыціснуць да рэчкі, якая ў плыткіх мясцох яшчэ не замерзла. Маленькі мост, што злучае «свой» і «ня свой» берагі, высака й гола стаіць. Небясьпечны пераход. А тут грымнулі з усіх бакоў «іх» кулямёты. Дарэмна наш «максім» сакочыць. Дарэмна тарахціць «люіс». Не, не дарэмна, адбіваліся ўсе, як маглі. Адбіваліся гімназістыя. Але ззаду ўзялі іх у палон — і там, на месцы, каля могілкаў, расстралялі… Сколькі яшчэ там загінула, ня ведама. Але гэта быў апошні бой гэтага аддзелу Беларускай Арміі.

***

Усе загінуўшыя ўславілі імя беларускага жаўнера, а дзень сьвяткаваньня гадавіны Слуцкага паўстаньня стаўся днём, як і ў іншых краінах, днём ушанаваньня нязнаных змагароў за волю Беларускага Народу, за Беларускую Народную Рэспубліку.

Лявон Р.

*Бацькаўшчына. 1952. Лістапад.*

## 141.
## Аляксей КАБЫЧКІН
## СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ
### (З успамінаў удзельніка)

**1953 г.**

Пасьля няўдалае афэнзывы на «Аршаву»[217] ўлетку 1920 г., бальшавіцкія горды вельмі хутка адкаціліся назад. На Случчыне яны затрымаліся ў 9–ці верстах на ўсход ад Слуцка, на рацэ Вясеі каля Кандратавічаў. А палякі, заняўшы Слуцак, далей на ўсход не пайшлі. Быў атрыманы загад аб спыненьні ваенных дзеяньняў, бо якраз у гэты час паміж палякамі й бальшавікамі пачаліся ў Рызе мірныя перагаворы, у выніку якіх быў падпісаны г. зв. Рыскі трактат аб міры. Гэтым ганебным трактатам жывое цела Беларусі было разрэзана на дзьве часткі, зь якіх большая прыпала Саветам. На Случчыне граніца паміж Польшчаю й Саветамі была вызначаная па рацэ Лані і гэткім чынам амаль уся Случчына заставалася Саветам. Палякі й бальшавікі былі гэтак задаволеныя з таго, што ім так добра ўдалося падзяліць скуру беларускага «мядзьведзя», што іхныя дэлегаты на мірнай канфэрэнцыі ў Рызе — жыд Іофэ і эндэк Домбскі[218], па падпісаньні трактату, навет пацалаваліся, прыпячатаўшы гэтым юдавым пацалункам падзел нашае бацькаўшчыны.

Зусім інакш зарэагавала на гэты ганебны падзел сама Беларусь, а перадусім Случчына, якой заграphysical новае паняволеньне крывавай бальшавіцкай дыктатуры. Вестка аб падпісаньні гэтага трактату выклікала на Случчыне вялікае абурэньне, уздым нацыянальнага пачуцьця і станоўчасьць збройна проціўставіцца новай навале бальшавіцкіх гордаў. Зь ініцыятывы Беларускага Нацыянальнага Камітэту на Случчыне пачалася гарачая праца па арганізацыі беларускай народнай міліцыі, якая, на думку арганізатараў, мела стацца зародкам беларускага вызвольнага войска. Палякі, якія хутка мелі адыйсьці на новую мяжу за раку Лань, не перашкаджалі ў гэтай працы, а некаторыя польскія абшарнікі, якія мелі на Случчыне вялікія маёнткі, навет спрыялі беларусам, бо спадзяваліся, што ў выпадку, калі б беларусам удалося адкінуць бальшавікоў хаця б за Бярэзіну, дык яны будуць магчы вярнуцца ў свае маёнткі.

Перад самым адыходам палякаў на новую мяжу, пайменна 21 лістапада 1920 году, у старых мурох Слуцкае гімназыі*, якая і ў часы царызму заўсёды лічылася рэвалюцыйнай і выхавала нямала беларускіх патрыётаў, адбыўся гістарычны зьезд прадстаўнікоў Случчыны. На зьездзе было звыш 100 дэлегатаў, у ліку якіх былі ня толькі

* Аўтар успамінаў памыляецца ў даце ды месцы правядзеньня Зьезду Случчыны. Зьезд адбываўся 14—15 лістапада 1920 г. у слуцкім доме Э.Вайніловіча.

прадстаўнікі іншых раёнаў нашае бацькаўшчыны, якія, уцякаючы ад бальшавікоў, выпадкова ў гэты час апынуліся ў Слуцку. Зьезд, які прайшоў зь вялікім нацыянальным уздымам, аднагалосна прыняў пастанову распачаць збройнае змаганьне з бальшавікамі з мэтаю здабыцьця вольнасьці й незалежнасьці **для ўсёй** Беларусі. Зьезд выдаў дэклярацыю, у якой абвяшчалася ўсяму сьвету аб тым, што беларускі народ распачынае змаганьне за вольную й незалежную Беларусь у яе этнаграфічных межах на аснове Акту 25 сакавіка 1918 году.

Кіраўніцтва паўстаньнем зьезд даручыў выбранай ім Радзе Случчыны, у якую ўвайшлі гэткія асобы: Уладзімер Пракулевіч, Васіль Русак, Паўлюк Жаўрыд, Юльян Сасноўскі, Радзюк, Мяшочак, Юрка Лістапад, Дубіна, Сяргей Бусел і яшчэ некалькі, усяго, здаецца, 17 сяброў.

Зараз жа пасьля зьезду ўся міліцыя зь вёсак і мястэчкаў была сьцягнена ў Слуцак. На Базарным пляцы адбыўся мітынг, на якім выступіў старшыня Рады Случчыны Ў. Пракулевіч і прадстаўнікі ад вайскоўцаў. Усе яны заклікалі беларускую моладзь да ўступленьня ў рады беларускага вызвольнага войска, а насельніцтва — да ахвярнасьці і падтрыманьня гэтага войска. Пасьля гэтага адбыўся пераход паўстанцаў ў Семежава (40 клм. на захад ад Слуцка), дзе і прабывала потым Рада Случчыны й штаб паўстаньня. Ужо ў наступны дзень пасьля пераходу ў Семежава пачалі зьбірацца ахвотнікі, якіх было так многа, што, з прычыны нястачы зброі й амуніцыі, ня было магчымасьці прыняць усіх жадаючых. Фактычна прыймалі ўдзел у збройным паўстаньні каля 3 500—4 000 паўстанцаў, у той час, як ахвотнікаў зьявілася каля 10 000 чалавек. Пачалася гарачая арганізацыйная праца. Былі арганізаваныя два палкі: Слуцкі і Грозаўскі. Камандзерам Слуцкага палка спачатку быў назначаны капітан Чайка. Але хутка было сьцьверджана, што ён зьяўляецца правакатарам — бальшавіцкім агентам. Ён быў арыштаваны й адданы пад суд, але з–пад арышту яму ўдалося ўцячы да бальшавікоў. На яго месца камандзерам Слуцкага палка быў назначаны палкоўнік Гаўрыловіч, а камандаваньне Грозаўскага палка абняў капітан Семянюка*. З гэтых двух палкоў была ўтворана Беларуская Брыгада Случчыны, на чале якой стаў капітан Сокал–Кутылоўскі (пасьля апошняй вайны выдадзены амэрыканцамі Саветам). Дзякуючы прысутнасьці ў штабе дасьветчаных вайскоўцаў, нармальная праца наладзілася хутка. Быў зарганізаваны добры палявы шпіталь і розныя іншыя спэцыяльныя вайсковыя аддзелы. Яшчэ ў Семежаве пачалася арганізацыя вайсковага суду, які пазьней быў пераведзены ў вёску Грыцэвічы. Суд гэты быў твораны на ўзор нямецкіх судоў «шэфэнаў». На чале яго стаяў старшыня Янка Біруковіч, а, як радныя, уваходзілі два прадстаўнікі ад вайскоўцаў. Апрача гэтага быў пракурор і вайсковыя сьледчыя.

* Маецца на ўвазе Лукаш Сяменік (Семянюк).

Пачалося няроўнае змаганьне. Без гарматаў, кулямётаў, а часта й зусім бяз зброі, слуцкія паўстанцы зь вялікай адвагай кінуліся ў бой за сьвятыя нацыянальныя ідэялы, за вольнасьць і незалежнасьць мілае бацькаўшчыны. Аўтару гэтых радкоў давялося ў сваім жыцьці быць сьветкам збройных змаганьняў розных партызанцкіх і паўстанцкіх аддзелаў, асабліва на Ўкраіне, але нідзе ня прышлося бачыць гэткай ахвярнасьці і гэткае сьведамасьці мэты змаганьня, як у слуцкіх паўстанцаў. Між іншым нельга не адцеміць аднае, можа і дробнае, але вельмі характэрнае рысы Слуцкага паўстаньня, якая хіба найлепей сьветчыць аб тым, якія глыбокія карані гэтае паўстаньне мела ў беларускім народзе, асабліва ў ягонай сялянскай масе. Гэта рыса — адсутнасьць рэквізыцыяў. Слуцкая Брыгада — гэта была пэўне адзіная ў сьвеце вайсковая фармацыя, якая нічога ня брала ў насельніцтва і не рабіла ніякіх рэквізыцыяў. У гэтым, урэшце, ня было й патрэбы, бо ўсё патрэбнае для войска, як прадукты, фураж, а навет вопратку, сяляне самі дабраахвотна прывозілі ў Семежава. Амаль што дня ў Семежава прыбывалі абозы з усім патрэбным і звычайна на першым возе красаваўся бел–чырвона–белы сьцяг.

Рада Случчыны выдала заклік да чырвонаармейцаў, каб яны здаваліся ў палон, гарантуючы ім бясьпеку й вольнасьць. Напачатку шмат іх здавалася. Першыя баі былі вельмі ўдачныя. Паўстанцы пасунуліся навет на лінію Грозава — Цімкавічы — Раманава — Вызна і наступалі ўжо на Старобін. Але бальшавікі кінулі супраць паўстанцаў вялікую сілу латышоў, кітайцаў і іншых «інародцаў», якія ў палон не здаваліся. Пасьля жорсткіх баёў, у якіх слуцкія паўстанцы выказалі многа гэраізму, яны змушаныя былі 28 сьнежня 1920 году адыйсьці за раку Лань, дзе і былі раззброеныя палякамі. Аднак шмат паўстанцаў засталося ў лясох Случчыны і там доўга яшчэ змагаліся з ворагамі бацькаўшчыны.

Трэба адцеміць выдатную помач, якую Слуцкім паўстанцам аказвала Беларуская Вайсковая Камісыя ў Горадні. У дапамогу паўстанцам яна прыслала выдатных вайскоўцаў: маёра Якубецкага, капітана Борыка, капітана Клюку й іншых, а беларускія жанчыны Гарадзеншчыны ахвяравалі паўстанцам надта прыгожы сьцяг з надпісам: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

Слуцкае паўстаньне скончылася фізычнай перамогай ворагаў нашае бацькаўшчыны. Аднак чын Слуцкіх паўстанцаў мае вялізарнае значэньне ў гісторыі беларускага вызвольнага руху, бо гэтае паўстаньне было першым, арганізаваным у дзяржаўным маштабе, збройным змаганьнем за вызваленьне ўсей Беларусі. Хаця Слуцкае паўстаньне і было абмежаванае тэрытарыяльна толькі межамі Слуцкага павету, аднак яно ня было толькі мясцовым, лякальным паўстаньнем, але мела ўсе рысы ўсенароднага агульнабеларускага збройнага змаганьня ў дзяржаўным маштабе. І гэта ня толькі дзеля таго, што Рада Случ-

чыны вяла змаганьне пад сьцягам Беларускае Народнае Рэспублікі і мэтай гэтага змаганьня паставіла сабе здабыцьцё незалежнасьці на аснове Акту 25 Сакавіка, але і дзеля таго, што ў радох Слуцкіх паўстанцаў фактычна змагаліся прадстаўнікі ўсей Беларусі: былі там беларусы з Магілеўшчыны, Віцебшчыны, Гомельшчыны і г. д., ня кажучы ўжо аб тых беларусах, якія паходзілі з часткі Беларусі, якая засталася ў межах Польшчы. Гэтаксама і на Слуцкім зьездзе, як ужо ўспаміналася вышэй, былі прадстаўнікі амаль усіх куткоў нашае бацькаўшчыны.

Слуцкае паўстаньне давяло ўсяму сьвету волю беларускага народу да самастойнага незалежнага жыцьця. Яно давяло, што беларускі народ рашуча й станоўка адкідае апеку «старэйшых братоў», як з Захаду, гэтак і з Усходу. З задаваленьнем можам сьцьвердзіць, што гэтыя слаўныя традыцыі Слуцкіх паўстанцаў жывуць далей і ў нашай эміграцыі, якая таксама рашуча адкідае розныя спробы гэтых няпрошаных «братоў» накінуць нашаму народу, пасьля вызваленьня ад бальшавізму, новае ярмо паняволеньня.

А. К.

*Бацькаўшчына. 1953. 7 студзеня.*

## 142.
## Аляксей КАБЫЧКІН
## СЛОВЫ–ЎСПАМІНЫ ПРА СЛУЦКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ*

**26 лістапада 1955 г.**

Паважаныя Спадарыні й Спадары!

Мы сабраліся сяньня тут, каб ушанаваць угодкі Слуцкага Паўстаньня, гэтага вялікага здарэньня ў гісторыі змаганьня нашага народу за волю й незалежнасьць Бацькаўшчыны. Дазвольце мне, як удзельніку гэтага паўстаньня, падзяліцца з вамі сваімі сьціплымі ўспамінамі аб змаганьні случакоў.

Вестка аб падпісаньні ганебнага Рыскага трактату выклікала сярод насельніцтва Случчыны вялікае абурэньне і ўздым нацыянальнага пачуцьця. Зь ініцыятывы Беларускага Нацыянальнага Камітэту быў скліканы зьезд прадстаўнікоў Случчыны. На зьезд гэты, які адбыўся 21 лістапада 1920 г.**, зьявілася 107 дэлегатаў ад 15 воласьцяў Случчыны. Зьезд прайшоў зь вялікім нацыянальным уздымам. Аднагалосна была прынята пастанова распачаць збройнае змаганьне з бальшавікамі пад сьцягам БНР. Зьезд выдаў ведамую нам дэклярацыю.

На зьездзе была выбраная Рада Случчыны ў ліку 17 сяброў, якой і даручана было кіраваньне паўстаньнем. Хачу тут успомніць адно найбольш выдатных сяброў гэтае Рады.

1. **Паўлюк ЖАЎРЫД**, якога я знаў вельмі блізка, бо разам зь ім прайшоў Слуцкую гімназію і навет сядзеў на адной лаўцы. Жаўрыд ужо ў малодшых клясах гімназіі адзначаўся вялікай нацыянальнай сьвядамасьцяй. Яшчэ ў 3–й клясе (перад 1905 годам), калі беларускі друк быў яшчэ забаронены, ён арганізаваў паміж вучняў беларускі гурток, які займаўся вывучэньнем беларускае мовы й гісторыі. Заўсёды жывы й дзейны, ён атрымаў ад вучняў мянушку «Арганізацыя».

2. **Юрка ЛІСТАПАД**, настаўнік. Гэта быў праўдзівы народны трыбун і няўтомны змагар за беларускую справу. Савецкая газэта «Праўда» ў № 59 з 5 сакавіка 1926 году, у сувязі з працэсам лістападаўцаў, гэтак пісала аб ім: «Юры Лістапад у 1920 годзе быў сябрам партыі беларускіх эсэраў, адначасна быў сябрам Слуцкае Рады і актыўным кіраўніком Слуцкага Паўстаньня». Гэта праўда — ён быў адным з найвыдатнейшых арганізатараў Слуцкага Паўстаньня.

3. **Васіль РУСАК**, сын селяніна зь вёскі Ячава пад Слуцкам, таксама адыграў вялікую ролю ў Слуцкім Паўстаньні. Калі ў 1945 годзе

* Словы–ўспаміны, выказаныя А.Кабычкіным у Мюнхене падчас сьвяткаваньня тамтэйшым беларускім эмігранцкім асяродкам 35–х угодкаў збройнага чыну.

** Аўтар памыляецца, насамрэч 14—15 лістапада.

бальшавікі занялі Прагу Чэскую, яны яго арыштавалі, вывезлі ў Менск і там засудзілі за ўдзел у Слуцкім Паўстаньні на 10 гадоў.

4. **Юльян САСНОЎСКІ**, сын селяніна з Вызны, таксама мой калега з Слуцкае гімназіі, прыймаў актыўны ўдзел у арганізацыі Паўстаньня. Ён вельмі цяжка перажываў няўдачу Паўстаньня й сваю эміграцыю. У 1922 годзе, будучы на эміграцыі ў Польшчы, ён скончыў самагубствам.

Зараз жа пасьля зьезду адбыўся пераход паўстанцаў ў мястэчка Семежава, дзе і заснавалася Рада Случчыны й штаб Паўстаньня. Там пачалася гарачая праца над арганізацыяй беларускага вызвольнага войска. У Семежава сабралася шмат ахвотнікаў, але ўсіх іх выкарыстаць ня было магчымасьці з прычыны нястачы зброі й амуніцыі.

Былі зарганізаваныя два палкі: Слуцкі й Грозаўскі. Камандзерам Слуцкага палку, пасьля арышту правакатара капітана Чайкі, быў назначаны палкоўнік Гаўрыловіч, а камандзерам Грозаўскага палку — капітан Семянюк. З гэтых двух палкоў была ўтворана Беларуская Брыгада Случчыны (брыгада, а не дывізія, як гэта абмылкова часта падаецца ў друку). Камандзерам Брыгады спачатку быў капітан Анцыповіч, а пазьней і да канца — Сокал–Кутылоўскі.

Тут хачу таксама паправіць дзьве абмылкі, якія часта дапушчаюцца намі. Не адпавядае праўдзе, што маткі й сёстры паўстанцаў дарылі ім сьцягі з напісам: «Тым, што першыя паўсталі... і г. д.» У запраўднасьці толькі адзін гэткі сьцяг быў ахвяраваны паўстанцам беларускімі жанчынамі Горадзеншчыны, з напісам: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». За польскіх часоў гэты сьцяг перахоўваўся ў ваднэй царкве на Палесьсі. Што зь ім сталася цяпер, няведама. Не адпавядае таксама праўдзе, што Макар Краўцоў быў слуцкім паўстанцам. Я вельмі любіў і шанаваў Макарку Косьцевіча, які быў мне вялікім прыяцелем, але не хачу прыпісваць яму таго, чаго ня было.

Я веру, што наш народ будзе й далей змагацца за ідэялы, за якія паміралі слуцкія паўстанцы, і здабудзе ўрэшце рэшт й незалежнасьць. Мне хочацца закончыць словамі паэты–случчака Клішэвіча[219]:

Я веру у народ мой сьмелы.
Сыны твае праз ночы муць
Штандар наш бел–чырвона–белы
Да перамогі пранясуць.
І гэты слаўны прыдзе дзень —
Няволя прападзе, як цень,
Сьцюдзёны вецер адскуголіць,
Крывавы віхар пройдзе міма,
Ї будзеш ты, мая Радзіма,
Цьвісьці шчасьліваю на волі.

А. К–ін

*Бацькаўшчына. 1955. 11 сьнежня.*

ходзіцца на паўлегальным становішчы, выконваючы заданьні Загранічнага бюро БПСР. Пазьней, каб пазьбегнуць арышту, перабіраецца ў Коўна (Літва), нейкі час працуе ў тамтэйшым Прадстаўніцтве БНР і Міністэрстве беларускіх справаў. У 1922 г., па рэкамэндацыі Ўраду БНР і пэрсанальна В. Ластоўскага едзе вучыцца ў Прагу–Чэскую, у Вышэйшую тэхнічную школу. Падчас навучаньня на агранамічным факультэце актыўна ўдзельнічае ў нацыянальным жыцьці беларускай эміграцыі: блізка сыходзіцца з Т. Грыбам, Я. Мамонькам, П. Бадуновай, М. Чарнецкім, уваходзіць у Загранічнае бюро БПСР, актывіст эсэраўскай студэнцкай арганізацыі «Вольная Грамада». У 1929 г. пасьля заканчэньня навучаньня ды атрыманьня дыплёму агранома вяртаецца ў Вільню, намагаецца ўзнавіць мясцовую суполку беларускіх эсэраў, адзін час блякуецца з Цэнтрабелсаюзам А. Луцкевіча і Р. Астроўскага, потым перапыняе з гэтаю групоўкаю кантакты, выяўляючы сваю рэзкую пазыцыю да палітыкі польскіх уладаў, у прыватнасьці, да прыхільнікаў палітычнага рэжыму Ю. Пілсудзкага. Удзельнічаў у працы Белнацкаму ў Вільні, супрацоўнічаў з часопісам «Золак». У кастрычніку 1939 г., з прыходам у Вільню бальшавікоў, разам з А. Луцкевічам, Я. Пазьняком, Ул. Самойлам, А. Нэканда–Трэпкам, В. Багдановічам ды інш. быў арыштаваны НКВД і пазьней вывезены ў СССР. У лютым 1940 г. прыгавораны да 15 гадоў канцлягераў. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[17] **Лук'янчык** Язэп Канстанцінаў (1900—1937), удзельнік беларускага вызвольнага руху. Ураджэнец в. Кукавічы Слуцкага пав. Скончыў 3–ю Менскую вышэйшую пачатковую вучэльню й Менскія беларускія пэдагагічныя курсы (1919), дзе вучыўся разам зь Ю. Лістападам. Падчас Першае сусьветнае вайны працаваў у Земсаюзе на Заходнім фронце. Падчас польска–савецкае вайны настаўнічаў у 14–й менскай беларускай пачатковай школе, зьяўляўся сакратаром Беларускае школьнае рады Меншчыны, удзельнік Беларускага хору Ўл. Тэраўскага. З сакавіка 1920 г. сябра Беларускае камуністычнае арганізацыі (БКА). Пасьля аднаўленьня савецкае ўлады ўвайшоў у склад бальшавіцкае партыі, працаваў бухгальтарам у Менскім губэрнскім аддзеле народнае адукацыі, пазьней кіраўнік справаў СНК БССР. У чэрвені 1937 г. арыштаваны НКВД і прыгавораны да найвышэйшай меры пакараньня з канфіскацыяй маёмасьці. Расстраляны 19 сьнежня т. г. у аднэй зь вязьніцаў Масквы. Рэабілітаваны 27 лютага 1958 г.

[18] **Беларускі нацыянальны камітэт Случчыны** (Часовы Беларускі нацыянальны камітэт Случчыны, Слуцкі Беларускі нацыянальны камітэт), прадстаўнічы орган беларускіх нацыянальных арганізацыяў Случчыны ў 1917—1920 гг. Паводле зьвестак газэты «Вольная Беларусь», першы раз быў утвораны яшчэ вясною 1917 г. Як сталы арганізацыйны асяродак сфармаваўся ў часы БНР, у красавіку 1918 г. У кіраўніцтва тады ўвайшлі д–р Яніслаўскі (старшыня), Станіслаў Петрашкевіч (сакратар), Марк Асьвяцімскі (скарбнік), Янка Ракуцька (пісар). Меў на мэце пашырэньне нацыянальнае сьвядомасьці беларусаў, арганізацыю беларускага школьніцтва, культурна–асьветных гурткоў, каапэратываў, матэрыяльна падтрымліваў таварыства «Папараць–Кветка», знаходзіўся пад

уплывам левага крыла БСГ, а пазьней — БПСР. Пасьля прыходу чырвонай арміі бальшавікамі былі арыштаваныя Яніслаўскі, Васіль Русак, Павал Жаўрыд ды інш. Аднавіў дзейнасьць у лістападзе 1919 г. У новае кіраўніцтва выбраны П. Жаўрыд (старшыня), Улас Дубіна, В. Русак, А. Бараноўскі ды інш. Пры камітэце створаныя аддзелы: арганізацыйны, культурна–асьветны, каапэратыўны, юрыдычны, дабрачынны. Меў цесную сувязь і фінансаваўся Часовым Беларускім нацыянальным камітэтам у Менску. Увёў сваіх сяброў у мясцовыя органы самакіраваньня, ініцыяваў стварэньне гарадзкое і павятовае міліцыі. 1 лістапада 1920 г. на гарадзкім сходзе ўтвораны новы склад камітэту на чале з Арсенам Паўлюкевічам. На 1–м беларускім зьезьдзе Случчыны 14 лістапада 1920 г. перадаў свае паўнамоцтвы абранай Беларускай Радзе Случчыны.

19 **Часовы Беларускі нацыянальны камітэт у Менску**, орган беларускіх нацыянальных партыяў і арганізацыяў у 1919—1920 гг. Створаны ў Менску ў жніўні 1919 г. У розны час ягонымі кіраўнікамі былі Аляксандар Прушынскі (Алесь Гарун), з восені 1919 г. Кузьма Цярэшчанка. Фактычна зьяўляўся цэнтральным палітычным асяродкам нацыянальнага руху ў Беларусі падчас польска–савецкае вайны. Каардынаваў дзейнасьць павятовых і валасных беларускіх нацыянальных камітэтаў, што тады дзейнічалі ў краіне, у тым ліку і Слуцкага Беларускага нацыянальнага камітэту, які атрымліваў зь Менску інструкцыі і фінансавую дапамогу.

20 **Русак** Васіль Максімаў (1896— пасьля 1946), беларускі нацыянальны дзяяч, прадпрымальнік, ураджэнец в.Ячава Слуцкае воласьці. Удзельнік Першае сусьветнае вайны з жніўня 1915 г., ваяваў на Паўночным фронце. Пасьля Лютаўскае рэвалюцыі 1917 г. увайшоў у Беларускую сацыялістычную грамаду, адзін зь лідэраў Беларускае рады беларусаў–вайскоўцаў Паўночнага фронту, удзельнік Беларускага вайсковага зьезду ў Віцебску ды Ўсебеларускага зьезду ў Менску ў сьнежні 1917 г. У пачатку 1918 г. працуе ў Беларускім камітэце Воршы, пазьней вяртаецца на радзіму, уключаецца ў дзейнасьць культурніцкай арганізацыі «Папараць–Кветка». З траўня 1918 г. у БПСР, уваходзіць у ейны ЦК. Увосень таго ж году арыштаваны немцамі як «беларускі сацыяліст» і кінуты ў вастрог, пасьля вызваленьня ў сьнежні — адзін з арганізатараў «Саюзу абароны краю». З прыходам бальшавікоў працаваў у валасных ды вясковых установах павету як выбраны ад сялянства, адначасова ня кідаючы нацыянальна–культурнай працы. У сакавіку 1919 г. арыштаваны бальшавікамі, але праз месяц без выстаўленьня абвінавачаньня выпушчаны зь вязьніцы пад заклад 3 тыс. рублёў, якія сабралі мясцовыя сяляне. Атрымаўшы волю, усё лета хаваўся ад «чрэзвычайкі» па сялянскіх хатах. Падчас польска–савецкай вайны актыўны ўдзельнік антыпольскага падпольнага руху, сябра Слуцкага Беларускага нацыянальнага камітэту, кіраваў беларускім хорам «Папараць–Кветкі», разам зь ейнаю драматычнаю дружынаю езьдзіў па павеце са спэктаклямі, у якіх браў удзел як артыст пад псэўданімам Базыль Карусь. У ліпені 1920 г., з чарговым вяртаньнем бальшавікоў, мабілізаваны ў чырвоную армію, адбываў службу ў Слуцку. У лістападзе 1920 г. падчас зьезду Случчыны абраны ягоным старшынём, увайшоў у склад прэзыдыюму Беларускае рады Случчыны.

Пасьля ліквідацыі Слуцкага паўстаньня быў прызначаны лектарам Беларускае вайсковае камісіі, нелегальна вёў эсэраўскую агітацыю сярод беларускага батальёну БВК і беларускага сялянства Баранавіцкага павету. Ратуючыся ад польскае дэфэнзывы, у траўні 1922 г. пераехаў у Коўна (Літва), займаўся арганізацыяй партызанскіх аддзелаў на Віленшчыне супраць палякаў, зьвязаны зь літоўскімі стралецкімі арганізацыямі. У канцы 1922 г. з рэкамэндацыі прадстаўніцтва БНР у Коўне выяжджае на вучобу ў Чэха–Славаччыну, дзе ўвосень 1923 г. паступае ў Праскую вышэйшую тэхнічную школу на агранамічны факультэт. Падчас вучобы актыўна ўдзельнічае ў грамадзка–палітычным жыцьці беларускай эміграцыі: уваходзіць у Загранічную групу БПСР, адзін з кіраўнікоў Аб'яднаньня беларускіх студэнцкіх арганізацыяў за граніцай і Заходняй Беларусі (АБСА), працуе ў Беларускім (Крывіцкім) культурна–асьветным таварыстве імя Ф.Скарыны, супрацоўнічае з часапісам «Перавясла» ды інш. Пасьля атрыманьня вышэйшае адукацыі застаецца жыць у Празе, узяўшы шлюб з чэскаю дзяўчынай, пасьпяхова займаецца прадпрымальніцтвам. У 1931 г. узначаліў Праскі Беларускі нацыянальны камітэт, за свой кошт падрыхтаваў і выслаў у Лігу Нацыяў мэмарандумы на францускай мове ў абарону нацыянальных і сацыяльных правоў беларускага народу. У 1934 г. выдаў на лацінцы «Biełaruski śpieŭnik», фундаваў выданьне часапісу «Iskry Skaryny». У 1936 г. разам з украінцамі–эмігрантамі арганізаваў у Празе сумесны беларуска–украінскі фэст народнае песьні. Улетку 1939 г. выдаў на нямецкай мове інфармацыйную брашуру «Bielarus — Weissruthenien» з этнаграфічнаю мапаю Беларусі. У 1941 г. паводле асабістага праекту з дапамогаю А. Жука выдаў паштоўкі з Пагоняю, які спалучаў беларускага «вершніка» й імянны знак Ф.Скарыны (сонца з маладзіком). Падчас фашыстоўскай акупацыі ў Празе хаваў у сябе дзьве жыдоўскія сям'і. Вышуканы і арыштаваны савецкаю контарвыведкаю «СМЕРШ» 2 чэрвеня 1945 г. «у сувязі з тым, што падчас знаходжаньня ў эміграцыі падазраваўся ў правядзеньні варожай Савецкаму Саюзу дзейнасьці». Асуджаны 29 ліпеня 1946 г. Ваенным трыбуналам войскаў Міністэрства ўнутраных справаў Беларускай вайсковай акругі на 10 гадоў канцлягеру. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[21] **Жаўрыд** Павал Якубаў (1889—1939), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в.Цецяроўка Слуцкага павету. Скончыў Слуцкую мужчынскую ўрадавую гімназію (1909). Падчас навучаньня ў гімназіі — ініцыятар стварэньня і кіраўнік беларускага маладзёвага гуртку. Вучыўся на юрыдычным факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту. У 1916 г. мабілізаваны ў расейскае войска. Пасьля заканчэньня вайсковае вучэльні ў Палтаве (1917) накіраваны ў Туркестан, пазьней на Румынскі фронт, пасьля Лютаўскае рэвалюцыі абраны старшынём палкавога камітэту. Ад беларусаў–вайскоўцаў дэлегаваны на Ўсебеларускі зьезд у Менску. З 1918 г. юрысконсульт Слуцкага павятовага зямельнага аддзелу, сябра БПСР. Летам 1919 г. арыштаваны «чрэзвычайкаю» па абвінавачаньні «ў дапамозе Дзянікіну» і вывезены ў якасьці закладніка ў Смаленск. Вызвалены ў сьнежні 1919 г., вярнуўся ў Слуцак, дзе быў абраны старшынём

Слуцкага Беларускага нацыянальнага камітэту. У ліпені 1920 г. мабілізаваны ў чырвоную армію (памочнік камандзіра Слуцкае кавалерыйскае роты). У канцы 1920 г. прызначаны Найвышэйшаю радаю БНР ейным камісарам у Слуцкім павеце. Адзін з палітычных кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня. З 1921 г. у Вільні, сябра тамтэйшага Беларускага нацыянальнага камітэту ды Беларускае школьнае рады. Пазьней вярнуўся на радзіму, працуючы на гаспадарцы бацькоў у вёсках Бор ды Зарэчча Слуцкага павету. У 1923—1930 гг. працаваў у Белсельпрамсаюзе, Мар'інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, Інбелкульце, у рэдакцыі газэты «Зьвязда». Арыштаваны ГПУ БССР 18 ліпеня 1930 г. па «справе СВБ». У красавіку 1931 г. асуджаны на 3 гады канцлягеру. З 1933 г. жыў у высылцы ў г.Сарапул (Удмуртыя). У 1937 г. зноў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў «за антысавецкую агітацыю». Пакараньне адбываў у пасёлку Княж–пагост (Комі). Памёр у зьняволеньні ад хваробы. Рэабілітаваны паводле першага выраку Вярхоўным Судом БССР 10 чэрвеня 1988 г., паводле другога — Кіраўскім абласным судом.

[22] **Трафімаў** (Трахімаў) Яўсей Рыгораў (1895—1970), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в. Хатоўнае Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ. У беларускім вызвольным руху з 1917 г. У 1919 г. увайшоў у склад БПСР, сябра ЦК партыі. Падчас польска–савецкай вайны ўзначаліў інструктарска–арганізацыйны аддзел ЧБНК у Менску. Быў старшынём Цэнтрабелсаюзу, пасьля ўзнаўленьня бальшавіцкага рэжыму зьняты з гэтае пасады. Як упаўнаважаны ЦК БПСР адмовіўся падпісаць Дэкларацыю пра другое абвяшчэньне ССРБ, хаця лічыўся прыхільнікам супрацоўніцтва з бальшавікамі. У 1920–я гг. працаваў у Цэнтрабелсаюзе, пазьней сябра праўленьня Беларускага сельскагаспадарчага банку. У лютым 1930 г. арыштаваны ГПУ БССР па «справе СВБ» і 10 красавіка 1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў г. Сарапул (Удмуртыя). Працаваў у банкаўскай сыстэме Удмуртыі. Рэабілітаваны ў верасьні 1960 г.

[23] Гаворка йдзе пра айца **Мікалая** (у сьвеце **Шамяціла** Мікалай Іванаў) (1877—1933), праваслаўнага сьвятара. Ураджэнец в. Аброва Пінскага пав. Скончыў Пінскую духоўную вучэльню, Менскую духоўную сэмінарыю і Маскоўскую духоўную акадэмію. З пачатку 1900–х гг. служыў ярэем, а пазьней протаярэем Слуцкае праваслаўнае царквы Сьв. Архістратыга Міхаіла. У 1914 г. прызначаны настаяцелем Слуцкага катэдральнага сабору Сьв. Мікалая. У 1923 г. хіратанісаваны мітрапалітам Мелхісэдэкам і епіскапатам Беларускае праваслаўнае царквы ў сан Слуцкага япіскапа. Ідэйна быў блізкі да беларускіх аўтакефалістаў: япіскапа Філарэта Раменскага, сьвятароў Валяр'яна Навіцкага ды Ўладзімера Бірулі. У чэрвені 1926 г. арыштаваны па абвінавачаньні ў антысавецкай дзейнасьці, адпушчаны па «недаказанасьці ў злачынстве». 16 красавіка 1933 г. зноў арыштаваны ГПУ па справе «контаррэвалюцыйнай праваслаўнай паўстанцкай арганізацыі» і 9 чэрвеня т. г. асуджаны на 8 гадоў канцлягеру. Згодна адной вэрсіі, памёр ад тыфусу 23 чэрвеня ў 3–м Менскім савецкім шпіталі, паводле іншых сьведчаньняў — расстраляны ў Менскай вязьніцы і таемна пахаваны на мясцовых лютэранскіх (нямецкіх) могілках (цяпер сквэр па вул. Купрыянава ў Менску).

[24] Гаворка пра сьнежаньскую сэсію 1919 г. Рады БНР, дзе адбыўся палітычны раскол паміж «радыкаламі» (эсэры, сацыял–фэдэралісты) ды «памяркоўнымі» (сацыял–дэмакраты, сябры Беларускай хрысьціянска–дэмакратычнай злучнасьці й беспартыйныя).

[25] **Беларуская школьная рада Случчыны** была зацьверджаная ў сакавіку 1920 г. у наступным складзе: Ст.Петрашкевіч (старшыня), Андрэй Бараноўскі (таварыш старшыні), Алесь Каўпак (пісар). Пры радзе дзейнічалі тры беларускія школьныя інспэктары (НАРБ, ф.604, воп.1, спр.6, арк.134).

[26] **Слуцкая агульная земская (беларуская) гімназія** (Слуцкая народная агульная гімназія Хаўруса настаўнікаў), беларуская сярэдняя навучальная ўстанова ў 1917—1920 гг. Утвораная ў ліпені 1917 г. з ініцыятывы камісара Слуцкага пав. пры Часовым расейскім урадзе Радаслава Астроўскага, які быў яе першым дырэктарам. Утрымлівалася за кошт субсыдыяў Слуцкага павятовага земства і платы за навучаньне. У розны час у склад пэдагагічнай рады ўваходзілі: Мікалай Штэрнаў (ейны дырэктар у 1919—20), Павал Жаўрыд (ад Слуцкага Белнацкаму), Алена Історнікава, Эрнст Людвіг, Алена Макарава, Станіслаў Петрашкевіч, Павал Сутрыс, Міхась Травін, Марыя Ярац ды інш. Навучальная праграма пабудаваная паводле ранейшых курсаў расейскіх гімназіяў, за выключэньнем уведзеных дысцыплінаў па беларусазнаўстве: беларуская мова (абавязковы прадмет), гісторыя і геаграфія Беларусі (факультатыўна). Большасьць прадметаў выкладалася па–расейску (за выключэньнем беларусазнаўства). Акрамя сыстэматычнага фінансаваньня за кошт павятовага земства гімназія атрымлівала аднаразовыя грашовыя дапамогі ад ураду БНР (1918 г.), Часовага Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску (1920 г.). Асноўны кантынгент навучэнцаў — сялянскія дзеці з навакольных вёсак павету. Дзеці зь бедных сем'яў вызваляліся ад аплаты за навуку. Пры гімназіі была створаная беларуская маладзёвая арганізацыя «Папараць–Кветка». Некаторыя гімназісты прымалі чынны ўдзел у Слуцкім паўстаньні 1920 г. Летам 1920 г. пераўтвораная ў 2–ю Слуцкую савецкую школу 2–й ступені. У гімназіі навучаліся Лявон Рыдлеўскі, Сяргей Бусел, Янка Ракуцька, Міхась Каберац, Алесь Яцэвіч (Змагар) ды інш.

[27] **Ярац** Марыя Пятрова (1894—?), беларуская настаўніца. Ураджэнка Гомельскага пав. Магілёўскай губ. Скончыла Навазыбкаўскую жаночую гімназію (1913) і аднагадовыя пэдагагічныя курсы для настаўнікаў вышэйшых пачатковых вучэльняў пры Менскім настаўніцкім інстытуце, які знаходзіўся ў той час у Яраслаўлі (1917 г.). У 1913—1916 гг. настаўніца пачатковых школаў Гомельскага павету. З жніўня 1917 г. прынятая на пасаду настаўніцы Слуцкай агульнай земскай (беларускай) гімназіі, дзе працавала да часу яе рэарганізацыі пасьля прыходу бальшавікоў у савецкую школу 2–й ступені. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[28] **Зянюк** (Зенюк) Пётра Антонаў (1898—?). Ураджэнец в. Старыца Слуцкага павету. Скончыў Маладэчанскую настаўніцкую сэмінарыю (1916). З кастрычніка 1917 г. па ліпень 1920 г. працаваў у Старыцкай пачатковай школе, з кастрычніка 1917 г. па жнівень 1918 г. на пасадзе старшыні Пукаўскага валаснога спажывецкага каапэратыву. Зь першым прыхо-

дам бальшавікоў, у канцы сьнежня 1918 г., абраны старшынём Старыцкае сялянскае рады, якую ачольваў да траўня 1919 г. У канцы студзеня 1919 г. арганізаваў у роднай вёсцы беларускую бібліятэку–чытальню. Падчас польскае акупацыі ўдзельнічаў у антыпольскім падпольным руху, актывіст павятовага антыпольскага партызанскага аддзелу з канца восені 1919 г. У пачатку 1920 г. з дапамогаю А.Бараноўскага перавярнуў у Старыцы расейскую школу ў беларускую. З другім прыходам бальшавікоў, у ліпені 1920 г., — старшыня Пукаўскага валаснога рэўкаму (ачольваў да кастрычніка 1920 г.). Адзін з арганізатараў камсамолу на павеце. У 1923 г. скончыў Слуцкія беларускія агульнаадукацыйныя курсы. З 1924 г. — студэнт факультэту грамадзкіх навукаў БДУ, адначасова з 1926 г. працаваў у Менскай вечаровай школе работніцкае моладзі ды ў Белдзяржвыдавецтве. Разам зь Міколам Улашчыкам, Алесем Аніхоўскім, Міколам Мамчыцам, Янкам Маруком ды іншымі студэнтамі БДУ актыўна ўдзельнічаў у краязнаўчым руху 1920–х гг. 23 ліпеня 1930 г. арыштаваны ГПУ БССР па «справе СВБ». Пастановай калегіі ОГПУ СССР ад 10 красавіка 1931 г. асуджаны на 5 гадоў высылкі ў г. Саратаў. Пазьней жыў ды працаваў у Саратаве настаўнікам. Іншых зьвестак ня выяўлена. Рэабілітаваны 19 верасьня 1960 г.

[29] Тут можа весьціся гаворка пра некалькіх Бабарэкаў, ураджэнцаў в. Старыца.

**Бабарэка** Пётра Якубаў (1898—?). Скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю (1917). Удзельнік Першае сусьветнае вайны, прапаршчык. З 1918 г. сябра партыі беларускіх эсэраў. У 1919—1920 гг. быў студэнтам Менскага Беларускага пэдагагічнага інстытуту. Падчас польска–савецкае вайны актыўны ўдзельнік антыпольскага падпольля ды партызанкі, сябра БНК Случчыны. У ліпені 1920 г. прызваны ў чырвонае войска. У кастрычніку — лістападзе 1920 г. накіраваны Слуцкім камітэтам БПСР у Вызьнянскую, Грэскую, Цімкавіцкую ды інш. воласьці Случчыны агітатарам для арганізацыі тут выбараў дэлегатаў на беларускі зьезд. На зьезьдзе абраны ў склад Беларускае Рады Случчыны, прызначаны вэрбунковым афіцэрам для арганізацыі збройных аддзелаў 1–е Слуцкае брыгады. Прывёў пад штандары войскаў БНР больш за 1000 добраахвотнікаў. Падчас збройнага чыну зьяўляўся камэндантам м. Грозава. У красавіку 1921 г. вярнуўся ў Савецкую Беларусь, пэўны час служыў у чырвоным войску. У жніўні 1922 г. арыштаваны ГПУ БССР у роднай вёсцы, прыгавораны да 3–х гадоў зьняволеньня ўмоўна. У 1923 г. прыняты на вучобу ў БДУ. У кастрычніку 1924 г. накіраваны на працу ў Калінінскую акругу, дзе да лістапада 1925 г. узначальваў Мсьціслаўскі раённы аддзел адукацыі. У 1938 г. арыштаваны і асуджаны да зьняволеньня. Іншых зьвестак ня выяўлена.

**Бабарэка** Адам Міхайлаў (1896—?), настаўнік, скончыў Вітчаўскія 4–гадовыя пэдагагічныя курсы. Выкладаў у Старыцкай 2–клясавай пачатковай школе, сябра мясцовага культурна–асьветнага гуртка «Зарніца». Увесну 1920 г. ЧБНК Меншчыны прызначаны інструктарам нацыянальна–культурных ды каапэратыўных справаў у Слуцкім павеце. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[30] **Зяньковіч** (Зенковіч) Люба Рыгорава (1897—?), удзельніца беларускага нацыянальнага руху. Ураджэнка в. Старыца Слуцкага павету. Скончыла з адзнакаю Нясьвіскую жаночую прыватную гімназію і дадатковую пры ёй пэдагагічную клясу. Зь беларускім друкаваным словам упершыню пазнаёмілася ў 1913 г. З 1917 г. брала актыўны ўдзел у беларускіх культурна–асьветных арганізацыях, найперш у Старыцкім маладзёвым гуртку «Зарніца», куды таксама ўваходзілі Бабарэкі, Зенюкі, Каўпакі, Аніхоўскі ды іншыя. З 1919 г. сябра БПСР. Летам 1920 г. наведвала ў Слуцку беларускія настаўніцкія курсы. Падчас антыбальшавіцкага збройнага чыну была сувязной паўстанцаў зь менскім эсэраўскім цэнтрам. У 1921 г. была залічаная на эканамічнае аддзяленьне факультэту грамадзкіх навукаў БДУ, пазьней перавялася на сацыяльна–гістарычнае аддзяленьне. На ейны далейшы лёс паўплывала знаёмства з Палутай Бадуновай. Зяньковіч пакідае навучаньне ў БДУ і накіроўваецца разам з Бадуновай у Прагу–Чэскую, у Карлаў унівэрсытэт. Паводле некаторых зьвестак, там яна выйшла замуж за прафэсара Праскага ўнівэрсытэту. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[31] **Пракапчук** Альжбэта, актывістка беларускага вызвольнага руху на Случчыне, будучая жонка Ўладзімера Пракулевіча. У 1921 г. разам з мужам пераехала ў Вільню, пазьней у Коўна (Літва). З 1923 г. у Празе–Чэскай, актыўна ўдзельнічала ў нацыянальна–культурным жыцьці беларускай эміграцыі. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[32] Магчыма, тут ідзе гаворка пра **Бараноўскага** Алеся Васільева (1888—1938), удзельніка беларускага руху. Ураджэнец в. Машыцы Слуцкага павету. Паходзіць зь сялянскае сям'і. Скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю (1908) і Віленскі настаўніцкі інстытут (1914). З 1908 г. настаўнічаў у школах Слуцкага павету, удзельнічаў у нацыянальна–культурніцкай працы, старшыня беларускага вясковага маладзёвага гуртка «Вясковая Зорка» ў в. Ліпнікі Цараўскае воласьці. У 1924 г. скончыў Вышэйшыя курсы беларусазнаўства. У характарыстыцы, прысланай у Менск са Слуцкага аддзелу народнае адукацыі, адзначалася: «Політычна выяўлены недастаткова (былы эсэр)». На Случчыну пасьля заканчэньня курсаў не вярнуўся, быў прызначаны інспэктарам Аршанскага аддзелу народнай адукацыі, затым працаваў выкладчыкам Аршанскае пэдагагічнае вучэльні. У 1925 г., калі сьвяткавалася 20–годзьдзе літаратурнае дзейнасьці Янкі Купалы, «з гоняў Аршаншчыны» віншаваньне песьняру даслалі Алесь Бараноўскі, Даніла Васілеўскі і Алесь Акулік. Арыштаваны НКВД 6 жніўня 1937 г., а 20 кастрычніка засуджаны «за шпіёнскую дзейнасьць» камісіяй НКВД і Пракуратурай СССР да расстрэлу. Прысуд выкананы ў Воршы 17 студзеня 1938 г. Рэабілітаваны 21 студзеня 1960 г.

[33] **Крыжаноўскі** Канстанцін, настаўнік Ісернаўскай 2–клясавай школы. Удзельнік Усебеларускага зьезду ў Менску ў сьнежні 1917 г., на які быў абраны ад павятовага земства. Выступаючы на культурна–асьветнай сэкцыі форуму, нэгатыўна ставіўся да беларусізацыі школьнай справы ў краіне. Увосень 1920 г. далучыўся да аддзелаў генэрала Ст.Булак–Балаховіча. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[34] **Смоліч** Аркадзь Антонаў (1891—1938), беларускі нацыянальны дзяяч, навуковец, пэдагог. Першы міністар асьветы ва ўрадзе БНР, адзін з

ініцыятараў стварэньня і лідэраў БСДП. У ліпені 1919 г. адзін з арганізатараў Беларускага зьезду Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Зь верасьня 1919 г. у Менску, намесьнік старшыні Беларускай школьнай рады Меншчыны і Цэнтральнай Беларускай школьнай рады. Са сьнежня 1919 г. сябра Найвышэйшай рады БНР. З восені 1920 г. знаходзіўся на Гарадзеншчыне, займаўся арганізацыяй беларускага школьніцтва і каапэратыўнай справай. З 1921 г. у Вільні, у 1922 г. пераехаў у Савецкую Беларусь. У 1930 г. арыштаваны па «справе СВБ» і ў 1931 г. высланы на 5 гадоў у г. Оса (цяпер Пермская вобл.). Паўторна арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны ў 1938 г. у Омску. Паводле першага судовага выраку рэабілітаваны ў 1988 г., паводле другога — у 1957 г.

[35] **Астроўскі** Радаслаў Казіміраў (1887—1976), беларускі нацыянальны дзяяч, пэдагог. Скончыў Юр’еўскі ўнівэрсытэт (1913). З 1914 г. выкладаў у сярэдніх навучальных установах Менску, зь верасьня 1915 г. выкладчык матэматыкі ў Менскім настаўніцкім інстытуце, у складзе якога падчас Першае сусьветнае вайны эвакуяваўся ў г. Яраслаўль, сябра Яраслаўскай Беларускай Рады. Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. уваходзіў у склад Яраслаўскага Савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У чэрвені вярнуўся ў Слуцак, быў абраны сябрам ЦК БСГ, прызначаны на пасаду камісара Слуцкага павету пры Часовым урадзе. Ініцыяваў стварэньне Слуцкай агульнай земскай (беларускай) гімназіі, быў яе першым дырэктарам. Уваходзіў у першы склад Беларускага нацыянальнага камітэту Случчыны. З прыходам бальшавікоў у сьнежні 1918 г. падаўся на Ўкраіну, далучыўся да расейскай Добраахвотнай арміі ген. А. Дзянікіна. У сьнежні 1920 г. зноў вярнуўся на Случчыну. Увосень 1920 г. падчас палескага паходу ген. Ст. Булак–Балаховіча, разам з П. Алексюком, бацькам ды сынам Адамовічамі, увайшоў у склад Беларускага палітычнага камітэту, зьяўляўся «міністрам асьветы» ў цывільным урадзе Булак–Балаховіча. З 1921 г. у Заходняй Беларусі. Пазьнейшыя ўспаміны Р. Астроўскага, напісаныя ў эміграцыі, ужо пасьля Другой сусьветнай вайны, пра ягоны ўдзел у Слуцкім збройным чыне не пацьвярджаюцца дакумэнтамі.

[36] **«Стража Крэсова»** (Towarystwo Straży Kresowej), польская паўграмадзкая арганізацыя ў 1918—1922 гг., якая ставіла за мэту абарону польскіх нацыянальных інтарэсаў на «крэсах усходніх» (Беларусь, Літва, Украіна). Пад выглядам культурна–асьветнае і дабрачыннае дзейнасьці на акупаванай тэрыторыі Беларусі праводзіла прапагандысцкія акцыі сярод тутэйшага насельніцтва ў польскім нацыянальным духу дзеля далейшага інсцэнаваньня г.зв. «народных плебісцытаў» за далучэньне беларускіх земляў да Польшчы.

[37] Пётр I (1672—1725), расейскі імпэратар.

[38] Кацярына II (1729—1796), расейская імпэратрыца.

[39] Крэхавецкі ўланскі полк, першы польскі полк уланаў у складзе расейскага войска, які быў сфармаваны ў канцы 1916 г. Свой баявы шлях пачаў у Галіччыне супраць аўстра–нямецкіх войскаў. Пасьля пераможнай бітвы пад Крэхаўцамі 24 ліпеня 1917 г. прыняў назоў Крэхавецкага. У канцы 1917 г. Крэхавецкі полк пераведзены на Заходні фронт, кватараваў у Дукоры пад Менскам, уваходзіў у склад 1–га польскага корпусу

Ю. Доўбар–Мусьніцкага. У пачатку 1918 г. удзельнічаў у сутычках з савецкімі войскамі. Пазьней пераведзены ва Ўсходнюю Галіччыну, дзе ў 1919—1920 гг. дзейнічаў супраць украінскіх аддзелаў. У міжваенны час дыслякаваўся ў Аўгуставе.

[40] **Масьціцкі** Баляслаў (1877—1918), польскі вайсковец, палкоўнік, першы камандзер Крэхавецкага ўланскага палку. Удзельнік расейска–японскай вайны 1904—1905 гг. У Першую сусьветную вайну разам са сваім палком ваяваў на тэрыторыі Беларусі ў складзе 1–га польскага корпуса Ю. Доўбар–Мусьніцкага. Загінуў 18 лютага 1918 г. каля Лунінца пры спробе перайсьці лінію фронту. Парэшткі Масьціцкага былі адшуканыя адмысловай экспэдыцыяй і пахаваныя ў скляпеньнях Менскага катэдральнага касьцёлу, а ў 1921 г. перавезеныя ў Польшчу.

[41] **Грабоўскі** Баляслаў, польскі палітычны і грамадзкі дзеяч, сябра Польскае рады Зямлі Менскай.

[42] «Mazierz Szkolna», польская культурна–асьветная арганізацыя, што апекавалася польскімі школамі. Менскі аддзел арганізацыі быў утвораны ў траўні 1917 г.

[43] Польская рада Зямлі Менскай (Rada Polska Ziemi Mińskiej), польская грамадзка–палітычная арганізацыя ў 1917—1920 гг. Старшыня — Г.Кіневіч. Мела філіі ў паветах.

[44] «Стойкі» — уведзеная польскай акупацыйнай адміністрацыяй павіннасьць, якая заключалася ў штодзённым выдзяленьні сялянамі бясплатных вазоў з фурманамі для розных патрэбаў органаў улады. Гэтыя вазы на ўсялякі выпадак мусілі стаяць каля адміністрацыйных будынкаў цэлы дзень, нават калі на бягучы момант патрэбы ў іх не было. У сытуацыі, калі на вёсцы пасьля працяглых вайсковых дзеяньняў і зьвязаных зь імі пастаянных рэквізыцыяў адчуваўся востры недахоп цяглавай жывёлы і інвэнтару, гэтая павіннасьць была для сялянаў вельмі цяжкой.

[45] **Булгак** Юры, слуцкі абшарнік, польска–беларускі палітычны і грамадзкі дзеяч, сябра Польскае рады Зямлі Менскай. У 1917—1918 гг. падтрымліваў кантакты зь беларускім рухам.

[46] *Пераклад дакумэнта:*

РАПАРТ [са] Слуцкага павету **за студзень 1920 году**

Слуцак „непокалябімый“ і „непобежденный“ — такімі эпітэтамі расейска–царкоўная грамадзкасьць ахрысьціла свой Слуцак. І ў гэтым ёсьць доля праўды. Яшчэ ў часы Пятра і Кацярыны гэтыя мясьціны лічыліся сваёй пляцоўкай, найбольш далёка высунутай на захад. Адсюль наносіліся найбольш балючыя ўдары на Польскую Рэч Паспалітую (справа ліквідацыі вуніі). Манастыр Трайчаны быў і ёсьць рассаднікам праваслаўя. Падчас панаваньня Мікалаяў і Аляксандраў [Раманавых] Слуцкі павет меў асаблівую апеку маскоўскае адміністрацыі. Тут была ліквідаваная найбольшая колькасьць каталіцкіх кляштараў і касьцёлаў. Тут была заснаваная найбольшая колькасьць „царкоўна-прыходзкіх“ школак. Тут на руінах Вітгенштэйнаўскіх (пасьлярадзівілаўскіх) уладаньняў Гагэнлоэ стварыліся новыя праваслаўныя гміны, рэкрутаваныя з цэнтральных маскоўскіх губэрняў і г. д. Урэшце, тут глыбока ўкараніліся ідэалы Сусаніных, Мініных ды Пажарскіх. Тут вясковая моладзь моцна прасяк-

нутая ідэяйісьці сьлядамі „герояў“… Тут знайшоў пакутную сьмерць камандзір Крэхавецкага палку палкоўнік Масьціцкі.

Апроч гэтага, Случчына дала вельмі вялікі гурт бальшавіцка–камуністычных камісараў, які прыняў уладу ў Смаленску і тыранізуе ўсё насельніцтва. Усё жывое праваслаўна–жыдоўскае дыхае жаданьнем прыніжэньня, помсты і зьнішчэньня ўсяго польскага. Таму ўмовы працы тут вельмі цяжкія, тым больш, што нашае абшарніцтва нічога не зрабіла і ня робіць. Можа, яно было занадта напужанае і прыгнечанае веліччу Масквы…

Калі польская грамадзкасьць жадае вылечыць мясцовае насельніцтва ад нянавісьці, яна павінна распачаць радыкальную працу: 1. прыдушыць праваслаўны рассаднік нянавісьці да „гнілога захаду“, перш за ўсё да палякаў <…>

Такім чынам, мы мусім мець для гэтай працы групу сьвядомых і адукаваных людзей, цалкам адданых цяжкай і пакуль што, магчыма, няўдзячнай працы. З гэтага пункту погляду бальшавікі могуць нам служыць прыкладам: выдаткаў на агітацыю яны не шкадавалі.

Мясцовае насельніцтва павінна быць перакананае намі ў нясслушнасьці ўбітых яму поглядаў наконт варожых намераў у дачыненьні да іх Польшчы і палякаў і перастаць нас баяцца.

Праваслаўныя сяляне, падбухторваныя жыдамі, вераць, што хутка „польскія паны“ адсюль сыдуць, і тады настане сялянска–праваслаўны рай, а панам–каталікам будзе „крышка“.

Жандармэрыя і паасобныя вайсковыя аддзелы сваімі нетактоўнымі паводзінамі (нібыта знаходзіліся ў чужым, варожым краі) яшчэ больш паглыбляюць няпрыязь і нянавісьць да нас.

З усім гэтым пасьпяхова змагаецца нашая адміністрацыя (апарат, які, з малымі выключэньнямі, працуе адносна спраўна). На яго чале стаіць бездакорнае прыстойнасьці, вялікага сэрца і вялікіх ведаў заслужаны патрыёт і працаўнік на грамадзка–нацыянальнай ніве, староста доктар Баляслаў Грабоўскі; аднак яму не хапае для вызначанай ім працы адпаведных людзей і сродкаў.

Нягледзячы на тое, што на настроі насельніцтва і яго прыхільнасьць да нас адмоўна ўплываюць пастаянныя рэквізыцыі і вялікая патрэба ў фурманках (што не адбываецца бяз злоўжываньняў), а таксама тое, што ўвесь цяжар кладзецца на вёскі (асабліва на думку апошніх), мінаючы двары, старэйшыя людзі–гаспадары настроеныя адносна мірна. Яны ўжо стаміліся ад вайны, сумуюць па стваральнай і спакойнай працы.

Моладзь хінецца пераважна да Масквы, і гэтаму няма чаго дзівіцца, бо яна была выхаваная ў расейскіх школах, таму ўздыхаюць па Дзянікіну і вялікай незалежнай Расеі. Акрамя таго, тут бачная агітацыя с[ацыял]–рэвалюцыянэраў.

Праваслаўнае насельніцтва, асабліва былыя чыноўнікі, ня могуць зьмірыцца з сучаснымі варункамі, і таму цягнуцца ня толькі да Масквы, але і па бальшавіках уздыхаюць — „гэта заўсёды свае“ <…>

У якасьці прыкладу стаўленьня грамадзян–расейцаў да польскае дзяржаўнасьці прывяду толькі адзін факт: на Случчыне грамадзянін–расеец

п. Агаркаў (Чучавічы, Ленін, Амгавічы і г. д.) выразна выказаўся, што ён не прызнае ні польскае адміністрацыі, ні яе дзяржаўнасьці і плаціць падаткі ня будзе. Аднак пад пагрозай арышту і вывазу ён змоўк.

Беларускія і расейскія школы мусяць знаходзіцца пад вельмі пільным кантролем; да гэтае пары інспэктар ніводнага разу не наведаў ні адной школы. Ён нават ня ведае, што ў павеце існуюць не зацьверджаныя ім школы (напрыклад, у Пацейках у будынку гміны). Таму з нас і нашае адміністрацыі кпяць. У гімназіях — да 75% жыдоў, і гэта называецца расейскай гімназіяй. Польская мова выкладаецца фармальна, і то ня ўсюды. Мушу дадаць, што ў 1918 г. польскіх школак было 64, сярод іх 20 — земскіх (рэшта — Мацежы і Рады Менскае зямлі). Належыць зьвярнуць асаблівую ўвагу на школьніцтва ў вёсках і знайсьці на яго сродкі. Заўважаецца цікавая праява; у пэўных мясцовых беларускіх школках, дзе выкладаюцца расейская і нібыта польская мова, праз пару месяцаў заняткаў запатрабавалі — калі нельга зрабіць расейскую школу, то мы просім польскую.

Жыды з уласьцівай ім пранырлівасьцю атручваюць атмасфэру, надалей агітуюць і спэкулююць маркамі.

Падкрэсьліваю яшчэ раз: мы мусім зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыў даверу да ўсяго расейскага і намагацца абудзіць павагу да Польшчы пашырэньнем дэмакратычных ідэяў, шчырымі тлумачальнымі размовамі. Пра гісторыю Польшчы яны ня маюць панятку, і гэта трэба моцна ўлічваць. Тым больш, што яны маюць вялікую павагу да польскае культуры, кажуць, што „яна заўсёды далікатная“. Толькі што яны нас баяцца і не давяраюць нам.

**Гаспадарчыя адносіны**

Слуцкі павет мала пацярпеў ад ваенных дзеяньняў. Толькі двары пацярпелі ад бальшавікоў, і то нязначна (маю на ўвазе жывы інвэнтар і ўраджай).

Сельскагаспадарчая культура — першакласная. Абшарніцтва пры сыстэме, якая была за часамі Раманавых, трымала зямлю. Культура падвысілася, сяляне яе пераймалі і карысталіся падказкамі двору. Напрыклад, цэлая Мількаўская гміна, якая ўтварылася на пасьлярадзівілаўскіх землях — гэта беларуская Галяндыя: шлюзы, грэблі, каналы, заліваньне лугоў і г. д. Адным словам, ужываецца найбольш прагрэсіўная сыстэма.

Сялянства на вайне зрабіла добры інтарэс: яны маюць шмат грошай, ня ведаюць, што зь імі рабіць, таму маюць апетыт да зямлі. Аднак пра Гарадзеншчыну, дзе сотні тысячаў дзесяцінаў зямлі ляжыць аблогам, яны і чуць ня хочуць. Глядзяць яны на суседнія польскія двары і аблізваюцца. Вясковы пралетарыят надалей знаходзіцца ў галечы — можа, нават болей, чым перад вайной. Двары панішчаныя, таму служба зьменшылася да мінімуму. Фабрыкаў няма, лясныя выпрацоўкі не існуюць, таму працы няма. Адсюль вынікаюць лямант, праклёны і імкненьне да бальшавікоў. Трэба гэта выправіць — даць працу, і гэтым многія засьцерагуцца ад галечы, а тым самым і ад заразных хваробаў і галоднае сьмерці. Посьпех абавязкова будзе.

Узбагацелы селянін-гаспадар заглядаецца на паляпшэньне гаспадаркі і палягчэньне працы. Таму іх можна пераканаць у неабходнасьці каапэратываў. Ён ахвотна даў бы на гэта грошы, аднак жа не хапае кваліфікаваных людзей, якія б кіравалі каапэратывамі, пастваралі б малочныя таварыствы, сельскагаспадарчыя гурткі і г. д. Яшчэ раз падкрэсьліваем патрэбу кваліфікаваных і сумленных людзей з чыстымі рукамі. Можа, Пазнанскае ваяводзтва дало б такіх людзей…

Грамады ўжо пачалі абслугоўваць сябе ўласнымі сіламі. Іх падштурхнуў да гэтага недахоп солі (Тэлядавіцкая, Гавязьнянская і Цімкавіцкая гм.). Каб ня цяжкасьці, якія стварае харчовае забесьпячэньне, то ініцыятыва была б значна большай. Я праглядаў цыркуляры, у якіх ішла гаворка пра канфіскацыю солі і іншых прадуктаў, прывезеных з Каралеўства, нягледзячы на папярэдне выдадзеныя дазволы. Кожны тыдзень іншае: адмена, зноў дазвол, прытрыманьне і так па коле. Гэта страшна настройвае іх супроць нас. А жыды з гэтым спраўляюцца, і іх гэта не датычыць.

Хацеў бы зьвярнуць увагу аўтарытэтных сфэраў, каб як мага хутчэй стварыць галоўную ўправу ў Менску або Баранавічах. Тады, як грыбы пасьля дажджу, пастваралiся б каапэратывы, за імі пайшлі б сельскагаспадарчыя гурткі, малочныя таварыствы. Стварэньне апошніх без галоўнае ўправы я лічыў бы змарнаванымі высілкамі і сродкамі. Наш селянін, калі будзе бачыць выгоду, пойдзе і ў іншыя інстытуцыі. Каапэратывы адукавалі б патрэбную колькасьць людзей, далі б ім пэўную сьвядомасьць і прафэсійныя веды.

Належыць зьвярнуць увагу вышэйшых уладаў, што выраб гарэлкі пашыраны ў вялікім маштабе. Белым днём возяць апараты і ставяць у вёсцы. Было гэта ў вёсцы Чарнагубаве. Збожжа наогул мала, калі і яно перагоніцца на гарэлку, пераджніўны час будзе болей чым цяжкі. Таму нельга шкадаваць вытворцаў самагонкі.

Пэўнае кола асобаў зьвярнула слушную ўвагу, каб быў выдадзены закон, які б забараняў раздрабленьне сялянскіх гаспадарак шляхам падзелу зямлі паміж членамі сям'і. Гэта б перашкодзіла стварэньню сялянскага пралетарыяту і прымусіла б шукаць іншыя сродкі да жыцьця. Абудзілася б ініцыятыва. Масавай нацыянальнай сьвядомасьці няма: праваслаўныя лічаць сябе расейцамі, а каталікі — палякамі. Мы павінныя выкарыстаць несьвядомасьць тутэйшага селяніна ў гэтым сэнсе. Гэта той матэрыял, які мы, калі не пашкадуем выдаткаў, пераробім на свой узор. Тым больш што селянін выразна падкрэсьлівае, што яму ўсё роўна, хто пануе, абы яму добра было. Нібыта ёсьць пасада зямельнага кантралёра, якая мае за мэту паляпшэньне адносінаў. Да гэтае пары пра дзейнасьць гэтых паноў нічога не чутно.

Селянін панічна баіцца вяртаньня паншчыны. Можа, трэба было б выдаць якую-небудзь адозву, якая ў моцных словах абвяргала б гэтую лухту.

**Сьвятарства**

Наогул польскае сьвятарства годна паводзіць сябе на сваіх пасадах. Іх уплыў калясальны, каталіцкае насельніцтва сваім пастырам безагаворачна адданае. Тут існуе двухбаковы давер. Пробашч з Замосьця, кс. Дзмітровіч са свае парафіі зрабіў малую Польшчу. І каапэратывы там

функцыянуюць казачна. Пробашч з Капыля, кс. Зноска, мае калясальны ўплыў праз сваё пабожнае жыцьцё і поўную аддачу духовым патрэбам парафіі. Затое ксяндзы: зь Цімкавічаў — Аскерка і пробашч з Бабоўні — ня маюць уплыву. Яны залішне аддаюцца справе атрыманьня выгодаў ад розных прадпрыемстваў. Праваслаўныя сьвятары наогул настроеныя непрыязна — аднак ёсьць выняткі. Поп з Раманава быў на скліканым мною мітынгу, карыстаўся толькі польскай мовай, браў актыўны ўдзел у выбарах дэлегата на Народны зьезд і падпісаў пратакол.

**Палітычныя адносіны**

Выразных палітычных канцэпцыяў не заўважаецца. Аднак схаваная праца адчуваецца на кожным кроку. Уся расейская інтэлігенцыя выстраілася пад беларускім сьцягам. Сьмялейшыя кажуць, што зьяўляюцца с[ацыял]–р[эвалюцыянэрамі]. Трэба ахапіць гэтых паноў асаблівай апекай.

Жыды, апроч сыяніsцкіх групаў, не выяўляюць свае чыннасьці. Калі я запатрабаваў сьпіс жыдоўскіх таварыстваў, то выклікаў гэтым пярэпалах і роспыты: навошта, дзеля чаго? Аднак адзначылі, што гуртуюцца вакол кагалу, а там ужо разгаліноўваюцца.

Акрамя таго, існуюць групы хрысьціянскае дэмакратыі, якія кіруюцца ксяндзамі. Н[ацыянал–]дэмакратычныя і народна–нацыянальныя саюзы не існуюць. Сымпатыкаў маюць шмат.

Абшарніцтва згуртавалася вакол Саюзу абшарнікаў. Пакуль ня будзе наведзены парадак і ня будзе праведзены плебісцыт, трэба было б выдаліць зь вёсак адзначаных бальшавікоў. Яны вельмі замінаюць. Насьміхаюцца і кпяць з нашае ўлады — а шырокае грамадзтва нашу талерантнасьць прымае за слабасьць.

Польская рада Менскае зямлі мае свае філіі: у Слуцку — павятовую, парафіяльную і акруговую, у Капылі і ў Старчыцах.

**Адносіны адміністрацыйных уладаў да Стр[ажы] Крэс[овай]**

Адносіны больш чым прыхільныя, папераджальна ветлівыя. Атрымаў шчырую падтрымку і дапамогу ад старасты п. Грабоўскага: ён даручыў раённым кіраўнікам і войтам даваць дапамогу і парады, наколькі нашыя супрацоўнікі будуць мець у іх патрэбу. На сходзе раённых кіраўнікоў і войтаў, які адбыўся 18/I і на якім я прысутнічаў, п. Грабоўскі падтрымаў Страж Крэсовую і загадаў саўдзельнічаць у нашай працы. Абшарніцтва ж апасаецца і глядзіць недаверліва. Аднак пры дапамозе п. Грабоўскага ўдалося разьвеяць недавер (яны баяцца закрананьня зямельнага пытаньня, хацелі б, каб пра гэта зь селянінам гаварылася як мага менш), пераканалі гэтых паноў, што яны памыляюцца. У выніку на паседжаньні 25/I Сельскагаспадарчага гуртка і Саюзу абшарнікаў, на якім я быў, на аплату яшчэ па адным супрацоўніку дзеля дапамогі нашым раённым кіраўнікам у маё распараджэньне была ахвяраваная сума 6150 рублёў. Я спадзяюся, што дойдзе да 10 000 рублёў.

**Адносіны [абшарніцкага] двара да вёскі**

На жаль, я не магу сказаць, што яны добрыя. Складваецца ўражаньне зьвядзеньня рахункаў. Пануе ўзаемная (з малымі выняткамі) нянавісьць. Мы нічому не навучыліся. Сяляне кажуць, што распродаж па-

намі ўраджаю сьведчыць пра тое, што яны не адчуваюць сябе тут моцна. Акрамя таго, непамерныя павіннасьці, якія ў выніку вайны звалiліся на сялянаў, дрэнна настройваюць апошніх. Стойкі іх забіваюць. Двары гэтых павіннасьцяў не нясуць. Напрыклад, адміністрацыя кн. Радзівіла, яго лясьнічыя і аб'ездчыкі, нягледзячы на тое, што маюць коней, не выганяюцца з падводамі і г. д. Акрамя гэтага, не хапае паліва. Нейкая дзіўная ўпартасьць з боку ўладальнікаў лясоў, а няпродаж дроваў выклікае саркастычны боль.

Зьдзекі з польскае маркі з боку аканомаў і абшарнікаў таксама блага ўплываюць на адносіны зь сялянамі, тым больш што самі яны плацяць маркамі, а патрабуюць — рублямі. Былі выпадкі, калі фурманкі выварочваліся пасьля дзённае працы па выграбаньні з–пад сьнегу і пошуку гальля за тое, што не маглі заплаціць 15 рублёў царскімі за воз гальля, а маркі не прымаліся. Кошты за паліва занадта завышаныя. Яны просяць пра ўсталяваньне таксы. Недахоп паліва выклікаў тое, што сяляне пачалі высякаць бярозы на тракце. Напрыклад, паміж Слуцкам і Раманавам цэлыя вёрсты сьвецяцца пусткамі. Трэба неадкладна забараніць пад пагрозай безумоўнае кары зьнішчэньне апошняй аздобы Меншчыны. Пра тэлеграфныя слупы прамаўчу.

Яшчэ пару словаў: лясьнічыя кн. Радзівіла кіруюць нібыта ў найлепшыя часы. Мабыць, іх выбрыкі заходзяць задалёка. Яны ўводзяць новыя вымаганьні і загады, як, напрыклад, у лясьніцтве Хамінка. Відаць, дзеля таго, каб палегчыць сабе працу, яны скасавалі звычай продажу дроваў вазамі і загадваюць пастаўляць іх сажнямі. Вёскі гэтага купляць ня могуць, бо залішне бедныя, найбольшае, што яны могуць сабе дазволіць — гэта воз гальля. Памочнік лясьнічага, расеец п. Канаплянікаў, ужывае выпрабаваны спосаб.

Пытаньне зь сенам забойча ўплывае на адносіны паміж вёскай і [панскім] дваром. Падкрэсьліваю зьдзекі пана Агаркава (з Чучавіч і Леніна): за воз сена ён дамагаецца 70 рублёў, або ½ воза загадвае завезьці ў Чучавічы.

**Справа з аховай здароўя**

Воспа, тыф, шкарлятына, пранцы пануюць страшным чынам. Некаторым вёскам пагражае выміраньне дашчэнту (Мароз, Дзяніскавічы, усё Палесьсе). Лекарскай дапамогі амаль ніякай. Раз'язных фэльчараў няма. Лекары дзяруць скуру. Напрыклад, доктар Лопат у Нясьвіжы за выезд просіць плаціць мінімум дзьвесьце царскіх рублёў паперамі, плюс што–небудзь з прадуктаў.

*Гарадзкі і гмінны самаўрад:* выбары ў Гарадзкую Раду павінныя адбыцца 29/I г. г. З 24 радных, хутчэй за ўсё, увойдзе па 8 ад палякаў, жыдоў і беларус[аў]–маскалёў. Выбары ў павятовую раду будуць 1/II. На чале камітэту стаіць п. І. Карказовіч і Ю. Булгак. Кажуць, што вынік будзе добры, жыды пайшлі на саступкі.

47 **Гадлеўскі** Вінцэнт (1888—1942), беларускі палітычны і грамадзкі дзеяч, каталіцкі сьвятар. У 1918—1921 гг. служыў пробашчам ў Нясьвіскім касьцёле, адначасова зьяўляўся законавучыцелем (прэфэктам) мясцовае польскае гімназіі.

[48] **Макшэцкі** Адам Вінцэнт (1856—1921), польскі вайсковы дзеяч, генэрал. Нарадзіўся ў маёнтку Дзітрыкі на Лідчыне. Былы генэрал расейскага войска, удзельнік Першай сусьветнай вайны. У канцы 1918 г. узначаліў 2–ю групу Віленскае самаабароны, камандны пункт якога знаходзіўся ў Лідзе. Падчас польска–савецкай вайны 1919—1920 гг. камандаваў 1–й Беларуска–літоўскай дывізіяй. У 1921 г. стаў брыгадным генэралам польскага войска.

[49] *Пераклад дакумэнта:*

РАПАРТ [са] Слуцкага павету **за люты 1920 г.**

**Адміністрацыйныя дачыненьні**

Грамадзкая бясьпека ў апошні час пачала трохі кульгаць. Цягаецца шмат падазроных асобаў, усё часьцей чуваць пра напады і выбрыкі асобных людзей, і ўсё гэта пад выглядам жаўнераў. Напрыклад, у Юшавічах 24/2 трое, нібыта жаўнеры, нагледзеўшы зранку, у каго ёсьць тлусты парсюк, вечарам, запалохаўшы насельніцтва стрэламі, абрабавалі гаспадара 15–ці пудовага вепрука. Паліцыя таксама робіць розныя трывожныя ўчынкі, якія выклікаюць паніку. Напрыклад, у Нясьвіжы 2 падпітыя жандары–сяржанты 17/2 а 10–ай гадзіне вечара ўварваліся да лесьніка–аб'ездчыка кн. Радзівіла ў урочышчы сьв. Крыжа — Браніслава Іваноўскага — ператрэсьлі ўсю хату і адчувальна пабілі двух ягоных гасьцей.

**Санітарныя варункі**

Санітарныя адносіны набываюць трагічныя рысы. Цэлыя вёскі выглядаюць як адзіны шпіталь. Сьмяротнасьць страшная. Напрыклад, у Морачы былі выпадкі, што штодзённа ад тыфу паміралі да 10 асобаў. Няма ніякае лекарскае дапамогі, аптэкі існуюць толькі для вельмі заможных людзей. Няма хаты, у якой бы не гасьцявала сьмерць.

**Вайсковыя дачыненьні**

Каталіцкае насельніцтва (зь вельмі малымі выняткамі) безагаворачна адданае нашым жаўнерыкам. Затое праваслаўнае насельніцтва, асабліва моладзь, зьяўляецца нашым перакананым ворагам. Яно цягнецца да бальшавікоў. Адным вухам ловяць шолахі нават падчас сну, слухаюць, ці ня йдуць бальшавікі. Калі б нашыя польскія жаўнеры не дапускалі выбрыкаў, праваслаўнае насельніцтва ня мела б аргумэнтаў, каб жаліцца і скардзіцца на ўціск з боку ўладаў і войска. На жаль, у гэтых адносінах шмат вымушае жадаць лепшага. Праўда, і дрэннае забесьпячэньне войска ўплывае на занадта частыя рэквізыцыі. Арэол Дзянікіна ў апошні час аднавіўся. Шмат кажуць пра тое, што зь Дзянікіным ідуць і бальшавікі, а за імі японцы і кітайцы — за нямецкія і жыдоўскія грошы. Таму з жыдамі яны, нягледзячы на расавую нянавісьць, жывуць у вялікім міры. Выпрацавалася нейкае дзіўнае паняцьце, што Польшча ўжо ня моцная, таму ня трэба яе баяцца, а служыць толькі жыдам, бо тыя маюць грошы.

На фоне рэквізыцыяў быдла ў выкананьні пп. Адольфа Язьвінскага, які паходзіць з–пад Капыля Пацейкаўскае гміны, і Баркоўскага з Андрусаўшчыны, таксама з–пад Капыля, чыноўнікаў інтэндатуры Пазнанскіх войскаў у Слуцку, робяцца страшныя рэчы, папросту халодны

бандытызм. Гэта людзі, пазбаўленыя самых элемэнтарных рысаў прыстойнасьці. Яны ўжо былі пад судом у Бабруйску, але неяк там выкруціліся. Выплываюць наноў. Распараджэньняў ужо мільёны. Быдла яны прымаюць не на вагу, але пераважна на вока. Сяляне нясуць калясальныя страты. За скаргі б'юць, таму яны маўчаць і праклінаюць. І ўсё гэта робіцца пад апекаю п. Вегняроўскага, паручніка Пазнанскіх войскаў, якому даручаны прыём быдла і сена. Таксама шмат гаворыцца пра злоўжываньні, якія дапускаюць жаўнеры зь сенам. Напрыклад, у Танежыцы прыехалі 36 фураў зь сенам, а выехалі толькі 2 (дзьве), на другі дзень з 70 фураў даехалі да Слуцка толькі 5 (пяць), рэшту ж абмянялі на яйкі, гарэлку, масла і г. д.

**Гаспадарчыя адносіны**

Зямельная справа. Абшарнікі распрадаюць зямлю са шматзначным сьпехам. Галоўнымі набыўцамі розных пустак па вёсках зьяўляюцца жыды, яны плацяць па 7 тыс. за дзесяціну. Радзівіл, Залескі і іншыя высякаюць лясы дашчэнту. Гэта больш чым рабункоавае гаспадараньне.

Каапэратывы растуць нібыта грыбы пасьля дажджу. Калі б ня цяжкасьці, якія робяць аправізацыйныя і чыгуначныя ўстановы, а таксама ўлады ў выдачы пропускаў, — то яны расквітнелі б згодна з нашымі пажаданьнямі. Не хапае толькі кваліфікаваных раз'язных бухгальтараў, якія маглі б праверыць і пракантраляваць на месцах, у гмінах. Мне вядомыя факты, што некаторыя каапэратывы на солі зараблялі да 20 тысячаў рублёў. Аднак гэта абцяжарыла толькі кішэні дастаўцаў, а ўдзельнікі атрымалі толькі частку прыбыткаў.

Пытаньне млыноў. Распараджэньне аб натуральнай аплаце за памол з прымяненьнем аднолькавай нормы для ветракоў, водных і паравых млыноў было падданае вострай крытыцы. Апошнія нясуць калясальныя страты. За памол 1 пуда жыта браньне 3–х фунтаў натурай гаспадары лічаць вельмі цяжкой кантрыбуцыяй. Яны просяць магчымасьці плаціць грашыма (за памол пуда ячменю — 6 рублёў). Апрача таго, пры ўзважваньні дапускаюцца розныя злоўжываньні.

Уладальнік водных млыноў у Малых і Вялікіх Астроўчыцах бярэ 2 рублі з пуда, а за пуд ячменю на крупы — па 10 рублёў або ўсю муку. Тое самае датычыць і пшаніцы.

**Асьветна–культурныя адносіны**

Трэба больш адпаведнага школьнага інспэктара — цяперашні нядзейсны, школаў зусім не наведвае. Настаўніцы не атрымлівалі заробку некалькі месяцаў. Адчуваецца пэўная паблажлівасьць.

Вёскі Лядна, Вялічкавічы, Чарапы і іншыя просяць польскіх школаў і продажу па зьніжаных коштах будаўнічага матэрыялу на пабудову школьнага будынку.

У Лядным, напрыклад, у сяміаршыннай хаце вучыцца 40 дзяцей.

Ідэя закладаньня моладзевых гурткоў усюды ўваходзіць у сьвядомасьць. Пасьля Народнага зьезду трэба будзе гэтым заняцца. Усюды просяць падручнікаў і бібліятэчак; ці ня варта было б арганізаваць перасоўныя курсы польскай і беларускай мовы і гісторыі па малых мястэчках і вялікіх вёсках.

**Арганізацыйныя адносіны**

Наогул адносіны з уладамі і грамадзтвам добрыя — толькі жандармэрыя настроеная трохі непрыхільна.

**Палітычныя адносіны**

Дзейнасьць усіх беларускіх і жыдоўскіх арганізацыяў — шкодная. У іх схаваліся панове з–пад штандару с[ацыял–]р[эвалюцыянэраў]. Уся беларуская і жыдоўская інтэлігенцыя падтрымлівае гэтую інстытуцыю.

Трэба было б зьвярнуць увагу нашых аўтарытэтных уладаў, каб ад нашых чыноўнікаў (як то рэвіровых, войтаў, судзьдзяў) вымагалася, каб яны больш, чым да гэтага, карысталіся польскай мовай. Выглядае, што яны робяць ласку, калі адгукаюцца па–польску. Напрыклад, у Рэвіры IV гавораць толькі па–расейску, нават паміж сабою.

У Раманаве жыве п. Уласевіч, былы камісар, Абрамчык, Наліванчык і нейкая жанчына (нядаўна была арыштаваная) — гэта нашыя перакананыя ворагі, яны агітуюць.

Гэтаксама і солтыс у вёсцы Югераўшчына пад Грозавам — бальшавік–камуніст. Яго трэба прынамсі зьняць з пасады.

Асьмельваюся яшчэ раз моцна падкрэсьліць падрыўную дзейнасьць беларускіх дзеячоў. Мабыць, хопіць і доказаў, якія мы маем хоць бы зь Менскага народнага зьезду. Гэтых паноў належыць рашуча зьняць з пасадаў, калі яны іх займаюць. Напрыклад, ксёндз Гадлеўскі, прэфэкт польскае гімназіі ў Нясьвіжы. Гэта перакананы вораг польскасьці.

Характэрнай была прамова кс. Гадлеўскага да генэрала Макшэцкага, які ўваходзіў на чале польскіх войскаў у Нясьвіж. У ёй ён асьмеліўся выказаць праграму беларусаў, якая ўсіх абурыла, а генэрал Макшэцкі ня змог авалодаць сабою і зьвярнуўся да жаўнераў, кажучы: „Ці чуеце?“. Гэта было паказальна. І такога пана Гадлеўскага церпяць, і ён надалей займае адказную пасаду выхавальніка моладзі.

[50] **Галубок** (сапраўднае **Голуб**) Уладзіслаў Язэпаў (1882—1937), беларускі тэатральны дзяяч, драматург, рэжысэр, актор, першы народны артыст Беларусі (1928). У Слуцак прыяжджаў для тэатральнае працы двойчы: у сакавіку і чэрвені 1920 г. У 1937 г. арыштаваны НКВД. Паводле афіцыйнага паведамленьня, памёр ад гіпэртанічнай хваробы. Рэабілітаваны ў 1957 г.

[51] **Фёдараў** (Хведараў) Пётра, удзельнік нацыянальнага руху, юрыст, археоляг. Ураджэнец Случчыны. Скончыў Слуцкую мужчынскую клясычную гімназію і Маскоўскі ўнівэрсытэт. З 1919 г. сябра БПСР. У 1920–я гг. жыў у Слуцкім павеце. У 1924 г. удзельнічаў у ліквідацыйным зьезьдзе БПСР. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[52] **Зянюк** (Зенюк) Янка Мікалаеў (1897—?), удзельнік беларускага руху. Ураджэнец в. Русакі Слуцкага павету. Скончыў настаўніцкую сэмінарыю (1917), настаўнічаў у Барысаўскім павеце. Удзельнік Першае сусьветнае вайны, прапаршчык. У 1917 г. уваходзіў у Цэнтральную Беларускую вайсковую раду. У 1918—1919 гг. вучыўся ў Менскім Беларускім пэдінстытуце. Выкладаў у пачатковых школах Слуцкага павету. Падчас польска–савецкай вайны ўдзельнічаў у антыпольскім падпольлі й партызанскім руху. Летам 1920 г. мабілізаваны ў чырвоную армію. У 1922 г.

слухаў лекцыі ў Віцебскім інстытуце народнай асьветы. У 1923—1926 гг. працаваў у Грозаўскай сямігодцы (адзін год настаўнікам, пазьней дырэктарам школы). У 1925 г. кандыдат КП(б)Б. З траўня 1926 г. — загадчык аддзелу народнае адукацыі Слуцкае акругі, затым інспектар гарАНА г. Слуцка, дырэктар Чырвонабярэжскага агранамічнага тэхнікуму (з 1929 г.). Іншых зьвестак ня выяўлена.

[53] **Каўпак** [Колпак] Алесь Міхасёў (1887—?), беларускі нацыянальны дзяяч, пэдагог, літаратар. Ураджэнец в. Старыца Слуцкага пав. Скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю (1908), настаўнічаў у Ігуменскім павеце. У беларускім руху з 1905 г., зьяўляўся карэспандэнтам газэты «Наша Ніва», пісаў рэпартажы і літаратурныя творы пад псэўданімам Зрэбны. Удзельнік Першае сусьветнае вайны (мабілізаваны ў расейскае войска ў лістападзе 1914 г.). Па заканчэньні 1–й Кіеўскай вайсковай школы ўзьведзены ў чын падпаручніка. За час ваенных дзеяньняў даслужыўся да паручніка, камандаваў ротаю. З сакавіка 1917 г. удзельнічае ў беларускім вайсковым руху, уваходзіць у склад Беларускай сацыялістычнай грамады, друкаваўся ў газэце «Вольная Беларусь». У пачатку 1918 г., пасьля дэмабілізацыі, вярнуўся на бацькаўшчыну, адзін з кіраўнікоў Старыцкага беларускага культурна–асьветнага гуртка «Зарніца», пазьней сябра БПСР, студэнт Менскага Беларускага пэдагагічнага інстытуту. Падчас польска–савецкай вайны актыўна працуе на ніве беларускай культуры, удзельнік антыпольскага эсэраўскага падпольля. У жніўні 1920 г. мабілізаваны ў чырвонае войска. У 1921 г. паступае ў Белдзяржуніверсытэт, адначасова выкладае ў менскіх беларускіх сярэдніх школах. У верасьні 1928 г. прызначаны вучоным сакратаром Навукова–мэтадычнага кабінэту пры Наркамасьветы БССР. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[54] **Кецка** Канстанцін Зьмітраў (1893—1938), удзельнік беларускага вызвольнага руху. Ураджэнец в. Замагільле Вызьнянскае вол. Слуцкага пав. З 1918 г. сябра БПСР. Падчас польска–савецкай вайны ўваходзіў у склад Белнацкаму Случчыны, займаўся арганізацыяй слуцкай гарадзкой ды павятовай міліцыі. Улетку 1920 г. стаў на бок бальшавікоў, прызначаны ваенным камісарам Вызьнянскага валаснога рэўкаму. Падчас антыбальшавіцкага збройнага чыну падтрымліваў сувязь з камандзірам паўстанцаў П.Чайкам. 16 сьнежня 1921 г. калегіяй Чэкабел абвінавачаны ў шпіянажы «на карысьць інтэрвэнтаў» і асуджаны на 6 месяцаў «выпраўленча–працоўных лягераў». У 1920–х гг. пераяжджае на сталае жыхарства ў Менск. У 1924 г. удзельнічаў у падрыхтоўцы й правядзеньні ліквідацыйнага зьезду БПСР. У 1930–я гг. працаваў бухгальтарам Беларускага трэсту садоўніцтва й агародніцтва. Увесну 1938 г. арыштаваны НКВД і 25 красавіка т.г. прыгавораны «двойкай» да найвышэйшае меры пакараньня. Расстраляны 27 ліпеня 1938 г. Рэабілітаваны 21 чэрвеня 1968 г.

[55] Перамовы пра заключэньне мірнае дамовы паміж Польшчаю і Савецкай Расеяй пачаліся яшчэ ў пачатку 1920 г.

[56] **Скульскі** Леапольд (1878—1939), польскі палітычны дзяяч, у 1919—1920 гг. прэм’ер–міністар, у 1920—1921 гг. — міністар замежных справаў Польшчы. Трымаўся скрайне шавіністычных поглядаў. Вызначыўся ён ня толькі вышэйпададзенай заявай у траўні 1920 г., яму таксама на-

лежыць сумнавядомы выраз, што праз паўстагодзьдзя ў «крэсах усходніх» па правядзеньні «мэтанакіраванай палітыкі» беларуса нельга будзе знайсьці і са сьвечкаю.

[57] **Дубановіч** Эдвард (1881—1943), польскі палітычны і грамадзкі дзяяч, публіцыст. Прафэсар, былы дэкан юрыдычнага факультэту Львоўскага ўнівэрсытэту. Адзін зь лідэраў Польскае хрысьціянскае дэмакратыі. У Сойме Польшчы неаднаразова ўзначальваў дэпутацкі блёк (пасольскі клюб) польскіх хадэкаў. Аўтар кніг па тагачасных прававых праблемах («Выбарчы цэнз народнасьцяў і яго юрыдычны і палітычны прагрэс», «Выбарчая рэформа і расейская праблема ў Галіччыне» ды інш.).

[58] **Беларускія настаўніцкія курсы беларусазнаўства ў Слуцку** дзейнічалі з 25 красавіка па 1 чэрвеня 1920 г. Выкладаліся: беларуская мова, польская мова, гісторыя Беларусі, пачаткі каапэрацыі, беларускія сьпевы, этнаграфія і тэатральнае мастацтва, гісторыя беларускай літаратуры. Лекцыі чыталіся Янкам Станкевічам, Станіславам Петрашкевічам, Паўлам Жаўрыдам. У траўні да іх далучыліся Ўсевалад Ігнатоўскі, Францішак Аляхновіч і Браніслаў Тарашкевіч. У гэты час па просьбе слухачоў курсаў Слуцак наведаў беларускі хор Тэраўскага ў складзе 40 чалавек, які даў некалькі канцэртаў і адкрытых урокаў народных сьпеваў.

[59] **Станкевіч** Янка Вінцэнтаў (1891—1976), беларускі нацыянальны дзяяч, мовазнаўца, гісторык, пэдагог. У чэрвені 1919 г. удзельнік Беларускага зьезду Віленшчыны і Горадзеншчыны, лектар Віленскіх беларускіх настаўніцкіх курсаў, уваходзіў у арганізацыйную структуру па стварэньні Беларускае вайсковае камісіі, ініцыятар стварэньня і лідэр Беларускае народнае партыі. З восені 1919 г. у Менску, у складзе Беларускае школьнае рады Меншчыны (кіраваў школьным выдавецтвам). У красавіку — траўні 1920 г. — кіраўнік і выкладчык Слуцкіх беларускіх настаўніцкіх курсаў. З канца лета 1920 г. у Вільні. Скончыў Праскі Карлаў унівэрсытэт (1926), доктар славянскага мовазнаўства й гісторыі.

[60] **Цэнтральная Беларуская школьная рада**, нацыянальная культурна–асьветная арганізацыя падчас польска–савецкае вайны, якая апекавалася беларускаю школьнаю справаю. Утвораная ў сьнежні 1919 г. у Менску на аснове Беларускай школьнай рады Меншчыны. У склад прэзыдыюму ўвайшлі Сымон Рак–Міхайлоўскі (старшыня), Аркадзь Смоліч (намесьнік), Вацлаў Іваноўскі (намесьнік), Янка Станкевіч (загадчык школьнага выдавецтва), Лукаш Дзекуць–Малей (прадстаўнік Беларускай школьнай рады ў Горадні), Францішак Умястоўскі (прадстаўнік ЦБШР у Вільні). Спыніла існаваньне ўлетку 1920 г. з прыходам бальшавіцкіх войскаў.

[61] **Польскамоўныя настаўніцкія курсы ў Слуцку** адчыніліся 15 чэрвеня 1920 г. Як і на беларускіх курсах, курсантам выплачвалі па 10 польскіх марак. Плянавалася выкладаць польскую мову і літаратуру, маляваньне, сьпевы, гімнастыку ды інш. Праіснавалі ўсяго адзін дзень і былі згорнутыя з пачаткам наступленьня бальшавіцкіх войскаў (НАРБ, ф.604, воп.1, спр.6, арк.220).

[62] Блянкі былі прысланыя зь Беларускай школьнай Рады Меншчыны. Былі яны падрыхтаваныя для курсаў, якія праходзілі ў Менску з 20 кастрычніка па 20 лістапада 1919 г. Мастак Язэп Драздовіч.

[63] **Ігнатоўскі** Ўсевалад Макараў (1881—1931), беларускі нацыянальны дзяяч, першы прэзыдэнт БАН. Падчас польска–савецкай вайны стаяў на рэзкіх антыпольскіх пазыцыях, ініцыятар стварэньня і кіраўнік Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА) ў студзені 1920 г. У траўні 1920 г. па накіраваньні ЦБШР выяжджаў у Слуцак чытаць на курсах беларусазнаўства лекцыі па гісторыі Беларусі. У 1930 г. зьняты з пасады прэзыдэнта БАН як лідэр беларускай «нацдэмаўскай контаррэвалюцыі», выклікаўся на допыты ў ГПУ. Скончыў жыцьцё самагубствам.

[64] Маецца на ўвазе **Чарнякоўскі** Вячаслаў Іванаў (1870—?), беларускі культурніцкі дзяяч, хармайстар. Ураджэнец фальварку Ячанка Ігуменскага пав. Скончыў Менскую духоўную праваслаўную сэмінарыю і рэгенцкую клясу Прыдворнае імпэратарскае сьпеўнае капэлы ў Санкт–Пецярбурзе (1899). З сакавіка 1899 па 1901 г. рэгент Менскай мужчынскай урадавай гімназіі, пазьней працаваў выкладчыкам сьпеваў ды рэгентам гімназійных ды школьных хароў навучэнцаў у Менску (мужчынскай і жаночай прыходзкіх вучэльнях, на менскіх 2–гадовых пэдагагічных курсах, у 1–й ды 3–й вышэйшых пачатковых вучэльнях). У 1919 г. з навучэнцаў менскіх школаў стварыў беларускі хор, які дзейнічаў некалькі гадоў. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[65] **Тэраўскі** Ўладзімер Васільеў (1871—1938), беларускі хармайстар, кампазытар і фальклярыст. Аўтар музыкі да песьняў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (словы М. Краўцова) і «Ад веку мы спалі» (беларуская Марсэльеза) на словы А. Мікульчыка, якія сьпяваліся слуцкімі паўстанцамі падчас збройнага чыну. У чэрвені 1920 г. разам са сваім хорам наведаў з гастролямі і Слуцак. Дабрачынныя канцэрты харавой капэлы Ўл.Тэраўскага былі прасякнутыя антыпольскім духам, пра што сьведчыць і рэпэртуар калектыву, які яны прывезьлі для тамтэйшае публікі — харавыя сьпевы «Панам мы песьні не сьпяваем», «Каля хацінкі» ды інш. У 1920–я гг. працаваў хармайстрам у беларускіх тэатрах Менску, кіраваў царкоўным і аматарскімі харамі. У 1938 г. арыштаваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1958 г.

[66] **Мамчыц** Мікалай Мікалаеў (1899—?), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в. Старыца Пукаўскай вол. Слуцкага пав. Скончыў Нясьвіскую настаўніцкую сэмінарыю (1918). Актывіст БПСР. З траўня 1919 па ліпень 1920 г. — настаўнік Селішчанскай беларускай пачатковай школы. У ліпені 1920 г. прызначаны настаўнікам у Запольскую беларускую пачатковую школу Грыцэвіцкае вол., пасьля вяртаньня польскіх войскаў у воласьць увосень 1920 г. — загадчык Міхалёўскае школы Бортніцкай вол. Бабруйскага пав. Зь лістападу 1920 па 1921 г. інструктар беларускага пададдзелу народнай адукацыі ў Бабруйскім пав., абраны сакратаром павятовага Саюзу працаўнікоў асьветы. У верасьні 1923 г. паступіў у Белдзяржунівэрсытэт, адначасова працаваў настаўнікам 31–й менскай сямігадовай беларускай школы імя Сьцяпана Булата. Актывіст беларускага краязнаўчага руху. Удзельнік ліквідацыйнага зьезду БПСР у 1924 г. У жніўні 1924 г. пакідае навучаньне ва ўнівэрсытэце і настаўніцтва ў Менску ды зь іншымі актывістамі беларускага руху (Янкам Пшанічным, Майсеем Шыманскім, Алесем Аніхоўскім) накіроўваецца ў далу-

чаную ў 1924 г. да БССР Калінінскую акругу для правядзеньня беларусізацыі мясцовых адукацыйных асяродкаў ды ўстановаў, працаваў школьным інспэктарам акруговага аддзелу народнай асьветы. У студзені 1927 г. прызначаны акруговым школьным інспэктарам у Полацкую акругу. У 1929 г. вяртаецца ў Менск, аднаўляе навучаньне ва ўнівэрсытэце, зьяўляецца інспэктарам Наркамасьветы БССР. 20 ліпеня 1930 г. арыштаваны ГПУ па «справе СВБ». Вінаватым сябе не прызнаў. Пастановаю калегіі ОГПУ ад 10 красавіка 1931 г. высланы ў г. Яранск. У ліпені 1937 г. ізноў арыштаваны і 16 лістапада 1937 г. «спэцтройкай» пры НКВД Чувaскай АССР асуджаны на 10 гадоў канцлягераў. Рэабілітаваны па першым выраку Вярхоўным Судом БССР 19 верасьня 1960 г.

[67] **Гарэцкі** Максім Іванаў (1893—1938), беларускі пісьменьнік, літаратуразнаўца, лексыкограф, пэдагог. У траўні 1920 г. запрашаўся Вацлавам Іваноўскім выкладаць на курсах беларусазнаўства ў Слуцку гісторыю літаратуры, але з–за моцнай занятасьці ў Віленскай беларускай гімназіі прыехаць ня змог. Замест яго прыехаў Браніслаў Тарашкевіч. Арыштаваны ГПУ ў 1930 г. па «справе СВБ» і высланы на 5 гадоў у Вятку. У 1937 г. зноў арыштаваны і ў 1938 г. асуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1957 г.

[68] **Анташэўскі** Апанас Хведараў (1887—1938), удзельнік беларускага нацыянальнага руху. Ураджэнец прадмесьця Слуцку Трайчаны. Настаўнік Цівунаўскай пачатковай школы. У 1915 г., падчас Першае сусьветнае вайны, апынуўся ў Іркуцку. Скончыў Іркуцкую вайсковую вучэльню (1916) і аўтаматацыклетныя курсы (1917). 7 чэрвеня 1917 г. вытрымаў іспыт для паступленьня на 1–ы курс Іркуцкага настаўніцкага інстытуту, адкуль адразу быў прызваны на фронт. Служыў падпаручнікам у 382–й Менскай стралецкай дружыне, камандаваў 3–й ротай. Пазьней — начальнік сувязі штабу 136–е стралецкае дывізіі. У 1918 г., пасьля дэмабілізацыі, залічаны на 1–ы курс Валагодзкага настаўніцкага інстытуту, пазьней пераведзены ў Яраслаўскі настаўніцкі інстытут. У студзені 1919 г. па асабістай просьбе быў пераведзены ў Беларускі пэдагагічны інстытут у Менску. Падчас польска–савецкае вайны ўвайшоў у склад Беларускай камуністычнай арганізацыі, удзельнік антыпольскага падпольля на Случчыне. Зь лета 1920 г. працаваў каапэратарам у Цэнтрабелсаюзе. Скончыў Менскі інстытут народнай адукацыі (1921), адзначаны як адзін зь лепшых ды здольных студэнтаў. Адмовіўся па сямейных абставінах ад накіраваньня на вучобу ў расейскую Пятроўска–Разумоўскую сельгасакадэмію, працягваў навучаньне ў Белдзяржунівэрсытэце. У 1921 г. менскай гарадзкой арганізацыяй КП(б)Б накіраваны на працу ў Белдзяржвыдавецтва. Пазьней настаўнічаў у в. Дзюдзева Слуцкае акругі. У 1930–я гг. упаўнаважаны Камітэту нарыхтовак СНК БССР па Капыльскім раёне. Арыштаваны НКВД 11 чэрвеня 1937 г., засуджаны як «агент польскай выведкі» да расстрэлу. Вырак выкананы 21 студзеня 1938 г. Рэабілітаваны 21 чэрвеня 1988 г.

[69] **Цярэшчанка** (Тэрэшчанка) Кузьма Юр’еў (1888—1922), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в.Замосьцішча Рослаўскага павету Смаленскае губэрні. Удзельнік Першае сусьветнае вайны, у 1917 г. — стар-

шыня Пскоўскае беларускае рады, дэлегат зьезду беларусаў–вайскоўцаў Паўночнага фронту ў Віцебску і Ўсебеларускага зьезду ў Менску. З 1918 г. сябра Віленскае Беларускае рады, адзін з арганізатараў Гарадзенскага Беларускага нацыянальнага камітэту, накіраваны павятовым камісарам у Ваўкавыскі павет, прымаў удзел у арганізацыі БПСР на Гарадзеншчыне, падтрымліваў сувязі з бальшавікамі. У пачатку 1919 г. прызначаны А. Луцкевічам на пасаду міністра ўнутраных справаў БНР, выяжджаў у краіны Балтыі й Фінляндыю дзеля арганізацыі там беларускіх дыпляматычных місіяў, вёў перамовы аб прызнаньні ўрадамі гэтых краінаў Беларускае рэспублікі. З восені 1919 г. старшыня Часовага Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску, адзін з кіраўнікоў Цэнтрабелсаюзу, сябра Найвышэйшае рады БНР. У другой палове 1920 г. знаходзіўся ў Варшаве і заходніх паветах Беларусі, падтрымліваў сувязі зь Беларускаю радаю Случчыны і 1–й Слуцкай брыгадай войскаў БНР. З 1921 г. у Вільні, удзельнічае ў арганізацыі Саюзу сельскай гаспадаркі Віленскага краю, беспасьпяхова намагаецца стварыць там беларускую сельскагаспадарчую вучэльню. У пачатку 1922 г. пераяжджае ў Савецкую Беларусь, працуе на адказных пасадах у Цэнтрабелсаюзе. Памёр пры загадкавых абставінах, паводле афіцыйных зьвестак, ад разрыву сэрца.

[70] **Бакіноўскі** Базыль Восіпаў (1880— пасьля 1938), удзельнік беларускага вызвольнага руху. Ураджэнец м. Койданава. У 1918 г. працаваў рэгістратарам у аддзеле загадчыка справаў канцылярыі Народнага сакратарыяту БНР, пазьней — сябра БПСР. У 1919—1920 гг. пісар у канцылярыі ЧБНК у Менску. З прыходам бальшавікоў застаўся ў БССР. Удзельнік ліквідацыйнага зьезду БПСР у 1924 г. У 1930–я гг. працаваў эканамістам. У лютым 1938 г. арыштаваны НКВД і ў кастрычніку т. г. асуджаны на 8 гадоў канцлягераў. Рэабілітаваны Пракуратурай БССР 31 сакавіка 1989 г.

[71] **Каўпак** [Калпак] Янка Паўлаў, удзельнік нацыянальнага руху. Ураджэнец в. Старыца Слуцкага павету. Намесьнік старшыні Старыцкай ячэйкі партыі беларускіх эсэраў. Падчас збройнага чыну камандаваў ротай 1–га Слуцкага палку. У 1921 г. вярнуўся ў Савецкую Беларусь. Удзельнік ліквідацыйнага зьезду БПСР у 1924 г. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[72] **Аніхоўскі** Алесь Юр'еў (Георгіеў) (1897—?), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в. Старыца Слуцкага пав. Скончыў Ізяслаўскія 2–клясавыя пэдагагічныя курсы і Слуцкія настаўніцкія курсы беларусазнаўства (1920). У беларускім руху з 1917 г. Сябра беларускага культурна–асьветнага гуртка «Зарніца». У 1915—1923 гг. настаўнічаў. З 1923 г. — студэнт БДУ, актывіст беларускага студэнцкага руху, удзельнічаў у краязнаўчых экспэдыцыях па Беларусі. З жніўня 1924 г. на ўласнае жаданьне накіраваны інспэктарам беларускіх школаў у Калінінскую акругу. У 1927—30 гг. — інспэктар Наркамасьветы БССР. У 1930 г. праходзіў па «справе СВБ». У жніўні 1935 г. арыштаваны НКВД «за укрывательство бежавшего из ссылки белорусского нацдема Улащика», на 5 гадоў сасланы ў г. Іванава. У ліпені 1943 г. зноў арыштаваны аддзелам НКВД Іванаўскай вобласьці і ў кастрычніку засуджаны на 10 гадоў канцлягераў. Пасьля вызваленьня ў 1956 г. пераехаў на сталае жыхарства ў Іванава, працаваў на адным з тамтэйшых заводаў. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[73] **Шыла** Мікола (1888—1948), беларускі нацыянальны дзяяч. У беларускім руху з «нашаніўскае» пары. У 1917 г. адзін зь лідэраў Цэнтральнае Беларускае вайсковае рады, дэлегат Усебеларускага зьезду ў Менску, з 1918 г. сябра ЦК БПСР. Падчас польска–савецкае вайны ўдзельнічаў у антыпольскім падпольным руху. З 1921 г. у Заходняй Беларусі, уваходзіў у склад Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэту, рэдактар шэрагу віленскіх беларускіх газэтаў левага кірунку. З канца 1944 г. у заходняй частцы Нямеччыны, дзе і памёр.

[74] **Смольскі** Мікалай, былы чыноўнік Слуцкага павятовага казначэйства, падчас польска–савецкае вайны выконваў абавязкі старшыні Слуцкага гарадзкога самакіраваньня (магістрату). Спачувальнік і прыхільнік беларускага нацыянальнага руху. У пачатку 1920 г. быў кааптаваны ў склад Белнацкаму Случчыны. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[75] Гаворка можа ісьці пра аднаго з двух родных братоў Дубінаў.

**Дубіна** Ўлас Васільеў, ураджэнец в. Ісерна Слуцкага павету. У беларускім нацыянальным руху з 1917 г. Актывіст БПСР, сябра Белнацкаму Случчыны і таварыства «Папараць–Кветка». У лістападзе 1920 г. на зьезьдзе Случчыны абраны ў склад Беларускае Рады Случчыны. Пасьля антыбальшавіцкага збройнага чыну — у Заходняй Беларусі, арыштоўваўся польскаю дэфэнзываю, як інструктар Віленскага Белнацкаму арганізоўваў нацыянальныя школы, культурна–асьветныя гурткі і каапэратывы ў Ашмянскім ды Лідзкім паветах, адначасова праводзячы эсэраўскую агітацыю. У 1922 г. у ліку «33–х» высланы польскімі ўладамі ў Літву. З 1923 г. у Савецкай Беларусі, працаваў у саўгасе в.Гнойны Рак. Удзельнічаў у ліквідацыйным зьезьдзе БПСР у 1924 г. У 1933 г. арыштаваны ГПУ і высланы за межы БССР. Іншых зьвестак ня выяўлена.

**Дубіна** Міна, удзельнік беларускага руху з 1917 г. Удзельнічаў у працы беларускіх культурна–асьветных арганізацыяў на Случчыне, сябра партыі беларускіх эсэраў. Падчас Слуцкага збройнага чыну — у шэрагах паўстанцаў. З пачатку 1920–х гг. у Савецкай Беларусі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы ліквідацыйнага зьезду БПСР у 1924 г. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[76] **Паўлюкевіч** Арсень Васілёў (1889 — ?), удзельнік беларускага руху. Паходзіў зь сям’і слуцкага сьвятара. Скончыў мэдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. Падчас навучаньня, па зьвестках польскае дэфэнзывы, нібыта ўваходзіў у расейскую манархічную арганізацыю „Саюз Міхаіла Архангела“. Працаваў лекарам у Слуцку. У 1917 г. выступаў „як агітатар–рэвалюцыянер і зацяты вораг палякаў“. З 1918 г. уваходзіў у Слуцкі правінцыйны камітэт партыі беларускіх эсэраў. У лістападзе 1920 г. узначаліў аднаўлены Слуцкі БНК, кіраўнік яго мэдычна–санітарнага аддзелу. На зьезьдзе Случчыны быў спаборнікам У. Пракулевіча ў барацьбе за пасаду старшыні Беларускае рады Случчыны. Падчас збройнага чыну загадваў шпіталем паўстанцаў. Удзельнічаў у Праскай канфэрэнцыі ў верасьні 1921 г. Паводле зьвестак польскае дэфэнзывы, у 1922 г. арганізаваў у Навагрудзкім ваяводзтве нелегальны „Саюз барацьбы за Бацькаўшчыну“ і ствараў „тэрарыстычныя пяцёркі“, скіраваныя супраць ворагаў Беларусі, у першую чаргу супраць Польшчы. Арыштаваны

польскімі ўладамі ў красавіку 1922 г. у Нясьвіжы. Пасьля гэтага часова адышоў ад палітыкі і займаўся толькі лекарскай практыкай. У 1920–я гг. жыў у Вільні. Паводле А. Бачко, быў вайсковым лекарам пры адной з польскіх частак. У 1924 г. быў адным з ініцыятараў стварэньня Часовай беларускай рады (абраны яе старшынём), якая была палітычным апанэнтам левых і цэнтрысцкіх беларускіх арганізацыяў (БСРГ, БСС, БХД ды інш.). Акрамя таго, у сярэдзіне 1920–х гг. быў стваральнікам і кіраўніком яшчэ некалькіх беларускіх палёнафільскіх арганізацыяў: „Прасьвета“, „Беларуская Хатка“, Беларускі камітэт для справаў самакіраваньня, Беларуская нацыянальная рада, Беларуская нацыянальная партыя. Паводле некаторых зьвестак, быў падвойным агентам — польскае дэфэнзывы і савецкага ГПУ. Дапамагаў Б. Кавэрду пры падрыхтоўцы і ажыцьцяўленьні замаху на савецкага амбасадара П. Войкава. Як сьцьвярджае Ю. Віцьбіч, у 1928 г. як савецкі шпіён А. Паўлюкевіч быў засуджаны польскім судом на 12 год катаргі. Падобнае сьведчаньне ёсьць і ў кнізе Ф. Аляхновіча „У капцюрох ГПУ“. Калі верыць Б. Кавэрду, падчас Другое сусьветнае вайны Паўлюкевіч удзельнічаў у руху антыгітлераўскага Супраціву ў Варшаве, быў схоплены і расстраляны немцамі.

[77] **Пракулевіч** Уладзімер Міхайлаў (1887—1938), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в.Красналукі Барысаўскага павету. Скончыў Смаленскую гімназію і юрыдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту (1912). Падчас першае расейскае рэвалюцыі ўдзельнічаў у працы сацыял–дэмакратычных гурткоў (РСДРП і Бунду). Да Першае сусьветнае вайны працаваў у Менскай казённай палаце, з 1914 г. — у Менскім акруговым судзе. З пачаткам вайны эвакуяваўся ў Маскву, пазьней — рахункавод у структуры Ўсерасейскага камітэту земскіх і гарадзкіх саюзаў па забесьпячэньні войска. Зь ліпеня 1917 г. зноў у Менску на судовых пасадах. У 1918 г. абраны старшынём Слуцкага зьезду міравых судзьдзяў. З прыходам бальшавікоў працаваў міравым судзьдзём у м. Вызна, прыхільнік БПСР. З узнаўленьнем савецкае ўлады ў ліпені 1920 г. на пасадзе судзьдзі ў Слуцку. На зьезьдзе Случчыны абраны старшынём Беларускае рады Случчыны. З 1921 г. у Вільні, у складзе Віленскага Белнацкаму, сябар Загранічнага бюро БПСР. У 1922 г. у ліку «33–х» высланы польскімі ўладамі ў Літву; у 1923 г. у Коўне кааптаваны ў склад ураду БНР на чале з А.Цьвікевічам на пасаду дзяржаўнага сакратара. З канца 1923 г. у Празе–Чэскай, удзельнічае ў нацыянальных арганізацыях беларускай эміграцыі. Удзельнік 2–е Бэрлінскае беларускае палітычнае канфэрэнцыі, падпісаўся пад рэзалюцыяй пра ліквідацыю ўраду БНР. З траўня 1926 г. у Савецкай Беларусі, працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР. 19 ліпеня 1930 г. арыштаваны ГПУ па «справе СВБ» і на 5 гадоў высланы ў Сьвярдлоўск (Екацярынбург). 9 верасьня 1938 г. зноў арыштаваны «як удзельнік контаррэвалюцыйнай арганізацыі, што працавала на карысьць адной з замежных дзяржаваў», асуджаны на расстрэл. Рэабілітаваны па першым выраку ў чэрвені 1988 г., па другім — у красавіку 1989 г.

[78] **Тарашкевіч** Браніслаў Адамаў (1892—1938), беларускі нацыянальны дзяяч, філёляг, літаратар, пэдагог. Акадэмік БАН (1928). З 1918 г. адзін зь лідэраў БСДП, выкладаў у Менскім Беларускім пэдагагічным інсты-

туце. У 1919 г. арыштоўваўся бальшавікамі, пасьля вызваленьня выехаў у Вільню. Падчас польска–савецкае вайны на пэдагагічнай працы ў беларускіх навучальных установах. У красавіку—траўні 1920 г. выяжджаў у Слуцак чытаць лекцыі па беларускай філялёгіі на беларускіх настаўніцкіх курсах. З канца 1920 г. у Вільні. У 1933 г. у БССР. У 1937 г. арыштаваны й расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

[79] **Аляхновіч** Францішак Карлаў (1883—1944), беларускі нацыянальны дзяяч, драматург, рэжысэр, артыст, журналіст. Адзін з патрыярхаў беларускага нацыянальнага тэатру ў ХХ ст. Падчас польска–савецкай вайны — рэдактар–выдавец часапісу «Беларускае жыцьцё», з восені 1919 г. у Менску кіраваў нацыянальнымі драматычнымі дружынамі. У красавіку — траўні 1920 г. выяжджаў у Слуцак, чытаў на беларускіх настаўніцкіх курсах лекцыі па тэатральным мастацтве і арганізацыі аматарскага тэатру на вёсцы. Разам з драматычным гуртком «Папараць–Кветкі» паставіў на слуцкай сцэне сваю п’есу «Птушка шчасьця» (скарочаная вэрсія), дзе і сам браў удзел у якасьці артыста. У 1944 г. застрэлены ў Вільні савецкімі ці польскімі («АКоўскімі») дывэрсантамі.

[80] **Вясёлы** Касьян (сапр. **Аўдзей** Вікенці Язэпаў) (1886, паводле іншых зьвестак, 1891—1916), літаратар, драматург. Ягоная п’еса «Не умом понял, а сердцем», напісаная па–расейску, надрукаваная ў часапісе «Крестьянин» у 1909 г., была вельмі папулярная сярод сялянства і неаднаразова ставілася беларускімі аматарскімі дружынамі ў вёсках Беларусі.

[81] **А**дзін з псэўданімаў клясыка беларускае нацыянальнае літаратуры Якуба Коласа (1882—1956).

[82] **Юшкевіч** Міхаіл Вікеньцьеў (1900?—?), савецкі дзяяч. Ураджэнец Слуцкага пав. Да 1917 г. вучыўся ў Слуцкай мужчынскай гімназіі. У партыйнай анкеце РКП(б) у графе «нацыянальнасьць» пазначыў — «расеец». У 1919 г. сакратар Слуцкага павятовага рэўкаму і выканкаму. З студзеня 1920 г. член падпольнага бальшавіцкага камітэту ў Слуцку. З лета 1920 г. сакратар парткаму, член рэўкаму, загадчык аддзелу па рабоце на вёсцы Слуцкага пав. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[83] Маецца на ўвазе **Ваенна–рэвалюцыйны камітэт Слуцкага павету** (рэўкам), часовы надзвычайны орган бальшавіцкае ўлады ў Слуцкім павеце, якому падпарадкоўвалася ўся адміністратыўная ўлада ў межах гэтае адміністратыўнае адзінкі падчас польска–савецкае вайны.

[84] **Уладзіміраў** (Владимиров) Мікалай Васільевіч (1891—?), бальшавіцкі савецкі дзяяч, старшыня Слуцкага павятовага выканаўчага камітэту. У партыйнай анкеце пазначана: «расеец; з рабочых; прафэсія — кравец; адукацыя — хатняя». Іншых зьвестак ня выяўлена.

[85] **Пасюкевіч** Пятро Восіпаў (1898—1938), дзяржаўны дзяяч БССР. Ураджэнец в.Быстрыца Слуцкага пав. Быў настаўнікам пачатковае школы. У 1917 г. мабілізаваны ў расейскае войска на Заходні фронт. Пасьля дэмабілізацыі ў канцы 1917 г. і вяртаньня ў родную вёску абраны сакратаром камітэту беднаты (камбед), пазьней упаўнаважаны валаснoе камісіі па харчаваньні (волопродкомиссия). Падчас нямецкае акупацыі 1918 г. настаўнічаў у школе. З аднаўленьнем савецкае ўлады ў 1919 г. уступіў у бальшавіцкую партыю. З сакавіка 1919 г. у чырвоным войску, удзельнік

грамадзянскае вайны ў Расеі (браў удзел у баях пад Архангельскам, потым накіраваны на ўсход супраць Калчака пад Самару). Захварэўшы на «іспанку», дэмабілізаваўся й вярнуўся на радзіму. Падчас польскае акупацыі настаўнічаў. Летам 1920 г. па вяртаньні чырвоных войскаў прызначаны павятовым ваенным камісарам у Нясьвіжы; падчас восеньскага наступу польскіх легіянэраў у складзе савецкае адміністрацыі эвакуяваўся спачатку ў Магілёў, а потым у Смаленск. Да 1922 г. працаваў у Наркамаце па ваенных справах ССРБ. Скончыў губэрнскую партыйную школу. У пачатку 1920–х гг. кіраўнік Упраўленьня па справах мастацтваў пры СНК ССРБ. Апошнім часам працаваў інспэктарам Чырвонага Крыжа. Засуджаны 29 чэрвеня 1938 г. да расстрэлу. Расстраляны ў Менску. Рэабілітаваны 25 красавіка 1958 г.

[86] **Ваенна–рэвалюцыйны камітэт ССРБ**, надзвычайны вышэйшы орган савецкай улады на тэрыторыі ССРБ у 1920 г. на завяршальным этапе польска–савецкай вайны. У яго склад уваходзілі А.Чарвякоў, В. Кнорын, І. Смілга, А.Вайнштэйн, У. Ігнатоўскі, А. Крыніцкі (Бампі).

[87] **«Савецкая Беларусь»**, газэта, у лютым — ліпені 1920 г. афіцыйны орган ЦК Кампартыі Літвы і Беларусі (выйшла 10 нумароў, выдавалася ў Смаленску), у жніўні — сьнежні 1920 г. орган Рэўкаму ССРБ.

[88] **Беларуская вайсковая камісія** (БВК), арганізацыя па фармаваньні беларускіх вайсковых аддзелаў у структуры польскага войска ў 1919—1921 гг. Утвораная ў жніўні 1919 г. у Вільні, у лістападзе таго ж году пераведзена ў Менск. У ліпені 1920 г., падчас наступленьня чырвоных войскаў, фактычна распалася. Адноўленая ў пачатку кастрычніка таго ж году ў г. Лодзь (Польшча) у складзе: маёр Андрэй Якубецкі (старшыня), Францішак Умястоўскі, капітан Францішак Кушаль, падхарунжы Макар Касьцевіч (Краўцоў), Э.Якабіні, Якубоўскі ды інш. Знаходзілася пад уплывам Найвышэйшае рады БНР. Напярэдадні і падчас Слуцкага збройнага чыну намагалася праводзіць вярбоўку добраахвотнікаў у беларускае войска на Гарадзеншчыне, паслала у помач паўстанцам афіцэраў на чале з А.Якубецкім, бальшыня якіх разьбеглася, не даехаўшы да месца дысьлякацыі 1–е Слуцкае брыгады. Пасьля ліквідацыі чыну частка вайскоўцаў 1–е брыгады трапіла ў склад аддзелу БВК, што кватараваў у Лодзі. Прапановы кіраўніцтва камісіі пра перавод яе на тэрыторыю Заходняе Беларусі адхілілі польскія ўлады. Скасаваная загадам польскага камандаваньня 15 траўня 1921 г.

[89] **Якубецкі** (Jakubiecki) Андрэй (1892—?), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в.Сухмяні Гарадзенскага павету. Скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую сэмінарыю (1912). Удзельнік Першае сусьветнае вайны, капітан, скончыў Аляксандраўскую вайсковую вучэльню. Пасьля дэмабілізацыі вяртаецца на Гарадзеншчыну, з канца 1918 г. у БПСР, адзін з ініцыятараў склікаthrowньня ў лістападзе таго ж году Беларускага сялянскага зьезду Гарадзенскага павету, абраны ў склад Беларускае сялянскае рады. У ліпені 1919 г. абраны ў Цэнтральную Беларускую раду Віленшчыны і Гарадзеншчыны, увайшоў у склад Беларускае вайсковае арганізацыі (папярэдніца БВК) у Вільні. У лістападзе разам з БВК пераяжджае ў Менск, у чыне маёра прызначаецца намесьнікам старшыні

камісіі. Восеньню 1920 г. узнаўляе дзейнасьць БВК у Лодзі і становіцца ейным кіраўніком. У лістападзе 1920 г., разам з групаю беларускіх афіцэраў прыяжджае ў Семежава, на дапамогу слуцкім паўстанцам, прызначаецца Найвышэйшаю радаю БНР галоўнакамандуючым збройных сілаў Рэспублікі. Пасьля ліквідацыі збройнага чыну — у Вільні, працуе ў беларускіх нацыянальных арганізацыях. У лютым 1922 г. разам з 33–ма іншымі беларускімі ды літоўскімі дзеячамі высланы ў Літву. З траўня 1922 г. жыве ў Дзьвінску (Латвія), выкладае ў мясцовай беларускай гімназіі, бярэ ўдзел у працы беларускіх арганізацыяў. У сярэдзіне 1920–х гг. падчас судовых працэсаў над беларускімі сацыялістамі ў Латвіі быў адным з абвінавачаных, але дамогся апраўданьня. Падчас Другое сусьветнае вайны кіраваў Дзьвінскім аддзелам Беларускага нацыянальнага аб'яднаньня ў Латвіі. Іншых зьвестак ня выяўлена.

90 **Краўцоў** (сапр. **Касьцевіч**) Макар Мацьвееў (1891— пасьля 1939), беларускі нацыянальны дзяяч, паэт, публіцыст, перакладчык. Скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую сэмінарыю (1910), настаўнічаў на Гарадзеншчыне, удзельнік Першае сусьветнае вайны, ваяваў у дзеючым расейскім войску на Паўднёва–Заходнім фронце. Дэлегат Усебеларускага зьезду ў сьнежні 1917 г. У 1918 г. увайшоў у БПСР, сябра Рады БНР, настаўнічаў у менскіх беларускіх школах. У пачатку 1919 г. на Гарадзеншчыне — упаўнаважаны Міністэрства беларускіх справаў пры літоўскім урадзе, ствараў беларускія органы ўлады ў Сакольскім павеце. Пазьней вяртаецца ў Менск, працуе пры Літаратурна–выдавецкім аддзеле Наркамасьветы Літбел. Аўтар верша «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які быў пакладзены на музыку Ўл.Тэраўскім і стаў гімнам БНР. З кастрычніка 1920 г. у складзе БВК, узначальвае культурна–асьветны аддзел. Падчас Слуцкага збройнага чыну быў прызначаны загадчыкам друкарні паўстанцаў у Клецку. Пазьней у Заходняй Беларусі, удзельнічаў у працы беларускіх нацыянальных арганізацыяў і ўстановаў, друкаваўся ў беларускамоўным пэрыядычным друку. З прыходам у Вільню бальшавікоў у кастрычніку 1939 г. арыштаваны НКВД і вывезены. Іншых зьвестак ня выяўлена.

91 **Кушаль** Францішак Вінцэнтаў (1895—1968), беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец. Удзельнік Першае сусьветнае вайны на Заходнім фронце, штабс–капітан. У 1919—1921 гг. у складзе БВК.

92 Гаворка ідзе пра ўмовы прэлімінарнага пагадненьня ў Рызе паміж Польшчаю ды Савецкаю Расеяю, падпісанага ў кастрычніку 1920 г., напярэдадні заключэньня паўнавартаснае Рыскае мірнае дамовы. Паводле яго абодва бакі абавязваліся не дапушчаць стварэньня незаконных («трэціх») вайсковых фармаваньняў.

93 **Мацэлі** (Мацэльлі, Мацэля, Мяцеля) Іван, вайсковец. Ураджэнец с. Малая Млынка Цараўскай вол. Слуцкага пав. У пачатку 1919 г. падпаручнік, ад'ютант аднаго зь беларускіх аддзелаў у складзе літоўскага войска. Пазьней супрацоўнік Беларускай вайскова–дыпляматычнае місіі ў Рызе. У пачатку 1920 г. у Менску, у чыне паручніка 1–е роты рэзэрвы Беларускае вайсковае камісіі. Яшчэ ў траўні 1920 г. накіраваны ў якасьці вэрбунковага афіцэра на Случчыну і Піншчыну дзеля вярбоўкі добраахвотнікаў у беларускае войска. Адзін з арганізатараў Слуцкае гарадзкое і павятовае

беларускае міліцыі. На зьезьдзе Случчыны абраны ў склад Беларускае Рады Случчыны. Падчас збройнага чыну камандзір 2–га батальёну 2–га Грозаўскага палка 1–е Слуцкае брыгады. Пазьней, дзеля аслабленьня антыэсэраўскай апазыцыі ў Радзе, быў накіраваны да ген. Ст. Булак–Балаховіча «дзеля наладжваньня сувязі». Іншых зьвестак ня выяўлена. З–за рознага паданьня ў крыніцах ягонага прозьвішча — Мацэлі і Мацэля — некаторыя дасьледнікі памылкова вызначаюць двух удзельнікаў слуцкіх падзеяў 1920 г.

[94] **Борык** Антон (1894—?), удзельнік беларускага руху. Ураджэнец в. Сынкоўцы Сакольскага павету Гарадзенскае губэрні. Удзельнік Першае сусьветнае вайны, капітан. З 1917 г. у складзе польскага вайсковага корпусу генэрала Доўбар–Мусьніцкага. У 1918 г. у Вільні, уключыўся ў беларускую нацыянальную працу, кааптаваны ў склад Віленскае Беларускае рады. Адзін з арганізатараў Беларускага нацыянальнага камітэту ў Горадні, сябра БПСР. У канцы сакавіка 1919 г. накіраваны ўрадам БНР у Бэрлін начальнікам Беларускае вайсковае місіі па справах ваеннапалонных беларусаў у Нямеччыне. 30 чэрвеня 1919 г. разам з К. Цярэшчанкам заклалі «Аддзел збліжэньня палоненых беларусаў у Нямеччыне з родным краем». У 1920 г. выканаўчы дырэктар бэрлінскае фірмы «Сындыкат Сапегі для Эўропы і Азіі ў Беларусі», пазьней загадвае агульным аддзелам БВК ў Лодзі. У лістападзе 1920 г. накіраваны праз Горадню на Случчыну ў дапамогу паўстанцам разам зь іншымі афіцэрамі БВК. У першы этап збройнага чыну — начальнік штабу 1–е Слуцкае брыгады, пазьней зьняты з гэтае пасады. Пасьля ліквідацыі збройнага чыну пэўны час знаходзіўся ў Латвіі, у тамтэйшай беларускай калёніі, наладжваў сувязі з латыскімі сацыял–дэмакратамі. У 1921 г. кароткі час знаходзіўся ў Вільні, адзін з закладнікаў ТБШ. У канцы таго ж году пераяжджае ў Коўна, працаваў пры ўрадзе БНР. Пазьней жыў у Заходняй Беларусі. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[95] **Сасноўскі** Юльян, адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну. Ураджэнец м. Вызна Слуцкага павету. Наконадні Першай сусьветнай вайны скончыў Слуцкую расейскую мужчынскую гімназію. У кастрычніку 1920 г. абраны ў склад Беларускае рады Случчыны, загадчык ейнае канцылярыі. Пасьля ліквідацыі антыбальшавіцкага збройнага чыну інтэрнаваны ў Беластоцкі лягер, пазьней знаходзіўся ў Вільні. Ня вытрымаўшы выпрабаваньняў, фізычна і маральна зьнясілены, у 1922 г. скончыў жыцьцё самагубствам.

[96] **Анцыповіч** Анастас, першы камандзір 1–е Слуцкае брыгады войскаў БНР. Вызвалены з пасады 3 сьнежня 1920 г. Пазьней выдадзены польскімі ўладамі бальшавікам і расстраляны.

[97] **Валодзька** Піліп, актыўны ўдзельнік Слуцкага збройнага чыну. Ураджэнец м. Старобін Слуцкага павету. У адным зь першых баёў 1–га Слуцкага палка за м. Капыль 26 лістапада быў цяжка паранены, на наступны дзень памёр. Пахаваны з вайсковаю пашанай на могілках каля Семежаўскай праваслаўнай царквы. У віленскай газэце «Наша Думка» за 15 красавіка (№15) быў зьмешчаны верш былога слуцкага паўстанца пад псэўданімам «Дык–Дзеля» «На сьмерць Піліпа Валоцькі»:

У Семяжове, каля цэрквы Божай,
Новы хрэст цяпер стаіць,
Абвінуты стужкаю прыгожай,
А пад ім салдат ляжыць!
На той стужцы, бел–чырвона–белай,
Літары напісаны крывёю ...
Тут ляжыць сын Беларусі мілай,
Што пайшоў цярнёвай каляёю.

Ён ня сьцерпіў крыўды злое,
Што над намі вечна панавала,
Дый памёр ад кулі ён чужое,
А зямля сваявая яго схавала.

Сьпіць цяпер спакойным сном,
А душа да неба паляцела:
Больш ня пойдзе ў шыху баявом,
Бо настала для яго нядзеля!
Дома бацька, маці сьлёзы льюць
Па сынку сваім старэйшым,
А тут, на вайне, у газэты шлюць,
Што памёр ён першым.

м. Быдгош. 3.II.1921 г.

[98] **Кнорын** (Кнорыньш) Вільгельм Георгіевіч (1890—1938), савецкі дзяржаўны дзяяч, адзін з кіраўнікоў філіі бальшавіцкае партыі ў Беларусі (з 1919 г. сакратар ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, у 1920—1922 гг. сакратар Цэнтральнага Бюро КП(б)Б, 1927—1928 гг. — 1–ы сакратар ЦК КП(б)Б). 31 ліпеня 1920 г. падпісаў Дэклярацыю пра абвяшчэньне ССРБ.

[99] У аснову «Дэклярацыі» пакладзеныя палажэньня Трэцяе Ўстаўное Граматы БНР ад 25 сакавіка 1918 г. У сьледчых паказаньнях Ул. Пракулевіча ў 1930 г. у ГПУ пададзена, што тэкст Дэклярацыі быў памножаны на гектографе. Да тэксту дакумэнта Васіль Русак пазьней дапісаў: «У Прэзідыуме было 7 чалавек, а ў Радзе 17. Падпісалі Ул.Пракулевіч (старшыня), П.Жаўрыд, В.Русак, Біруковіч, Сасноўскі, Рабы, што тыча А.Паўлюкевіча, то яго не было ў час, калі прынялі Дэкл., зусім... проста не магу сказаць, як ён паставіўся, але і пытаньня ніякога не паднімалі, а мажліва, што яго спаткаў сябар Рады, які павёз яе дзеля напечатаньня, і ён падпісаўся; зь нейкіх прычынаў яна не была напечатана, а передана пераехаўшаму тагды ў Баранавічы Тэрэшчэнку.

Тако ж проста запамятаваў, ну факт, што яна проста без звуку прапала, такое гаворыць само за сябе, мажліва, што ў Вільні, а скарэй усяго, то, мажліва, Тэрэшчэнка перадаў «Н.Р.» у Варшаве, і гэта скарэй усяго будзе, «Н–ыя» гаварылі, чаму ж вы нас не прызналі? Што ім хацелася за прызнаньне, няхай яшчэ самі скажуць, на той час палітыка пры аружным змаганьні была захаваць чыстату народ. паўстаньня ў Случчыне, выпаўняючы волю з’езда, які быў сазваны 14—15 лістапада 1920 г. па 5 прэдст–ў ад воласці

і па адном ад арганізацый, якія цьвёрда сталі за барацьбу з акупантамі і за незалежнасьць б–ны.

Назоў Рада Случчыны быў даны, таму што са ўсей Беларусі былі прэдстаўнікі, і ня толькі з валасцёў Слуцкага павету, а і з суседніх, і таму ўласна не назвалі Радай Слуцкага павету, а Радай Случчыны.

Усе ж высілкі балахоўцаў і ім падобных былі, каб падпарадкаваць сабе Раду і паўстаньня, якое мела да 6000 чалавек на давольстве... (па савец. перапісцы вышла 12 000 з Случчыны і бліж. паветаў). [Прыхільнікі Балаховіча] былі адкінуты як няпрошаныя госьці.

У мяне ж гэты чарнавік захоўваўся выпадкова, пісаны рукою Ю.Лістапада, які тагды як сябар Рады быў начальнікам канцылярыі Прэзідыума Рады.

Стар. з’езду Случчыны 14—15 ліст. 1920 г. і сябар Прэзід. РС. В. Русак».

[100] Гэтую нараду плянавалася правесьці ў пачатку лістапада 1920 г. у Баранавічах. Раней яна ніяк не магла адбыцца, бо ўзгаданае ў дакумэнце тэрытарыяльнае ўтварэньне — Сярэдняя Літва — паўстала ў кастрычніку таго году і на працягу адзначанага месяца яшчэ ішлі баі паміж аддзеламі ген. Жэлігоўскага і літоўскімі вайсковымі часткамі. У тэксьце дакумэнта ані слова не сказана пра баявыя акцыі слуцкіх паўстанцаў, адсюль можна зрабіць выснову, што плянаваная нарада рыхтавалася напярэдадні ці адразу пасьля правядзеньня Беларускага зьезду Случчыны (пачатак—сярэдзіна лістапада 1920 г.). Ёсьць пэўныя сумненьні, ці адбылася гэтая нарада ўвогуле. Магчыма, гэта было абмеркаваньне паміж беларускімі ды польскімі «крэсавымі» дзеячамі ў вузкім коле пытаньня наконт сумесных дзеяньняў, а вышэйпададзены дакумэнт — толькі меркаваньні пра намеры. Сапраўды, «Akcja Słucka» уяўляе зь сябе плян–канспэкт, а не пратакол паседжаньня. Пад прозьвішчамі некаторых дзеячоў — сябраў БПСР, якія варожа ставіліся да Найвышэйшай Рады БНР, стаяць пытальнікі, што можа тлумачыцца сумненьнем арганізатараў плянаванай нарады ў згодзе апошніх удзельнічаць у ёй.

[101] **Сярэдняя Літва** (Litwa Środkowa) ці Ўсходняя Літва (Litwa Wschodnia), паўафіцыйная назва квазідзяржаўнага ўтварэньня на тэрыторыі Віленскага, Трокскага, Сьвянцянскага і Ашмянскага паветаў, якія былі захопленыя ў выніку вайсковай акцыі Беларуска–літоўскае дывізіі польскага генэрала Люцыяна Жэлігоўскага ў кастрычніку 1920 г. супраць Літвы, якая прэтэндавала на гэтыя тэрыторыі паводле савецка–літоўскае мірнае дамовы з 1920 г. У студзені 1922 г., каб юрыдычна ўзаконіць далучэньне да Польшчы названых тэрыторыяў, былі арганізаваныя выбары ў т. зв. часовы сэйм Сярэдняе Літвы (байкатаваўся з боку мясцовых беларускіх, габрэйскіх і літоўскіх нацыянальных арганізацыяў), паводле рашэньня якога ад 20 лютага 1922 г. Сярэдняя Літва ўвайшла ў склад II Рэчы Паспалітае.

[102] **Найвышэйшая рада БНР**, палітычная структура ў 1919—1921 гг. Створаная ў Менску ў сьнежні 1919 г. падчас сьнежаньскае сэсіі Рады БНР. Уяўляла зь сябе г.зв. «дырэкторыю» з 5–ці чалавек: Язэп Лёсік, Янка Серада, Сымон Рак–Міхайлоўскі, Аляксандар Уласаў, Кузьма Цярэшчанка. Але ж фактычным лідэрам «найвышэйшых» у той час зьяўляўся Вацлаў

Іваноўскі (Антон Луцкевіч фактычна адышоў тады ад актыўнае палітычнае дзейнасьці). З наступленьнем бальшавіцкіх войскаў кіраўнікі Найвышэйшае рады БНР знаходзіліся ў Варшаве. З пачаткам Слуцкага збройнага чыну «найвышэйшыя» й іхныя прыхільнікі, найперш К.Цярэшчанка, намагаліся скарыстаць паўстаньне дзеля разгортваньня ў Беларусі шырокай вайсковай акцыі супраць бальшавікоў, спадзеючыся на падтрымку Польшчы. Большасьць «найвышэйшых» нэгатыўна ставілася да ген. Булак–Балаховіча і ягонай сумеснай антыбальшавіцкай акцыі са старшынём Расейскага палітычнага камітэту Барысам Савінкавым. Меркаваньне, якога трымаліся лідэры беларускіх эсэраў, а потым падхапілі некаторыя былыя «партыйныя» гісторыкі, што Найвышэйшая рада БНР за эфэмэрную падтрымку Польшчы адмовілася ад ідэі незалежнасьці Беларусі на карысьць «нацыянальна–культурнай» аўтаноміі, не адпавядае рэчаіснасьці. Архіўныя дакумэнты сьведчаць, што на працягу 1920 г. у сваіх дэклярацыях ды адозвах «найвышэйшыя» неаднаразова падкрэсьлівалі сваю вернасьць Акту 25 сакавіка 1918 г. У пачатку 1921 г. адзін з кіраўнікоў Найвышэйшае рады БНР К.Цярэшчанка публічна, праз беларускую прэсу абвесьціў пра яе фактычнае скасаваньне ды перадачу свайго «мандату» на карысьць Рады БНР на чале зь Пётрам Крэчэўскім і ўраду В. Ластоўскага.

[103] **Гардзялкоўскі** (Gordziałkowski) Альгерд, польскі «крэсавы» палітычны дзяяч, былы сябра «Польскае рады зямлі Менскай». Адзін з ініцыятараў стварэньня Камітэту абароны Крэсаў, што прычыніўся да арганізацыі Беларуска–літоўскай дывізіі, якой камандаваў ген. Л.Жэлігоўскі.

[104] **Крупскі** (Krupski) Чэслаў, польскі «крэсавы» палітычны дзяяч, былы сябра Польскае рады зямлі Менскай. Быў сябрам Камітэту абароны Крэсаў.

[105] **Вітан–Дубейкаўскі** (Dubejkowski) Лявон Янаў (1869—1940), беларускі нацыянальны дзяяч, архітэктар. Падчас польска–савецкае вайны — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Варшаве, ініцыятар стварэньня ў польскай сталіцы ў ліпені 1919 г. Польска–беларускага таварыства з мэтаю «ўзаемнага пазнаньня й збліжэньня».

[106] **Нэканда–Трэпка** Антон Станіславаў (1877—1942), беларускі нацыянальны дзяяч, пэдагог. Адзін з пачынальнікаў БСГ і БСДП. З 1918 г. выкладаў у Менскім Беларускім пэдагагічным інстытуце (МБПІ). У сакавіку 1919 г. як закладнік арыштаваны бальшавіцкаю «чрэзвычайкаю» і вывезены ў Смаленск. Пасьля вызваленьня ў сьнежні 1919 г. вярнуўся ў Менск, увайшоў у склад прэзыдыюма Часовага Беларускага нацыянальнага камітэту. Са студзеня 1920 г. намесьнік рэктара МБПІ. Восеньню 1920 г. кароткі час знаходзіўся ў Варшаве, пазьней у Вільні, выкладчык Віленскае беларускае гімназіі. У кастрычніку 1939 г. арыштаваны НКВД БССР і асуджаны на 10 гадоў лягераў. Памёр па дарозе да арміі ген. Андэрса.

[107] **Скірмунт** (Skirmunt) Раман Аляксандраў (1868—1939), беларуска–польскі палітычны дзяяч. Дэпутат 1–е Дзяржаўнае Думы Расейскае імпэрыі ў 1905—1906 гг. У сакавіку — ліпені 1917 г. узначальваў Беларускі нацыянальны камітэт у Менску. У 1918 г. адзін зь лідэраў Менскага на-

роднага прадстаўніцтва, сябра Рады БНР, вылучаўся на пасаду старшыні Народнага сакратарыяту БНР. З 1921 г. на дзяржаўных пасадах Польшчы. У апошнія гады жыў ва ўласным маёнтку каля в. Парэчча на Піншчыне. У 1939 г., пасьля далучэньня Заходняе Беларусі да СССР, забіты ў сваім маёнтку бальшавіцкімі актывістамі.

[108] **Баран** (Baranow) Сяргей Язэпаў (1892—193?), беларускі нацыянальны дзяяч, ураджэнец в.Віцькі Горніцкай вол. Горадзенскага павету. Адзін зь лідэраў беларускага вызвольнага руху на Горадзеншчыне падчас польска–савецкае вайны, сябра БПСР, з 1920 г. старшыня Белнацкаму ў Горадні. З прыходам бальшавікоў працаваў у аддзеле народнае адукацыі і сацыяльнага забесьпячэньня Горадзенскага рэўкаму, быў арыштаваны «чрэзвычайкаю». Адзін з арганізатараў Горадзенскае беларускае гімназіі. Удзельнік першае беларускае нацыянальна–палітычнае канфэрэнцыі ў Празе. З 1922 г. — пасол польскага сэйму. Арыштаваны польскімі ўладамі, праходзіў па судовай справе ў Беластоку ў 1923 г. З 1928 г. у БССР. У 1933 г. арыштаваны ГПУ БССР па «справе БНЦ», пастановай калегіі ОГПУ СССР 9 студзеня 1934 г. асуджаны на 10 гадоў канцлягераў. У красавіку 1935 г. знаходзіўся у Дальлагу. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны пастановай КГБ пры СМ БССР у 1956 г.

[109] **Булак–Балаховіч** Станіслаў Нікадзімаў (1883—1940), вайсковец і палітычны дзяяч. Удзельнік Першае сусьветнае вайны. Зь вясны 1918 г. у чырвонай арміі, але ўжо ў лістападзе таго ж году перайшоў на бок Пскоўскага добраахвотнага корпусу белагвардзейцаў ген. Юдзеніча. З траўня 1920 г. — генэрал–маёр. У студзені 1920 г. згадзіўся разам са сваім конным аддзелам складаць ядро будучых збройных сілаў БНР, з дазволу польскага камандаваньня перадысьлякаваўся з падначаленым яму аддзелам на Беларускае Палесьсе. У хаўрусе з Барысам Савінкавым арганізаваў ваенную акцыю г. зв. Расейскае народнае добраахвотнае арміі на Палесьсі з мэтаю разьвязаць супраць бальшавікоў масавыя сялянскія паўстаньні ў Беларусі і Расеі. Пасьля няўдачы акцыі жыў у Польшчы. У 1937—1939 гг. быў добраахвотнікам у войску ген. Франка ў Гішпаніі. З верасьня 1939 г. быў у падпольлі, загінуў 10 траўня 1940 г. у перастрэлцы зь нямецкім патрулём у Варшаве.

[105] *Пераклад дакумэнта:*

Слуцкая акцыя

Мэта:

1) Вызваленьне Беларусі.

2) Дасягненьне незалежнасьці Беларусі.

(Незалежнасьць здабываецца шляхам фэдэрацыі з Польшчай праз больш цесную яе сувязь зь Сярэдняй Літвой):

Сытуацыя вельмі цяжкая і няпэўная:

1) Стомленасьць ад вайны ў Польшчы.

2) Па магчымасьці перашкодзіць перакідваньню бальшав. войскаў з поўдня

Выснова: надзея толькі на ўласныя сілы, сілы краю, а значыць — палітыка праводзіцца ў духу выкананьня ўсіх пастулятаў насельніцтва

Унутраныя непаразуменьні — выключаныя

Палітычная акцыя
Адносіны да насельніцтва
Дэмакратычная аснова
Апора на самаўрады. Уставадаўчы Сойм Белае Русі
Нацыянальная роўнасьць
Радыкальная зямельная рэформа і яе рэклямаваньне.
Пазьбяганьне рэквізыцыяў.
Дапамога ў забесьпячэньні харчаваньнем.
Міжнародная палітыка
Беларуская Народная Рэспубліка. Ніякага самазванства
Законны ўрад, створаны Найвышэйшай Радай.
Склад ураду: 50% бел., 40% пал. і 10% габрэяў.
(Такі склад і ўся сытуацыя — гарантыі для Польшчы)
Дзяржаўнасьць несумненна беларуская
Апора на Польшчу
Апора на Францыю (барацьба з бальшавікамі).
Цесны саюз зь Сярэдняй Літвой.

| | |
|---|---|
| Гордзял[коўскі] | Цярэшчанка |
| Крупс[кі] | Дубейкаўскі |
| Обезер[скі] | Смоліч |
| Парэмбскі | Трэпка |
| Ражноўскі | Скірмунт |
| Жаўрыд | Баранаў |
| Якубецкі | |

Вайсковая акцыя. Тры этапы:
1) Слуцкі пав. (лінія Пцічы)
2) Менская акруга (лінія Бярэзіны)
3) Уся Беларусь
Першы этап.
a) Народная міліцыя
b) Партызаны
c) Вярбоўка для Вайск. камісіі
d) Рэгулярнае бел. войска
e) Польскія добраахвотнікі
f) Узбройваньне ўсяго насельніцтва
g) Мабілізацыя

a) Народная міліцыя.
Ва ўсіх гмінах — камэнданты + падафіцэры
15 гмінаў вышкалы
Варта ў вёсках
Праца па ўсьведамленьні
b) па меры мажлівасьці самі
c)—d) Рэгулярнае войска (беларуская дывізія ў Баранавічах, Маладэчне)
Туды сьцягваюцца ахвотнікі з Захаду і са Слуцка.
Рыхтуюцца далейшыя кадры

e) Польскія добраахвотнікі
1) Краёвыя польскія фармаваньні і нанятыя платныя жаўнеры ў Берасьці, Нясьвіжы
2) Партызаны ў напрамку Менска (арганізацыйныя сілы — галоўным чынам мясцовыя)
f) Узбройваньне ўсяго насельніцтва пры магчымым адступленьні
g) Мабілізацыя — пасьля зыходу П. В. [Польскага Войска]

Умовы:
1) Амуніцыя з Польшчы або Францыі
2) Кантакт з Балаховічам
Парадак дня
1) Камунікацыі (станцыі ў Баранавічах, Слоніме)
2) Інструктары для Слуцка (школа падхарунжых)
3) Выезд Вайск. Кам. у Баранавічы
4) Арганізацыя ўраду, а таксама выезд ураду ў Слуцк, магчыма, яго прадстаўніцтва (тройка)

Паралельнае
a) Абмеркаваньне справы ў Бэльвэдэры
b) Дамаганьне крэдытаў, амуніцыі, апрavізацыі {Польшча, Францыя}
c) Праца за мяжой, у Сярэдняй Літве і г. д.
d) Арганізацыя краёвых польскіх войскаў.

[111] Мажліва, тут ідзе гаворка пра т. зв. «вайсковую тройку», якая займалася фармаваньнем збройных аддзелаў 1–е Слуцкае брыгады войскаў БНР. Удзельнікі тых падзеяў пазьней блыталіся ў пэрсанальным складзе гэтае арганізацыйнае структуры. Так, Ю. Лістапад ва ўспамінах «Узьбіліся на свой шлях» і ў пазьнейшай інфармацыі для ГПУ ў 1927 г. даводзіў, што ў ейны склад уваходзілі П. Жаўрыд, А. Анцыповіч і І. Мацэлі. У сваіх мэмуарах С. Бусел і А. Бачко называюць Анцыповіча, Паўлюкевіча ды таго ж Бачко. Паведамляючы пра пэрсанальны склад «тройкі» ў сваіх «сьведчаньнях», Ул. Пракулевіч заблытаўся. У адным месцы ён называе Бачко, Анцыповіча й Мацэлі, а ў пазьнейшых паказаньнях — Жаўрыда, Анцыповіча й П. Чайку. Паводле сьведчаньняў В.Русака, на пачатку лістапада 1920 г., яшчэ да скліканьня Зьезду Случчыны, для арганізацыі беларускіх вайсковых аддзелаў была створаная «тройка» ў складзе Паўлюкевіча, Мацэлі ды Бочкі, якая пазьней зьмяніла свой склад. Ёсьць таксама верагоднасьць, што «вайсковаю радаю» па недасьведчанасьці аўтар допісу памылкова назваў Беларускую Раду Случчыны — палітычнае кіраўніцтва збройнага чыну.

[112] Адозва апублікаваная ў артыкуле Ўладыслава Казлоўскага (Казлоўшчыка) «U 17–yja ŭhodki Słuckaha Paŭstańnia — Listapad 1920—1937 hod».

[113] **«Беларускае Слова»**, штодзённая беларуская газэта, выдаваная Беларускім нацыянальным камітэтам Горадзеншчыны з кастрычніка 1920 г. па студзень 1921 г. Рэдактарамі ў розны час былі Вячаслаў Адамовіч–малодшы (Дзяргач) і Ўладзімер Шалешка. З прыходам апошняга стала друкаваць больш вострыя матэр’ялы пра палітычнае жыцьцё,

пра ваенныя падзеі ў Беларусі. «Беларускае Слова» — бадай, адзіная беларуская нацыянальная газэта, якая шырока асьвятляла падзеі на Случчыне ў лістападзе — сьнежні 1920 г. Выйшла 78 нумароў. Зачыненая польскімі ўладамі ў пачатку студзеня 1921 г. пасьля ліквідацыі Гарадзенскага Белнацкаму.

[114] Маюцца на ўвазе вайсковыя аддзелы Беларускае сялянскае партыі **«Зялёны Дуб»**, на чале якой стаяў Вячка Адамовіч (Дзяргач). Кіраўніцтва «Зялёнага Дубу» падтрымлівала шчыльную сувязь з генэралам Ст.Булак–Балаховічам, зь Беларускім палітычным камітэтам на чале з П.Алексюком, а таксама з пэўнымі польскімі вайсковымі коламі, ад якіх нярэдка атрымлівала дапамогу зброяй ды амуніцыяй. Кіраўніцтва «зялёных» нэгатыўна ўспрымалася лідэрамі Беларускае Рады Случчыны за іх прапольскую арыентацыю. Нярэдка пад «зялёнымі» ўважаліся стыхійна створаныя партызанскія аддзелы, складзеныя зь сялянскае моладзі ды дэзэртыраў, якія самастойна змагаліся супраць бальшавікоў і найчасьцей нікому не падпарадкоўваліся. Ёсьць факты далучэньня да 1–е Слуцкае брыгады БНР асобных фармаваньняў «зялёнадубаўцаў». Маюцца зьвесткі пра ўдзел у збройным чыне вядомага атамана «Зялёнага Дубу» капітана Лукаша Семянюка, які таксама ўдзельнічаў у вайсковай акцыі на Палесьсі ген. Ст.Булак–Балаховіча і пазьней загінуў у адным з баёў супраць бальшавікоў.

[115] **Самусевіч** Антон, капітан. Ураджэнец Слуцку. Былы афіцэр ген. Ст.Булак–Балаховіча, быў накіраваны апошнім на Случчыну дзеля вярбоўкі добраахвотнікаў і дзеля каардынацыі дзеяньняў. Пасьля зьліквідаваньня Слуцкага збройнага чыну — адзін з арганізатараў антыбальшавіцкае партызанкі пад сьцягам «Зялёнага Дубу». Пазьней схоплены савецкім ГПУ і расстраляны.

[116] **«Новое Варшавское Слово»**, расейскамоўная газэта, выходзіла ў Варшаве ў 1920—пачатку 1921–х гг. Галоўны рэдактар — Уладзімер Горвіц–Самойлаў. У рэдкалегію ўваходзілі праф. І. Бадуэн дэ Куртэнэ, праф. Варэнаў, А.Вольскі, І.Іскра, Ул.Замяцін ды інш.

[117] **Пілсудзкі** Юзаф (1867—1935), польскі дзяржаўны дзяяч. У 1918—1922 гг. «начальнік польскае дзяржавы».

[118] **Антанта** (франц. Entente — згода), ваенна–палітычны хаўрус Вялікабрытаніі, Францыі й Расеі, утвораны наконадні Першае сусьветнае вайны. Пасьля кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту 1917 г. Савецкая Расея выйшла з хаўрусу, падпісаўшы сэпаратную дамову з кайзэраўскаю Нямеччынай. Францыя і Вялікабрытанія ў гады расейскае грамадзянскае вайны актыўна падтрымлівалі белы рух супраць бальшавікоў.

[119] **Урангель** (Врангель) Пётр Мікалаевіч (1878—1928), адзін з кіраўнікоў белага руху падчас расейскае грамадзянскае вайны 1918—1920 гг. У добраахвотнай арміі ген. А. Дзянікіна камандаваў коннаю дывізіяй і корпусам, са сьнежня 1919 г. узначаліў Добраахвотную армію. У пачатку красавіка 1920 г. абраны галоўнакамандуючым г.зв. Расейскай арміі ў Крыме. Пасьля паразы ад бальшавіцкіх войскаў 14 лістапада з рэшткамі сваіх вайсковых частак зьбег у Канстантынопаль (Стамбул). Памёр у Брусэлі.

[120] Беларускія жаночыя гурткі, якія ўтвараліся ў канцы 1920 г. на Гарадзеншчыне пры філіях Белнацкаму ў Горадні.

[121] Зьяўленьне тэксту песьні **«Беларуская Марсэльеза»** («Ад веку мы спалі») адносіцца да 1905—1907 гг. У кнізе Фёдара Турука «Белорусское движение» (Масква, 1921) тэкст песьні падаецца з пазнакаю: «Автор неизвестен… стихотворение появилось в 1906 г. в Слуцком у. Минской губ. среди революционно настроенного крестьянства». Песьня стала своеасаблівым гімнам беларускіх рэвалюцыянэраў і доўгі час лічылася народнаю. І толькі пазьней, дзякуючы руплівасьці дасьледніка Аляксея Каўкі, быў устаноўлены аўтар тэксту песьні — Аляксандар Мікульчык.

[122] **Адамовіч** Вячаслаў Вячаславаў (псэўданім Язэп Дзяргач), беларускі палітычны і вайсковы дзеяч. Нарадзіўся ў 1890 г. на Ашмяншчыне (паводле іншых зьвестак — у Коўне). Сын Вячаслава Антонава Адамовіча. Скончыў Ковенскую мужчынскую казённую гімназію і камэрцыйную вучэльню, у 1914 г. — гідратэхнічныя і агранамічныя курсы ў Пецярбургу. З 1912 г. зьяўляўся карэспандэнтам „Нашае Нівы“. Удзельнік Першае сусьветнае вайны, падпаручнік. У 1917 г. праводзіў беларускую нацыянальную працу сярод апалчэнцаў 1–е Менскае дружыны і слухачоў Менскае духоўнае сэмінарыі. У 1918—1919 гг. вучыўся на 1–х Беларускіх пэдагагічных курсах у Менску. Удзельнічаў у працы Таварыства працаўнікоў беларускага мастацтва, як харыст уваходзіў у склад Беларускага хору У. Тэраўскага. Драматург і літаратар, аўтар гарманізацыі некалькіх народных песень. У 1919—1920 гг. быў карэспандэнтам менскіх газэтаў „Звон“ і „Беларусь“. Падчас польска–савецкае вайны — сябра Беларускае вайсковае камісіі (БВК), кіраўнік адчыненых 5 студзеня 1920 г. у Менску курсаў вярбовачных агентаў БВК. Адзін са стваральнікаў сялянскай паўстанцкай арганізацыі „Зялёны дуб“, начальнік штабу яго партызанскіх аддзелаў. У траўні 1920 г. накіраваны БВК вярбовачным афіцэрам–інструктарам у Слуцкі і Бабруйскі паветы, арганізаваў там вярбовачныя пункты для добраахвотнікаў у паўстанцкія аддзелы „Зялёнага дубу“. Адзін з кіраўнікоў Беларускага палітычнага камітэта (БПК). З 2 кастрычніка па 20 лістапада 1920 г. — выдавец–рэдактар гарадзенскай газэты „Беларускае слова“. Зь ягонай ініцыятывы 24 кастрычніка 1920 г. Гарадзенскі Белнацкам выступіў у падтрымку ген. С. Булак–Балаховіча. Паводле некаторых зьвестак, прыняў удзел у Слуцкім збройным чыне на завяршальным яго этапе; як камандзер аднаго з аддзелаў удзельнічаў у баях з бальшавікамі пад Мелкавічамі і Старобінам. У пачатку 1920–х гг. спрабаваў стварыць пад шыльдай Лігі паветранай абароны аддзелы з былых балахоўцаў. Выступіў афіцыйным арганізатарам беларускага зьезду ў Вільні 10 красавіка 1921 г., які падтрымаў палітыку ген. Л. Жалігоўскага ў Сярэдняй Літве. У сьнежні 1921 г. быў адным з ініцыятараў скліканьня т. зв. „Зьезду Заходняе Беларусі“ ў Вільні, на якім была прынята рэзалюцыя, насуперак пастанове Віленскага Белнацкаму, браць удзел у выбарах у Віленскі сейм. Уваходзіў у шэраг беларускіх палёнафільскіх арганізацыяў: Краёвая сувязь, Арганізацыя беларускіх беспартыйных актывістаў ды інш. Падчас парлямэнцкіх выбараў у Польшчы ў 1922 г. падтрымліваў праўрадавае Дзяржаўнае аб’яднанне на крэсах

(ДзАК), адзін з заснавальнікаў блізкага да ДзАК Выбарчага камітэта беларускіх беспартыйных актывістаў і „Зялёнага дубу“. У 1924 г. у Вільні пад псэўданімам Дзяргач выдаў кніжку „Тыпы Палесься“, якая дагэтуль друкавалася ў выглядзе асобных апавяданьняў у газэце „Грамадзкі Голас“. У 1924 г. намагаўся заснаваць новую палітычную арганізацыю палёнафільскай арыентацыі пад назвай „Камітэт Беларускіх справаў“. У той жа час у вёсцы Гаўрыльчыцы каля польска–савецкай мяжы арганізаваў дывэрсійны цэнтар. Супрацоўнічаў з II аддзелам польскага Генэральнага штабу ў якасьці платнага інфарматара, сьвядома прадстаўляў апошняму непраўдзівую інфармацыю. Ім была прыдумана мітычная арганізацыя „Камітэт чыну“, якая нібыта кіравала зь Менску антыпольскімі акцыямі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Першы раз выкрыты II–м аддзелам у 1923 г., паўторна — у 1925 г. У 1926 г. высланы за межы Польшчы, жыў у „вольным горадзе“ Гданьску. Браў удзел у гданьскай нарадзе дзеячаў БНР (24—27 лютага 1926 г.), якія не падпарадкаваліся рашэньням Бэрлінскае канфэрэнцыі 1925 г. Быў цесна зьвязаны з расейскай антыбальшавіцкай эміграцыяй у Вільні і Гданьску. Хадайнічаў аб вяртаньні ў Польшчу, аднак не атрымаў на гэта дазволу польскіх уладаў. У 1928 г. арганізацыя „Братэрства рускай праўды“ разглядала справу В. Адамовіча–малодшага, абвінавачанага ў супрацоўніцтве з савецкім ГПУ, аднак апраўдала апошняга. 27 лютага 1929 г. выступіў у Гданьску з дакладам пра „Зялёны дуб“, падчас выступленьня выказаў ідэю выданьня друкаванага органа з мэтай публікацыі дакумэнтаў, якія кампрамэтуюць польскую дэфэнзыву. Паводле паказаньняў віленскіх беларусаў І. Пешкі і С. Бусла, арыштаваных савецкім НКВД у 1939 г., напярэдадні Другой сусьветнай вайны служыў псаломшчыкам у праваслаўнай царкве Гданьска. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[123] **Беларускі палітычны камітэт**, палітычная арганізацыя палёнафільскага крыла беларускага руху ў 1920 г. на чале з Паўлам Аляксюком, Вячаславам Адамовічам–старэйшым. Утвораны ў Варшаве восеньню 1920 г. Меў цесную лучнасьць з ген. Ст. Булак–Балаховічам і кіраўніцтвам «Зялёнага Дубу». Апанэнт Найвышэйшае рады БНР і беларускага ўраду В. Ластоўскага. У лістападзе 1920 г., пасьля заняцьця балахоўцамі Мазыра, кіраўніцтва БПК скіравалася туды ў якасьці «цывільнага ўраду будучай вольнай Беларусі». Пасьля няўдачы вайсковае акцыі Булак–Балаховіча фактычна спыніў сваю дзейнасьць.

[124] **Беларускі нацыянальны камітэт у Горадні** (Гарадзенскі Белнацкам), прадстаўнічы орган беларускіх нацыянальных арганізацыяў Гарадзеншчыны ў 1918—1922 гг. Утвораны ў лістападзе 1918 г. У ягонае кіраўніцтва ўваходзілі Алесь Грыкоўскі (1–шы старшыня), Янка Натусэвіч (узначаліў камітэт пасьля цяжкае хваробы ды сьмерці Грыкоўскага ў сакавіку 1919 г.), Уладзімер Курбскі–Кузьняцоў, Лукаш Дзекуць–Малей, Павал Аляксюк, Леанард Заяц, Тодар Вернікоўскі ды інш. Ствараў беларускія школы, культурніцкія арганізацыі, каапэратывы, выступаў за наданьне беларускай мове афіцыйнага статусу. З прыходам у горад польскіх легіянэраў у траўні 1919 г. фактычна спыніў сваю працу з–за палітычнага ды адміністрацыйнага ціску новых акупантаў. Аднавіў дзей-

насьць у сакавіку 1920 г. Новае кіраўніцтва Белнацкаму (старшыня Сяргей Баран, віцэ–старшыня Алесь Бялецкі, сябры: Дзекуць–Малей, Уладзімер Федарук ды інш.) стаяла на пазыцыях БПСР і было ў рэзкай апазыцыі да польскіх акупацыйных уладаў. Пры камітэце створаныя адміністрацыйны, арганізацыйны, культурна–асьветны і дабрачынны аддзелы, юрыдычнае бюро. Ініцыяваў стварэньне ў траўні 1920 г. Беларускае школьнае рады ў Горадні ды шэрагу каапэратываў. З прыходам бальшавікоў у канцы ліпеня 1920 г. спыніў сваю дзейнасьць. Былыя лідэры Белнацкаму Баран і Дзекуць–Малей у жніўні таго ж году працавалі ў аддзеле сацыяльнага забесьпячэньня Гарадзенскага рэўкаму. Пасьля вяртаньня польскіх войскаў Белнацкам узначалілі «палёнафілы» на чале зь Вячаславам Адамовічам–малодшым. У студзені 1920 г. кіраўніцтва ў арганізацыі зноў перайшло да беларускіх эсэраў на чале з Баранам. Пасьля забароны дзейнасьці польскімі ўладамі са студзеня 1921 г. знаходзіўся на нелегальным становішчы. Цалкам разгромлены і спыніў арганізацыйную працу ў 1922 г.

[125] **Ул. К.** — крыптанім **Курбскага** (Курбскага–Кузьняцова) Уладзімера, беларускага нацыянальнага дзеяча. Ураджэнец Горадні. Падчас Першае сусьветнае вайны знаходзіўся як уцякач у Расеі, дзе далучыўся да беларускага руху. З канца 1918 г. вярнуўся ў Горадню, прыхільнік БПСР. У 1919 г. адзін з кіраўнікоў Беларускае грамады моладзі ў Горадні, сябра Гарадзенскага Белнацкаму. У канцы 1920 г. запісаўся вэрбунковым агентам БВК Гарадзенскага павету, падпольна праводзіў антыпольскую эсэраўскую прапаганду сярод беларускага сялянства. У першай палове 1921 г. арыштаваны польскаю дэфэнзываю, прыператрусе кватэры ў яго знойдзеная падпольная эсэраўская літаратура, больш як дзясятак дыпляматычных пашпартоў БНР. Вызвалены з дапамогаю Л.Вітан–Дубейкаўскага. У 1923 г. праходзіў па судовай справе над актывістамі БПСР у Беластоку. Пазьней жыў у Горадні, у сярэдзіне 1920–х гг. цесна супрацоўнічаў з КПЗБ. У 1928—1931 гг. уваходзіў у склад г.зв. «Беларускага нацыянальнага камітэту ў Горадні», які фінансаваўся прыхільнікамі Ю. Пілсудзкага, і ўдзельнічаў у выбарах у Сойм Польшчы ў выбарчым блёку «пілсудчыкаў» (сьпіс №1). Паводле зьвестак Арсеня Ліса, падчас Другое сусьветнае вайны актыўна друкаваўся ў беластоцкай беларускай газэце «Новая Дарога» ды інш. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[126] Пра «маркі слуцкіх паўстанцаў» паведамляў яшчэ ў 1921 г. польскі часапіс «Polski Filatelista» (№4), а ў 1935 г. пра гэтыя рарытэты філятэліі паведамлялася ў манаграфіі «Polski znak posztowy» (PZP), дзе ўзгадваліся чатыры віды марак. У пазьнейшым перавыданьні PZP ад 1966 г., у 4–м томе (с.1521) апісваюцца тры «слуцкія маркі»:

«SŁUCK. Wydanie Nadzwyczajnej Rady Słuczczyzny. Nadruk ręczny stempelkiem gumowym, trzywierszowy, tuszem czarnym — Pogoń białoruska / rycerz na koniu z mieczem wzniesionym/ /Ч. Р. Сл/ 25 lub 50 na znaczkach opłaty nr 74—76 B. Ząbk. lin. $11^1/_2$.

25 kop./5 hal (74a B x) *
50 kop./10 hal (75b B x)
50 kop./15 hal (76a B x)

Według wypowiedzi jednego z członków Rady (Rada mieściła się w Warszawie w hotelu Saskim pokój nr 8) znaczki te były przygotowane jako znaczki opłaty za doręczanie listów w Słucku.

Znane są wszystkie wartości z nadrukami odwróconymi. Znaczki te w obiegu nie były. Cały nakład został rosprzedany w Warszawie przez chłonków Rady, a dochód przeznaczony na potrzeby Rady». („СЛУЦАК. Выданьне Надзвычайнае Рады Случчыны. Ручны штамп гумовым штэмпэлем, трохвершны, чорнай тушшу — беларуская Пагоня / рыцар на кані з узьнятым мечам // Ч. Р. Сл / 25 ці 50 на марках аплаты №74—76 В. Зубц. лін. 11 ½

25 кап. / 5 hal (74a B x)

50 кап. / 10 hal (75b B x)

50 кап. / 15 hal (76a B x)

Па словах аднаго зь сяброў Рады (Рада знаходзілася ў Варшаве, у Саскім гатэлі, пакой № 8), гэтыя маркі былі прыгатаваныя як маркі для аплаты за дастаўку лістоў у Слуцку.

Вядомыя маркі ўсіх вартасьцяў з адваротнымі штампамі. Гэтыя маркі ў абарачэньні не былі. Увесь наклад быў прададзены ў Варшаве сябрамі Рады, а прыбытак прызначаны на патрэбы Рады“.)

На пачатку 90–х гадоў у Чыкага філятэлістам Б. Павуком быў выдадзены каталёг «Беларусь», у якім узгадваюцца зноў чатыры віды марак, як і ў PZP ад 1935 г. Ува ўсіх гэтых зьвестках аб «слуцкіх марках» ёсьць відавочная недакладнасьць, бо літара Ч. насамрэч азначала «Часовая», а не «Чрезвычайная» («Nadzwyczajna»).

Беларускі філятэліст–калекцыянэр Леў Коласаў адшукаў яшчэ некалькі відаў марак, што сьведчыць пра тое, што іхная гісторыя яшчэ да канца ня высьветленая. У паштовым ужытку яны хутчэй за ўсё былі ў вельмі абмежаванай колькасьці. У калекцыянэраў сустракаюцца канвэрты і паштоўкі з праштэмпэляванымі «слуцкімі маркамі», якія праходзілі праз паштовыя ўстановы. (Інфармацыя паводле: Коласаў Л. Таямніца слуцкіх марак // Беларускі калекцыянер. 1999. №19. Сьнежань).

Абагульніўшы ўсе наяўныя зьвесткі, можна меркаваць, што выпуск марак пачаўся не раней за сьнежань 1920 г. Магчыма, што першапачатковы наклад быў зроблены ў Слуцку і сапраўды згарэў у час пажару, як апісана ў прыведзеным дакумэнце. Але ня выключана, што маркі выпускаліся і ў Баранавічах, пасьля эвакуацыі туды Часовай Рады Случчыны, і пазьней, напрыклад, у часе знаходжаньня членаў Часовай Рады ў Варшаве. На пачатак 2001 г. вядома пра існаваньне ў калекцыянэраў розных краін больш за 20 экзэмпляраў «слуцкіх марак».

[127] «**Звезда**» (з 1927 г. «Зьвязда», з 1933 г. — «Звязда»), бальшавіцкая газэта. Выходзіла з 1917 г. як друкаваны орган Менскага губэрнскага камітэту РКП(б). З жніўня 1920 г. — орган ЦБ КП(б)Б, затым ЦК КП(б)Б.

[128] **Беларускае прэс–бюро (Белорусское бюро печати) ў Коўне** (Літва) ўтворанае ў 1920 г. урадам БНР на чале з В. Ластоўскім, што знаходзілася тады ў літоўскай сталіцы. Месьцілася па адрасе: Vitautas g–ve, 30, dz. 2, Kaunas, Lietuva.

[129] **С. Б.** — крыптанім **Булата** Сьцяпана Герасімава (1894—1921), прадстаўніка беларускай нацыянал–камуністычнай плыні ў складзе КП(б)Б.

Былы сябра Беларускай камуністычнай арганізацыі, бліжэйшы паплечнік Усевалада Ігнатоўскага. З жніўня 1920 г. загадчык аддзелу ЦК КП(б)Б. Зь лютага 1921 г. — член ЦБ, з мая — сакратар ЦК КП(б)Б, адзін з рэдактараў газэты «Савецкая Беларусь».

[130] **Савінкаў** (Савинков) Барыс Віктаравіч (1879—1925), расейскі палітычны дзяяч, адзін зь лідэраў партыі правых расейскіх эсэраў, літаратар. Падчас польска–савецкае вайны ўзначальваў Расейскі палітычны камітэт, адзін з кіраўнікоў антысавецкага збройнага змаганьня.

[131] **Ёфэ (**Иоффе**)** Адольф Абрамавіч (1883—1927), савецкі дзяржаўны і партыйны дзяяч, дыплямат. Для Беларусі памятны яшчэ з 1918 г. удзелам у савецкіх дэлегацыях падчас падпісаньня Берасьцейскае мірнае дамовы. У 1921 г. узначальваў дэлегацыю савецкае Расеі ў Рызе на савецка–польскіх перамовах пры падпісаньні Рыскага міру.

[132] **Ярданскі** (Иорданский) Мікалай (1876—1928), расейскі савецкі палітычны дзяяч, журналіст, дыплямат. Да кастрычніцкага перавароту 1917 г. прыхільнік «меншавізму» ў расейскай сацыял–дэмакратыі, падчас грамадзянскае вайны ў Расеі жыў у Фінляндыі. У 1921 г. уступіў у партыю бальшавікоў, залічаны ў штат Наркамату замежных справаў РСФСР. У якасьці кіраўніка дэлегацыі Расейскае Савецкае Фэдэрацыі ды Савецкае Ўкраіны ўдзельнічаў у складзе савецкай дэлегацыі на Рыскай мірнай канфэрэнцыі.

[133] **Чычэрын** Георгі Васільевіч (1872—1936), савецкі дзяржаўны й партыйны дзяяч, дыплямат. Народны камісар замежных справаў РСФСР (з 1922 г. — СССР).

[134] **«Свобода»**, расейскамоўная газэта, орган Расейскага палітычнага камітэту і «Национального союза обороны Родины и свободы». Выходзіла ў Варшаве ў 1920—1921 г. Рэдактар–выдавец В.Злобін; пры ўдзеле Б.Савінкава, Д.Мяражкоўскага, З.Гіпіус, Д.Філосафава.

[135] **Чайка** Павал Пятроў (1889—1921), былы камандзір 1–га Слуцкага палку. Ураджэнец в. Лютавічы Вызьнянскае воласьці Слуцкага павету. Скончыў мужчынскую гімназію (1909) і Іркуцкую вайсковую вучэльню (1912). Удзельнік Першае сусьветнае вайны, за мужнасьць узнагароджаны ордэнамі Сьв. Ганны 3–е ды 4–е ступені, Сьв. Уладзімера 4–е ступені ды Сьв. Станіслава 3–е ступені, даслужыўся да чыну штабс–капітана. Увосень 1920 г. дэзэрціраваў з чырвонае арміі і далучыўся да паўстанцаў. Зьяўляўся стаўленікам беларускіх эсэраў. Як пакінуў шэрагі паўстанцаў і трапіў да бальшавікоў, быў абвінавачаны камісарамі ў здрадзе савецкай ўладзе і на вырак «тройкі» Асобага аддзелу 16–е арміі на чале зь Я. Ольскім (будучым кіраўніком ГПУ БССР) расстраляны 9 студзеня 1921 г.

[136] **Сокал–Кутылоўскі** Антон Андрэеў (1892—1983), беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец. Ураджэнец хутару Красная Горка Лунінецкага павету. Паходзіць са зьбяднелай беларускай шляхты. Скончыў Пецярбурскі ўнівэрсытэт (1914). Удзельнік Першае сусьветнае вайны. З жніўня 1918 г. у белагвардзейскім войску ген. А. Дзянікіна. У сакавіку 1919 г. з–за хваробы вярнуўся на радзіму, у красавіку накіраваўся ў Эстонію ў Пскоўскую добраахвотную белую армію Юдзеніча, дзе ваяваў супраць чырвоных да ліпеня 1920 г. Пасьля чарговага вяртаньня на бацькаўшчыну да-

лучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Спачатку камандаваў 2–м батальёнам у 1–м Слуцкім палку, 2 сьнежня 1920 г. прызначаны камандзірам 1–е Слуцкае брыгады з прадастаўленьнем яму «часова дыктатарскіх паўнамоцтваў». Пасьля ліквідацыі збройнага чыну жыў у Заходняй Беларусі. У канцы 1921 г. быў высьвечаны Наваградзкім япіскапам на праваслаўнага сьвятара, выкладаў у школах, пазьней працаваў інжынэрам–будаўніком. З прыходам у Заходнюю Беларусь савецкіх войскаў працаваў будаўніком у Баранавічах. 19 чэрвеня 1941 г. быў арыштаваны НКВД, але з пачаткам вайны зь Нямеччынай і хуткім наступленьнем нямецкіх войскаў пазьбег расстрэлу ды вызваліўся зь вязьніцы. Падчас нямецкае акупацыі 1941—1944 гг. працаваў інспэктарам беларускіх школаў у Ганцавічах. Пасьля эвакуацыі ў Нямеччыну далучыўся да збройных частак Беларускае Краёвае Абароны. Разам з дывізіяй «Беларусь» на заходнім фронце здаўся амэрыканцам. Знаходзіўся ў лягеры для рэпатрыяваных асобаў. 30 красавіка 1945 г. затрыманы і арыштаваны савецкаю контарвыведкаю «СМЕРШ», пасьля чаго быў вывезены ў СССР. 20 красавіка 1948 г. Ваенным трыбуналам войскаў Міністэрства ўнутраных справаў Беларускае вайсковае акругі асуджаны на 25 гадоў зьняволеньня ў канцлягерах. Амніставаны ў лістападзе 1957 г. паводле пастановы Вярхоўнага Савету СССР. Пераехаў на сталае жыхарства ў Шчэцін (Польшча) да дачкі, дзе і памёр.

[137] **Кабычкін** Аляксей (1891—1958), беларускі нацыянальны дзяяч. Скончыў Слуцкую мужчынскую клясычную гімназію і юрыдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту. Да беларускага руху далучыўся падчас першае расейскае рэвалюцыі 1905—1907 гг., удзельнічаў у беларускім маладзёвым гуртку ў гімназіі, дзе вучыўся. Удзельнік Слуцкага антыбальшавіцкага збройнага чыну 1920 г., уваходзіў у склад вайсковага трыбуналу. З 1921 г. у Вільні, зьяўляўся рэдактарам–выдаўцом некалькіх беларускіх газэтаў («Наша Думка» ды інш.). Падчас Другое сусьветнае вайны працаваў у Лідзкім гарадзкім судзе. З канца лета 1944 г. у заходняй частцы Нямеччыны. Улета 1945 г. трапіў у лягер для рэпатрыянтаў у г. Куфштэйн (Аўстрыя), цудам выратаваўся ад «СМЕРШу». У 1956 г. пераехаў у Францыю, апошнія гады дажываў у доме для састарэлых у г.Кан, дзе і памёр у шпіталі ад раку ў гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі — 25 сакавіка 1958 г.

[138] **Янушэнка** Тодар, удзельнік беларускага руху, вайсковец, у чыне падпаручніка. Падчас польска–савецкае вайны зьяўляўся інструктарам (рэвідэнтам) Часовага Беларускага нацыянальнага камітэту ў Менску па Баранавіцкім ды Слуцкім паветах. Пазьней у складзе вэрбункковага аддзелу БВК. Актыўны ўдзельнік Слуцкага збройнага чыну. З сьнежня на загад Беларускае рады і камандаваньня 1–е Слуцкае брыгады ўзначаліў контарвыведку паўстанцаў. Паводле зьвестак А.Сокал–Кутылоўскага, у 1939 г., пасьля прыходу ў Заходнюю Беларусь бальшавікоў, арыштаваны НКВД і высланы ў Сібір.

[139] **Рудзік** (імя невядомае). Пасьля ліквідацыі збройнага чыну жыў у Заходняй Беларусі. Пасьля прыходу бальшавікоў у 1940 г. рэпрэсаваны НКВД.

[140] **Гаўрыловіч** Ахрэм Львоў, падпалкоўнік, камандзір батальёну 1–га Слуцкага палка. Ураджэнец в. Дзюдзева Грэскае вол. Слуцкага пав. (цяпер в.Маяк Слуцкага р–ну). У 1924 г., паддаўшыся бальшавіцкім абяцанкам пра амністыю, вярнуўся на Случчыну. У 1925 г. арыштаваны ГПУ і асуджаны на 5 гадоў канцлягераў. Іншых зьвестак ня выяўлена. У збройным чыне удзельнічаў таксама ягоны брат Цімох.

[141] **Гузьней** Якуб Амяльянаў (1892—?), беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец. Ураджэнец в. Гольчыцы Слуцкага пав. У складзе 5–е расейскае арміі ваяваў на Паўночным фронце. Удзельнік Першае сусьветнае вайны, паручнік. Пасьля Лютаўскае рэвалюцыі далучаецца да беларускага вайсковага руху. Дэлегат Зьезду беларусаў–вайскоўцаў Паўночнага фронту ў Віцебску і Ўсебеларускага зьезду ў Менску ў канцы 1917 г., сябра Цэнтральнае Беларускае вайсковае рады. Падчас польска–савецкае вайны рэзэрвовы афіцэр БВК. Адзін з камандзераў 1–е Слуцкае брыгады войскаў БНР (камандаваў ротай). Пасьля ліквідацыі Слуцкага збройнага чыну ў 1921 г. далучыўся да антыпольскага партызанскага руху ў Заходняй Беларусі. У гэты час пагадзіўся на супрацоўніцтва з савецкімі ўладамі. У чэрвені 1924 г. нелегальна прыбыў у Менск, дзе ўдзельнічаў у ліквідацыйным зьездзе Беларускае партыі сацыялістаў–рэвалюцыянэраў. Пазьней, пасьля звароту ў Заходнюю Беларусь, нелегальна перайшоў польска–літоўскую граніцу і 23 жніўня 1924 г. зьвярнуўся да літоўскіх уладаў з прозьбай аб атрыманьні палітычнага прытулку ў Літоўскай Рэспубліцы: «Са Случчыны выйшаў як паўстанец і вярнуцца туды не маю магчымасьці і ў Польшу не магу, бо адтуль уцёк...» (НАРБ, ф. 325, воп. 1, спр. 57, арк. 22). Быў пакінуты пры Прадстаўніцтве БНР у Коўне, належаў да групы А. Цьвікевіча. Зьвесткі пасьля 1925 г. ня выяўленыя.

[142] **Рэут** Яўген (1899—1922), малодшы афіцэр, падчас збройнага чыну быў у складзе контарвыведкі слуцкіх паўстанцаў. У 1921 г. схоплены ГПУ і ў лютым 1922 г. расстраляны.

[143] Гаворка йдзе пра ўцекачоў, большасьць зь якіх складалася з бальшавіцкага чынавенства ды іхных сем'яў, што паўцякалі падчас восеньскага наступленьня 1920 г. польскіх легіянэраў з заходніх паветаў Беларусі.

[144] **Юдзеніч** Мікалай Мікалаевіч (1862—1933), кіраўнік белагвардзейскага выступленьня супраць савецкай Расеі на паўночным захадзе ў 1919—1920 гг.

[145] **Дзянікін** Антон Іванавіч (1872—1947), расейскі ваенны і палітычны дзяяч, генэрал–лейтэнант. Адзін з кіраўнікоў белае гвардыі падчас расейскае грамадзянскае вайны.

[146] **Апанскі** Іосіф Казіміраў (1897—1927), савецкі дзяржаўны дзяяч, кіраўнік бальшавіцкіх карных органаў, выведкі ды контарвыведкі ў Беларусі. Пасьля абвяшчэньня Літбел узначальваў Віленскі бальшавіцкі гаркам, потым старшыня Мазырскага рэўкаму. У 1920 г. намесьнік начальніка Асобага аддзелу 16–й арміі, якая ўдзельнічала ў карных акцыях супраць слуцкіх паўстанцаў. У 1922—1923 гг. на чэкісцкіх пасадах у Маскве і Петраградзе. З 1924 г. намесьнік паўнамоцнага прадстаўніка ГПУ па Беларускай вайсковай акрузе, а з 1926 г. — кіраўнік беларускага аддзелу саюзнага ГПУ. Вызначаўся асаблівым службовым «рвением» у

барацьбе супраць палітычнае апазыцыі ды іншадумства ў Савецкай Беларусі. Афіцыйны курс на беларусізацыю культурнага ды грамадзкага жыцьця ў рэспубліцы лічыў адступленьнем ад лініі бальшавіцкае партыі, варожа ставіўся да беларускае нацыянальнае эліты. Кіраваў распрацоўкай пляну ліквідацыі ўраду БНР на Бэрлінскай палітычнай нарадзе 1925 г. Суд супраць актывістаў антысавецкае нацыянальнае арганізацыі на Случчыне ў 1925 г. (так званая «лістападаўская справа») хацеўператварыць у шыракамаштабны працэс супраць усёй беларускае інтэлігенцыі. Загінуў у чыгуначнай аварыі. Ягоным імём названыя вуліцы ў Менску ды Мазыры.

[147] **«Наша Думка»**, штотыднёвая беларуская газэта ў Вільні, якая выдавалася са сьнежня 1920 г. па ліпень 1921 г. Рэдактарамі–выдаўцамі былі Максім Гарэцкі і Аляксей Кабычкін. Калі адсутнічаў у рэдакцыі М. Гарэцкі, яго замяшчаў Макар Касьцевіч (Краўцоў). Выйшла ўсяго 27 нумароў, забароненая польскаю адміністрацыяй Сярэдняе Літвы.

[148] Факт перадачы ў дар случакам 2–х палкавых штандараў не пацьвярджаецца іншымі крыніцамі. Дакладна вядома пра дараваньне гарадзенскімі жанчынамі паўстанцам сьцягу толькі для 1–га Слуцкага палка з выяваю «Пагоні» ды подпісамі: «1–ы Слуцкі полк стральцоў войскаў БНР», а на адвароце — «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына». Гэты сьцяг быў перададзены кабетамі афіцэрам Беларускай вайсковай камісіі, што накіроўваліся з Горадні на Случчыну ў дапамогу паўстанцам.

[149] **Жэлігоўскі** Люцыян (1885—1947), польскі палітычны дзяяч, вайсковец. Удзельнік Першае сусьветнае вайны на баку расейцаў. Зь лета 1917 г. у складзе 1–га польскага корпусу генэрала Ю. Доўбар–Мусьніцкага. У лютым 1918 г. прызначаны камандзірам 1–е польскае (так званае беларуска–літоўскае) дывізіі, якая вяла баі супраць бальшавікоў у раёне Рагачова. У пачатку 1919 г. ваяваў на баку Добраахвотніцкае арміі белых расейскіх генэралаў М. Аляксеева і А. Дзянікіна. У красавіку 1919 г. на чале сваёй дывізіі далучыўся да польскіх войскаў Ю.Пілсудзкага, ваяваў на савецка–польскім фронце. 10 кастрычніка 1920 г. па таемным загадзе Пілсудзкага пад выглядам «бунту» захапіў разам са сваёю дывізіяй Вільню, Віленскі, Троцкі, Сьвянцянскі ды Ашмянскі паветы, выбіўшы адтуль літоўскія войскі (заваяваная тэрыторыя была абвешчаная Сярэдняю Літвою). У 1921—1922 гг. — Начальнік Сярэдняе Літвы, а пасьля далучэньня яе да Польшчы — на дзяржаўных вайсковых пасадах II Рэчы Паспалітае.

[150] Гаворка пра беларускі партызанскі рух у т. зв. Сярэдняй Літве, супраць польскіх легіянэраў. Партызанскія беларускія аддзелы, што дзейнічалі на польска–літоўскім памежжы, атрымлівалі ваенную, матэрыяльную ды маральную падтрымку з боку ўраду Літвы і эміграцыйнага Ўраду БНР у Коўне.

[151] Гаворка йдзе пра масавыя арышты прыхільнікаў БПСР ды сяброў іншых нацыянальных палітычных арганізацыяў у Савецкай Беларусі ў пачатку 1921 г. Акрамя Слуцку арышты адбыліся ва ўсіх буйных гарадах тагачаснае Савецкае Беларусі (Менску, Бабруйску, Барысаве ды інш.).

[152] **Шурпа** Янка Сымонаў, удзельнік беларускага руху. Ураджэнец в. Саволеўка Жыдамлянскае гміны Гарадзенскага павету. Удзельнік Першае сусьветнае вайны, падпаручнік. Вясной 1919 г. настаўнік у Гарадзенскай беларускай школе. Сябра Цэнтральнага беларускага настаўніцкага саюзу Гарадзеншчыны. У 1920 г. вярбовачны афіцэр БВК. Вясною 1921 г. камандзер вучэбнай роты ў Дарагускім лягеры на Холмшчыне для інтэрнаваных слуцкіх паўстанцаў. З 1922 г. сакратар палёнафільскае Арганізацыі беларускіх беспартыйных актывістаў. У 1924 г. узначальваў Гарадзенскі беларускі прытулак. У кастрычніку 1924 г. разам зь Я. Міткевічам зьвярнуўся да польскіх уладаў з „Мэмарыялам у беларускай справе“, у якім абгрунтоўваў неабходнасьць стварэньня беларускае палёнафільскае арганізацыі. 23 лістапада 1924 г. быў абраны старшынём Гарадзенскага беларускага дабрачыннага таварыства. Тады ж увайшоў у склад палёнафільскага Камітэту беларускіх справаў. У пачатку 1925 г. быў абвінавачаны ў растраце 448 злотых з грошай беларускага прытулку ў Горадні. Летам 1926 г. працаваў у Скідэльскім камітэце польскае партыі „Пяст“. Займаўся адвакацкай практыкай у Скідэльскай гміне. Са сьнежня 1927 г. адзін з кіраўнікоў Беларускае нацыянальнае радыкальнае партыі і таварыства „Еднасьць“ у Горадні. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[153] **Гарун** Алесь (сапр. **Прушынскі** Аляксандар Уладзімераў) (1887—1920), беларускі нацыянальны дзяяч, паэт, клясык беларускае літаратуры. Падчас польска–савецкае вайны нейкі час узначальваў ЧБНК у Менску, сябра БВК. Памёр ад сухотаў у Кракаве.

[154] **Лагіновіч** Язэп Каэтанаў (партыйны псэўданім **Корчык** Павал) (1891—1940), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в. Заўшыцы Слуцкага пав. З 1912 г. настаўнічаў на Капыльшчыне. У 1910 г. уваходзіў у групу прыхільнікаў Капыльскае філіі БСГ. У 1912 г. мабілізаваны ў расейскае войска, удзельнік Першае сусьветнае вайны. Пасьля Лютаўскае рэвалюцыі актывіст беларускага вайсковага руху, абраны старшынём беларускага камітэту жаўнераў артылерыйскае батарэі 12–й арміі. Удзельнік зьезду беларусаў–вайскоўцаў Паўночнага фронту ў Віцебску ў сьнежні 1917 г. Пасьля дэмабілізацыі жыў на Случчыне. Летам 1920 г., зь вяртаньнем бальшавікоў, узначаліў «народное имение» ў в. Старыца. Удзельнік Слуцкага збройнага чыну, жаўнер 2–й роты 1–га Слуцкага палку. У траўні 1921 г., пасьля вяртаньня з Дарагускага лягеру для інтэрнаваных — у Вільні, супрацоўнік беларускіх выданьняў. Адзін з закладнікаў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (БРА) ў 1922 г., у гэты час (да 1923 г.) зьяўляўся сябрам Віленскага Белнацкаму. Як сябра БРА кааптаваны ў склад Камуністычнай партыі Заходняе Беларусі (КПЗБ). Летам 1924 г., пасьля ўдзелу ў V кангрэсе Камінтэрну ў Маскве, арыштаваны польскаю дэфэнзываю ў Стоўпцах. З дапамогаю партызанаў вызвалены, зьбег у БССР, дзе працаваў у апараце КПЗБ і КПБ. З жніўня 1925 г. зноў у Заходняй Беларусі на падпольнай рабоце па лініі КПЗБ. У траўні 1928 г. арыштаваны ў Бэрліне нямецкаю паліцыяй як савецкі агент ды высланы ў СССР. У 1933 г. зноў на пэўны час вяртаецца ў Заходнюю Беларусь, дзе працуе на нелегальным становішчы як савецкі рэвідэнт у структурах Камуністычнае партыі Польшчы і КПЗБ. Арыштаваны НКВД БССР 19 лю-

тага 1936 г. у Менску як «агент польскае дэфэнзывы» і ў чэрвені т. г. асуджаны на 5 гадоў канцлягераў. Адбываў пакараньне ва Ўхтапечлагу (Комі). Пазьней паўторна асуджаны «за контаррэвалюцыйную агітацыю сярод зьняволеных» да расстрэлу. Зь невядомых прычынаў вырак выканаты ня быў. У канцы 1938 г. вернуты з канцлягеру ў Менск, дзе супраць яго высунулі іншае абвінавачаньне — «шпіянаж на карысьць польскай ды нямецкіх выведак». 26 кастрычніка 1939 г. паўторна прысуджваецца да расстрэлу. Памёр у вязьніцы. Рэабілітаваны Ваеннаю калегіяй Вярхоўнага Суду СССР 31 жніўня 1955 г.

155 *Пераклад дакумэнта:*

**КАМУНІКАТ АДДЗЕЛУ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ №2.**

Сытуацыя на Беларусі.

У чэрвені (1—15).

Дзейнасьць паўстанцкіх групаў у Слуцкім павеце.

Дзейнасьць паўстанцкіх групаў у Слуцкім павеце набывае ўсё большыя памеры. Партызанскія групы пераважна дзейнічаюць на памежнай тэрыторыі і пастаянна непакояць памежныя пляцоўкі, дзеля чаго бальшавікамі ўвесь час падтрымліваецца баявая гатоўнасьць. Напады партызанскіх аддзелаў адбываюцца пераважна ноччу. У апошні час (1/VI—15/VI) былі арганізаваныя напады ў наступных мясцовасьцях: 1) У вёсцы Целяхоўцы партызанскі аддзел напаў на мясцовы „Рэўком“, пры гэтым быў забіты камісар Зінковіч, пастарунак разагнаны, а канцылярыя разрабаваная. Партызаны сыйшлі беспакарана, 2) у мястэчку Шацку партызаны зрабілі пагром габрэйскага насельніцтва, 3) у Слуцку дайшло да сур’ёзных сутычак з партызанамі. Бальшавіцкі аддзел разагнаны, партызаны завалодалі 2–ма бранявымі аўтамабілямі. Партызанскія аддзелы хаваюцца ў лясах каля Вераб’ёва. Яны гуртуюць тут вялікія паўстанцкія сілы. Бальшавіцкія аддзелы, якія знаходзяцца на гэтай тэрыторыі — нешматлікія, і ў апошні час зменшыліся напалову. Тая частка, якая засталася, размешчана невялікімі групкамі па памежных вёсках і мястэчках.

Сярод насельніцтва Слуцкага павету пануе трывалая думка, што бальшавікі застаюцца ў павеце часова і мусяць у будучыні адступіць, таму ўсе распараджэньні прымаюцца насельніцтвам стрымана і трактуюцца ім як часовыя, зьвязаныя з наяўнай сытуацыяй, якая павінна зьмяніцца.

Наогул насельніцтва ў памежнай паласе паступова асвойваецца з тымі ўмовамі, якія ўсталёўваюцца, задаволенае тым, што не патрапіла пад бальшавіцкую ўладу, аднак унутрана яны адчуваюць сваю духовую сувязь з Меншчынай і закардоннай Беларусьсю.

156 **Убарэвіч** Еранім Пятровіч (1896—1937), савецкі ваенны дзяяч. У 1921 г. уваходзіў у склад Рэўваенсавету ССРБ, камандаваў вайсковымі часткамі Менскай губэрні, вызначыўся ў „ліквідацыі наступстваў“ антысавецкага выступленьня ген. С. Булак–Балаховіча і Слуцкага збройнага чыну. У 1934—1937 гг. камандуючы Беларускай вайсковай акругай, член Бюро ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР.

157 **Ольскі** (сапр. **Кулікоўскі**) Ян Калікставіч (1898—1937), старшыня ЧК ССРБ (пазьней ГПУ БССР) у 1921—1923 гг. У „савецкіх органах бясь-

пекі“ з 1919 г. У 1920 г. узначальваў „асобы аддзел“ 16–ай арміі, якая ўдзельнічала ў задушэньні Слуцкага збройнага чыну. Дэлегат III зьезду КП(б)Б (1922 г.)

158 **Адамовіч** Язэп Аляксандраў (1897—1937), дзяржаўны дзеяч Беларускай ССР. Удзельнік Першай сусьветнай вайны, бальшавік з 1917 г. У 1918—1920 гг. вызначыўся ў падаўленьні Стракапытаўскага антысавецкага вайсковага мецяжу ў Гомлі, а таксама сялянскіх выступленьняў у Гомельскай, Віцебскай і Смаленскай губэрнях. У 1920 г. увайшоў у склад Ваенна–рэвалюцыйнага камітэта і Рэўваенсавета ССРБ, наркам па ваенных справах, начальнік Менскага гарнізону. У 1922 г. удзельнічаў у падрыхтоўцы і падпісаньні Дагавору аб стварэньні СССР. У 1924—1927 гг. старшыня Саўнаркаму БССР.

159 **Першая Ўсебеларуская нацыянальна–палітычная канфэрэнцыя ў Празе 1921 г.**, форум прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных арганізацыяў, які адбыўся 25—28 верасьня 1921 г. Прысутнічала 37 дэлегатаў з Заходняй Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Чэха–Славаччыны, Нямеччыны, якія прадстаўлялі галоўным чынам партыі левага і левацэнтрысцкага кірунку (беларускія эсэры, сацыял–фэдэралісты, сацыял–дэмакраты ды інш.). Прысутнічалі сябры Рады БНР і Ўраду Рэспублікі. Канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыі аб Слуцкім паўстаньні, аб Віленскім пытаньні, у дачыненьні да палітычнай дзейнасьці Б.Савінкава і ген. Ст.Булак–Балаховіча, дала палітычную і маральна–прававую ацэнку Рыскае дамовы паміж Польшчаю і Савецкаю Расеяю ды інш. Адзіным законным органам Беларусі абвяшчалася Рада БНР і яе Ўрад. У канфэрэнцыі бралі ўдзел і некаторыя ўдзельнікі Слуцкага збройнага чыну: Васіль Русак, Уладзімер Пракулевіч, Арсен Паўлюкевіч і Адам Курыловіч.

160 **Вяршынін** (сапраўднае прозьвішча **Верамей**) Мікола (1878—1934), беларускі нацыянальны дзяяч, з палітычных матываў эміграваў зь Беларусі ў Прагу пасьля першае расейскае рэвалюцыі 1905—1907 гг. З 1918 г., пасьля абвяшчэньня БНР, кіраўнік дыпляматычнае місіі Рэспублікі ў Чэха–Славаччыне. Адзін з арганізатараў Першае Ўсебеларускае нацыянальна–палітычнае канфэрэнцыі ў Празе 1921 г. У міжваенны час узначальваў Беларускую грамаду ў Празе, заснавальнік і першы загадчык Беларускага заграНічнага архіву ў Празе.

161 **Заяц** Леанард Язэпаў (1890—1935), беларускі нацыянальны дзяяч. Уваходзіў у першы Ўрад БНР, пазьней сябра БПСР. У 1923—1925 гг. жыў у Празе, удзельнічаў у грамадзка–палітычным і культурным жыцьці беларускае эміграцыі. Удзельнік 1–е і 2–е Ўсебеларускіх палітычных канфэрэнцыяў. З канца 1925 г. у Савецкай Беларусі. У 1930 г. арыштаваны па «справе СВБ», у 1931 г. высланы на 5 гадоў у г. Уфу. У 1935 г. паўторна арыштаваны НКВД. Памёр у турме. Рэабілітаваны ў 1988 г.

162 **Ластоўскі** Вацлаў Юстынаў (1883—1938), беларускі нацыянальны дзяяч, гісторык, этнограф, літаратар, акадэмік БАН. У 1919—1923 гг. узначальваў Урад БНР. Удзельнік 1–е Ўсебеларускае нацыянальна–палітычнае канфэрэнцыі. З 1927 г. у БССР. У 1930 г. арыштаваны па «справе СВБ», у 1931 г. высланы ў Саратаў. У 1937 г. зноў арыштаваны і засуджаны да расстрэлу.

[163] **Душэўскі** (Дуж–Душэўскі) Кляўдуш Сьцяпанаў (1891—1959), беларускі нацыянальны дзяяч, архітэктар. У 1919 г. узначальваў Дыпляматычную місію БНР у краінах Балтыі, пазьней (да 1921 г.) дзяржаўны сакратар ва ўрадзе В. Ластоўскага. У міжваенны час жыў у Літве, адзін з кіраўнікоў Міністэрства беларускіх справаў пры літоўскім урадзе й Беларускага Цэнтру ў Коўне. Падчас Другое сусьветнае вайны хаваў габрэйскія сем'і ад фашыстаў, у жніўні 1941 г. арыштаваны гестапа й адпраўлены ў канцлягер. У 1952 г. асуджаны савецкімі карнымі органамі на 25 гадоў канцлягераў. Вызвалены ў 1955 г. Памёр у Коўне.

[164] Да складаньня рэзалюцыі па Слуцкім паўстаньні быў пазьней далучаны Тамаш Грыб.

[165] Маецца на ўвазе **Рыская мірная дамова 1921 г.**, падпісаная паміж Польшчаю з аднаго боку ды прадстаўнікамі Савецкай Расеі й Савецкай Украіны з другога ў траўні 1921 г. Прадстаўніцтва ад беларусаў — ані ад БНР, ані ад Савецкае Беларусі пры падрыхтоўцы ды падпісаньні дамовы ў Рызе не было. Афіцыйна лічылася, што беларускія інтарэсы па дамоўленасьці з урадам ССРБ на канфэрэнцыі прадстаўляе дэлегацыя РСФСР.

[166] **Аляксюк** Павал Паўлаў (1892—?), беларускі палітычны дзяяч, адзін зь лідэраў так званага «палёнафільскага крыла» беларускага руху падчас польска–савецкае вайны. У 1919—1920 гг. кіраўнік Беларускае вайсковае камісіі, восеньню 1920 г. ініцыятар стварэньня Беларускага палітычнага камітэту ў Варшаве. Удзельнік 1–е Ўсебеларускае нацыянальна–палітычнае канфэрэнцыі.

[167] **Цьвікевіч** Аляксандар Іванаў (1888—1937), беларускі нацыянальны дзяяч, гісторык, філёзаф. У 1919 г. міністар замежных справаў ва ўрадзе В. Ластоўскага. У 1923—1925 гг. узначальваў Раду Міністраў БНР. З 1925 г. у БССР. У 1930 г. арыштаваны па «справе СВБ» і ў 1931 г. высланы на 5 гадоў у Сібір. У 1937 г. паўторна арыштаваны і расстраляны ў Менску. Рэабілітаваны ў 1988—1989 гг.

[168] **Грыб** Тамаш Тамашоў (1895—1938), беларускі нацыянальны дзяяч, лідэр і галоўны ідэоляг БПСР. Вясною 1920 г. арыштаваны ў Менску польскімі акупацыйнымі ўладамі, каля году правёў у зьняволеньні. Пасьля вызваленьня знаходзіўся ў Коўне (Літва), з 1923 г. у Празе–Чэскай.

[169] **Крэчэўскі** Пётра Антонаў (1879—1928), беларускі нацыянальны дзяяч, адзін зь лідэраў партыі беларускіх сацыял–фэдэралістаў. Зь сьнежня 1919 г. старшыня (прэзыдэнт) Рады БНР.

[170] **Чарапук** Янка (**Змагар**) (1896—1957), беларускі нацыянальны дзяяч, адзін зь лідэраў БПСР. Летам 1922 г. эміграваў у ЗША, меў намер згуртаваць тамтэйшую беларускую дыяспару на нацыянальным грунце і фінансава спрыяць справе вызваленьня Беларусі ад акупантаў і пашырэньня беларускае культуры. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларуска–Амэрыканскага Народнага Саюзу ў Чыкага.

[171] Паўлюкевіч мае на ўвазе стварэньне адзінага цэнтру беларускіх палітычных сілаў на тэрыторыі тагачаснай Польшчы, які б ляяльна ставіўся да польскіх уладаў ды быў накіраваны супраць бальшавікоў.

[172] **Мамонька** Язэп Аляксееў (1889—1937), беларускі нацыянальны дзяяч, сябра БПСР, уваходзіў у склад Загранічнага ЦК БПСР. Удзельнік 1–е

і 2–е Ўсебеларускіх нацыянальна–палітычных канфэрэнцыяў. Выступіў супраць роспуску Ўраду БНР у 1925 г. У 1925—1928 гг. туляўся паміж Прагай, Вільняй, Коўнам і Рыгай. У верасьні 1928 г., атрымаўшы візу на ўезд, выехаў у БССР. Арыштаваны на станцыі Бігосава. У 1929 г. Пастановай ГПУ асуджаны на 10 гадоў канцлягераў. У 1937 г. пастановай «тройкі» НКВД прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1989 і 1993 гг.

[173] **Рэзалюцыі** Першае Ўсебеларускае нацыянальна–палітычнае канфэрэнцыі былі надрукаваныя ў тым жа 1921 г. у ковенскай беларускай газэце «Сялянская Доля», якую выдавалі беларускія эсэры. Праца канфэрэнцыі шырока асьвятлялася ў беларускім дэмакратычным пэрыядычным друку Заходняе Беларусі, а таксама ў газэтах Чэха–Славаччыны, у расейскай ды ўкраінскай эмігранцкай прэсе.

[174] **Злоцкі** Рыгор, беларускі нацыянальны дзяяч. Удзельнік Першае сусьветнае вайны, малодшы афіцэр. Пасьля дэмабілізацыі ў 1918 г. жыў у Горадні. Зь сьнежня 1918 г. у складзе БПСР, сябра Горадзенскага Белнацкаму. У 1919 г. зьяўляўся дыпляматычным кур'ерам Ураду БНР. У сьнежні 1919 г. арыштаваны літоўскімі ўладамі падчас праезду празь Літву ў Латвію (з Бэрліну), месяц адседзеў у ковенскай вязьніцы. Са студзеня 1920 г. у складзе Вайскова–дыпляматычнай місіі БНР у Рызе. Увосень 1920 г. вяртаецца ў Менск, працуе ў структурах БПСР. У лютым 1921 г. арыштаваны бальшавіцкаю «чрэзвычайкаю», пасьля вызваленьня спачатку ў Коўне, пазьней — у Празе. Сябра Беларускага вайскова–палітычнага цэнтру, які кіраваў партызанскім рухам на польска–літоўскім памежжы. Прыхільнік супрацоўніцтва з расейскімі дэмакратычнымі структурамі на эміграцыі. У чэрвені 1921 г. як прадстаўнік Ураду БНР (на чале з В.Ластоўскім) падпісаў пагадненьне з Рускім палітычным камітэтам, за што быў выключаны з БПСР. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[175] **Езавітаў** Кастусь Барысаў (1893—1946), беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец. У пачатку 1919 г. знаходзіўся ў Горадні, адзін з камандзіраў 1–га Беларускага палка, літоўскімі ўладамі прызначаны камэндантам гораду. Пазьней, падчас польска–савецкай вайны, узначальваў Вайскова–дыпляматычную місію БНР у Латвіі й Эстоніі. Падчас Другой сусьветнай вайны спачатку знаходзіўся ў Рызе, пасьля пераехаў у Менск, узначальваў галоўную вайсковую ўправу Беларускае Цэнтральнае Рады. У красавіку 1945 г. арыштаваны савецкаю контарвыведкаю «СМЕРШ» у Бэрліне. Спачатку перавезены ў Маскву, зь лістапада 1945 г. у менскай турме. Памёр ад сухотаў у турэмным шпіталі.

[176] Відаць, маецца на ўвазе **Беларускі вайскова–палітычны цэнтар,** які арганізоўваў ды каардынаваў беларускую антыпольскую партызанку на літоўска–польскім памежжы ў 1920—1922 г. пры падтрымцы ковенскага Ўраду БНР ды ўладаў Літвы.

[177] **«Виленское Утро»**, расейскамоўная газэта, якая выходзіла ў Вільні з 1921 па 1927 г. Рэдактар А.С.Рамашоў.

[178] **Беларускі музычна–драматычны гурток у Вільні**, культурна–асьветная арганізацыя ў 1911—1920–я гг., ладзіла беларускія вечарыны з тэатральнымі прадстаўленьнямі, беларускімі сьпевамі ды дэклямацыямі вершаў беларускіх паэтаў. У пачатку 1920–х гг. месьціўся ў будынку Бела-

рускага грамадзянскага сходу на Вострабрамскай вуліцы, 12. Ва ўсіх беларускіх энцыкляпэдыях час існаваньня гуртка абмяжоўваюць да 1916 г., хоць дзейнасьць віленскіх аматараў беларускага мастацтва працягвалася і пазьней, пра што сьведчаць архіўныя крыніцы ды паведамленьні віленскіх газэтаў таго часу. Дзейнасьць драматычнае дружыны пад кіраўніцтвам Францішка Аляхновіча падчас нямецкае акупацыі 1916—1918 гг. праходзіла таксама пад шыльдаю музычна–драматычнага гуртка.

179 **Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні** (Віленскі Белнацкам), прадстаўнічы орган беларускіх нацыянальных арганізацыяў Вільні ды Віленшчыны ў 1919—1938 гг. Падчас польска–савецкае вайны знаходзіўся пад уплывам беларускіх эсэраў.

180 **Заштаўт** Аляксандар (1877—1944), польскі палітычны дзяяч. У 1918—1921 г. — адзін з кіраўнікоў Польскай партыі сацыялістычнай (PPS) у Беларусі й Літве. З 1922 г. — дэпутат (пасол) Віленскага сойму («парлямэнту» Сярэдняй Літвы) і Сойму ІІ Рэчы Паспалітай. У 1924—1937 гг. — кіраўнік Польскай незалежнай сацыялістычнай партыі працы.

181 **Шабад** Цэмах (1864—1935), габрэйскі грамадзкі й палітычны дзяяч, лекар. Скончыў мэдычны факультэт Маскоўскага ўнівэрсытэту (1889). Меў прыватную лекарскую практыку ў Маскве. З 1894 г. у Вільні, адзін зь лідэраў тамтэйшай гэбрайскай грамады. Падчас першай нямецкай акупацыі Віленшчыны ў канцы 1915—пачатку 1916 г. разам зь беларускімі, літоўскімі ды габрэйскімі нацыянальнымі дзеячамі прымаў удзел у «Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага», у сьнежні 1915 г. разам з братамі І. ды А.Луцкевічамі, В.Ластоўскім ды іншымі падпісаў «Унівэрсал конфэдэрацыі ВКЛ». Стаў прататыпам літаратурнага героя Доктара АйБаліта ў аднайменным дзіцячым творы расейска–габрэйскага пісьменьніка Карнея Чукоўскага. Адзін з кіраўнікоў Габрэйскай народнай партыі, уваходзіў ва ўрады многіх габрэйскіх грамадзкіх арганізацыяў. У 1928 г. абраны дэпутатам польскага сэйму.

182 **Ярэміч** Фабіян Мацьвееў (1891—1958), беларускі нацыянальны дзяяч. З 1919 г. знаходзіўся ў Вільні, быў прыхільнікам БПСР. Удзельнік Беларускага зьезду Віленшчыны і Гарадзеншчыны, увайшоў у склад Рады, абранай зьездам. Зь вясны 1920 г. старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. Пазьней адзін зь лідэраў нацыянальна–вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі, старшыня Беларускага сялянскага саюзу. У 1922—1935 гг. — пасол (дэпутат) Сэйму ІІ Рэчы Паспалітае, уваходзіў у Беларускі пасольскі клюб. У 1948 г. арыштаваны НКВД і засуджаны на 25 гадоў канцлягераў. У 1956 г. рэабілітаваны. Пасьля вызваленьня жыў у Вільні.

183 **Станкевіч** Адам Вінцэнтаў (1891—1949), беларускі каталіцкі сьвятар, палітычны і грамадзкі дзяяч, гісторык, публіцыст, выдавец. На той час сябра Віленскага Белнацкаму, а таксама рэдактар–выдавец газэты «Krynica». У 1944 г. арыштаваны НКВД, але ў хуткім часе вызвалены «з–за недахопу ўлікаў». У 1949 г. зноў арыштаваны і засуджаны на 25 гадоў канцлягераў, вывезены ў Сібір. Афіцыйная вэрсія сьмерці — «атлусьценьне сэрца». Паводле сьведчаньняў вязьняў — забіты ахоўнікамі канцлягеру.

[184] **Луцкевіч** Антон Іванаў (1884—1942), адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху ў XX ст., гісторык, літаратуразнаўца, публіцыст. У 1918—1920 гг. узначальваў Урад БНР. Вясною 1920 г. вярнуўся на сталае жыхарства ў Вільню. Летам таго ж году арыштоўваўся бальшавікамі. Пазьней увайшоў у Віленскі Белнацкам. У верасьні 1939 арыштаваны бальшавікамі ў Вільні і перавезены ў Менск. Асобай нарадай НКВД СССР прыгавораны да 8 гадоў канцлягераў. Памёр у саратаўскай вязьніцы НКВД. Рэабілітаваны ў 1989 г.

[185] Цікава, што пасьля гэтага першага сьвяткаваньня ў Заходняй Беларусі доўгі час большасьць прадстаўнікоў нацыянальна–дэмакратычнае плыні беларускага руху (сацыял–дэмакраты, хадэкі, сябры Беларускага сялянскага саюзу ды інш.) «забыліся» пра гэтую падзею, асобныя дзеячы нават лічылі, што «паўстаньне» было справакаваная польскімі ваеннымі й дэфэнзываю. У 1920–я гг. сьвяткаваньне праводзілася ў вузкім коле прыхільнікаў г. зв. Часовае Беларускае рады, якую ўзначальваў Арсен Паўлюкевіч. Зразумела, што ў Савецкай Беларусі гэтыя даты адзначацца публічна не маглі. Магчыма, у Празе слуцкія гадавіны таксама маглі адзначацца з ініцыятывы былых слуцкіх паўстанцаў Васіля Русака, Сяргея Бусла, Міхася Каберца, Лявона Рыдлеўскага ды інш. Толькі ў 1930 г., дзякуючы грамадзянскай пазыцыі Сяргея Бусла, што пераехаў пасьля вучобы ў Празе ў Вільню, а таксама публікацыі ў 1936 г. у віленскім часапісе «Золак» В. Русака, традыцыя сьвяткаваньня збройнага чыну ўзнавілася. Сьвяткаваліся слуцкія ўгодкі й падчас Другое сусьветнае вайны і пазьней (з асаблівай ўрачыстасьцю гэта адбывалася на эміграцыі ў паваенны час, у розных кутках сьвету). У канцы 1980–х гг. традыцыя ўшанаваньня слуцкіх змагароў адрадзілася і на Бацькаўшчыне.

[186] **«Беларускія Ведамасьці»**, віленская беларуская газэта, якая выходзіла зь верасьня 1921 па студзень 1922 г. Выдавалася замест газэты «Наша Думка», забароненай уладамі Сярэдняе Літвы. Рэдактар–выдавец Максім Гарэцкі. Была зачыненая напярэдадні выбараў у г.зв. Віленскі сэйм за публікацыі, скіраваныя супраць далучэньня Віленшчыны да Польшчы. Выйшла 19 нумароў.

[187] **Перамыкін** Барыс, расейскі вайсковец, генэрал–маёр. Удзельнік «белых» вайсковых фармаваньняў на тэрыторыі Ўкраіны, удзельнік Палескага паходу Булак–Балаховіча. У 1920 г. на тэрыторыі Польшчы разам з Барысам Савінкавым арганізаваў г. зв. «Расейскую народную армію».

[188] **Пятлюра** Сымон Васілёў (1879—1926), украінскі нацыянальны дзяяч, адзін з кіраўнікоў антыбальшавіцкага збройнага змаганьня на Ўкраіне.

[189] *Пераклад дакумэнта:*

<...> Спозьненым рэхам беларуска-бальшавіцкага супрацьстаяньня было Слуцкае паўстаньне.

На Случчыне ўтварылася мясцовае самакіраваньне. <...> Была створаная павятовая міліцыя, у склад якой увайшлі беларусы, пераважна з антыбальшавіцкімі настроямі. Менавіта гэта міліцыя стала асяродкам паўстанцкага руху.

Пасьля заключэньня польска–савецкае дамовы былыя хаўрусьнікі польскага войска, ген. БУЛАК–БАЛАХОВІЧ, ПЕРАМЫКІН і армія Украінскае

Народнае Рэспублікі (атаман ПЯТЛЮРА), перайшлі польска-савецкую дэмаркацыйную лінію і самастойна распачалі ваенную акцыю супраць Саветаў.

Беларуская Рада ў Слуцку скарысталася гэтым і разлічвала выклікаць агульнае паўстаньне супраць бальшавікоў на тэрыторыі ўсёй Белае Русі. З гэтаю мэтай быў скліканы зьезд з усяго Слуцкага павету. Гэты зьезд вырашыў распачаць агульную барацьбу супраць бальшавікоў з мэтай стварэньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі. У якасьці вярхоўнае ўлады зьезд прызнаў Найвышэйшую Беларускую Раду (на дадзены момант не існуе), а дзеля кіраўніцтва рухам у Случчыне паклікаў Раду Слуцку на чале з ПРАКУЛЕВІЧАМ.

Неадкладна пачаўся вярбунак і арганізацыя войска, стрыжнем якога стала вышэйзгаданая міліцыя. Такім чынам паўстала першая беларуская брыгада — т. зв. «Слуцкая брыгада», якая налічвала каля 4000 чалавек. Камандзерам гэтага аддзелу быў ЯКУБЕЦКІ Андрэй, а ягоным памочнікам ЖАЎРЫД. Як аказалася пазьней, абодва былі ў паразуменьні з бальшавікамі.

Першая «Беларуская Слуцкая Брыгада», усталяваўшы кантроль у раёне Слуцку, пазьней прасунулася на некалькі кілямэтраў на ўсход, дзе яе вітала мясцовае насельніцтва.

Далейшаму развою паўстаньня перашкодзілі, з аднаго боку, недахоп зброі, зь іншага — бальшавіцкія аддзелы, якія перайшлі дэмаркацыйную лінію, у выніку чаго [паўстанцы] былі вымушаны перайсьці па польскі бок, дзе былі раззброены.

Разгром БАЛАХОВІЧА дазволіў савецкаму ўраду кінуць супраць Першае Беларускае брыгады дзьве дывізіі: 8–ю і 17–ю, у выніку чаго паўстанцы былі разьбіты, расьцярушаны і інтэрнаваны.

Паўстаньне ў Слуцкім павеце было першым самастойным чынам беларусаў у змаганьні за нацыянальную незалежнасьць. <...>

### *Галасы ўдзельнікаў Слуцкага збройнага чыну*

[190] **«Зарніца»**, беларускі культурна–асьветны гурток у в.Старыца Слуцкага пав. Утвораны ў сьнежні 1917 г. моладзьдзю вёсак Старыца і Слабада–Кучынка. Спачатку меў назву «Старыцкая моладзь». Старшыня Алесь Міхайлаў Каўпак (Калпак). У першапачатковы склад гуртка ўвайшлі (акрамя Алеся Каўпака): Адам Міхайлаў Бабарэка, Адам Антосеў Бабарэка (будучы знакаміты беларускі літаратуразнаўца), Алесь Аніхоўскі (абраны пісарам), Янка Бельмач, Пётра Зянюк (таварыш старшыні), Уладзімер Каўпак, Анатоль Астрэйка, Дзяніс Клюйка, Стэфан Верабей ды Ўладзімер Мазаляка. Пазьней да «Зарніцы» далучыліся Люба Зянькавічанка, Л. Стаганавічанка ды інш. На арганізацыйнай зборцы 14 сьнежня 1917 г. быў складзены статут гуртка з шасьці пунктаў:

«1) Усе сябрукі гуртка павінны высока дзяржаць свой беларускі гонар: мы маем выдатную гістарычную мінуўшчыну і слаўную будучыну.

2) Шырыць свядомасьць між братоў–беларусаў. Знаёміць з гісторыяй Бацькаўшчыны, роднай літаратурай, нашымі патрэбамі і жаданьнямі.

3) Падтрымоўваць еднасьць с суседнімі гурткамі, каб весьці супольную працу дзеля адраджэньня роднага краю.

4) Клікаць у гурток усіх сьвядомых беларусаў дзеля працы на родным грунце.

5) Кожын сябрук гуртка павінен далажыць стараньня дапамагчы сьвядомым беларусам злучыцца ў гурток.

6) Усе сябрукі павінны гаварыць між сабой і ўсюды па–беларуску; выпісваць беларускія газэты, часапісі і кніжкі, якія выходзяць на роднай мове і шырыць беларускую літаратуру».

Практычная дзейнасьць гуртка складалася з арганізацыі тэатральных ігрышчаў, дэклямацыяў беларускіх вершаў і чытаньняў лекцыяў па беларусазнаўстве ў вёсках воласьці. Была закладзенаая сяброўская бібліятэка–чытальня. Плённая дзейнасьць культурніцкага асяродку старыцкай моладзі натхніла мясцовага паэта–аматара Юрку Прышчэпу на верш «Прысьвячэньне гуртку «Зарніца», які быў апублікаваны ў чэрвені 1918 г. у менскай газэце «Вольная Беларусь». Гурток меў дачыненьні зь Беларускім нацыянальным камісарыятам (Белнацкам) у Маскве ў 1918 г., з Часовым Белнацкамам у Менску ў 1919—1920–х гг.

[191] Родная сястра жонкі Юркі Лістапада Марыі Стаганавічанкі.

[192] Свае ўспаміны С. Бусел напісаў у пачатку 1922 г. для ковенскага часапіса «Крывіч», але яны так і не былі апублікаваныя. Машынапісныя баломкі мэмуараў захаваліся ў рэдакцыйнай тэчцы выданьня і пазьней трапілі ў Беларускі музэй імя Ї. Луцкевіча ў Вільні. Цяпер яны ў Беларускім дзяржаўным архіве–музэі літаратуры і мастацтва ў Менску.

[193] **Бачко** (Бочка) Антон (1889—?), беларускі вайсковец, прыхільнік ген. Ст. Булак–Балаховіча. Адзін з арганізатараў беларускае міліцыі Случчыны. Падчас Другой сусьветнай вайны быў афіцэрам Беларускай Краёвай Абароны. Аўтар успамінаў пра Слуцкі збройны чын.

[194] Гаворка йдзе пра легендарную бітву беларускіх ваяроў з мангольскімі войскамі каля Койданава ў 1249 г.

[195] **«Золак»**, беларускі часапіс, «орган маладой беларускай соцыялістычнай думкі». Выдаваўся ў 1933—1938 г. у Вільні. Рэдактар А. Аніська. Їдэалягічна трымаўся пазыцыі Замежнай групы партыі беларускіх эсэраў. Сярод супрацоўнікаў і карэспандэнтаў выданьня: Мікола Чарнецкі, Тамаш Грыб, Сяргей Бусел, Васіль Русак ды інш. Выйшла 8 нумароў.

[196] **«Беларус на варце»**, беларускі вайсковы часапіс. Выдаваўся ў лістападзе 1943— чэрвені 1944 г. у Менску. Адказны за выпуск — Фр. Кушаль, рэдактар апошняга нумару Ўл. Гуцька. Маецца на ўвазе артыкул Юркі Громіча (Ю.Віцьбіча) «Памяці змагароў за Бацькаўшчыну» ў часапісе «Беларус на варце» за студзень 1944 г. (№2), які прысьвечаны 23–м угодкам Слуцкага збройнага чыну.

[197] Гаворка йдзе пра жніўеньскі 1920 г. зьезд БПСР у Менску.

[198] Успаміны А.Сокал–Кутылоўскага напісаныя ў канцы лістапада 1944 г. на прапанову старшыні кіраўніцтва вайсковых справаў БЦР К.Езавітава (у дакумэнце маюцца ягоныя праўкі) ды былі прачытаныя ў сьнежні таго ж году на ўрачыстасьцях, прысьвечаных 24–м угодкам Слуцкага збройнага чыну перад шэрагамі беларускіх вайскоўцаў. Пазьней, 27 лютага

1948 г. на допыце ў вязьніцы сталінскай ахранкі Сокал–Кутылоўскі паведаміць пра тое, як адбывалася тая ўрачыстасьць (падаецца на мове арыгіналу):

«Вопрос: Как проходило торжественное собрание по случаю 24 годовщины Слуцкого мятежа?

Ответ: Торжественное собрание по случаю 24 годовщины Слуцкого мятежа было организовано белорусской центральной радой. На этом собрании присутствовали: президент «Белорусской Центральной Рады» — Островский, его заместитель Шкеленок, руководитель главного управления военных дел — Езовитов, член «Белорусской центральной рады» — Свирид, сотрудники «БЦР» и весь личный состав 1 кадрового батальона. С докладом о 24 годовщине Слуцкого мятежа против Советской власти выступил я — Сокол–Кутыловский. В своём докладе я подробно изложил, как белорусские националисты организовали Слуцкий мятеж и о своём участии в нём. После моего доклада все участники торжественного собрания были угощены обедом, а потом проходила торжественная, т.е. художественная часть».

[199] **«Наша Доля»**, беларуская газэта, выходзіла ў Вільні ў 1906 г.

[200] **«Наша Ніва»**, беларуская газэта, выходзіла ў Вільні ў 1906—1915 г.

[201] **Беларускі нацыянальны камітэт** у Менску, каардынацыйны цэнтар нацыянальных арганізацыяў беларускага руху ў сакавіку — ліпені 1917 г. у Беларусі на ўсход ад нямецка–расейскага фронту. Узначальваў Раман Скірмунт.

[202] **Вялікая Беларуская Рада** зьяўлялася каардынацыйным цэнтрам нацыянальных арганізацыяў напярэдадні Ўсебеларускага зьезду, была ўтвораная ў кастрычніку 1917 г. на 2–й сэсіі Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацыяў.

[203] **Серада** Іван [Янка] Мікітаў (1879—?), беларускі нацыянальны дзяяч. Пасьля Лютаўскай рэвалюцыі сябра БСГ, Цэнтральнае Беларускае вайсковае рады. Удзельнік Усебеларускага зьезду 1917 г. у Менску. З 1918 г. старшыня Рады БНР, адзін зь лідэраў БПСФ. Падчас польска–савецкае вайны сябра ЧБНК у Менску, Найвышэйшае Рады БНР. У 1921 г. вярнуўся ў Менск, працаваў у Інбелкульце, дацэнт Беларускае сельскагаспадарчае акадэміі ў Горках. У 1930 г. арыштаваны ГПУ па «справе СВБ», у 1931 г. высланы на 5 гадоў у Яраслаўль. У 1941 г. зноў арыштаваны НКВД і асуджаны на 10 гадоў канцлягераў. Вызвалены ў лістападзе 1943 г. Іншых зьвестак ня выяўлена. Рэабілітаваны ў 1988 і 1989 гг.

[204] **Вайніловіч** Эдвард Адамаў (1847—1928), грамадзкі й палітычны дзяяч, прадстаўнік старажытнага беларускага шляхецкага роду, адзін з буйных абшарнікаў у Беларусі. У Слуцкім павеце валодаў маёнткамі Савічы і Пузаў Цімкавіцкай вол. У 1865 г. закончыў Слуцкую гімназію, у 1869 г. — Пецярбурскі тэхнічны інстытут. З 1878 г. быў членам, віцэ–старшынём Менскага таварыства сельскай гаспадаркі, у 1906 г. — член Дзяржаўнага савету Расіі. На працягу многіх гадоў быў ганаровым судзьдзём Слуцкага павету. У 1918 г. вітаў абвяшчэньне БНР, але не падзяляў радыкальнае ідэалёгіі беларускіх сацыялістаў. Прыхільнік аднаўленьня Вялікага Княства Літоўскага ў палітычным хаўрусе з Польшчай. У 1919 г.

увайшоў у склад «Польска–Беларускага таварыства для палітычнага і культурнага супрацоўніцтва ў Беларусі». У Менску на свае сродкі пабудаваў касьцёл Сымона і Алены.

[205] Гаворка, відаць, ідзе пра **Семенюка** (Сяменіка) Лукаша (?—1921), беларускага вайскоўца, ураджэнца в. Траянаўка Халопеніцкае вол. Барысаўскага пав. Удзельнік Першае сусьветнае вайны. Арганізатар і кіраўнік сялянскага паўстаньня ў жніўні 1918 г. супраць нямецкіх кайзэраўскіх войскаў, што ахапіла Лісічанскую, Халопеніцкую і Зачысьценскую воласьці Барысаўшчыны і Меншчыны й якое было задушанае сумеснымі дзеяньнямі немцаў і маскоўскіх бальшавікоў. У лістападзе 1918 г., да прыходу бальшавікоў, быў абраны сялянамі Халопеніцкае вол. вайсковым атаманам. У пачатку 1919 г. арыштаваны «чрэзвычайкаю» і пасаджаны ў барысаўскую вязьніцу. 27 траўня т. г. падчас перасылкі яго з Барысава ў менскі Пішчалаўскі замак здолеў зьбегчы, за што рэвалюцыйным трыбуналам у Барысаве прысуджаны да сьмяротнай кары. Арганізатар «Першага Беларускага партызанскага аддзелу», які пасьпяхова дзейнічаў супраць бальшавікоў у Барысаўскім ды Менскім паветах у першай палове 1919 г. Сумесна з польскімі аддзеламі ўдзельнічаў у вызваленьні ад бальшавікоў Барысава ў ліпені т. г. У пачатку 1920 г. у чыне капітана разам са сваім аддзелам залічаны ў склад БВК. Адзін з арганізатараў вайсковага сялянскага руху пад кіраўніцтвам «Зялёнага Дубу». Прымаў чынны ўдзел у вайсковай акцыі ген. Ст. Булак–Балаховіча і ў Слуцкім збройным чыне, пазьней працягваў партызанскія акцыі супраць бальшавікоў. Паводле зьвестак беларускага бібліёграфа Рамуальда Зямкевіча, загінуў у 1921 г. у адным з баёў з чырвонаармейцамі.

[206] **а. Панцялейман (Ражноўскі** Павел) (1867—1950), праваслаўны сьвятар, ураджэнец г. Кастрама (Расея). У 1913 г. высьвечаны Маскоўскаю мітраполіяй на япіскапа. У 1921 г. прызначаны Расейскаю Праваслаўнаю Царквой (РПЦ) Наваградзкім япіскапам, правёў некалькі набажэнстваў ў Навагародзкім катэдральным саборы па–беларуску. З–за адмовы падпарадкавацца «Часовым правілам» польскага заканадаўства ў адносінах да праваслаўнай канфэсіі ў ІІ Рэчы Паспалітай ды непрыманьня ідэі аўтакефаліі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы бяз згоды РПЦ выпраўлены «на пакой», знаходзіўся пад наглядам польскай улады. У верасьні 1942 г. фармальна спрычыніўся да абвяшчэньня ў Менску Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ). З канца лета 1944 г. у Нямеччыне. У 1946 г. разам зь іншымі вышэйшымі ярархамі БАПЦ перайшоў пад юрысдыкцыю Расейскае Заграничнае Праваслаўнае Царквы.

[207] **Данілюк** Хведар (Тодар) Васілёў (Базылёў) (1877—1960), беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец, праваслаўны сьвятар. Скончыў Жыровіцкую праваслаўную сэмінарыю. У жніўні 1914 г. мабілізаваны ў расейскае войска. Пасьля сканчэньня Гатчынскае вайсковае вучэльні (1917) у чыне падпаручніка ўдзельнічаў у баях на расейска–нямецкім фронце (начальнік вучэбнай каманды 223–га палку, што дысьлякаваўся ў г.Таржку). Пасьля Лютаўскае рэвалюцыі ўключаецца ў беларускі рух. Удзельнік зьезду беларускіх уцекачоў у Маскве ў жніўні 1917 г. З кастрычніка таго ж году ў чыне паручніка пераведзены на Румынскі фронт, падчас фар-

маваньня беларускіх нацыянальных вайсковых частак прызначаны камісарам 4–га беларускага корпусу. У верасьні 1918 г. вярнуўся ў Беларусь. У сьнежні таго ж году на сялянскім зьезьдзе ў Ваўкавыску абраны старшынёй Ваўкавыскае беларускае рады, быў сябрам Гарадзенскае сялянскае павятовае рады. У студзені 1919 г. з ініцыятывы міністра ўнутраных справаў БНР К.Цярэшчанкі езьдзіў у Менск на перамовы з бальшавіцкім кіраўніцтвам «Заходняй вобласьці» — ССРБ, меў намер дамовіцца з А. Мясьнікянам (Мясьніковым) пра сумесныя дзеяньні супраць палякаў. У лютым таго ж году быў арыштаваны палякамі ды зьмешчаны ў Беластоцкую вязьніцу, адкуль здолеў зьбегчы ў Горадню, дзе яшчэ знаходзіліся рэшткі нямецкіх войскаў. З сакавіка 1919 г. малодшы афіцэр 1–га Беларускага гарадзенскага палку. У красавіку таго ж году ў складзе беларускага коннага эскадрону перайшоў на бок літоўцаў, у чыне лейтэнанта выконваў абавязкі ваеннага камэнданту г. Аліты (Алітуса), у складзе збройных сілаў Літоўскае Рэспублікі ўдзельнічаў у абарончых баях супраць польскіх легіянэраў. Удзельнік Слуцкага збройнага чыну 1920 г. Да траўня 1921 г. камандаваў вучэбнаю камандаю пры батальёне БВК у Лодзі. Пасьля ліквідацыі БВК 21 верасьня 1921 г. гарадзенскім япіскапам Уладзімерам высьвечаны на праваслаўнага сьвятара. У міжваенны час ачольваў праваслаўныя парафіі на Слонімшчыне. У 1936 г. арыштоўваўся палякамі за адкрыты супраціў нацыянальнай і канфэсійнай палітыцы ўладаў у Заходняй Беларусі. У верасьні 1939 г., з прыходам бальшавікоў, арыштоўваўся НКВД, пасьля вызваленьня пераяжджае ў вёску Глоўсевічы каля Слоніму, дзе сустрэў прыход нямецкіх войскаў. У 1942 г., ратуючыся ад чырвоных партызанаў, пераяжджае ў Дзярэчын. У жніўні—верасьні 1942 г. у якасьці прадстаўніка ад Наваградзкае япархіі ўдзельнічае ў Менскім праваслаўным саборы, на якім была абвешчаная БАПЦ. Зь лета 1944 г. у Нямеччыне, працуе «остарбайтэрам» на папяровай фабрыцы й чыгунцы. На заклік К.Езавітава ды Фр.Кушаля ў лістападзе 1944 г. уступае ў шэрагі збройных сілаў Беларускай Краёвай Абароны, атрымлівае чын старэйшага лейтэнанта ў складзе дывізіі «Беларусь», якая бяз бою 30 красавіка 1945 г. здаецца амэрыканцам, каб ня трапіць у бальшавіцкі палон. Пасьля заканчэньня вайны працаваў на фабрыцы ў Вюртэмбэргу. Адзін з ініцыятараў аднаўленьня БАПЦ, удзельнік Беларускага царкоўнага сабору ў Канстанцы ў 1947 г. З 1950 г. у ЗША. Адзін са стваральнікаў ды настаяцель парафіі БАПЦ у Брукліне (Нью–Ёрк), зь лістапада 1957 г. ачольваў царкву Сьв. Кірылы Тураўскага. У траўні 1960 г. абраны ў склад Япархіяльнай Рады БАПЦ Паўночнай Амэрыкі й Канады, зьяўляўся кіраўніком ейнага царкоўна–судовага аддзелу. Пахаваны на беларускіх могілках у Нью–Брансўіку.

[208] Як і ў выпадку з А.Сокал–Кутылоўскім, успаміны напісаныя Т.Данілюком на просьбу К.Езавітава ў лістападзе 1944 г. 15 сьнежня таго ж году, напярэдадні ўрачыстасьцяў, прысьвечаных сьвяткаваньню Слуцкага збройнага чыну, якія плянаваліся кіраўніцтвам БЦР, Данілюк ў запісцы да Езавітава піша: «Працу сваю я пашырыў за патрабаваныя рамкі і з увагі на гэта даў ёй загаловак.<…> Доўгі адрэзак часу, які мінуў ад апісаных мною падзеяў, а таксама абмежаваны час, які цяпер у маім

распараджаньні, зьяўляюцца прычынай пабежнасьці майго твору. Ведаючы, што дзеля ўсебаковага і падрабязнага асьвятленьня ўспомненых тут падзеяў трэба доўгатрывалае і грунтоўнае працы над гэтай справай, прашу дараваць тыя нявыясьненыя пытаньні, якія тут сустрэнуцца. Маім найшчырэйшым жаданьнем зьяўляецца, каб гэтых колькі балонак далі крыху новага матэрыялу для будучых дасьледнікаў беларускае вайсковае гісторыі».

[209] **Першы Беларускі полк у Горадні** створаны ў сьнежні 1918 г. у складзе 5–ці ротаў, кавалерыйскага эскадрону. Месьціўся ў Аляксандраўскіх казармах. Першы камандзір — капітан Лаўрэнцьеў. З прыходам у сакавіку 1919 г. у Горадню польскіх войскаў частка беларускіх жаўнераў (5–я рота ды кавалерыйскі эскадрон) перадысьлякаваліся ў Літоўскую Рэспубліку, дзе потым удзельнічалі ў баях супраць польскіх легіянэраў. Рэштка была раззброеная 1 чэрвеня 1919 г. палякамі.

[210] **Дзямідаў** Мікола Якубаў (1888—1967), беларускі нацыянальны дзяяч, вайсковец. Адзін з камандзіраў 1–га Беларускага палка ў Горадні. 1 чэрвеня 1919 г. арыштоўваўся палякамі, інтэрнаваны ў лягер каля Беластоку. Увесну 1920 г. вызвалены, паступае ў распараджэньне Беларускай вайсковай школы падхарунжых у Варшаве. Улетку 1920 г. далучаецца да аддзелаў ген. Ст.Булак–Балаховіча, удзельнічае ў палескім паходзе. З 1921 г. у Вільні. Напачатку 1923 г. высланы палякамі ў Дзьвінск (Латвія). У міжваенны час актыўны ўдзельнік беларускага руху ў Латвіі. Пасьля Другой сусьветнае вайны ў эміграцыі (Нямеччына, ЗША).

[211] **Казячы** Рыгор Ігнатаў (1894—1929), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец Горадзеншчыны, зь сялян, настаўнічаў. Сябра БПСР, старшыня гарадзкога камітэту Скідзеля ў канцы 1918— пачатку 1919 г. Удзельнік Беларускага зьезду Віленшчыны і Гарадзеншчыны ў ліпені 1919 г., сябра Беларускага нацыянальнага камітэту ў Вільні. З пачатку 1920 г. у складзе Вайскова–дыпляматычнае місіі БНР у Рызе, рэдагаваў часапіс «На Чужыне». З пачатку 1921 г. у складзе Загранічнай групы БПСР. У тым жа годзе разам зь Янкам Чарапуком як прадстаўнік беларускіх эсэраў удзельнічаў у Сацыялістычным кангрэсе былых паняволеных народаў Расейскай імпэрыі ў Таліне. У 1923 г. пераехаў у БССР, працаваў у газэце «Савецкая Беларусь» (спачатку перакладчыкам, а затым загадчыкам аддзелу, адказным сакратаром і стыльрэдактарам). Удзельнік ліквідацыйнага зьезду БПСР у Менску ў 1924 г. Памёр 27 кастрычніка 1929 г.

[212] **Захарка** Васіль Іванаў (1877—1943), беларускі нацыянальны дзяяч. У першым Урадзе БНР — дзяржаўны скарбнік, міністар фінансаў. Зь сьнежня 1919 г. намесьнік старшыні Прэзыдыюму Рады БНР. Пасьля сьмерці П. Крэчэўскага, з 1928 г., Прэзыдэнт Рады БНР на эміграцыі.

[213] **Варонка** Язэп Якубаў (1891—1952), беларускі нацыянальны дзяяч. Старшыня першага Ўраду БНР у 1918 г. Са сьнежня 1918 г. па красавік 1920 г. міністар беларускіх справаў ва ўрадзе Літоўскай Рэспублікі. У 1923 г. эміграваў у ЗША.

[214] **Казека** Сяргей (1889—?), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец м. Рось Ваўкавыскага пав. Скончыў Сьвіслацкую настаўніцкую сэміна-

рыю (1908) і Віцебскі настаўніцкі інстытут (1914). У 1908—1911 гг. настаўнічаў у пачатковых школах Гарадзеншчыны. У 1915 г. мабілізаваны ў расейскае войска. Пасьля сканчэньня вайсковай вучэльні з 1916 г. у чыне прапаршчыка — удзельнік ваенных дзеяньняў на расейска–нямецкім фронце. Пасьля дэмабілізацыі ў 1918 г. жыў у Вільні. Удзельнік Беларускага зьезду Віленшчыны і Горадзеншчыны ў ліпені 1919 г., сябра Беларускай Вайсковай Арганізацыі, якая пазьней была пераўтвораная ў БВК. З 1920 г. афіцэр рэзэрвы БВК. З восені таго ж году — вэрбунковы афіцэр БВК у Ваўкавыскім павеце. З 1921 г. у Латвіі, у міжваенны час настаўнічаў у тамтэйшых беларускіх школах. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[215] **Грач** — партыйны псэўданім **Ксяневіча** Ўладзімера Францава (1894—пасьля 1927?), аднаго зь лідэраў «Зялёнага Дубу», начальніка Генэральнага штабу збройных сілаў «зялёнадубаўцаў». Ураджэнец г. Слоніму, выхадзец з шляхецкай сям'і. Скончыў Варшаўскі кадэцкі корпус, пасьля — Мікалаеўскую вайсковую вучэльню ў Пецярбурзе. Удзельнік Першае сусьветнае вайны, ваяваў у складзе штурмавога батальёну 6–й арміі на Румынскім фронце. З другой паловы 1919 г. у складзе Добраахвотнага войска ген. А.Дзянікіна. Падчас польска–савецкай вайны спачатку ў складзе польскага войска, пазьней афіцэр рэзэрвы БВК. Пад уплывам В. Адамовіча–малодшага (Дзергача) далучаецца да «зялёнадубаўскага» руху, уваходзіць у склад кіраўніцтва гэтай сялянскай партыі, актыўна ўдзельнічае ў фармаваньні беларускіх партызанскіх збройных аддзелаў «зялёных». Бярэ ўдзел у вайсковай акцыі ген. Булак–Балаховіча, а пасьля яе няўдачы — адзін з арганізатараў антыбальшавіцкага партызанскага руху ў раёнах, памежных з БССР. Цьвёрды прыхільнік незалежнасьці Беларусі. У 1923 г. прыняў хрышчэньне ад баптысцкага прапаведніка, у мінулым актывіста беларускага руху і партыі беларускіх эсэраў Лукаша Дзекуць–Малея, наведваў лекцыі Варшаўскай біблейскай школы, арганізаванай польскімі баптыстамі. У 1924 г. пры нелегальным пераходзе савецка–польскай мяжы схоплены ГПУ. 28 чэрвеня 1925 г. асуджаны Вярхоўным Судом БССР на расстрэл, але пастановаю ЦВК БССР ад 3 лютага 1927 г. памілаваны, і сьмяротная кара замененая 10 гадамі канцлягераў. Зьвестак пра далейшы лёс ня выяўлена. (Паводле артыкула Н. Стужынскай «Трагедыя зялёнадубаўцаў»//Беларускі гістарычны часопіс. 1996. №1. С. 31—42.)

[216] **Рыдлеўскі** Лявон (1903—1953), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец м. Ульянавічы Магілёўскае губ. З 1917 г. вучыўся ў Слуцкай (беларускай) земскай гімназіі, сябра арганізацыі «Папараць–Кветка». Удзельнік Слуцкага збройнага чыну, пасьля яго ліквідацыі з рэшткамі слуцкіх стральцоў працягваў партызанку на Палесьсі. З 1921 г. у Вільні, заканчваў сярэднюю адукацыю ў Віленскай беларускай гімназіі. Пасьля атрыманьня матуры ў 1923 г. паводле рэкамэндацыі свайго былога камандзера А. Сокал–Кутылоўскага накіраваўся на вучобу ў Прагу–Чэскую, дзе прымаў чынны ўдзел у беларускім студэнцкім руху ды жыцьці нацыянальнай эміграцыі ў Чэха–Славаччыне. Пасьля заканчэньня Праскае вышэйшае палітэхнікі (1929) разам зь Міколам Абрамчыкам перабіраецца ў Францыю, дзе стварае «Хаўрус беларускае працоўнае эмігра-

цыі», зьяўляецца адным зь ягоных кіраўнікоў. На пачатку Другой сусьветнай вайны ідзе добраахвотнікам у Француcкі замежны легіён. У гады фашыстоўскай акупацыі актыўны ўдзельнік Францускага Супраціву. У пасьляваенны час па–ранейшаму кіруе Хаўрусам, арганізуе ў Парыжы сярод беларускіх работнікаў нацыянальную сэкцыю пры мясцовым хрысьціянскім работніцкім сындыкаце, выдае газэту «Беларускія Навіны». У 1947 г. абраны сакратаром Прэзыдыюму Рады БНР, адказваў за вонкавыя міжнародныя сувязі. Падтрымліваў цесныя сувязі зь Беларускім Домам Айцоў Марыянаў у Лёндане. З–за пагаршэньня здароўя, у 1953 г., на запрашэньне а. Чэслава Сіповіча паехаў на лячэньне ў Ангельшчыну, дзе неўзабаве памёр ў адным зь лёнданскіх шпіталяў ад раку.

[217] Маецца на ўвазе Варшаўская наступальная апэрацыя чырвоных войскаў летам 1920 г., якая скончылася поўным правалам ды чарговым шыракамаштабным наступам польскіх легіянэраў на беларускім участку фронту.

[218] **Домбскі** Ян Тамаш (1890—1931), польскі палітычны і дзяржаўны дзяяч, дыплямат. Узначальваў дэлегацыю Польшчы пры падпісаньні Рыскае дамовы.

[219] **Клішэвіч** Уладзімер (1914—1978), беларускі грамадзкі дзяяч на эміграцыі, паэт.

[220] **Харытончык** Юрка (1896—1972), беларускі вайсковец, удзельнік Слуцкага збройнага чыну 1920 г. Удзельнік Першае сусьветнае вайны ў чыне падпаручніка. Разам з братам Савосем далучыўся да слуцкіх паўстанцаў. Малодшы афіцэр 2–га Грозаўскага палка 1–е Слуцкае брыгады. Пасьля ліквідацыі збройнага чыну ў 1921 г. інтэрнаваны ў Дарагускі лягер. У міжваенны час жыў у Польшчы, зарабляючы на сям’ю фізычнаю працай. Пасьля Другое сусьветнае вайны асеў у Заходняй Нямеччыне. Пахаваны на мясцовых могілках сяла Лянгвальд каля г. Аўгенбург. (Паводле нэкралёгу Я.Запрудніка ў газэце «Беларус» (Нью–Ёрк). 1972. Красавік. №180.)

[221] Аддзелы ген. Ст. Булак–Балаховіча зьявіліся ў Беларусі са згоды польскага камандаваньня ня ў 1919 г., а на пачатку 1920 г. Магчыма, Ю. Харытончык тут мае на ўвазе аддзелы «Зялёнага Дубу».

### *Сьведчаньні з–за кратаў*

[222] Зьвесткі Ю. Лістападам пададзеныя ў ГПУ Беларусі пасьля ягонай вярбоўкі.

[223] **Карабач** Аляксандар Язэпаў (1878—?), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в. Вехатніца Роскай вол. Ваўкавыскага пав. У 1910–я гг. вучыўся ў аднэй зь сярэдніх школаў Вільні. Працаваў у паштова–тэлеграфных установах Вільні й Петраграда. Да нацыянальнага руху далучыўся наконадні Першае сусьветнае вайны пад уплывам братоў Луцкевічаў. З 1918 г. сябра Віленскай Беларускай рады. Сябра ЦК БПСР, кіраўнік віленскае філіі партыі. Да 1921 г. (да вызваленьня Т. Грыба з польскай вязьніцы) узначальваў Загранічнае Бюро БПСР. У 1921 г. арыштаваны польскімі ўладамі ды інтэрнаваны ў ліку 33–х беларуска–літоўскіх дзеячоў у Коўне. У Літве займаў пасаду загадчыка справаў Міністэрства бе-

ларускіх справаў. З 1923 г. у БССР. Удзельнік ліквідацыйнага зьезду БПСР у Менску ў 1924 г. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[224] **Чапскі** Ежы (Юры) Эмэрыкаў (1861—1930), граф, польска–беларускі палітычны й грамадзкі дзяяч. Другі сын Эмэрыка Чапскага й баранэсы Эльжбэты з роду Мэцэндорф. Быў у шлюбе з графіняй Юзэфай з роду Гогенштайн. Валодаў урочышчам Прылукі пад Менскам ды інш. зямельнымі маёнткамі ў Менскім ды Ігуменскім паветах. Да Першае сусьветнае вайны старшыня Дабрачыннага таварыства ў Менску, уваходзіў у Менскае таварыства сельскай гаспадаркі. Пасьля абвяшчэньня БНР кантактаваў з Народным сакратарыятам Беларусі, запрашаўся ў фінансавую сэкцыю Арганізацыйнае камісіі па ўтварэньні ўнівэрсытэта ў Менску. У польска–савецкую вайну разам з Э.Вайніловічам, Л.Вітан–Дубейкаўскім, М.Радзівіл ды інш. уваходзіў у «Польска–беларускае таварыства для палітычнага й культурнага супрацоўніцтва ў Беларусі», фінансава падтрымліваў беларускія каапэратывы на Ігуменшчыне. Падчас Слуцкага збройнага чыну меў кантакты з кіраўніцтвам Беларускай Рады Случчыны.

[225] **Рачкевіч** Уладзіслаў (1885—1947), польскі дзяржаўны, палітычны дзяяч. У Першую сусьветную вайну афіцэр расейскага войска. Пасьля Лютаўскае рэвалюцыі 1917 г. адзін з арганізатараў Саюзу вайсковых–палякаў. Падчас польска–савецкай вайны адзін з ініцыятараў стварэньня Камітэту абароны крэсаў. Пасьля заняцьця польскімі войскамі Менску ў жніўні 1919 г. прызначаны Начальнікам Менскае акругі.

[226] Гаворка йдзе пра «лістападаўскі» судовы працэс у сакавіку 1926 г. у Менску над слуцкай «контаррэвалюцыйнай» арганізацыяй. Назву судовая справа атрымала ад прозьвішча Ю.Лістапада, якому органы ГПУ БССР прыпісалі ролю кіраўніка арганізацыі. Прынамсі, падчас названага судовага працэсу Ю.Лістападу інкрымінавалі таксама факт атрыманьня ў лістападзе 1920 г. ад Найвышэйшай Рады БНР у Варшаве 25 000 польскіх марак для паўстанцаў–случакоў («Савецкая Беларусь». 1926. 11 красавіка).

[227] **Вітэ** Сяргей Юльевіч (1849—1915), расейскі дзяржаўны дзяяч.

[228] **Сталыпін** Пётр Аркадзевіч (1862—1911), расейскі дзяржаўны дзяяч.

[229] **«Раніца»,** беларуская газэта, якая выдавалася ў 1921—1922 гг. у Вільні пры фінансавай падтрымцы П. Алексюка як орган палёнафільскай арганізацыі «Еднасьць». Рэдактар Вячка Адамовіч (Дзяргач).

[230] Маецца на ўвазе **Валейша** Станіслаў, беларускі палітычны дзяяч. У пачатку 1920–х гг. быў старшынём Беларускага грамадзкага сходу ў Вільні. Пазьней прыхільнік Часовае Беларускае Рады ў Вільні, якую ўзначальваў А.Паўлюкевіч.

[231] **«Грамадзкі голас»,** палёнафільская беларуская газэта, якая выдавалася ў Вільні ў 1924—1926 гг. Рэдактар Язэп Салавей.

[232] **Міхалевіч** Уладзімер, беларускі нацыянальны дзяяч, сябра партыі беларускіх эсэраў. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[233] **Кахановіч** Міхась Сілуянаў (1882—1934), беларускі нацыянальны дзяяч. У 1917—1918 гг. адзін з кіраўнікоў Белнацкаму ў Магілёве. З 1918 г. у Вільні, сябра тамтэйшай Беларускай Рады, першы дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 г. дэпутат (пасол) сэйму Польшчы. З 1925 г.

у БССР. У 1933 г. арыштаваны па «справе БНЦ», засуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1956 г.

[234] **Грабскі** Станіслаў (1871—1949), польскі дзяржаўны, палітычны дзяяч. Прыхільнік польскае эндэцыі.

[235] **«На Чужыне»**, беларускі часапіс Рыскае філіі культурна–асьветнага таварыства «Бацькаўшчына», выдаваўся ў 1921 г. Рэдактар Рыгор Казячы.

[236] **«Зьвястун»,** бюлетэнь Беларускага палітычнага камітэту. Выйшла некалькі нумароў.

[237] **«Родная Страха»**, беларуская газэта, якая выдавалася ў Вільні ў 1921 — 1922 гг. Рэдактар Янка Бекіш.

[238] **«Сялянская доля»**, беларуская газэта, якая выдавалася беларускімі эсэрамі ў Коўне ў 1921—1922 гг.

[239] **Цюцюньнік** Юры Осіпаў, адзін з кіраўнікоў украінскага антыбальшавіцкага вайсковага руху, «генэрал–харунжы войска Ўкраінскае Народнае Рэспублікі». З 1920 г. у Польшчы, арганізатар антыбальшавіцкае партызанкі на Валыні. У 1923 г. здаўся ў палон савецкім уладам. Аўтар мэмуараў «З поляками проти Вкраїны» (Харкаў, 1924).

[240] **Бадунова** Палута (Пелагея) Аляксандрава (1885—1938), беларуская нацыянальная дзяячка, адна зь лідэраў БПСР.

[241] **Цанава** (Джанджгава) Лаўрэнці Фаміч (1900—1955), савецкі дзяржаўны дзяяч. Ураджэнец Кутаіскае губ. (цяпер Грузія). З 1921 г., пасьля захопу савецкімі войскамі Грузіі, у рэпрэсіўных органах Грузінскага ЧК. Зь снежня 1938 г. узначаліў НКВД БССР, з 1943 г. наркам дзяржбясьпекі, з 1946 г. — міністар дзяржбясьпекі БССР. У 1950—1952 гг. намесьнік міністра дзяржбясьпекі СССР, найбліжэйшы паплечнік Л. Берыі. 4 красавіка 1953 г. арыштаваны па «справе Берыі», памёр у Бутырскай вязьніцы ў Маскве.

[242] **Гузоўскі** Міхась (1898—?), беларускі нацыянальны дзяяч. Ураджэнец в. Руда Яварская Слонімскага пав. Скончыў Невельскую настаўніцкую сэмінарыю (1918), заступнік старшыні маладзёвага гуртка беларусаў–семінарыстаў. У 1918—1919 гг. вучыўся на сельскагаспадарчым аддзяленьні Варонескага політэхнічнага інстытуту, сябра Беларускае вучнёўскае грамады ў Варонежы. У 1921 г. заклаў у в. Гута беларускую пачатковую школу. Пад прымусам польскае школьнае адміністрацыі ў лістападзе 1921 г. накіраваны на курсы польскае мовы ў Кракаў, дзе ў якасьці вольнага слухача наведваў лекцыі «Studium Rolniczego» пры тамтэйшым унівэрсытэце. Паводле рэкамэндацыі ТБШ у 1922 г. накіраваны на вучобу ў Прагу, на агранамічнае аддзяленьне Праскае вышэйшае палітэхнікі. Актыўны ўдзельнік грамадзка–палітычнага жыцьця беларускай эміграцыі ў Чэха–Славаччыне ў 1920–я гг. Быў адным з кіраўнікоў Аб'яднаньня беларускіх студэнтаў за граніцай і Заходняй Беларусі (АБСА), сябрам Беларускае грамады, Беларускага сялянскага саюзу ў Празе, скаўцкае арганізацыі «Беларускі Сакол» ды інш. Пасьля атрыманьня вышэйшай адукацыі ў 1929 г. вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. Найбліжэйшы паплечнік Янкі Станкевіча, сябра Беларускага гаспадарчага зьвязу. Падчас Другой сусьветнай вайны жыў на Віленшчыне, падтрымліваў цесныя кантакты з В. Русаком, іншымі прадстаўнікамі беларускае эмігра-

цыі ў Чэхіі. Летам 1944 г. арыштаваны савецкім НКВД. Іншых зьвестак ня выяўлена.

[243] **Нябаба** Мартын, украінскі вайсковы дзеяч, палкоўнік украінскага войску гетмана Багдана Хмяльніцкага, удзельнік паходу ў беларускае Палесьсе ў 1648 г.

[240] **Аркадзь Будзіч —** псеўданім Янкі **Запрудніка** (сапр. Сяргей Мікалаеў **Вільчыцкі,** нар. 9.08.1926), беларускі гісторык, палітычны і грамадзкі дзеяч паваеннай беларускай эміграцыі.




**1. Сяляне вёскі Лучнікі Слуцкага павету. 1910–я гг. Фотапаштоўка С. Юхніна.**




**2. Селянін Слуцкага павету. Пачатак XX ст. Фотапаштоўка С. Юхніна.**



**3. Песеньніца з в. Серагі Слуцкага павету. 1908. Фота С. Юхніна.**




**4. Слуцак. Від з маста праз р. Случ. 1910–я гг. Фотапаштоўка С. Юхніна.**




**5. Слуцак. Вул. Шырокая. На пярэднім пляне былы кальвінскі збор, дзе ў царскі час месьцілася расейская мужчынская гімназія. 1910–я гг. Да Першай сусьветнай вайны тут вучыліся знаныя дзеячы беларускага вызвольнага руху: Язэп Дыла, Павал Жаўрыд, Юльян Сасноўскі, Аляксей Кабычкін ды інш. Фотапаштоўка С. Юхніна.**




**6. Будынак Слуцкай камэрцыйнай вучэльні. Падчас польска–савецкае вайны тут месьціўся Беларускі нацыянальны камітэт Случчыны, управа «Папараць–Кветкі». На 2–м паверсе будынку ладзіліся беларускія тэатральныя ігрышчы, праводзіліся лекцыі настаўніцкіх курсаў беларусазнаўства.**



**7. Мікалаеўскі праваслаўны сабор у Слуцку, у якім служыў будучы япіскап Слуцкі а. Мікалай Шамяціла. 1910–я гг. Фота С. Юхніна. У 1932 г. сабор узарваны бальшавікамі.**



**8. Антон Сокал–Кутылоўскі, студэнт Пецярбурскага ўнівэрсытэту. 1910–я гг.**



9. Навучэнец беларускае гімназіі ў Слуцку Міхась Каберац, адзін з удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну. У 1920–гг. — студэнт Праскай вышэйшай палітэхнічнай школы.



10. Артыст драматычнае дружыны «Папараць–Кветка» Васіль Тышкевіч, інструктар ЧБНК на Случчыне, удзельнік Слуцкага паўстаньня.




11. Пячатка таварыства «Папараць–Кветка».



12. Сябра таварыства «Папараць–Кветка», настаўнік Мікалай Мамчыц.



**13. Сябры Беларускага культурна–асьветнага таварыства «Папараць–Кветка». Слуцак, 1920 г.**



**14. Старшыня гуртка «Зарніца» ў в. Старыца, пісьменьнік Алесь Каўпак (Зрэбны).**



**15. Сябра старыцкага гуртка «Зарніца», будучы знаны літаратуразнавец Адам Антонаў Бабарэка.**



**16. Настаўнік Старыцкай пачатковай школы Адам Міхайлаў Бабарэка.**



**17. Кіраўнік харавой сэкцыі «Папараць–Кветкі» Васіль Русак. 1920 г.**



**18. Настаўніца пачатковых клясаў Слуцкае беларускае гімназіі Марыя Ярац.**



**19. Кіраўнік настаўніцкіх курсаў беларусазнаўства ў Слуцку Янка Станкевіч.**



**20. Старшыня ЦБШР, кіраўнік культурна–асьветнае сэкцыі БВК, адзін з рэдактараў гарадзенскае газэты «Беларускае Слова» Сымон Рак–Міхайлоўскі.**



**21. Адзін з кіраўнікоў Найвышэйшае Рады БНР, старшыня Часовага Белнацкаму ў Менску Кузьма Цярэшчанка.**




**22. Пячатка Часовае Беларускае Рады Случчыны. 1920 г.**



**23. Кузьма Цярэшчанка (справа) са старшынём Беларускае Вайсковае Камісіі маёрам Андрэем Якубецкім. Восень 1920 г.**



**24. Былы навучэнец Слуцкае беларускае гімназіі, матурыст Віленскае беларускае гімназіі Лявон Рыдлеўскі. 1922 г.**



**25. Павал Жаўрыд у гады Першае сусьветнае вайны.**



**26. Загадчык культурна–асьветнага аддзелу Беларускае Вайсковае Камісіі падпаручнік Макар Касьцевіч (Краўцоў).**



**27. Сябра Беларускае Рады Случчыны Ўлас Дубіна.**



**28. Сябра Беларускае Рады Случчыны Юрка Лістапад.**



**29. Капітан Мікалай Дзямідаў, удзельнік Палескага паходу ген. Ст.Булак–Балаховіча, пэўны час быў афіцэрам сувязі паміж вайсковымі аддзеламі балахоўцаў і случакамі.**



**30. Станіслаў Булак–Балаховіч**



**31. Арганізатар слуцкае беларускае міліцыі Іван (Ян) Мацэля.**



**32. Адзін з арганізатараў слуцкага народнага апалчэньня Пётра Бабарэка.**



**33. Сувязная слуцкіх паўстанцаў Люба Зяньковіч.**



**34. Начальнік штабу 1–е Слуцкае Брыгады Войскаў БНР Антон Борык.**



**35. Актывіст беларускага маладзёвага руху на Случчыне Янка Зянюк.**



**36. Адзін з апошніх кіраўнікоў «Папараць–Кветкі» Пётра Зянюк.**



**37. Юрка Лістапад з жонкаю Марыяй (Стаганавічанкай). 1920–я гг.**



**38. Юрка Лістапад з дачкой Нінай. Канец 1920–х гг.**



**39. Першы Беларускі партызанскі аддзел на чале з Лукашом Семенюком (у цэнтры). 1920 г.**



**40. Генэрал Станіслаў Булак–Балаховіч (сядзіць у цэнтры) са сваім штабам. 1920 г.**



**41. Фракцыя партыі беларускіх эсэраў на Першай агульнанацыянальнай палітычнай канфэрэнцыі. Прага–Чэская, верасень 1921 г.**



**42. Падчас плянарнага паседжаньня Праскае агульнанацыянальнае палітычнае канфэрэнцыі. Верасень 1921 г.**




**43. Сьцяг 1–га Слуцкага палка стральцоў збройных сілаў БНР. Ля штандару (зьлева направа): Лявон Вітан–Дубейкаўскі, невядомая асоба, штабс–капітан Антон Борык. Вільня, 1921 г.**



**44. Галоўны камандзір збройных сілаў БНР падчас Слуцкага збройнага чыну Андрэй Якубецкі з жонкай Нінай. Дзьвінск, 1931 г.**



**45. Падчас палітычнай нарады прадстаўнікоў беларускіх левaрадыкальных партыяў і арганізацыяў у «вольным» горадзе Данцыгу (Гданьск) у 1923 г. Зьлева направа: Палута Бадунова, Леапольд Родзевіч, Язэп Лагіновіч.**



**46. Сустрэча беларускага нацыянальнага актыву ў Празе 30 сьнежня 1924 г. на 40–я угодкі сьмерці В. Дуніна–Марцінкевіча. Зьлева направа: Пётра Крэчэўскі, Ніна Крэчэўская і Ўладзімер Пракулевіч.**



**47. Сябра Беларускае Рады Случчыны Сяргей Бусел. 1920–я гг.**




**48. Узор ордэна «Крыж Пагоні», распрацаванага Лявонам Дубейкаўскім у студзені 1921 г. дзеля ўзнагароджаньня слуцкіх паўстанцаў, што вызначыліся ў баях з бальшавікамі (***на апошняй вокладцы кнігі — акварэльны ўзор ордэна і яго рэканструкцыя, зробленая мастаком Віктарам Ляхарам***).**



**49. Язэп Лагіновіч (Корчык). 1930–я гг.**



**50. Цэшка афіцэра Беларускай Вайсковай Камісіі. У 20–я гады такая цэшка выкарыстоўвалася як знак адрозьненьня навучэнцаў Віленскай беларускай гімназіі.**



**51. Уладзімер Пракулевіч. Фота з судовай справы. 1930 г.**



**52. Павал Жаўрыд пасьля допытаў у менскім ГПУ. 1930 г.**




**53. Сяргей Бусел у вязьніцы НКВД. 1939—1940 г.**



**54. Случакі ў Чэха–Славаччыне. Зьлева направа: Міхась Каберац, Васіль Русак, Альжбэта Пракулевічава. Праскае прадмесьце Юзэфава. 1925 г.**




**56. Паштовая марка слуцкіх паўстанцаў (з калекцыі Ўл.Цярохіна).**



**55. В. Русак. Прага, канец 1930–х гг.**



**57. Антон Сокал–Кутылоўскі каля сваёй хаты ў Ганцавічах. 1942—1943 г.**



**58. Сьвятар і ваяр, а. Хведар Данілюк. 1950–я гг.**



**59. Юрка Харытончык. 1960–я гг.**



**60. Віцэ–прэзыдэнт Рады БНР Лявон Рыдлеўскі. Парыж. 1950–я гг.**



**61. Алесь Яцэвіч (Змагар), паэт і грамадзкі дзеяч, сын слуцкага паўстанца. Здымак 1950–х гг.**

# ПАЙМЕННЫ ПАКАЗАЛЬНІК



Тлустым шрыфтам выдзеленыя нумары старонак, на якіх зьмешчаны біяграфіі згаданых асобаў.

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# СЬПІС СКАРОТАЎ

AAN — Архіў Актаў Новых у Варшаве (Archiwum Akt Nowych)
АБСА — Аб'яднаньне беларускіх студэнцкіх арганізацыяў заграніцай і Заходняй Беларусі
адв. — адварот архіўнага аркуша
Апубл. — апублікавана
акр. — акруга
арк. — аркуш (архіўны)
Аўтадор — Таварыства дапамогі разьвіцьцю аўтамабілізма і паляпшэньню дарог
аўтэнт. — аўтэнтык
БАН — Беларуская акадэмія навук
БВК — Беларуская вайсковая камісія
БДАМЛіМ — Беларускі дзяржаўны архіў–музэй літаратуры і мастацтва
БДУ — Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт
Белдзяржтранс — Беларускі дзяржаўны трэст аўтамабільна–гужавой, складзкой і транспартна–экспэдыцыйнай справы
Белсельпрамсаюз — Беларускі цэнтральны саюз сельскагаспадарчых і прамысловых таварystваў
Белсельсаюз — Беларускі Цэнтральны саюз сельскагаспадарчых і крэдытных таварystваў
БНР — Беларуская Народная Рэспубліка
БНЦ — Беларускі Нацыянальны Цэнтар
БПСР — Беларуская партыя сацыялістаў–рэвалюцыянэраў
БСГ — Беларуская сацыялістычная грамада
БСДП — Беларуская сацыял–дэмакратычная партыя
БПСФ — Беларуская партыя сацыялістаў–фэдэралістаў
БСРГ — Беларуская сялянска–работніцкая грамада
БСС — Беларускі сялянскі саюз
БССР — Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка
БХД — Беларуская хрысьціянская дэмакратыя
БШРМ — Беларуская школьная рада Меншчыны
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
Военком — ваенны кіраўнік камісарыяту (губэрнскага, павятовага)
вол. — воласьць
Волвоенотдел — ваенны аддзел пры валасным выканаўчым камітэце
Волисполком — валасны выканаўчы камітэт
Волревком — валасны ваенна–рэвалюцыйны камітэт
воп. — вопіс (архіўнага фонду)
ГПУ — Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленьне (Государственное политическое управление)
губ. — губэрня
Губрозыск — губэрнскі аддзел крымінальнага вышуку
ДАМВ — Дзяржаўны архіў Менскай вобласьці
друк. — друкаваны

Запфронт — Заходні фронт чырвонае арміі
Інбелкульт — Інстытут беларускай культуры
Комдез, Комдезертир — камітэт па барацьбе з дэзэрцірствам
Комтруда — камітэт па працы (Комитет по труду)
комячейка — камуністычная ячэйка, арганізацыйная структура Камуністычнае партыі бальшавікоў
КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі
КСМБ — Камуністычны саюз моладзі Беларусі
маш. — машынапісны
НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь
Наркомвнудел — Народны камісарыят унутраных справаў (Народный комиссариат внутренних дел)
Наркомвоен — Народны камісарыят ваенных справаў
Наробраз — аддзел народнае адукацыі
НКВД — Народны камісарыят унутраных справаў (Народный комиссариат внутренних дел)
Начглавмилиции — Начальнік галоўнага ўпраўленьня міліцыі
ОГПУ — Аб’яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленьне (Объединенное государственное политическое управление)
пав. — павет
Предчека — старшыня надзвычайнае камісіі (Председатель Чрезвычайной комиссии)
ППС — Польская партыя сацыялістычная
ПРУВСК — Польска–расейска–ўкраінская ваенная пагаджальная камісія (Польско–российско–украинская военная согласительная комиссия)
Райкомпрод — раённая камісія па харчаваньні
Ревком — рэвалюцыйны (ваенна-рэвалюцыйны) камітэт
РВС — рэвалюцыйны ваенны савет у чырвонай арміі
РДВА — Расейскі дзяржаўны вайсковы архіў
Ревсовет — рэвалюцыйны савет
РКП(б) — Расейская камуністычная партыя (бальшавікоў)
РСДРП — Расейская сацыял–дэмакратычная рабочая партыя
РСФСР — Расейская Савецкая Сацыялістычная Фэдэратыўная Рэспубліка
рук. — рукапісны
спр. — справа (архіўная)
СВБ — Саюз Вызваленьня Беларусі
Совнархоз — Савет народнай гаспадаркі
ССРБ — Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь
ф. — фонд (архіўны)
ЦБШР — Цэнтральная Беларуская школьная рада
ЦВК — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт
Центропечать — аддзел па друку пры ваенна–рэвалюцыйным камітэце
ЦК — Цэнтральны камітэт
Цэнтрабелсаюз — Беларускі цэнтральны саюз спажывецкіх таварыстваў
ЧБНК — Часовы Беларускі нацыянальны камітэт
ЧК — Надзвычайная камісія (Чрезвычайная комисиия)
ЧекаБел — Надзвычайная камісія ССРБ

# Памяці прафэсара Ўладзіміра Міхнюка



„Быў, тварыў, выступаў, перажываў, любіў, спрачаўся, адстойваў“, — так сказаць пра калегу і цяпер здаецца недарэчным і неправўдзівым. Але гэта так: 13 кастрычніка 2004 г. Уладзіміра Міхнюка ня стала. Ягоная заўчасная сьмерць для ўсіх, хто ведаў гэтага выдатнага чалавека, стала поўнай нечаканасьцю, прымірыцца зь якой дагэтуль цяжка. Адзін з аўтараў–укладальнікаў, Уладзімір Міхнюк, не дачакаўся перавыданьня кнігі. Сьмерць напаткала яго раптоўна, падчас навуковай камандзіроўкі ў Берасьце. Ня вытрывала сэрца...

Нарадзіўся Ўладзімір Мікалаевіч Міхнюк 27 верасьня 1947 г. у вёсцы Грушчаны Поразаўскага раёну (цяпер Сьвіслацкі) Гарадзенскае вобласьці. У 1969 г. скончыў гістарычны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага пэдагагічнага інстытуту, а праз год быў прыняты асьпірантам на катэдру гісторыі СССР і БССР таго ж інстытута. Зь вялікай павагай і шчырасьцю ставіўся да свайго навуковага кіраўніка, прафэсара, доктара гістарычных навук Барыса Фіха, які шмат дапамог яму ў пачатку навуковай кар’еры. Пасьля заканчэньня асьпірантуры быў пакінуты на катэдры выкладчыкам, а праз год Уладзімір Міхнюк пасьпяхова абараніў кандыдацкую дысэртацыю на тэму „Гістарыяграфія сацыяльна-эканамічнага жыцьця беларускае вёскі ў 1917—1929 г.“.

На запросіны дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ Іларыёна Ігнаценкі ў верасьні 1975 г. пераяжджае ў Менск, працуе старшым навуковым супрацоўнікам адзначанай установы. Спэцыялізуецца на вывучэньні гістарыяграфіі найноўшай гісторыі Беларусі, абірае тэму сваёй доктарскай дысэртацыі „Станаўленьне і разьвіцьцё гістарычнай навукі Савецкай Беларусі (1919—1941)“. І хоць некаторыя з калегаў–гісторыкаў радзілі яму памяняць тэму, указваючы, што яна „нясвоечасовая“, „ненавуковая і недысэртабэльная“, Уладзімір Міхнюк даказаў адваротнае: спачатку, у 1985 г., выдаў манаграфію, а праз два гады абараніў па ёй доктарскую дысэртацыю. У сваёй кнізе ён асьцярожна даў сваю інтэрпрэтацыю найважнейшых падзеяў разьвіцьця беларускае гістарычнае навукі, памяняў некаторыя ранейшыя адыёзныя ацэнкі ў дачыненьні да асобных беларускіх гісторыкаў даваеннага часу. Абарона дысэртацыі ў акадэмічным Інстытуце гісторыі цягнулася больш за 7 гадзінаў, і ў гэтай „бітве“ пераможцам выйшаў Уладзімір Міхнюк.

Уладзімір Мікалаевіч адносіўся да тых людзей, якія свабодна і спакойна мянялі месца працы, не баючыся за наступствы. Вядома ж, ён выбіраў, дзе яму будзе лепш, але, на наш погляд, адчуваў сябе ўсюды як рыба ў вадзе.

У 1982—1987 гг. ён — вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, а з 1987 г. — прафэсар Менскае вышэйшае партыйнае школы пры ЦК КПБ.

Са студзеня 1992 г. па сьнежань 1996 г. У. Міхнюк узначальвае Беларускі навукова–дасьледчы інстытут дакумэнтазнаўства і архіўнае справы (назва ўстановы ўвесь час «удакладнялася»). Праца ў БНДІДАС — бадай самы плённы пэрыяд у кар’еры Ўладзіміра Мікалаевіча. На гэтай пасадзе яскрава раскрыўся ягоны талент навуковага кіраўніка. Інстытут трэба было ствараць, пачынаючы з пошукаў друкаркі, крэсла, шафы… А самае галоўнае — калектыву. За кароткі час Міхнюк сабраў вакол сябе каманду з аднадумцаў, запаліў людзей сваёй няўрымсьлівасьцю, сваёй энэргіяй дзеля дасягненьня высокіх мэтаў. У інстытуце ён стварыў сапраўдную творчую атмасфэру, спрыяльныя ўмовы для працы. Давер да супрацоўнікаў спалучаў з высокай патрабавальнасьцю.

Як востра сёньня адчуваецца ў беларускай гістарычнай навуцы недахоп такіх людзей, як Уладзімір Міхнюк. Як мала ў нас сапраўдных навуковых аўтарытэтаў, здольных згуртаваць і мабілізаваць людзей на вырашэньне сур’ёзных навуковых задачаў, гатовых адстойваць сапраўдныя інтарэсы навукі, каб апошняя ня стала ўгодлівай служкай палітычнае каньюнктуры.

У 1997 г. У. Міхнюк на кароткі час узначаліў аддзел Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бясьпецы Савету Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь. Але сярод «новай» дзяржаўнай намэнклятуры ён не прыжыўся і ў чэрвені 1998 г. перайшоў на выкладчыцкую працу ў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт прафэсарам катэдры гісторыі Беларусі новага і найноўшага часу. Зь верасьня 2004 г. запрошаны прарэктарам па навуцы Беларускага інстытута правазнаўства.

Уладзімір Міхнюк — аўтар 14 кнігаў і брашураў, шматлікіх зборнікаў дакумэнтаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі, у тым ліку 4 манаграфіяў. Ён апублікаваў звыш 450 сваіх навуковых і навукова–папулярных артыкулаў у часопісах, зборніках і энцыкляпэдычных даведніках. Шмат навуковец зрабіў у распрацоўцы праблемаў гістарыяграфіі гісторыі Беларусі XX стагодзьдзя. У гэтай галіне гістарычных ведаў ён дагэтуль лічыцца бясспрэчным аўтарытэтам. Міхнюк быў адным зь першых у Беларусі, хто на рубяжы 1980—1990–х гадоў зьвярнуўся да вывучэньня гісторыі палітычных рэпрэсіяў у сталінскія часы. Ён аўтар шэрагу публікацый, прысьвечаных чыннасьці выбітных дзеячоў беларускага вызвольнага руху першай паловы XX ст.: А. Луцкевіча, К. Езавітава, В. Ластоўскага, А. Цьвікевіча, А. Смоліча, Б. Тарашкевіча, У. Ігнатоўскага і інш. Дзякуючы ягоным дасьледаваньням былі вернуты зь небыцьця выдатныя постаці айчыннай гісторыі, зьнішчаныя органамі ГПУ—НКВД у 1930—1950–я гады. Важкі ўнёсак прафэсар Міхнюк зрабіў па выяўленьню, сыстэматызацыі і публікацыі дакумэнтаў па гісторыі зьнешняй палітыкі Беларусі. Цягам 1997—2002 г., дзякуючы ў першую чаргу ягоным высілкам і самаахвярнасьці, выйшлі ў сьвет 5 тамоў дакумэнтальнага збору „Зьнешняя палітыка Беларусі“.

Калі Генадзь Сагановіч прапанаваў нам, аўтарам гэтых радкоў, зрабіць зборнік дакумэнтаў па гісторыі Слуцкага збройнага чыну, то мы, у сваю чаргу, запрасілі да супрацы ў гэтым праекце прафэсара Міхнюка, якога ведалі як аўтара грунтоўных і цікавых публікацыяў пра кіраўнікоў Слуцкага антыбальшавіцкага паўстаньня 1920 г. Антона Сокала–Кутылоўскага і Ўладзімера Пракулевіча. Удзел у падобных праектах для прафэсара, які працуе ў дзяржаўнай установе, не ўхваляўся. Але наша супрацоўніцтва мела добры плён. Дзякуючы прафэсару Міхнюку, у навуковы зборнік былі ўведзены новыя дакумэнты з архіва КДБ Рэспублікі Беларусь — следчыя паказаньні „случакоў“, якія апынуліся за кратамі ГПУ—НКВД, а таксама апэратыўныя данясеньні 16-й савецкай арміі са Слуцкага павету падчас антыбальшавіцкага ўзброенага выступленьня, выяўленыя ў Расейскім дзяржаўным вайсковым архіве.

У адрозьненьне ад многіх іншых прадстаўнікоў „гістпартаўскае школы“, якія так і засталіся ў палоне струхнелых догмаў марксізму–ленінізму, Уладзімір Міхнюк здолеў крытычна пераасэнсаваць многія свае ранейшыя пазыцыі, творча ўспрыняў новыя навуковыя падыходы. Ён быў патрыётам сваёй Бацькаўшчыны, таму натуральна ўспрыняў ідэі беларускага нацыянальнага адраджэньня. Апошнім часам працаваў над тэмай „Як дзялілі Беларусь“, назапашваў новыя дакумэнты, імкнуўся прааналізаваць наступствы тэрытарыяльных стратаў на палітычнае, эканамічнае і культурнае жыцьцё беларускага этнасу, марыў напісаць пра гэта кнігу.

Як выкладчык, прафэсар Уладзімір Міхнюк быў заўжды цікавым і дасьціпным, актуальным і запатрабаваным. Яго любілі студэнты за жаданьне дзяліцца сваімі ведамі, за ўменьне ператварыць навучальны працэс у займальную і патрэбную справу.

Уладзімір Мікалаевіч любіў жыцьцё, любіў людзей, умеў слухаць і чуць сваіх суразмоўцаў. Сваім прыкладам ён заахвочваў іншых сьвятлейшымі вачыма глядзець на сьвет, шукаць ісьціну быцьця. Вакол сябе ствараў надзейнасьць і ўпэўненасьць, мог абараніць слабейшага і маладзейшага. І яшчэ немалаважная рыса яго характару — ён не баяўся. Не баяўся адстойваць сваю пазыцыю, выказваць свае меркаваньні перад уладай. Яго слова — ўзважанае, шчырае, пераканаўчае — зьнішчала „ворага“, выбівала ўсе ягоныя козыры, прыносіла яснасьць і ўпэўненасьць. Безумоўна, кожнае такое „сутыкненьне“ не праходзіла бясьсьледна, пакідала шрамы на сэрцы. І яно ня вытрывала… Міжволі прыходзіцца мірыцца з гэтым і старацца захоўваць памяць пра гэтага зьнешне і ўнутрана прыгожага чалавека, аддаючы яму даніну павагі.

*Аляксандра ГЕСЬ, Уладзімер ЛЯХОЎСКІ*

